МІКІТА

Што вы кажаце, мамзэль Наста: трэсьці?

ГАНУЛЯ

Во няшчасьце на нашу хату!

МІКІТА і ГАНУЛЯ (разам).

Што рабіць? Што тут рабіць? Райце, мамзэль Наста!

НАСТА

Вывешвайце хутчэй праз вакно чырвоны сьцяг. У падобных несамавітых сытуацыях такое вывешваньне часам памагае. Хутчэй вывешвайце! А я пабягу. Мушу яшчэ дапасьці там-сям—у пэўныя крыніцы.

(Вышла. Мікіта чапляе чырвоную хустачку на канец парасона і вывешвае праз законную фортачку).

## ЗЬЯВА VII.

ГАНУЛЯ—МІКІТА—ДАМА—СПРАЎНІК

ГАНУЛЯ

(ломячы рукі).

Што тут рабіць? Што тут рабіць?

МІКІТА

Меджду протчым, мамаша, ня круцецеся бяз толку па хаце, а лепей глядзеце ў вакно, ці ня йдуць ужо.

ГАНУЛЯ

(гледзячы ў вакно).

Нікога нявідаць, толькі мамзэль Наста панеслася, як вецер.

МІКІТА

(перастаўляючы то туды, то сюды кошык з пляшкамі).

Лепей углядайцеся.

ГАНУЛЯ

Ідуць, ідуць! Не! Міма прайшлі.

МІКІТА

Папрабуйце праз другое вакно, меджду протчым, мамаша.

ГАНУЛЯ

(гледзячы ў другое вакно).

Ідуць, ідуць, мой сынок, ідуць!

МІКІТА

Можа йзноў міма, меджду протчым?

ГАНУЛЯ

Не, здаецца. Пачакай! Прыглядаюцца на браму. А мамачкі-ж мае! Завярнуліся сюды да нас. (Пакінуўшы вакно). Куды-ж тут цяпер падзецца?

МІКІТА

Вось неспадзяваная неспадзеўка! Оей! Оей! Меджду протчым, мамаша, не ламеце рук, а бярэцеся хутчэй за работу. Адварачвайце назад абразы, а я пакупкі буду парадкаваць.

(Ганула адварачвае абразы. Мікіта хапае то за кошык, то за рэвольвэры, ня ведаючы, што куды падзець. Стук у дзьверы).

МІКІТА

Оей! Оей! Ужо ломяцца. Меджду протчым, мадам-сіньёра і вашародзіе, сядзеце або стойце спакойна: вы мае госьці і вам волас з галавы не спадзе. (Мацнейшы стук у дзьверы). Оей! Оей! Куды тут што падзець. Совае рэвольвэры асадкамі ў вадну і ў другую руку даме. Меджду протчым, мадам-сіньёра, патрымайце пісталеты. Я растыцкаю куды-небудзь пляшкі. (Хапаецца зноў за бутэлькі. Трэск ламаных дзьвярэй). Меджду протчым, мамаша, кіньце абразы і прыце хутчэй па портфэлі, што летась схавалі.

(Ганула выбягае і пасьля па аднаму зносіць портфэлі. Мікіта хапае ў дамы рэвольвэры ў абедзьве рукі за рулькі, сэкунду-другую бегае па хаце, пасьля мецiцца бегчы з настаўленымі рэвольвэрамі ў дзьверы, але ўваходзяць і спатыкаюцца з ім на парозе: НАЧАЛЬНІК ПАТРУЛЯ, ДВУХ ПАТРУЛЬНЫХ, ГРАМАДЗЯНІН, у якога выразана кусок барады, і СЬПІЧЫНІ).

## ЗЬЯВА VIII.

ТЫЯ-ж—НАЧАЛЬНІК ПАТРУЛЯ—ДВУХ ПАТРУЛЬНЫХ—ГРАМАДЗЯНІН—СЬПІЧЫНІ.

НАЧАЛЬНІК ПАТРУЛЯ

(спаткаўшы на парозе Мікіту з выстаўленымі рэвольвэрамі).

Стаць! Ні з месца! Рукі ўверх! (Мікіта адступіўшы колькі крокаў назад, выцягвае ўверх рукі). Гэта што ў вас у руках?

МІКІТА

(то апускаючы, то подымаючы пачарзе рукі і згодна з гэтым паварачваючы то ўправа, то ўлева галавой).

Гэта... гэта... ваша чырвонае благародзіе... гэта... як яно... качарэжкі! даліпан, качарэжкі!

НАЧАЛЬНІК ПАТРУЛЯ

Качарэжкі? Ну, палажэце іх на стол. (Мікіта кладзе. Начальнік прыгледзеўшыся да Мікіты). Але мы, здаецца, з вамі знаёмы?

МІКІТА

(падазрона ўзіраючыся на Начальніка).

Калі вашай чырвонай міласьці падабаецца, то мы знаёмы; самдзеле знаёмы. Я надта рад з гэткага, меджду протчым, першага знаёмства.

НАЧАЛЬНІК

Помніце, як летась вялі мяне ў палон, а я ад вас спрытна ўцёк.

МІКІТА

А як-жа, помню, меджду протчым, помню! Хто ад каго не ўцякае? І вы, ваша тварыскае родзіе, уцяклі, меджду протчым.

НАЧАЛЬНІК

Ваша фамілія?

МІКІТА

Колежскі рэгістратар Нікіці Зносілов, меджду протчым.

НАЧАЛЬНІК

Скажэце мне: вы ўчора грабілі кватэру грамадзяніна Боршчыка на Архірэйскім завулку?

МІКІТА

Нічога падобнага, мусье таварыш. Я ня грабіў,—мяне, меджду протчым, грабілі—фрэнчык формельны, боты жоўценькія зьнялі...

НАЧАЛЬНІК

Не загаварывайце зубоў, а кажэце праўду.

МІКІТА

Праўду кажу, ваша чырвонасьць,—даліпан я ня грабіў, меджду протчым.

СЬПІЧЫНІ

Пазвольце вам, гражданін рэгістратар, не паверыць: я сам, стоячы на сквэры, каля вадакачкі, бачыў, як вы з іншымі цягалі рухомую маемасьць з кватэры таварыша Боршчыка.

МІКІТА

Э! Так-бы і сказалі, гэр Сьпічыні, што я цягаў. Але я ня грабіў. Усяго таго было, што я па загаду свайго, меджду протчым, начальніка насіў гэтыя рэчы яму ў гасьцініцу „Парыж“.

СЬПІЧЫНІ

Паложым, гэта таксама грабёж.

НАЧАЛЬНІК

І што далей было?

МІКІТА

Нічога. Там у нумары, куды я зносіў рэчы, сядзелі нейкія маладыя, меджду протчым, мусі ў форме і нейкія маладыя, меджду протчым, мамзэлі бяз формы ды выпівалі пазнанскі лікер.

НАЧАЛЬНІК

І вы тых рэчаў к сабе ў хату не цягалі?

МІКІТА

Ані падвязачкі не прыцягнуў! Ага! Маю нават сьведку: Мамзэль Наста была ў тэй самай кампаніі, дзе выпівалі, і бачыла, што я начальнікавы рэчы ўсе там складаў.

НАЧАЛЬНІК

Мы ўсё-такі маленькія агледзіны зробім вашых рэчаў, каб часам памылкова не запуталіся між імі і чужыя. (Робяць з большага рэвізію. Начальнік знаходзіць кошык з бутэлькамі). А гэта не награбленая гарэлка?

МІКІТА (набок).

Оеей! Оеей! зусім прапаў і з костачкамі нават. (Да начальніка). Гэта... гэта не гарэлка, а, меджду протчым, лікер пазнанскі, ваша таварыскасьць. На гандаль купіў, на свабодны гандаль, меджду протчым.

НАЧАЛЬНІК

Добры гандаль! (Падымаючы вядро з патакай). А гэты мёд таксама на гандаль?

МІКІТА

Гэта ня мёд, меджду протчым, і не на гандаль, а патака, якую сам з мамашай буду есьці.

НАЧАЛЬНІК

Награбленая?

МІКІТА

Меджду протчым... меджду протчым, так сабе ўзятая з агульна-даступных грамадзянскіх складаў, зусім так сабе.

НАЧАЛЬНІК

Добрае так сабе... Вашы дакумэнты!

МІКІТА

Якія—старыя, ці новыя? старыя во дзе—у гэтых портфэльчыках.

(Паказвае на прынесеныя к таму часу Гануляй портфэлі).

НАЧАЛЬНІК

Старыя потым раскумекаем,—давайце новыя.

МІКІТА

(пакапаўшыся ў кішэнях і за пазухай. Набок).

Оей! Оей! Польскі дакумэнт трэба паказваць. Каб я лепей скрозь дна праваліўся! (Дастаўшы дакумэнт з-за пазухі, да Начальніка). Во ён гэты, меджду протчым, дакумэнт. (Набок). Каб яго калядны пярун спаліў!

НАЧАЛЬНІК

(разглядаючы дакумэнт)

Польскі?

МІКІТА

Зусім польскі і з усіх бакоў польскі. (Набок). Каб яго за Буг вынесла, меджду протчым!

НАЧАЛЬНІК

Хто можа прачытаць?

СЬПІЧЫНІ

Пазвольце, таварыш, я прачытаю. (Чытае). „Оказіцель нінейшэго Нікіціуш Зносіловскі служы пшы Комісарыяце поліцыі мяста Мінска, яко доносіцель“.

МІКІТА

„Яко розносіцель“, Гэнрых Мотавіч!

СЬПІЧЫНІ

Палажым, ня „яко розносіцель“, а „яко доносіцель“,—чорнае на белым стаіць.

НАЧАЛЬНІК

Ператлумачце дакумэнт.

СЬПІЧЫНІ

„Паказчык гэтага, Нікіцій Зносілов, служыць у Менскім Комісарыяце поліцыі даношчыкам“.

МІКІТА

„Разношчыкам“, Гэнрых Мотавіч!

СЬПІЧЫНІ

Не „разношчыкам“, а „даношчыкам“,—чорнае па беламу стаіць, гражданін Зносілов.

МІКІТА

Вы, мусье профэсар, кепска прачыталі і кепска ператлумачылі.

СЬПІЧЫНІ

Палажым, я ніколі кепска ня чытаю і кепска ня тлумачу, глядзеце самі, гражданін рэгістратар!

МІКІТА (чытаючы).

До... до... до... доносіцелем. Оей! Оей! Як-жа гэта выйшла? Я сам пісаў, сам рукою ўласнай пісаў, а начальства подпісь дало і не прачытала мабыць. Гэнрых Мотавіч! Як-жа гэта вы мяне вучылі, меджду протчым?

СЬПІЧЫНІ

Палажым, пры чым тут мая навука, калі вы самі пераблуталі „до“ з „роз‘ам“. А можа вы й не пераблуталі?

МІКІТА

Увесь Менск ведае, што я служыў разношчыкам, а не даношчыкам.

НАЧАЛЬНІК

Ну, досыць! Пасьля разьбяром (Да Мікіты). Хто тут з вамі яшчэ знаходзіцца?

МІКІТА (паказваючы).

Гэта, меджду протчым, мая мамаша, а гэты і гэна, як іх?—мае госьці.

НАЧАЛЬНІК

(да спраўніка і дамы).

Вашы дакумэнты. (Прыглядзеўшыся). І вы, здаецца, мае старыя знаёмыя? Во, цёплая кампанія. (Дама і спраўнік кланяюцца і аддаюць свае дакумэнты. Начальнік да Сьпічыны). Прачытайце.

СЬПІЧЫНІ

У гэтым напісана: „рэвіровы сюдмэго рэвіру мяста Міньска“.

НАЧАЛЬНІК

Што гэта знача?

СПРАЎНІК

„Акалодачны надзірацель сёмай часьці“ места Менску, гаспадзін таварыш.

НАЧАЛЬНІК (да патрульнага).

Зрабеце рэвізію кішэняў гэтага грамадзяніна.

ПАТРУЛЬНЫ

(робіць рэвізію, знаходзіць у кішэнях спраўніка пагоны і падае іх начальніку).

НАЧАЛЬНІК

(круцячы пагоны ў руках, да спраўніка).

Што гэта?

СПРАЎНІК

Спраўніцкія пагоны, гаспадзін таварыш: памятка былога вялічча.

НАЧАЛЬНІК

(палажыўшы пагоны на стол, да Сьпічыні).

Чытайце другі дакумэнт.

СЬПІЧЫНІ (чытае).

„Баронэса Шпацэрзон, ганаровы член Мінскай дабрачыннасьці“.

НАЧАЛЬНІК

Шпацэрзон... Шпацэрзон... Ну, усёроўна,—пойдзе і яна. А цяпер, калі рэвізія скончана, прашу ўсіх ісьці са мной. (Да Ганулі). Вы, цётка, застаіцёся хаты пільнаваць.

МІКІТА

Оей! Оей! Што, і мне йсьці, мусье таварыш?

НАЧАЛЬНІК

А вы думалі як?

МІКІТА

Оей! Оей! Пакіньце мяне. Нашто я вам, меджу протчым, патрэбен? Вось у гэтых портфэлях зусім што іншае аба мне сказана. Зірнеце ў гэтыя паперы, ваша таварыскасьць. Як прачытаеце, то ўсёроўна не забярыцё мяне, меджду протчым.

НАЧАЛЬНІК

Ўсероўна не магу йначай. Гэтыя пісталеты, награбленая гарэлка, патака, цяганьне чужых рэчаў, служба даношчыкам, усё гэта таксама для нас добрыя паперы, хоць для вас можа і дрэнныя паперы.

МІКІТА

Дык пакажэце мне, меджду протчым ваша чырвонае благародзіе, чэк на мой арышт.

НАЧАЛЬНІК

Чэк атрымаеце, як прыдзеце на месца. Ідзем! Прашу забіраць „вешчэственныя даказацельства“ (Начальнік забірае рэвольвэры, адзін портфэль і пагоны. Даме, спраўніку, Сьпічыні і грамадзяніну дае несьці па пары бутэлек, Мікіце—патаку, двум патрульным—па портфэлю). А цяпер—марш за мной!

МІКІТА

Оей! Оей! Ваша таварыская міласьць! Пакіньце мяне з мамашай. Медждзу протчым, пайду памагаць вам забіраць Варшаву, толькі не забірайце мяне!

ГАНУЛЯ

Мае паночкі, мае галубочкі! Хацяя ня зьмікіцьце майго Мікіткі. Хацяя ня зьмікіцьце! (Апускаецца з ціхім плачам на спакаваныя манаткі. Усе, апрача яе, выходзяць. Пры апошніх Ганулiных словах разьлягаецца за вокнамі на вуліцы харавая песьня).

Ой ты, яблочко,
Куда коцішся?
Не туда попадзёш—
Не вароцішся...

(Пасьля паўмінутнай паузы, пад нясьціхаючыя гукі песьні, паволі апускаецца)

ЗАСЛОНА.

Акопы. 31/VIII—22 г

## КАЛЯ БОРУ СОНЦА ХОДЗІЦЬ.

**Ц. Гартны.**

Каля бору сонца ходзіць
На высокіх ценькіх дыбах,
Чарадою цені водзіць
Па кустох—густых сядзібах
    Доўгакосых,
    Тоўстаносых,
    Цёмнатварых,
    Грозных, ярых
    Лясуноў.
    З-пад кустоў,
    З тайных сховаў
    Вабам-зовам
    На палянкі,
    На гулянкі.
Насустрэчу сьветлай ночы
Духаў скрытных зазывае,
І ў сьляпыя цемні-вочы
Сітам промень расьсявае.
Вузкіх шляхаў выгіб ломкі
Машастовай руньню ўбраны
І шнуруюць скокам ёмкім
Німфы-ведзьмы, феі-панны
    На граніцу
    Да крыніцы
    На гулянньне,
    Як загляне
    Маладзік;
    Як з-пад пік
    Стройных ёлак
    Рысаў-колак
    Ў блутнай сетцы
    Напляцецца
І ўбярэ ваду крыніцы.
Гэй, хавайся сонца з неба,
Дай-жа ночы-маладзіцы
Адчыніць сваю бяседу.

Вось і месяц
З крэмню крэсіць—
Сыпле крэйду,
Мелець пэндлем
Воду—бор.
Стада зор
Ў гала гоніць
І гамоніць
Шэптам лісьця —
Гэй-жа, выйсьце
На гулянку, на вясельле!
Бор змаўкае, не шапоча,
Ралкай жаднай не шавеле—
На крыніцу ўстраміў вочы.
Ў вербалозах, ў пухкім моху
Завіліся карагоды;
Вадзянік адставіў лёху
У крыніцы з-пад ісподу.
Вір віруе
І шнуруе
Градкай лёгкай,
Лентай вохкай
Рабець хваль.
Плецень-валь
Дымкай шарай
Туліць твары
Фей-русалак,
Што ў прагалак
Між кустамі над крыніцай
Распусьцілі—бросьні-косы;
З хітрай мінаю глядзіцца
Ў іх лясун доўгавалосы.
Жаб капэльля
Іх вяселіць
Многалікім
Хорам-крыкам
Пявуноў.
Покуль зноў
З-па-над бору
Кроўным морам
Пачне ўсходзіць
І заводзіць
Сонца спацар жыцьцявейны,
Стаўшы ціха ўверх на дыбы.
І пражэцца крохкай ценьню
Усё начовае—ў сядзібы.

Капыль. 31/V—24.

## КАБ Я МЕЛА....

### Хмарка.

Калі-б сэрца мела волю,
Кабы жыцьце дала долю,
Калі-б скрыдлы за плячыма,
Кабы далі прад вачыма,—
Я-б з пакорай не сядзела,—
Ўдаль памкнулася-бы сьмела...
Не хавала-б твар у рукі,
Ня глушыла-б сэрца гукі.
Я-б сьпявала шчасьця песьні,
Нібы птушка на прадвесьні.
Я лунала-б па-над морам,
Шапацела-б з лесам-борам...
Пяставала-б кветкі ў полі,
Шчыра цешачыся з волі.
Я-б купалась ў косах сонца,
Я-б сьмяялася бясконца...
А у цёплай летняй ночы—
Цалавала-б зорак вочы...
У блакіце я-б лунала...—
І таго-б было мне мала:—
Ад знаёмых мне абшараў
Я ўзьвілась-б ў цемру хмараў,
Пачала-бы гульні з імі,
Нібы з сябрамі сваімі...
Закруцілася-б з віхурай,
Я-б шалела разам з бурай...
А як сьціхла-б навальніца,
Перасталі-б хмары біцца,
Я-б, у сябры узяўшы зорку,
Пачала-бы з ёй гаворку...
Шмат цікавага-б пачула,
Покуль ночка-б ня мінула.
А як ўстала-б толькі сонца
Зноў пяяла-бы бясконца...
Так, ня ведаючы гора,
Я-б лунала у прасторы,
Каб мне жыцьце дала долю,
Калі-б сэрца мела волю.

14/III—24.

# СВАБОДНАМУ БЕЛАРУСУ.

**Кон. Буйло.**

Брат мой! Сам ты цяпер сваёй долі каваль,—
Рэволюцыя путы-кайданы парвала,
Як ты горда а сьмела глядзіш ў тую даль,
Будучнасць скуль праглядаваць стала!
Ты свабодны! Шырокі і просты твой шлях,
Їм ўпярод ты свабодна і сьмела ступаеш,—
Як пярун—маладой тваёй мысьлі размах,
Як, арол, ты увысь ёй шыбаеш.—
Ты шчасьліў...
Прылажыся ты вухам к зямлі;
Слухай... Чуеш?.. нясуцца якіясьці згукі—
Гэта тыя—што долі ячшэ не знайшлі—
У каго закаваныя рукі...
Там няшчадна іх панская душыць пята,
Гэта ў муках засьценкаў яны так стагнаюць—
Беларуска-сялянская то бедната,
Там расправу над ёй учыняюць...
Бо лятае між іх—між паноў нейкі страх,
Нейкі прывід чырвоны—страшэнны лятае,
Яны топяць яго у крыві, у сьлязах,
Бедната пад дубінай канае.
Распалі-ж тэю мукай бяскрайны ты гнеў,
Меч па плуг сьцеражыся цяпер пракаваці
Хвіля помсты ударыць—глядзі-ж каб ты меў
Чым ратунак нясьці тваім брацьцям.
Нагастры-накалі свой сталёвы клінок,
Каб няшчадна ён мсьціў у астатнім тым бою,
Каб сялянскіх палеткаў жаўтавы пясок
Чырванеўся ўвесь панскай крывёю...
„Дэмократыя" Польшы—ня помніць, відаць,
Як нядаўна пад царскім уціскам стагнала...
Не пасьпела свабоду сама атрымаць,
Як засьценкі другім збудавала...
У засьценках тых стогне стары-малады,
Дзіцянё і кабета пад пыткаю ката...
Сьцеражысь „дэмократ"—сьцеражыся бяды—
Ой—крывавая будзе расплата...

Масква. 10/VI—24.

* * *

### У. Рычыёці.

Чаму пазбыцца—й рабіць тое—
Прэч няўпэўнены улоў!
Я цела меў адно густое
Ды пруткабровую любоў.

Мінуць гады скрозь гушчу сечкі,
Замерзну ў сьцюжы сівых плям.
Зялезны зьвер цяжарнай спрэчкі
У грудзях сканае ціха сам.

Памру і я. Памрэце ўсе вы.
Усяму збываецца чарга,
Ізноў да лёгкага напеву
Вярнецца праўнукаў туга.

Туга ад шчасьця й болі, дніцай
Дасьць веру новую пачуць,
Што машты цененькіх званіцаў
Расіяй мартваю плывуць.

Пералажыў з расійскага
**Ц. Гартны.**

Я. Мазуркевіч

# ЗЬДЗЕКІ.

I.

Быў веснавы дзень у красавіку 1919 году. Ярка сьвяціла сонейка і аблівала вясёлым блескам чуць-чуць зеляне ўшыя бярозы, пушок вярбы і лужыны вёскі. Па вуліцах важна пахаджвалі галкі, падскаквалі ад сьметніку да сьметніку вераб'і, паднімалі шумны піск, няждана ўзьляталі ў паветра, у якім адчувалася веснавое цяпло і бадзёры настрой. Але разам з гэтым было нешта яшчэ трывожнае, што зразу кідалася ў вочы ўсякаму, хто праяжджаў, ці праходзіў па вёсцы. Яна была як быццам вымершы. Нідзе ня відаць было людзей. Неяк было ціха да жудасьці, і тольні цёплы веснавы дзень залатымі праменьнямі сонца зьмяньшаў гэты ўплыў, рабіў яго меней заметным. Срэбрам адлівалі рэйкі па калейцы, якая агібала вёску з усходу і поўначы. Як-бы сьмяялася агарожа з белых бярозавых сукоў, штучна зробленая нямецкімі „Soldaten" каля некаторых хат, як памятка нядаўнага мінулага, што перанёс край.

Пры вёсцы ўзгорак перарэзаны выемкай, на дне каторай дзьве роўненькія сталёвыя стужачкі рэек хаваліся за паваротам. На павароце ў страшэнным беспарадку валяліся цэлыя і паламаныя ваганеткі, пляцформы, цэлы лес тэлеграфных слупоў, калючага дроту, драцяной сеткі, нейкага жалеза, усялякага лому. Але ўсюды ні духу... Нават на грэблі, каля млыну, зусім ня відаць было людзей, што магло паказацца ўсяго дзіўней, бо там яны былі ня тольні днём, але й ноччу, асабліва ў веснавую пору. І толькі праз адчыненыя застаўкі з шумам сьвістала пад мостам вада, узьбівала бугор белай пены і з клёкатам бурлела сярод вузкіх берагоў. На небе ні воблачка і яно пераліваліся колерамі васількоў.

Час быў каля паўдня. У канцы грэблі за млынам мільганулі коньнікі, зьвярнулі ў маёнтак к „Савету" і шырокаю лаваю, прамчаўшыся дугою па „газону", разам застанавілі коней перад ганкам панскага палацу. Некаторыя ўвайшлі ў палац, але скора вярнуліся. Другія, зьлезшы з коней, адпусьцілі папругі і праводзілі іх па шырокім панскім панадворку. Прыгожа было тут! Купы дрэў, пачынаючыся ад ганку, вялікімі срэбралістымі топалямі ў два шэрагі разыходзіліся і канчаліся каля брамы маленькімі кусьцікамі. Дарожкі, як золатам, сьвяціліся жоўтым пясочкам, абягаючы перад ганкам клюмбы кветак. Высокі, малады хлопец, у шапцы з чырвоным верхам, стаў на ганку, махнуў рукою, адкінуў назад цёмна-русыя кудры, як-бы адганяючы цяжкія думкі, і звонка сказаў:

— Таварышы! Навагрудак і Баранавічы ўжо пакінуты чырвонай арміяй. Наша доля застаўляе нас пакінуць родныя вёскі і чым скарэй, бо нам могуць нацянькі перарэзаць дарогу к злучэньню са сваімі. У „Савеце"

ёсьць запас продуктаў, дзеля таго прапаную забраць, што трэба з сабаю, а муку, жыта і наогул, што не патрэбна, раздаць на вёску. Хто са мной паедзе на варту? Трэба тры чалавекі. Стаць за маёнткам на ўзгорку, за рэчкай і каля вялікіх дубоў, а я буду ў канцы вёскі.

Чырвонаармейцы засьмяяліся і сталі шуткаваць з свайго сябра, што ён выбраў самую вясёлую позыцыю, хоць і небясьпечную. Чырвонаверхая шапка ўскочыла на сядло і памчалася ў вёску, за ім праскакалі ў розныя бакі яшчэ тры партызаны. Прывязаўшы коняў, партызаны пачалі пакаваць пажыткі ў торбы пры сёдлах. Вызваныя з вёскі бяднейшыя сяляне борзда разабралі невялікі запас, і цераз дзьве гадзіны каля палацу зноў стала пуста, як-бы нікога тут і ня было.

Абвясьціўшы сялянам, каб яны йшлі за пажыткамі ў „Савет“, хлопец выехаў у канцы вёскі на загуменьні. Як толькі ён параўняўся з апошнім гумном, з-за яго выбегла дзяўчына і кінулася к каню. Хлопец спрытна саскочыў з каня і абхваціў яе сваімі магутнымі рукамі, беражліва і моцна прыціснуў да сваіх грудзей, з вялікім заміланавьнем і шчырай любасьцю ў вачох стаў моцна яе цалаваць.

— Алесь! Мілы Алесь! Як цяжка! Што рабіць?! Не магу без цябе... Ах, каб гэта можна было застацца—ня ехаць!—гаварыла яна.

— Ну, што-ж, застануся. А там?! Мілая Парася, а што-ж потым будзе. Аддацца паляком у рукі?.. Не, Парасачка, так ня можна. Які будзе толк з гэтага? Ты мыляешся, мая любая! Лепей вясьці зацятую барацьбу і адчуваць сябе вольным. Дый нашу вёску мы пакідаем не надоўга. Ня сумуй: пасьля разлукі яшчэ гарачэй будзе прывітаньне,—шаптаў Алесь і блізка блізка нахіляў да яе свой твар.

А яна, схіліўшыся да яго, ласкава гладзіла яго валасы, прыхільна пазірала яму ў вочы і як-бы пытала, ці праўда, што скора ён зьвернецца, і яе глыбокія васільковыя вочкі туманіліся сьлязьмі, твар то бляднеў, то чырванеў, уся істота яе была поўна вялікай, нясказанай трывогі.

— Не... не, гаварыла яна—не... я ня тое... я ня тое сказала. Мне цяжка разлучацца.

У час іх размовы чырвонаармейцы праехалі паўночным бокам вёскі і шпарка памчаліся на ўсход. З узгоркаў, блізкаючы зброяй, за імі праехалі быўшыя на варце і ўсе схаваліся за ўзвышшам.

Вёска зноў вымерла.

Алесь час-ад-часу азіраў усё кругом і бачыў, што ён застаўся адзін.

— І мне цяжка, але нічога ня зробіш. Бывай здарова і шчасьліва, Парася, а я мушу даганяць сваіх,—адказаў Алесь.

Параска ўся ўскалыхнулася, закінула яму рукі на шыю і, моцна абняўшы, пачала цалаваць у губы, шчокі, увесь твар.

— Мілы, мілы, едзь... Праўда, едзь... Скарэй... а то палякі могуць наскочыць—гаварыла яна.

Яшчэ адзін моцны пацалунак, (як-бы жыцьцё аддалі адно аднаму) і, адарваўшыся ад любай сэрцу, Алесь ускочыў на каня. Сябры яго ўжо былі далёка, і ён памчаўся за імі ўдагонку. Вось ён выскачыў на ўзгорак і ў праменьнях сонца бліснула руля вінтоўкі. Пачуўся стрэл, за ім залп... Алесь зьнік за ўзгоркам... Калі спалоханая Параска аглянулася за вёску, то сэрца яе так і захаланула... Яна чуць ня ўпала і кінулася за вугал гумна, каб схавацца. На працілежным узгорку стаяў цэлы атрад легіянэраў на конях... Частка палякоў памчалася наперарэз Але-

сю, але іх затрымала „выемка“ калейкі на ўзгорку, а пасьля невялічкая рэчка. Калі Параска другі раз выглянула з-за гумна, то палякі мчаліся лагчынаю ў бок узгорку, за якім зьнік Алесь. Сэрца яе моцна білася, у вачох то зелянела, то чырванела, і калі за ўзгоркам схаваліся бліскучыя панскія „orzelki“, Параска з усіх сіл рынулася бегчы ўправа, лугавінкай, к вялікім дубом на ўзгорку, побач з тым, дзе скакала пагоня за Алесем. Дабегшы да ўзгорку, яна, чапляючыся за кусты, успаўзла наверх, прытулілася к дубу і зірнула ўніз. Адсюль было відаць увакруг вёрст на пятнаццаць...

Шчакаўшы з мінут пяць, легіянэры рынуліся ў вёску і маёнтак. Брахануў сабака, бухнулі два-тры стрэлы. Зычна запеў певень, але перарваў свой сьпеў на палавіне і чуць пасьпеў з курамі ўцячы ад віхрv конскіх ног. І толькі падбегшы за гумно, пявун зноў запеў на усё горла, як быццам хацеў паказаць, што ён усё-ж гонару ня страціў.

На вёсцы пачуўся гоман, крык. Застанавіўшы свайго жарабца пасярод вёскі і круцячыся на вуліцы, начальнік атраду, афіцэр у ангельскай форме, бліскаючы сваім убраньнем, прапітым „пазнанкай“ голасам грукнуў, як у кадушку. „Ураз-жэ заволаць солтыса!“ Па ўсёй вуліцы залямантавалі на розныя галасы легіянэры, і цераз нядоўгі час к афіцэру прывялі селяніна. Ён глядзеў адкрыта і сьмела, не зважаючы на натаўп аружных палякоў. Адзет быў ён дрэнна: сьвітка была падраная, старая; на нагах „дзеравяжкі“, праз штаны выглядала цела.

— Ты ест солтыс?—буркнуў афіцэр, цікава азіраючы гэтага чалавека.

— Я, старшыня сельсавету—адказаў селянін.

— В тэй хвілі жэбысь было овес і сяно для коні і для вшысткіх нас коляцыя,—прыказаў афіцэр.

— Ня маем,—гэтак-жа сама ў тон афіцэру адказаў старшыня.

— Як-то ня маем?! Цо то значыся... ня маем?!..—ускінуўся на яго пан.—А кто з маёнткаў вшыстко забрал? Ці-ж то ня вы, хамы?!.. Ідзь зьберай, бо я нэ жартую.

— І я не жартую,—адказаў чалавек,—няма чаго зьбіраць, якія тут могуць быць жарты. Ці вы ня бачыце, што ў нас ўсе бяз хлеба сядзяць? У вашых паперках, якія прывозілі ў „Савет“, я чытаў, што вы абяцуеце нам і хлеб, і працу, і волю, ажно ў вас і ў саміх нічога няма. Хоць-бы солі прывезьлі?,—нездаволена закончыў ён.

— А... то пся-крэв большэвік—комуністы! Даць ему бізуна! О, у мне знайдзеш прэнтко цо даць... Біць тэго пса, біць,—крычаў ашалеўшы пан, калі легіянэры, паваліўшы няшчаснага чалавека на зямлю, навелі на галаву і ногі і пачалі лупцаваць бізунамі.

— Солі, даць ему—солі,—прыказаў ён.

Акрываўленыя плечы селяніна пасыпалі сольлю... Ён ня мог стрываць болю, застагнаў... Афіцэр рагатаў.

— А ха-ха-ха!... Отшымал солі!... Цо?! пятнасьце, шэснасьце, седэмнасьце—лічыў ён..—Кто тутай ешчэ комунісьці? Большэвіцы гдзе? Іле іх? Давно выехалі?—пытаўся ён, але на свае пытаньні не атрымоўваў адказу.

Налічыўшы дваццаць пяць, афіцэр гукнуў:

— Досыць! Кінце тэго пса, ідзьце шукаць едзэня!..

Пад зьдзекі й насьмешкі „легіёнаў“, селянін падняўся і пайшоў хістаючыся па вуліцы. Адпусьціўшы яго ад сябе шагоў на дваццаць, афіцэр стаў крычаць:

— Стуй! Зачэкай! Зачэкай, холера, до сту д'яблув! Зачэкай! Бэндзеш мял солі!

Чалавек нават не азірнуўся і пайшоў у сваю хату.

Тымчасам легіянэры кінуліся шукаць сабе пажывы. Яны ня былі галодныя, іх добра карміла Францыя, дык яны кінуліся шукаць ласункаў. Але хаты былі пустыя. Тут усё забралі, што толькі можна было забраць, яшчэ немцы. Большая частка жыхароў была выселена ў Белавескую пушчу на працу. Перавярнуўшы ўсё ў хатах, палякі нічога не знайшлі і са злосьці пачалі ганяцца за курамі. Гонячыся за пеўнем, адзін легіянэр наткнуўся на Параску, вяртаўшуюся дадому, і, зьдзіўлены яе хараством, з цікавасьцю стаў распытваць яе, хацеў абняць, але ўбачыў афіцэра і затрымаўся. Параска нічога не адказала і кінулася бягом да хаты. Убегшы ў хату і праканаўшыся, што ніхто больш за ёю ня гоніцца, яна ціхенька села на лаўцы і горка заплакала. Перад вачамі стаяў абраз статнага хлопца, мільгаў яго любячы погляд, на твары гарэлі пацалункі і адчуваліся ўсім целам яго магутныя абоймы... „Алесь... дарагі Алесь"... мімавольна шапталі губы, і ў сэрцы рабілася млосна, усё цела абгортавала нясказаная млявасьць. Параска была страшэнна змучана... Яна нічога ня ўведала, што сталася з Алесем. Можа яго ранілі? І зноў сьлёзы, зноў горкая абіда на сэрцы і нястрыманы жаль агортваў дзяўчыну. Яна нават ня чула, як на печы стагнаў, зьбіты панскімі нагаямі, яе бацька і прасіў вады.

II.

Сябра Р. волрэўкому Іван Мікалаевіч Бурак ляжаў на лаўцы вагону і думаў. У яго галаве пад борзды стук калёс усплывалі ўспаміны аб гэтай зіме. Яркія вобразы так і мільгацелі, як тэлеграфныя слупы, але па сабе яны застаўлялі ня толькі адбітак у галаве, а і перажываньні ў сэрцы. Адно пытаньне ўвесь час стаяла перад ім: пасьпее ён к сабе ў вёску раздаць назад грошы ўсім, хто чакаў тавару (больш за ўсё солі), ці яго папярэдзяць легіёны. Два дні таму назад Бурак атрымаў ад грамадзян воласьці дзьвесьце тысяч рублёў „царскіх", каб прывезьці з Масквы тавару, але ўжо ў Менску ён узнаў, што палякі займаюць яго мясцовасьць, і вярнуўся, каб раздаць грошы, бо ўжо тавару, вядома, ён ня мог прывезьці. Калі-б не вярнуцца і не аддаць грошай, то могуць сказаць, што сабраў грошы і ўцёк. Гэта было-б надта праўдападобна і магло компромітаваць яго, як прадстаўніка Савецкай Улады. Цягнік мчаўся поўным ходам, але Бураку страшэнна хацелася ехаць чым скарэй, быць на месцы, зараз-жа, цяпер... На кожнай станцыі ён выбягаў з вагону і пытаўся ў комэнданта, дзе палякі, але, апрача вядомага яму ўжо раней, што заняты Наваградак і Баранавічы, нічога новага не атрымоўваў у адказ. У Стоўбцах цягнік застанавіўся... Тут было многа вагонаў і паравозаў. Далей паязды ўжо не хадзілі. Гэтая вестка страшэнна занепакоіла і зьдзівіла Бурака, але ён скора разузнаў, што бранявікі і лятучкі ходзяць аж да Пагарэльцаў. Якраз адыходзіла лятучка і, пасьля перамаўленьняў з комэндантам, яму дазволілі сесьці... Лятучка складалася з паравоза, двух вагонаў і пляцформы. Пляцформа ўрост чалавека была ўдва рады абіта тоўстымі дошкамі, паміж каторымі насыпан пясок. У гэтых сьценах былі прарэзы бойніцы. Тут стаялі два кулямёты і дзьве невялічкія гарматы, снарады каторых былі ня больш, як па пядзі даўжынёю—разам з патронам. На пляцформе была каманда чырвонаармейцаў. Калі Бурак увайшоў у вагон, то і тут убачыў салдат... Іх было многа... У выбітыя вокны высоўваліся рулі аўтоматычных стрэльбаў, сьцены былі абіты лістамі жалеза ў палец таўшчынёю. Бурак усю імпэрыялістычную вайну прабыў

на фронце, і яго ўсё гэта ня зьдзівіла, але ён убачыў, што палажэньне надта трывожнае.

Была ўжо ноч. У Замір'і ссадзілі з вагонаў чырвонаармейцаў... Засталіся толькі каманды кулямётчыкаў. Далей лятучка пасоўвалася вельмі ціха. Праехалі рэчку Ушу, выемку каля вёскі Лысіцы, сталі падбліжацца к Хвоеву. Чарнеў адзінока лес з правай стараны дарогі і недзе далёка ўправа чуць чутно нешта бухнула. Лятучка прызастанавілася... З лесу застракатаў кулямёт, пачалі, як пугай па вадзе, ляскаць карабіны... Кулі то з песьняй праносіліся над вагонамі, то стукалі ў жалезныя сьценкі... Лятучка адазвалася ўсімі сваімі кулямётамі і пачала адыходзіць назад. З-за лесу ў паветра вынесься сьветлы мячык ракеты, падняўся высока ўверх і, як распушчаны парасон, шырока разьвярнуўшыся ў небе, асьвяціў лятучку, дарогу, прыдарожныя кусты і ўзгоркі... За ёю ўзьвілася другая і рассыпалася мільёнам прыгожых зорачак... Паравоз мацней папхнуў перад сабою вагоны, шпарчэй затакалі нашы кулямёты і візгнулі каля вушэй стрэлы гармат... Праціўнік разам сьціх. Лятучка вярнулася ў Замір'е. Бурак вылез з вагону і пайшоў дадому. Ад станцыі было вёрст сорак, але ён аб гэтым зусім ня думаў. Зашпіліўшы свой шынэль і добра падперазаўшыся, ён пачаў мераць сваімі нагамі гэту адлегласьць. Было ціха і цёмна... У канаве пры дарозе булькала вада. З усходу чырванела неба... Калі Бурак прайшоў вёрст пяць, над полем палілася песьня жаўранкі і, бліснуўшае з-за небасхілу сонца мільёнам сваіх праменьняў ружовага сьвету абліло зялёныя ўзгоркі, што хвалямі адплывалі туды далёка на захад... Думкі зноў запоўнілі галаву, а ногі па інэрцыі ступалі наперад, як-бы стараючыся дагнаць думкі, але тыя ўжо даўно былі там, дзе заставалася пачуцьцё, дзе хавалася для яго вялікая загадка ў постаці холенай, маладой, стыдліва-бяссорамнай прыгожай жанчыны... У Копцеўшчыне ён наняў падводу ў Далматаўшчыну, лёг у драбінкі з саломаю побач з селянінам, які каждамінутна „нокаў" на каня і тузаў лейцамі, каб той барждэжэй варушыўся, і аддаўся сваім думкам... Успомніўся Алесь Пішчана і яго расквітаючая Парася, яе бацька Піліп Цыбуля, старшыня сельсавету роднай вёскі, так многа перацярпеўшай за гэты час. Успомнілася... але, зноў успомнілася яна—„Стася", цікавая натура, незразумелая жанчына і неразгаданы чалавек, асабліва для яго. Станіслава Альбэртаўна Сокальская была земляўласьніца маёнтку С. пры роднай яго вёсцы. Муж яе быў у Смаленску ў заложніках, маёнтак занят волрэўкомам. Быў нейкі час, калі Бурак лічыў, што пані Сокальская выедзе ў горад, але яна стала начаваць на вёсцы ў каго папала, а на ўсіх сабраньнях, вечарох і спэктаклях, якія ўстрайваў волрэўком з поваду рэволюцыйных сьвят, яна прасіла дазволу учасьнічаць, акампанiравала на сваім раялі і пела рэволюцыйныя сьпевы. Пры нямецкай окупацыі бацька Івана Мікалаевіча, які служыў кавалём у Сокальскіх, доўга хварэў. Пані ўвесь час прыказвала даглядаць яго і пахавала па сьмерці. Мікалай Бурак ведаў цану асьвеце і вучыў сваіх дзяцей. Іван Мікалаевіч быў чалавек даволі адукаваны. Выпадак з бацькай павёў яго на думку адплаціць пані Сокальскай. Бацькаўскі домік меў два пакоікі. Ён жыў адзін. Каб аддзякаваць ёй за догляд бацькі, Іван Мікалаевіч прапанаваў пані кватэру ў сябе і думаў, што яна на гэта ня згодзіцца. Але Сокальская зразу дала згоду, вельмі многа яму дзякавала за ўвагу, перавезла застаўленае ёй з палацу і пачала жыць у яго кватэры. Аб яе распустве да вайны і пры немцах у вёсцы расказвалі шмат, але Бурак не прыдаваў гэтаму ніякага значэньня. Ён лічыў сябе з гэтага боку

забясьпечаным старым халасьцяком, дый стаўляць сябе і паню Сокальскую разам яму тады ня прыходзіла ў галаву. Працы ў яго было надта многа. Прыяжджалі з Расіі бежанцы. Варочаліся сяляне з Белавескай пучшы... Усе былі голыя, галодныя... З раньняга часу і да позьняй ночы ён разьмяркоўваў у воласьці паміж імі продукты з маёнтку Сокальскіх і інш., якія былі ў воласьці... Бывалі дні, калі ён пасьля такой працы прыходзіў у свой пакой а 3 гадзіне і спаў, як забіты. Бывалі выпадкі, што Бурак піў з Сокальскай чай, але адчуваў сябе з ёю неяк нялоўка, а дзеля таго стараўся ад гэтага як-небудзь адмовіцца. Простая бяседа ў яго з ёю ня клеілася, адчувалася нешта недагаворанае. Адзін раз, калі Бурак, замучаны працаю, вярнуўся позна дамоў, Сокальская яшчэ ня спала і пачала клікаць яго к сабе.

— Іван Мікалаевіч, Іван Мікалаевіч! Ды не прытварайцеся-ж вы, што ня чуеце! Ідзеце сюды,—бязупынна звала яна.

— Я заняты, не магу—адказаў Бурак, але Сокальская ня спынілася. Ух, як страшна заняты!.. Можна падумаць, што вы і на самам дзеле сур'ёзна заняты... Але-ж тое, аб чым я з вамі буду гаварыць, у многа разоў сур'ёзьней і важней усіх вашых заняткаў. Ну, хадзеце, гаварыла яна просячым голасам.

Счакаўшы момант, яна загадваюча-ласкавым голасам запытала: —Вы-ж ідзіцё, ці не?

Бурака і цікавіла настойчывасьць Сокальскай і неяк страшыла. Ён устаў і, нерашуча падыйшоўшы да дзьвярэй яе пакоіку, запытаў:

— У чым справа?

— А справа ў тым, што за сваімі паперамі і сходкамі вы ня бачыце, як перагарвае чалавечае жыцьцё каля вас... Ды заходзьце... Вы мусіць баіцёся?—упікала яму, а сама заглядвала ў вочы з нейкім пытаньнем. Вочы блішчалі і як агонь разьлівалі ад сябе цяпло, іскрамі сыпаліся к яму, твар рабіўся прыгожым, цягнуў к сабе.

— Нічога не разумею,—сказаў уваходзячы к ёй Бурак.

— Злы, злы, нядобры... нічога не разумею. Сядзь-жа,—гаварыла яму, а сама жартліва брала яго за рукі... Па ім прабег электрычны ток, і мімаволі ён сеў побач з ёю. Ён баяўся сядзець з ёю, сам ня ведаў чаму, але яму і хацелася глядзець у гэтыя вочы, у якіх хавалася глыбока па вугалкох жаданьне.

— Ну што-ж, і цяпер не разумееш?—запытала, а сама апусьціла вочы, бліснула зрэнкамі і як-бы забыўшыся моцна сьціснула яго рукі...

Бурак многа чуў расказаў аб любоўных пахаджэньнях Сокальскай, але раней ніколі не прыстасоўваў яе да сваёй асобы і дзеля таго зусім быў зьбіты з толку няжданым зваротом размовы. Ён цяпер разумеў менш, як калі раней, аб чым і сказаў ёй нясьмела, нявыразна, як-бы вінаваты ў тым, што ня можа зразумець такой простай рэчы. Сокальская злосна-жартліва пачала выгаварваць яму, не адпускаючы ад сябе...

— Ну, вось мы і прыехалі,—сказаў селянін і моцна тпрукнуў. Калёсы застанавіліся, прарвалася думка. Бурак вылез, заплаціў за падводу і пайшоў далей. Пяшчаная вуліца Далматаўшчыны была гразкая і яму прыйшлося выйсьці на загуменьне. Дадому заставалася вёрст дзесяць. Ён не сьпяшаўся, было яшчэ даволі рана.

Стрэчныя ў вёсцы праводзілі яго спачуваючым поглядам і лічылі, як відаць, што ён уцёк з „бальшавікоў“. Насельніцтва было тут каталіцкае і лічыла сябе палякамі-шляхтай, а акружныя сяляне звалі іх „крупнікамі“. Чым далей, тым больш станавілася ўзгоркаў. На кожным

звароце адкрываліся новыя ляндшафты, на якіх здаволена аддыхаў зрок. Было ціха. Паволі пасуваючыся наўперад, Бурак зноў аддаўся ўспамінам. Пасьля таго вечару ён адчуваў сябе лягчэй. Пры першай сустрэчы з воку на вока, Сокальская зноў пачала гаварыць яму аб сваім пачуцьці.

— Прабачайце, я ня маю часу,—сказаў Бурак і хацеў ісьці, але Сокальская заявіла ўжо права на яго асобу цьвёрда і рашуча.

— Куды? Хіба-ж табе кепска са мною? Ага, перапрашаю, я даўно ўжо шукала выпадку сказаць, што цябе я буду зваць Ваней, а ты мяне заві Стасяй. Добра так? Га?!.—сыпала яна ноткамі свайго контральтавага голасу.

— Насьмешніца вы, Станіслава Альбэртаўна! Хіба-ж гэта магчыма? Мы людзі розных лягераў. Ваш парыў для мяне незразумелы і, думаю, памылковы. Вы посьле будзеце каяцца... Дзеля таго пазвольце мне йсьці,—сказаў ён.

— Не, ты мяне запраўды не разумееш. Ты ня ведаеш, у якіх умовах праходзіла маё жыцьцё змаленства—бяз ласкі, бяз прывету. Ты толькі, зусім чужы чалавек, выявіў да мяне такую прыхільнасьць, без рашчоту на мяне, на маё пачуцьцё... Калі я пасялілася тут, у цябе, то зразумела, колькі ўважлівасьці, чалавечнасьці і такту ў тваёй душы... І гэта адзнака працоўнага чалавека. Я цяпер убачыла, як нікчэмны ўсе нашы паны.. Яны выродкі, ідыёты, бяз усякай волі, духу і сілы. Ці ты думаеш, што лёгка жыць з чалавекам, які аддаў сваю сілу і моладасьць п'янству і разгулу, а цяпер, як жывы мярцьвец, хоча набрацца ад маёй моладасьці жывой вады?...

Час ляцеў. Размовы бывалі ўсё часьцей. Сокальская ўжо выказвала думку служыць ідэалу працоўных, навошта кожны раз Бурак усьміхаўся, але яна не зварочвала на гэта ўвагі.

Неяк раз яна застанавіла яго ў кухні і зразу сказала:

Як ты зьневажаеш мяне! Ты зусім забываешся, што я кабета. Чаму ты не завеш мяне Стасяй? Няўжо ты мне ня верыш?

— У вас ёсьць муж,—адказаў Бурак.

— Ага, ты хочаш, каб я ўсё сама сказала табе. Добра. Пойдзем ка мне.

Яны ўвайшлі ў яе пакойчык. На стале гарэла маленькая лямпачка.

—Ведаеш, Ваня, каб сягоньня былі тут кветкі, я-б паставіла сюды на стол букет і сьпела-б „наш уголок я убрала цветамі“.

— А я люблю кветкі,—адказаў Бурак:—толькі к чаму ў наш век крыві і жалеза ўся гэта романтыка і сэнтыматалізм?

— А дзеля таго, што красату ў жыцьці трэба браць, калі яна ёсьць, і калі ад яе можа адчувацца асалода, бо жыць два разы ня будзем,—адказала Стася.

— Дзіўная вы жанчына. Мы вядзем барацьбу і змаганьне, а вы патрабуеце жыцьця. Яно будзе посьле перамогі,—сказаў Іван Мікалаевіч.

— Ну, вядзеце барацьбу,—сказала Стася і затушыла агонь...

Усе гэтыя думкі насіліся ў яго галаве, абвівалі туманом яго мазгі, застаўлялі забывацца аб тэй рэчавістасьці, у якой ён знаходзіцца.

Ён ужо прайшоў многа дарогі, але зусім забыўся папытацца ў каго-небудзь, ці далёка палякі. Цяпер на дарозе было пуста і Бурак нават ня прымеціў, калі перайшоў вялікае поле сьмерці—цэлых пяць вёрст акопаў і дроту нямецка-расійскіх позыцый, і толькі калі на адкрыўшайся перад ім грэблі паказалася нейкая коньніца, ён кінуўся ў кусты за невялічкі лес і стаў з-за ўзгорку пазіраць, што будзе далей. Хто гэта быў— палякі ці бальшавікі—ён разьлічыць здалёку ня мог, а вылазіць баяўся

III.

Ускочыўшы на ўзгорак і ў момант абхваціўшы ўсю мясцовасьць сваім празрыстым поглядам, Алесь Пішчака ўбачыў палякоў і кінуўся ўніз. Кулі бзыкнулі каля вушэй над галавою, але не зачапілі яго. Ведаючы добра, што дарога—горшае месца для схову ад чужых вачэй, ён зьвярнуў управа і праз малады дубняк і кусты ялоўцу шыбка імкнуўся наперад. Цераз гадзіны дзьве ён быў са сваімі хлопцамі. Алесь думаў, што за ім ёсьць пагоня. Каб праканацца ў гэтым, ён выслаў двух пешых хлапцоў па балоту паглядзець, ці далёка палякі, а сам з астальнымі, пераехаўшы грэблю, схаваў у кустох за ўзгоркам коней і зрабіў засаду. Балота было мокрае, гразкае, купістае, і праехаць цераз яго конна было немагчыма. Высокая, вузкая грэбля, з нятоўстых хваёвых бярвеньняў, вілася па балоце з бярозавымі белымі, як сьнег, парэнчамі з абудвых бакоў. Грэблю, пад абстрэламі расійскіх гармат, зрабілі ў 1915 годзе мясцовыя жыхары па загаду немцаў. Алесевы разьведчыкі скора вярнуліся і прынесьлі весткі, што палякі мчацца па дарозе. Разьмясьціўшыся за кустамі на ўзгорку, за якім стаялі коні, партызаны сталі чакаць гасьцей. Палякі скора выскачылі на балота к грэблі, але тут застанавіліся. Балота было каля вярсты шырынёю, і паны не адважваліся пераяжджаць грэблю. П круціўшыся каля яе, легіёны павярнулі коней. Бухнуў залп, і затрашчэлі вінтоўкі... Легіянэры кінуліся ў кусты і зьніклі... Пішчака сабраў хлопцаў, і яны паехалі на паўночны ўсход к Міру. Грэбля засталася алзінокай і пустой. Балота сьвяцілася вадою, як люстэрка. Па ім было рдскідана куп'ё з зялёнымі алешынкамі і кустамі лазы. Па абудвых баках балота ляжала зьдзірванелае поле, паросшае маладым бярэзьнікам чуць на ў рост чалавека. Сонца схілілася на захад і сваімі косымі праменьнямі зячырваніла балотную ваду, як-бы кроўю заліўшы ўвесь балотны аблог Ваечарэла.

Бурак, баязьліва азіраючыся, выйшаў на грэблю і пасьпешна, угнуўшыся, чуць не бягом, перайшоў яе. Спрытна ўзьлезшы на ўзгорак, ён агледзеў мясцовасьць і пасьпешна зьбег уніз на дарогу.

Ён бачыў сваіх і палякоў і рашыў, што гэта разьведчыкі. К хлопцам ён добра ня прыглядзеўся, але ўвесь час яму здавалася, што гэта партызаны Р. валрэўкому. Ён ужо выходзіў з-за лесу з мэтай даведацца. цзе палякі, але хлопцы надта скора схаваліся за горку. Бурак разьмеркаваў, што цяпер ужо позна шукаць спраў, а лепш ісьці ў вёску. Ён зноў успомніў Стасю, горда падумаў, што каханьне—вялікая сіла, бо зьмяняе погляды чалавека і застаўляе служыць таму, што раней ненавідзеў. Падыходзячы да вёскі, ён убачыў, што насустрач яму ідзе жанчына, абхінутая вялікаю хусткаю.

Сэрца ў яго ёкнула, ён неяк увесь захваляваўся... Убачыўшы выйшаўшага ёй насустрач чалавека, жанчына, спалохаўшыся, застанавіласяале цераз момант яшчэ шпарчэй пайшла к яму. Гэта была надта прыгожая дзяўчына з бялявым тварам і тонкім абрысам прыемных губ, па якіх блукала трывога. Гібкі яе стан і чуць прыметныя пад кофтачкай грудзі, паказвалі яе маладасьць, а густая доўгая каса русых валасоў так аздабляла яе мілую галоўку, што здавалася дзіўным, чаму на ёй простая адзежа, чаму яна ідзе пехатой.

— Куды вы, Іван Мікалаевіч?—прамовіла яна, падыходзячы к Бураку

— А дадому,—адказаў ён, падаючы руку.

— А куды-ж вы, Парася? Ці ўжо палякі ў вёсцы? Чаму вы так узнэрвованы?—кідаў ён пытаньні адно за другім, але адказу ня было.

Параска не магла больш зьдзержваць сябе: яна пачала ўсхліпваць усё мацней і мацней і, ня маючы сілы стаяць, апусьцілася на прыдарожны камень. Сьлёзы душылі яе, яна не магла сказаць слова, уся траслася ад плачу, плечы ўздрыгвалі. Уся яна была малюнкам незаслужанай абразы, нязбыўнага гора.

Трохі супакоіўшы плачам свае нэрвы, Параска паднялася і горача пачала гаварыць:

— Куды вы? Ці самі сабе пятлю на шыю хочаце адзець? Палякі ўжо ў вёсцы. Забілі майго бацьку да паўсьмерці: ляжыць вунь, паварушыцца ня можа. Сольлю раны пасыпалі. Забралі ўсё, што мы мелі, нават курэй пералавілі. О, гора наша! Што рабіць, куды схавацца! Ня йдзеце, бо й вам будзе. Лепш вярнецеся. Можа Алеся бачылі?—закончыла яна свой расказ.

Бурак сказаў, што ня бачыў, але думае, што гэта ён быў на грэблі. Весткі былі дрэнныя. Ён задумаўся над сваёю доляю. Параска, пастаяўшы перад ім, шыбка пайшла на грэблю. Бурак сядзеў і думаў, як быццам забыўся аб усім на сьвеце. Потым, як спружыновы, ускочыў з каменя і пабег за Параскай. Ужо сьцямнела. Ён дагнаў Параску на тым баку грэблі і пачаў угаварваць яе, што ня трэба йсьці туды, што гэта-б можна было толькі ў тым выпадку, калі-б ня думаць варочацца. Але-ж яна яшчэ вернецца да хворага бацькі, а Алеся знайсьці цяпер надта трудна, бо ёй невядома, у які бок ён паехаў. Параска згадзілася, і яны пайшлі ў вёску. Іван Мікалаевіч гаварыў многа: відаць было, што шмат перадумана ім у гэтыя дні, але ня меў каму перадаць свае думкі.

— А завошта-ж білі бацьку?—запытаў ён у Паракі, праз увесь час моўчкі йшоўшай з ім побач.

—Ні за што, так. Адмовіўся зьбіраць сена і яду легіянэрам. Па прыказу афіцэра за гэта яго зьбілі бізунамі і, каб пазьдзеквацца, пасыпалі сольлю крывавыя раны. Адабралі ўсё, што мы мелі і цяпер нават кавалачка хлеба няма,—сказала Параска.

— Ну дык вось, Парася, абяжыце вы, калі ласка, вёску, каб заўтра чым раней усе сабраліся да мяне, я раздам грошы, што зьбіралі на тавар. Прыдзеце ка мне, у мяне ёсьць запас продукту, я вам дам. А гэтыя сто рублёў ваш тата даў мне, вось вы іх забярэце,—гаварыў Бурак і аддаў Парасцы грошы.

Перад вёскай яны разыйшліся. Параска шмыгнула цераз прыгумень на двор, і яе праглынула цёмная хата. Увайшоўшы ў хату, яна скінула з сябе хустку і пачала разьдзявацца. Ёй было ўсяго 17 гадоў: век шчырага каханьня, імкненьня к самаахвяры за чыстую ідэю і мілы воблік блізкага чалавека. Гэтым чалавекам быў для яе Алесь Пішчака, гэтак сама малады хлапец з гэтай-жа вёскі. Бацькі яго памерлі пры немцах, а ён служыў у шахтах, пад Кацярынаславам. Алесь палюбіў Параску яшчэ пры першым спатканьні ў вагоне, як яны разам варочаліся з Расіі. У. Р. валрэўкоме ён служыў ваенрукам. Аддаўшыся ўспамінам, Параска няскора заснула. Па сьмерці маткі, магіла якой засталася ў далёкім Паволжы, гэта быў першы выпадак такога вялікага гора. Засыпаючы, яна ўспомніла, што нічога ня ела і ў іх нічога няма. Трэба было схадзіць на вёску завядоміць, каб заўтра йшлі к Бураку за грашыма, але яна была так стомлена, што думка перарвалася, і Параска пачала драмаць... Бацька не стагнаў, відаць, заснуў. Параска як-бы калыхалася на хвалях. Ёй было

вельмі добра... Зачараваным поглядам, не адрываючыся, глядзеў ёй у вочы Алесь і ўвесь яго прыгожы твар паказваў ёй замілаваньне і пяшчоту...

Бурак ішоў памаленьку каля гумён вёскі. Ён думаў, што баяцца нечага, ён нічога дрэннага не рабіў. Наадварот. Калі-б што і здарылася, то ўсё-ж Стася ня дасьць у абіду, варочалася ў яго недзе там глыбока, у чым ён і сам перад сабой не хацеў-бы прызнацца. Іван Мікалаевіч па натуры быў мяккі чалавек. Ён доўга не давяраў, але раз праканаўшыся, ён адкідаў надалей усякую падазронасьць. Тое, што ён лічыў прыналежнасьцю пані Сокальскай, ён зусім адкідаў ад Стасі і быў упэўнен, што зрабіў з яе шчырую прыхільніцу працоўнага люду. Яму і ў галаву ня прыходзіла, што Стася заставалася Сокальскай увесь час і, ня гледзячы на свой з ім флірт, занімала ролю польскай шпіёнкі пры рэўкоме. Дзякуючы гэтай сувязі, яна мела мажлівасьць узнаваць аб усім, што рабілася ў павеце. Праўда, ён ніколі ёй не гаварыў аб сэкрэтных справах, але гэта рабіла яна сама без яго дапамогі, рыючыся ў паперах на яго стале, як адна заставалася дома.

Задумаўшыся, Бурак чуць не наткнуўся на часавых у канцы вёскі, каля выемкі. Яны загаварылі на вуліцы і дзякуючы гэтаму папярэдзілі яго. Ён прыхіліўся за слуп паркану і, як толькі легіянэры прайшлі па вуліцы далей, Бурак бягом перабег цераз грэбельку к млыну і схаваўся на сваім дварэ. Думкі вярнуліся к жыцьцю. Ён надта быў зьдзіўлен, што ні ў адным вакне ня відаць было сьвету. Дзьверы былі адперты і, запаліўшы агонь у хаце, Бурак убачыў адчыненыя дзьверы ў пакоік Стасі. Усе рэчы былі забраны, самой яе ня было. На двара пачуўся нейкі няясны шорах. За час дарогі ў думках Бурака ня раз трывожны ўсплываў выпадак перад выездам яго ў Маскву. Ён ніяк ня мог знайсьці свайго партыйнага білету. Цяпер зноў ён успомніў пра білет і быў здаволен, што з ім яго няма...

— Мала што можа быць, трэба пайсьці к суседзям пераначаваць,— услух прамовіў ён і павярнуўся к дзьвярам.

У гэты момант раздаўся грук, дзьверы адчыніліся і цераз парог цёмных сяней бліснулі рулі карабінаў, а ў галаву ўдарыў гучны окрык: „рэнцэ до гуры“! Бурак падняў рукі... Легіянэры запоўнілі хату і сенцы. Афіцэр, што днём зьдзекваўся над Ціліпам Цыбуляй, сярдзіта выпяліўшы зрэнкі, крыкнуў:

— Ты Бурак Ян, сын Мікалая?

— Я,—адказаў ашаламучаны няжданасьцю Бурак.—Ты ест заарыштованы,—грымнуў зноў афіцэр.

У яго ператрэсьлі адзежу, кішэні, забралі ўсе грошы, паперы, рэвольвэр. Усю маемасьць узвалілі на фурманку і павезьлі ў маёнтак і яго пад аховай вялікай стражы таксама адправілі ў маёнтак і, прывёўшы на дзядзінец, упхнулі ў склеп.

Дзьверы са скрыпам зачыніліся, загрукала жалеза запораў і замок, Іван Мікалаевіч застаўся ў цемры панскага пограбу.

## IV.

Калі Бурак прачнуўся, то ў пограбе было гэтак-жа цёмна, як і тады, калі яго туды ўвапхнулі. Ён абмацаў кругом сябе салому, на якую ўчор змучаны прылёг і, устаўшы, пайшоў, абмацваючы сьцяну. Доўга ён лапаў па сьцяне, пакуль знайшоў дзьверы. Наткнуўся на нейкі кол, вырваў яго і

зноў пачаў шукаць дзьверы: відаць, ссыпалі картоплю і адгараджвалі катух, што былі тут салома і кол. Абмацаўшы дзьверы, ён пачаў калаціць у іх калом.

— Чэго? Пшэстань! А то стшэляць бэндэ,—пачуў ён за дзьвярыма.

Ён перастаў і моцна задумаўся. Колькі было часу, трудна было сабе ўявіць, але па сабе Бурак адчуваў, што ўжо даўно настаў дзень, бо ўчора, як ён ні быў змучан, а ўсё-ж вельмі доўга стаяў, а пасьля ляжаў, знайшоўшы салому, пакуль заснуў. Ён выспаўся добра пасьля доўгай учарашняй дарогі і ўсіх перажываньняў. Хацелася есьці. Прайшло яшчэ вельмі многа часу, а кругом было ціха, як у магіле. Іван Мікалаевіч мог абдумаць сваё палажэньне на волі, ніхто яму не мяшаў. Аб сабе ён ня надта клапаціўся, але яму было шкада, што аднялі грошы, якіх, вядома, сялянам не аддадуць. Ужо Бурак траціў надзею, што яго выпусьцяць з гэтай цемры і сырасьці, бо яму стала надта холадна, але наастатак дзьверы адчыніліся і яго вывелі на дзядзінец. Сонца ласкава стала саграваць яго, як-бы вітаючы. На дарозе каля дзядзінцу стаяла фурманка з яго рэчамі, на якой сядзелі два салдаты. Двое верхам на конях круціліся сьпераду, а два вялі яго з карабінамі напрыгатове. Але гэта былі ўжо не ўчарашнія салдаты. Жоўтыя шнуркі аздаблялі іх адзежу. Гэта былі жандары, тыя страшныя „канаркі“ пана Пілсудзкага, якія столькі прынесьлі гора Беларусі.

— Куды вы мяне вядзеце?—запытаў Бурак, але адказу не атрымаў. Ен застанавіўся...

— Но... Ідзь!.. —грозна крыкнуў жандар, але Бурак не пашавяліўся.

— Я пытаюся, куды вы мяне павядзеце?—зноў прамовіў ён.

— До комэнданта в Новогрудэк!—буркнуў жандар.

— Я прашу дазволіць мне пабачыць пані Сокальску,—сказаў Бурак.

— Пані юж в Новогрудку,—зноў буркнуў жандар і ткнуў у сьпіну Бурака прыкладам.

Воз крануўся... У гэты момант з палацу на ганак выбегла жанчына ў белым адзеньні з жартамі і сьмехам, а за ёю бег, ловячы яе, афіцэр. Яны мільганулі за дрэвамі, і Бурак не пасьпеў разабраць ці гэта была Стася, ці хто іншы... За садам к тракту было гразка, і пакуль Бурак перайшоў гразь, павозка з верхавымі схавалася ўжо за ўзгоркам. Было за поўдзень... Жандары не сьпяшаліся. Дарога йшла ўзгоркамі, па каторых рос лес. Вось падыйшлі к лесу. Густы яловец быў чуць ня ў рост чалавека. Расьлі кусты арэшніку. Стаялі стромкія хвоі і бярозы, якія фальбонамі зьбягалі ўніз пасярод двума буграмі.

Жандары астанавіліся і пачалі закурваць.

— Зжуцай шынэля і мундур,—прыказаў адзін з іх Бураку.

Той, нічога не разумеючы, пачаў разьдзявацца. Сэрца моцна стукала, прадчуваючы нешта нядобрае.

— Буты, зжуцай буты,—загадваў другі.

Бурак разуўся.

— Модль-сень,—як-бы недзе далёка-далёка і разам-жа ў самае вуха грукнуў прыказ,—на коляна!..

Нагам стала холадна ад сырой зямлі, па целу прабеглі мурашкі, у галаве стала ясна і зразумела ўсё... Ён апусьціўся на калені. Жандар, што трымаў увесь час напагатове карабін, кінуўся к Бураку і пачаў зьдзіраць з пальца залаты пярсьцёнак, другі, падбегшы, схваціў за рукі Бурака і стаў трымаць. Пярсьцёнак сядзеў туга і ня зьнімаўся.. Жандар учапіўся за палец і круціў яго, як пакалак. Абудва яны нагнуліся над пяр-

сьцёнкам... У галаве Бурака мільганула думка... Ён зразу рвануў рукі ўніз і колькі было сілы ткнуў кулакамі ў морды жандарам... Жандары адхінуліся ад нечаканасьці... Момант... Моцны скачок к лесу... Стрэлы... Нешта апаліла левую руку... Збоку малюнак: хлопчык шырока разявіў рот і рашчыніў вочы, каля яго ў страву білі капытцамі ў зямлю дзьве авечкі... Лес... Зьляцела шапка і Бурак, куляючыся, пакаціўся ўніз з узгорку цераз кусты... Бухалі стрэлы... Высока над галавою сьпявалі сьмяртэльную песьню кулі... Па дарозе з лесу ляскалі падковы конных... Бурак віхрам мчаўся далей.. Падаў, падымаўся і зноў бег і бег... Нейкі крык. . У вачох зелянела, хацелася легчы, заснуць...

Параска рана абвясьціла сялянам, каб ішлі па грошы, але ад дваровых скора ўсе даведаліся, што Бурака арыштавалі яшчэ ўчора і што ён сядзіць у панскам пограбе на дзядзінцы. Параска падумала і пайшла к пані Сокальскай прасіць яе заступіцца, аслабаніць Бурака. Па газоне расхаджвалі жандары, каля склепу стаяў вартаўнік. Яна пракралася бэзам да кухні і цераз яе ўвайшла ў палац. У палацы было пуста, толькі ў другім канцы раздаваўся сьмех... Параска ціха падыйшла і прыадчыніла дзьверы... Высокі элегантны афіцэр—жандар—трымаў Сокальскую абедзьвюма рукамі, як-бы сабраўшыся падняць яе, а яна, адкінуўшы галаву, скрозь сьмех вызываюча глядзела на яго чырвоны твар і гаварыла:

— Я бардзо ценжка, нігды мне не понесе... Нех пан спробуе!

Параска завярнулася і бягом выбегла з палацу. Яна зразумела, што прасіць абароны ня трэба. Ідучы дадому, яна зайшла ў хату к Бураку, забрала дзесяць фунтаў мукі і кош картоплі... Больш у хаце ня было нічога. Дома расказала яна аб усім бацьку. Той нічога не сказаў на гэта, толькі пашкадаваў Бурака, што з-за чужых грошай прыдзецца яму гараваць.

— А я, тата, думаю, што яго растраляюць,—сказала Параска і спалохалася.

— Ну, дадумалася! Растраляюць! Грошы забралі, пазьдзекваліся ды пусьцяць,—адказаў бацька.

Яна не пярэчыла і стала гатовіць страву, к таму-ж была і мука і картопля. Ужо, калі яна ўходзілася і зачыняла печ, у хату ўвайшоў суседны хлопчык і, баязьліва азіраючыся, стаў ёй шаптаць:

— Парасачка, а-яй, які страх, а-яй! Пасьвіў я авечкі каля Рудніцкага логу. Дык бачу, вядуць легіёны Ваню Мікалаевіча. Прывялі да лесу ды сталі. Ваня скінуў шынэль і боты ды стаў на калені, а яны, легіёны накінуліся на яго ды нешта рабілі яму—мусіць рэзаць хацелі. Толькі Ваня разам як усхваціцца ды ў лес... А легіёны па ім са стрэльбаў пах... пах... А Ваня бяжыць далей, толькі шапка на сучку завісла ды ў лес і схаваўся... А легіёны бягуць і страляюць, бягуць і страляюць... А пасьля пад'ехалі і конныя, і на фурманцы, і ўсё страляюць... Але, дурні, там-жа нізіна—лог... Кулі паверсе лесу пстрык-пстрык... Я за авечкі ды крывасёлкамі за кусты, за ўзгорак ды скарэй дадому...

— Ты праўду кажаш?—запытала Параска, пабляднеўшымі губамі.

— Во... ці-ж я абманшчык які ці што?—сказаў хлопчык,—я-ж не маленькі, сваімі вачыма бачыў.

Гэтая вестка вельмі парадавала Параску. Бацька яе гэтак сама сказаў, што Бурак добра зрабіў—пэўна цяпер вернецца к сваім. Шкадавала Параска, што ня можа пераслаць Бураком вестачку свайму міламу Алесю... Пад вечар уся вёска ціхенька шапталася аб пабегу Бурака...

Жандары шукалі па лесе Бурака да вечара. К вечару лес акружылі легіянэрамі і перашарылі ўсе кусты, але ён зьнік... Растаў, як веснавы сьнег... К ночы вёску занялі пехацінцы, злыя, як чэрці, і перавярнулі кожную будыніну. Назаўтра шукалі ў лесе, але Бурака ня было... Цераз дзень пяхота выйшла. У маёнтку застанавіўся „постэрунэк" жандараў. Сокальская жыла ў Навагрудку і ў маёнтак не прыяжджала. Памалу аб Бураку пачалі забывацца.

Ранены пры пабегу ў руку, ён забег у глухое месца к свайму знаёмаму Барысу і там лячыўся. На ўсе ўгаворы ісьці назад к бальшавіком ён цьвярдзіў адно, што трэба дастаць грошы і раздаць сялянам, што яго хацелі забіць, каб скрыць грабеж, але ён яшчэ сумее найсьці праўду і нават пакараць грабіцеляў. Ужо некалькі раз ён пасылаў Барыса ў Навагрудак на разьведку. Прыехаўшы раз з гораду, Барыс паведаміў Івана Мікалаевіча, што ў горад прыехаў комэндант пляцу, палкоўнік Абухоўскі.

— Абухоўскі? А ты яго ня бачыў?—запытаў Бурак.

— Як ня бачыў. Парад нейкі быў, дык ён прымаў. Высокі, высокі, з доўгай шыяй і маленькаю галавою, вочы, як у зьмяі,—апісваў Барыс.

— Высокі, з малой галавою Абухоўскі—гэта той самы,—гаварыў сам сабе Бурак.—Ну, цяпер я выйграў. Я ім пакажу грабіць. Ведаеш,—зьвярнуўся ён да Барыса,—я, брат, выйграў. Палкоўніка Абухоўскага я ў прошлым годзе выратаваў ад вернай сьмерці. Ён надта быў злы да салдат. Калі арганізаваліся комітэты, мяне выбралі старшынёю. Пра Абухоўскага салдаты паставілі на сабраньні пытаньне. Было вялікае абурэньне. Выказвалася думка раз назаўсёды адчапіцца ад такога чалавека, але вынесьлі пастанову перавесьці яго ў канюшню радавым. Частка з пакрыўджаных адкрыта гаварыла, што заб'юць яго. Я тут-жа папярэдзіў яго, даў яму адзежу салдата і ён уцёк у польскі корпус Довбор-Мусьніцкага. Салдаты надта шкадавалі і лічылі, што нехта памог яму ўцячы... Каб яны ведалі... Абухоўскі быў гадкі чалавек, але ўсё-ж было неяк шкада яго... Цяпер ён паможа мне дабіцца справядлівасьці. Я ім цяпер усім пакажу.

Барыс не разьдзяляў поглядаў Бурака, але ня лічыў патрэбным даказваць яго памылку. Ён толькі сказаў:

— Глядзі, каб не памыліўся! Ведай, браце, што ты ставіш на карту сваю галаву.

— Ну, быць-жа ня можа, каб чалавек, якому я захаваў жыцьцё, мог зрабіць мне зло. Ну, не паможа самае большае,—гаварыў Іван Мікалаевіч.

— Усяк бывае,—адказаў Барыс.

Уведаўшы, што вышэйшым начальнікам павету зьяўляецца чалавек, якому ён зрабіў такую вялікую ўслугу і маючы надзею, што Стася паможа яму ня толькі апраўдацца, а нават найсьці вінаватых і пакараць іх. Бурак не хацеў чакаць, пакуль зажыве прастрэленая рука і паехаў у горад. Дарога была дрэнная, бо яны екалі ня шляхам, а нацянькі, каб менш сустракаць жандараў, якім пападацца ў рукі Бурак ужо не хацеў. Вёскі, праз якія яны праяжджалі, стаялі пустыя і голыя. Многа хат было раскідана, з выбітымі вокнамі, з разломанымі дзьвярыма. Скаціны на палёх амаль ня было відаць. У бруднай, дзіравай адзежы з мяшкамі за сьпінамі і палкамі ў руках па дарозе праходзілі тоўпы кабет-жабрачак, вяртаўшыхся з фронту, з рускага боку, бо тут ужо не давалі, а там людзі жылі багацей і давалі хоць па некалькі картоплін. Голад гнаў у жабраччыну, шукаць яды і старых і маладых, бо зарабіць было недзе:

работы ня было. Усе лагчыны сенажацяў былі гэтак сама пакрыты бабамі. Яны зьбіралі траву, як шчаўе, крапіву і інш., каб, высушыўшы, стаўчы і разам з выпрашанай за фронтам жменяй мукі сьпячы праснок дзіцяці. Агароды і поле каля вёсак ускопвалі рыдлёўкамі, садзілі агародніну і картоплю. У большасьці ніякай жывёлы ня было. Усе амаль хадзілі поўныя і тоўстыя, з нейкімі пачарнелымі тварамі. Гэта была пухліна ад галадухі. Толькі вочы блішчэлі галодным блескам. Дзеці, папухшыя ад голаду, ня бегалі, а хадзілі памаленьку, чуць перасоўваючы ногі, альбо сядзелі на адным месцы і пазіралі некуды нябачачымі вачыма. Усе былі пузатыя, з вялікімі жыватамі, са старымі тварамі, на якіх лёг адпячатак мукі...

Прыехаўшы ў горад, Бурак распытаўся ў знаёмага жыда, дзе жыве Сокальская і пайшоў к ёй на кватэру. Няясная жаночая цень зірнула з-за шкла і зьнікла, калі Іван Мікалаевіч праходзіў каля вокан дому Сокальскай. Пакаёўка адчыніла яму дзьверы і сказала, што пані няма дома, паехала ў госьці на вёску к знаёмым. У пакоях чувацъ была размова і звон шпор. На стале ў прыхожай ляжала афіцэрская шапка з „orzełkiem" і стэк. Пакаёўка не зачыняла дзьвярэй і трымалася за ланцуг, каб зноў заперці дзьверы. Яна падазрона аглядала Бурака і чакала, пакуль ён выйдзе.

У Бурака моцна стукала ў віскох, але ён павярнуўся і, перамогшы сябе, выйшаў. Дзьверы ляпнулі, застукаў запор і зазьвінеў ланцуг... Заставалася ісьці к комэнданту.

У канцэлярыі комэндантуры яго акружыў цэлы рой жандараў і шпегаў. Яны пачалі дапытваць: хто, адкуль, зачым, к каму і г. д. Бурак заявіў, што ён жадае бачыць комэнданта-палкоўніка Абухоўскага і скажа справу толькі яму асабіста. Далажылі... Бурак чакаў больш гадзіны, але вось падыйшоў жандар і вялеў ісьці за сабою. Вось і габінэт. Жандар адчыніў дзьверы, і Бурак увайшоў... У крэсьле перад ім сядзеў Абухоўскі. Ён быў адзет у форму з нямецкага сукна з вітымі срэбнымі пагонамі і жоўтымі шнуркамі з аксэльбантамі. З-пад малых вусоў холенага твару увесь час шавялілася правая скіўіца, чуць аскальваліся ў правым вугалку губоў залатыя зубы, а левае прыжмуранае вока як быццам хітра падміргвала. Ён агледзеў Бурака з ног да галавы, і твар яго зрабіўся надута-важным. Толькі правае вока скора-скора забегала, як-бы хацела схавацца, злоўленае ў чымся паганым.

— Вы мяне не пазнаеце, палкоўнік? Помніце Бурака?—прагаварыў Бурак, сказаўшы прывітаньне.

— Так, так... То пан ест?.. Цо-ж пану потшэбна одэ мне?—запытаў Абухоўскі, нават не зварухнуўшыся.

— А вы помніце, палкоўнік, як я вас выбавіў ад сьмерці на фронце, ашукаўшы салдат?—запытаў Бурак.

— Так, так, то правда... Цо-ж пан хцэ?—зноў запытаў Абухоўскі.

Бурак пачаў расказваць. Як толькі ён сказаў, што ад яго аднялі грошы і хацелі растраляць, як палкоўнік ускочыў з крэсла, шырока адкрыў вочы, схваціў са стала рэвольвэр і сурова выкрыкнуў:

— А то пан і ест тэн комуніста-большэвік?.. Як-жэ то пан пшышэд тутай?! Гэй!...

У габінэт ускочылі жандары.

— Взёнсьць тэго... Пшыслаць жандарув, од ктурых уцек большэвіцкі шпег Бурак,—прыказаў ён.—Так... то ест пан!.. Так...—барматаў Абухоўскі сабе пад нос.

Увайшлі новыя жандары...

— То тэн ест Бурак?—запытаў іх палкоўнік.

— Так, пане пулковніку—гаркнулі жандары.

— Да турмы тэго,—крыкнуў палкоўнік.

— І гэта прыказваеце вы? Гэта такая падзяка за збавеньне ад сьмерці?

— Вар'ят-комуніста не ма права чэкаць одэ мне дзенькова괎ньня,—злосна кінуў палкоўнік.

Бурак пайшоў на апошняе:

— Хто можа даказаць, што я комуністы?—прагаварыў ён, упіраючыся ў вушак, каб удзяржацца ў пакоі ад цягнуўшых яго вон жандарскіх рук...

— А кто посьвядчы, жэ Бурак не комуністы?—зноў злосна запытаў комэндант.

— Што я не комуністы, можа пасьведчыць пані Сокальска...—сказаў, а ў самога моцна застукала ў галаве, кроў кінулася ў твар, забалела прастрэленая рука, далёка недзе ў тайнікох душы пачулася, што не апраўдаешся...

— Ха-ха-ха! Пані Сокальска юж дала свое сьвядэцтво!—зарагатаў комэндант і, дастаўшы з шуфлядкі паперу, блізка-блізка паднёс к твару Бурака...

Гэта быў партыйны білет, якога ня мог Бурак дашукацца...

У вочах Івана Мікалаевіча паплыло ўсё: і комэндант і білет... Ён! захістаўся... Жандары падхапілі яго пад пахі і павялі... Як праз сон ён чуў слова комэнданта:

— Пшэпровадзіць его до турэмнай больніцы... Але тылько пільноваць мне... а то знув уцекне... Цікаво... Сам пшышэд... Цо он собе мысьлял...

Далей усё зьмяшалася, Бурак быў у забыцьці...

V.

Было лета. Сухі гарачы дзень. Па дарозе з Паланэчак ціха йшлі дзьве жанчыны. Адна з цікавасьцю аглядала мясцовасьць. Відаць было, што для яе зусім нечаканы быў малюнак, які яна ўбачыла.

— Ая-яй, як усё перамянілася,—гаварыла зьдзіўленая кабеціна.— Гэта-ж ні Рудашоў, ні Быкевічаў, ні Краснай вёскі ні сьледу няма! Вось вайна!.

— Але як гэта ты ў такі час пайшла?—запытала першая.

— Ды вось усё зьбіралася, зьбіралася і якраз улучыла часіну, што цяпер і сама ня рада, у самы момант гэтага адступленьня. Выйшла, аж гляджу—пыл на ўсім шляху і валяць і валяць без канца легіёны. Калі ім канец будзе. А што толькі нарабілі яны там пад Слуцкам! Колькі вёсак спалілі! Ніва, Калічыцы, Ізбудзішча, Навінкі з дымам пусьцілі. У Ніве дванаццаць чалавек у вагонь укінулі, у Навінках восем забілі. Але там ім партызаны надта шкодзілі. Ёсьць у бальшавікоў нейкі партызан Пішчака, дык той такі страх наганяе, што бягуць ад аднаго імя. Намучылася і я. З-пад самага Бабруйску як выйшла, дык то палякі, то бальшавікі. А ўжо-ж чатыры гады, як была ў сваёй вёсцы—надта хацелася.

— Як-жа там, хто жыве?—запытала кабеціна.

— Ах, не кажы, якая жытка! У нас яшчэ прошлаю вясною, як наступалі палякі, дык спалілі Рэпічы, а гэтай вясной у Навагрудку застрэлілі чатырнаццаць маладых хлапцоў з Ярэміч, а колькі па адным загінула за няма-нішто—і не пералічыш. Колькі пад бізунамі памерла! Тольк-

ўжо канец. Іду вось ды баюся. У Паланэццы бальшавікі, а тут вось якраз старыя позыцыі, каб часамі палякі не застанавіліся. Казалі, за Цырынам гарматы ставяць.

З гэтымі размовамі яны падыйшлі к позыцыям. Перад імі ўніз зьбягалі рады драцяной загароджы і канчаліся на балоце, дзе разам з зялёнай травой гэтага году бурэла высокая, някошаная прошлагодная трава, сямтам тырчэлі з яе насыпы адзіночных акопаў „перадавых пастоў“. Увесь узгорак быў зрыт глыбокімі акопамі вышэй чалавечага росту. Пяшчаны грунт быў замацован каламі, зашалёван дошкамі і жэрдкамі, якія ўжо падгнілі і рушыліся. З правага боку па бугрох, уздоўж усёй рэчкі Сэрвачы, цягнулася гэтае поле мерцьвяцоў—акопы і драты. У балотнай лагчыне, закрытай алешнікамі, вілася рэчка Сэрвач. Дарога йшла асеўшай у балота старой грэбляй да самай рэчкі і зразу абрывалася. Тут быў млын, мост, розны будынак мельніка, але ад іх нічога не засталося, нават ніводнай палі ў рацэ. Вярхі дрэў былі зрэзаны, зломлены, сукі забіты. Калі бліжэй разглядзець кожнае дрэва, то можна было-б убачыць, што яно зьверху данізу прасьвідравана кулямі. Увесь берагбалота узрыт быў малымі і вялікімі ямамі ад снарадаў, якія часта валяліся тутжа не разарваўшыся. Болей як два гады гінула тут чалавечае жыцьцё, растрэльвалася здабытае кроўю і потам працоўных дабро.

Жанчыны перайшлі балота па раскіданай грэблі і па бервяну, паложанаму з берага на бераг рэчкі, дзе быў мост, перабраліся цераз рэчку ў маёнтак. Ніякага будынку ад маёнтку не засталося, і толькі яблыні, грушы і іншыя садовыя дрэвы сьведчылі аб тым, што тут быў сад.

Ад самай рэчкі і да маёнтку каля паўвярсты йшлі рады драцянога поля. То на маленькіх коліках, забітых зусім у зямлю так, што іх і відаць ня было, грудамі паўзьлі петлі дроту, то йшлі рады па дзеравяных, а далей па жалезных калох, нацягнутыя, як струны ў роялю, калючыя драты. Чым бліжэй да акопаў, тым вышэй былі калы, тым гусьцей быў дрот. Недалёка ад акопаў, каля дроту, раступалася і на шагоў трыццаць была пустая прагаліна, пасярод якой стаялі слупкі з ізолятарамі і нацягнут быў дрот. Гэта была электрычная загароджа. Далей зноў поле дроту і акопы.

Тут было нізкае месца, і нямецкія акопы зложаны былі з дзёрну. Каб яны не развальваліся і не абсыпаліся, бакі іх былі абложаны і змацованы густою драцяною сеткай. Пасьля трох радоў такіх акопаў пачыналіся бліндажы і лісіныя норы. Скляпеньні іх былі змацованы таўшчэразнымі рэйкамі, залітыя цэментам і абложаны зьверху зямлёю ў драцяных мяшкох, каб ахаваць ад сілы разрыву снарадаў. А там унізе гэтых лісіных нор у некалькі паверхаў збудованы былі сховы, у якіх можна было ў кожным зьмясьціць роту салдат. Гарачае сонца грэла гэту страшную мясьціну і неяк станавілася не па сабе, гледзячы на вялікае разбурэньне, і амаль-што ня ўсе, як громам рашчэпленыя дрэвы—сьляды работы расійскіх гармат. Такая позыцыя цягнуляся з аднэй і другой стараны рэчкі ня меней, як на пяць вёрст ушыркі і пралягала па ўсёй Заходняй Беларусі.

Кабеты перайшлі першую лінію. Чуць прыметна ўдоўж дратовага поля вілася заросшая сьцежачка з правага боку ад дарогі. Насустрач ім па сьцежцы выйшла дзяўчына. Кабеты прывіталіся і пачалі распытваць яе.

— Гвалтуюць у вёсцы, чуць уцякла. Ах, колькі гора і мукі перацярпелі за гэты год. Было, было, а цяпер яшчэ горай стала, як пачалі ўцякаць.

— Як-жа гэта вы, цётка Рыгіна, папалі сюды, адкуль?—запытала дзяўчына ў тэй, што расказвала пра Слуцак.

— Ды дзе жыву!? За Бабруйскам была ў вёсцы. Там нічога жывем. Захацела паглядзець на родную вёску. Пайшла ды вось ня ў добры час, якраз гэтае адступленьне,—гаварыла Рыгіна.

— А куды-ж гэта вы хадзілі, цётка Анеля? Ці далёка бальшавікі? —запытала дзяўчына.

— Ды блізка, у Паланэццы, Парасачка, але-ж ці нам ісьці далей ці не?—запытала Анеля.

— А ў мяне якраз і ліст бальшавіцкі! Нейкі чырвонаармеец даў у нашу вёску, казаў знаёмым.

— Ліст, а каму ліст?—запытала Параска.

— А ці-ж я ведаю, я-ж няграматная, вось глядзі,—і дастаўшы з-за пазухі ліст, Рыгіна паказала яго Парасцы. Параска схваціла вокам адрэс „Піліпу Цыбулі“ і ў момант, разадраўшы конвэрт, пачала чытаць. Твар яе праясьнеў, вочы загарэліся, уся яна разам пахарашэла, па губах забегаў прыемны сьмех, уся істота выяўляла ласку.

— І хто гэта піша Піліпу Цыбулі, калі ён год ужо, як памёр?—сказала Анеля.

— Як, ці-ж твой бацька, Парасачка, памёр?—запыталася Рыгіна.

Параска нічога не адказала, утупілася ў ліст, твар зьмяніўся.

— Дык яшчэ-ж прошлай вясной памёр,—расказвала Анеля,—як прышлі палякі, дык зьбілі яго да паўсьмерці і забралі ў іх усё, што было за тое, што Піліп адказаўся зьбіраць у вёсцы ім дабро, а ён тады у нас прадсядацелем быў. У прошлую вясну быў страшэнны голад, толькі й пражылі, хто застаўся жабрачым куском. Елі траву, лісьце. Хлеба з мукі і дзецям ня было. Пайшоў раз Піліп, у торбачку наашморгваў лісту у панскам садзе з ліпы. Думаў ссушыць, стаўчы ды ў хлеб усыпаць: ліпавы ліст вельмі добра ў хлеб. Але якраз жандары і злавілі яго. Білі, білі і ўкінулі ў пограб. Так ён і сканаў у панскам пограбе. Ды ці-ж ён адзін? Ваню Мікалаевага помніш мо? Вярнуўся ён з Менску, каб аддаць людзям грошы. Давалі яму на тавар у Маскву ехаць. Палякі як схвацілі яго, дык зразу хацелі застрэліць, але ён уцёк. А пасьля хацеў грошы адабраць, што яны заграбілі. Ну, ужо вядома, як папалі яго, дык мучылі, мучылі ды ў Навагрудку, мне ўжо знаёмы аптэкар расказваў, растралялі.

— Дрэнна-ж было ў вас,—сказала Рыгіна,—а я рвалася дамоў, каб хоць пабачыць родную вёску і памерці ў ёй.

— Э, цёця, памерці ня дзіва. Вось выжыць—гэта штучней. Хто вам даў гэта пісьмо?—запытала Параска.

— Каля Паланэчкі дагналі мяне конныя бальшавікі.—Куды йдзеш, бабка?—пытае такі стройны, віхрасты хлопец у скураной адзежы з гвяздой, відаць начальнік.—Дадому, кажу.—Адкуль-жа ты?—Я яму адказала. А ён гэтак прыветліва ўсьміхнуўся дый кажа:—А ці знаеце вы Піліпа Цыбулю?—Чаму-ж не, кажу, як-жа, каб я ды Піліпа ня знала.—Добра, кажа, застанавемся, бабка. Зьехаў убок, застанавіўся, напісаў гэты ліст дае мне.—Вось, кажа, вам ліст, аддайце Піліпу, а гэта за турбацыю—і даў мне сто рублёў „царскіх“. Хацела я папытаць яго: хто ён, але ён борзда паехаў даганяць сваіх...

— Ай... палякі!..—крыкнула Рыгіна.

З-за лесу выскачылі легіянэры.

Перад сабой яны гналі стаду кароў.

— Стой! Цо несеш?!—раздаўся крык.

Бабы кінуліся наўцекі ў лес, Параска пабегла па дарозе.

— Стой, стой, пся крэв!—крычалі ззаду, але ні Параска, ні бабы не астанаўліваліся.

Легіянэры пачалі страляць. Рыгіна ўпала на землю і больш не паднімалася. Анеля рынулася з разьбегу на землю і качалася з крыкам і енкамі. Параска, як каза, мчалася па дарозе, а за ёю ўдагон ляскалі стрэлы, ззаду ўсё бліжэй чуўся храп каней. Яна не азіралася... Грымнуў залп... Задратаваныя легіёнскія коні сталі слушна. Адзін, узьняўшыся дыба, са ўсяго маху грукнуў аб землю. Параска ўпала... Легіён, што дастаў грошы ў Рыгіны, закруціўся, заскакаў на адным месцы і, засадзіўшы грошы з кулаком у рот, ціха паваліўся каля яе ног. Палякі кінуліся ў лес. Каровы,задраўшы хвасты, зараўлі і памчаліся па полі. Анеля перастала енчыць і ляжала, скруціўшыся клубочкам каля высокай хвоі. Недалёка ад Параскі ляжаў конь, падмяўшы пад сябе легіянэра. Конь дрыгаў нагамі, а пад ім варушыўся, стараючыся вылезьці легіён. Параска ня бачыла, як прамчаліся каля яе чырвоныя, як к ёй пад'ехаў хлопец у скураной адзежы і ў момант, саскочыўшы з каня, сеў каля яе, падняў галаву к сабе на калені і ўбачыўшы, што яна ня ранена, пачаў прыскаць з паходнай бутэлькі вадою ў твар. Яна была ў вобмараку і скора ачнулася. Чырвань пакрыла яе твар, калі яна глянула на хлопца: вочы і ўся істота маладой дзяўчыны выказвалі радасьць і падзяку. Яна прыпаднялася і, абняўшы яго, панікла к яму на грудзі.

— Алесь, мілы Алесь...—шапталі яе губы.

Алесь нахіліўся да яе твару і аддаў усяго сябе ў гарачым пацалунку.

Стрэлы бухалі ўсё далей. У сэрцы Параскі і Алесі ўсходзіў дзень новага жыцьця.

## ПАЦЕРКІ ЛЕТА.

**Н. Чарнушэвіч.**

*(Сябар „Маладняка“).*

Па загонах жыта сьпелага
Ўжо ня дыбаюць смужныя хвалі...
Калосьсе ў жару пажаўцелае
Пазакрыла іскрыстую далеч.

Не сячэ паветра сьпевамі
Салаўінае дню прывітаньне...
Толькі ўверсе шапочуць пер'ямі
Крылы подляткаў з золачнай рані.

Над заснуўшай у рэчцы раскай
Нахіляюцца мошастам галкі.
Ў садку-ж пад праменнай ласкай
Разьліваюцца кроўю трускалкі.

Як каралі, нізкай цеснай
Сенажаць агарнулі пракосы.
На ўзгорку з зажынкавай песьняй
Серп гуляе па жытніх калосах.

Над дарогай узьнята курыва
Ад вазоў у мурог разадзетых...
Што вясна рассыпала куфлем,
То вазамі паверне лета.

1923

# МІКОЛА.

**Анатолі Вольны.**

*(Сябар „Маладняка").*

Памяці Міколы Ганчарэнка — чырвонаармейца 217 Пугачоўскага палка 25 Чапаеўскай дывізіі.

Хіба-ж гэта калі забудзецца,
Хіба зарасьце бур'янам шлях там,
Дзе разнузданай польскай блудніцай
Мужыка катавала шляхта.

Эх, Міколка, з Гародзенскіх гоняў,
Адгрымеў час гарматаў, прайшоў—
Гэткіх дзён бурава́я пагоня
Калі пранясецца ізноў?..

Мы сустрэлісь па простых законах,
Комсамольцы 20-га году,
У штурмовых бальшавіцках калонах
3-яй роты 4-га ўзводу.

Мы сустрэлісь ў вясковай ваколіцы
Разам, нават ў разьведку ішлі.
Ты і я—мы былі комсамольцы,
З беларусаў абодвы былі.

Ну, і вось падружыліся раптам,
Дружбу гэту сапраўды, да сьмерці,
У цапі паабветрылі разам,
Закалілі ў агнёвай праверцы.

Помню вечар з цудовымі ценямі,
Паразьбітую пан вабіў раць,
Вёрстаў 30 зрабілі за дзень мы,
З боем вёску прышлось забіраць.

У той вечар замоўклі гарматы,
Сінім шлемам адзелась зямля.
Мы пайшлі у вясковыя хаты
Ціха глянуць на золак жыцьця.

А ў вёсцы зьвінела жалейка,
Нібы й цэп зз сялом не лягла,
І чамусь-ці журба-ліхадзейка
Кудравата у сэрца цякла.

Эх! Міколка, бо мы з дыму бурыя,
З смуткам, смуткам разам блукалі.
Нашы вёскі і хаты пакурыя
Вызваленьня з надрывам чакалі.

Эх, ратуйма той край, што з суглінкамі,
—Беларусь,—край стрыножных палёў.
Ты сказаў і, здаецца, сьлязінкамі
Журба зьбегла з тваіх вачоў.

Але можа мне гэта здалося,
—Ну, вядома, бываюць выпадкі,—
Бо такі быў хмялёвы вечар
І так шчыра лучынілі хаткі.

Тр-р-ры-во-га!—раптам ўзравелі граматы.
Тр-р-р-ры-вога!—сэрцам забіў кулямёт,
Зарою дзесьці ур-р-ра занялося
І скамандываў ўзводны: „Ўпярод"!

Мікола, родны з родных гоняў,
Рвануўся першым наступаць,
Байцам у шлемах з гарачым сэрцам
Галоў буяных ня стрымаць!

Міколка з першых першым біўся
—Далёка ззаду цэп пакінуў.
Ў цапі пранеслась: „Бач, сказіўся,
Хлапец зарваўся—знача згінуў".

Не зразумець было й сабрацьцям:
Пашто адзін ён ўперад лезе.
Эх, каб паведаў, каб сказаў ім,
Што Беларусь хлапец угледзеў!

Як бой замоўк, дык на праверцы
Сярод другіх Мікола паў,
Баец у шлеме з гарачым сэрцам
Ва ўдзілах сэрца ня стрымаў.

Схілі-ж штандары, рацъ комунаў:
Ён Беларусі ня угледзеў...
Ня чуў ён, мёртвы, ўвесь той глум,
Што пан чыніў над ім з пабедай.

Хіба-ж гэта калі забудзецца,
Хіба зарасьце бур'янам шлях там,
Дзе разнузданай польскай блудніцай
Мужыка катавала шляхта.

* * *

**Язэп Пушча.**

Туляўся выбоямі грэблі
заплаканы променя вырыс.
Апрануты латаным зрэб'ем,
у хаце мужычай я вырас.

Падслухаў там родныя песьні,
як пелі дажынкамі жнеі.
Сахою я гонейкі песьціў,
кілзаючы сонца у шлеі.

Прастор—сінявокі юнак—
буяніў са мной у сутоньні;
губляючы зоры ў хмызьняк,
яму сьнілася новае сёньня.

Туман, ацярушаны пытлем,
цадзіў белаватую боязь.
Падпаскам ганяючы быдла,
я раніцы кланяўся ў пояс.

Ліпнёвага сонца праменьні
шапцелі жытнёвым калосьсем.
З сталёвай касой на раменьні
ў касавіцу хадзіў на пакос я.

Кудлата-зялёныя хвалі
чупрынаю кудзер кудзеліў.
Ветры-ж мяне калыхалі
ў ядрана-жытняй пасьцелі.

Ўсьміхалася Сьвіслач мне срэбрам,
на пуні прывязваў, як прывязь.
Апрануты латаным зрэб'ем,
у хаце мужычай я вырас.

* * *

**Ул. Дубоўка.**

Пачынаецца з-пад хмар вандроўных,
пачынаецца з лясоў шумлівых;
захадзіла сонца ціха-роўна,
а на захадзе чырвань нехта выліў.

І замоўклі дразды над балотам,
і у лесе сівакракі замоўклі.
Ноч пацягнула бяліць палотны,
разьвіваючы непразрыстныя столкі.

Паляцелі вятры над далінай,
выплывалі расою сьцяжынкі.
Выхадзілі істужкай цьвятлівай
маладзіцы й дзяўчаты з дажынкаў.

Ад цямна і да цёмнага ў полі
за сярпом яны беглі гарбатым.
Дык затое ў паясьніцы ім коліць
і пякельна смыляць іх пяты.

Словы кажуць—жыта яны жалі,
а пяецца іншае ў песьні:
пабіралі па загонах сьлёзы жалю,
вырасьлі што сёлета ў Палесьсі.

Песьня ймчыцца, а жыцьця ня хваліць,
песьня стогне з пошчакам балюча.
Гэта Прыпяці стромкія хвалі
скардзяцца аж да пяскоў зыбучых.

Сум вялікі, ой! Узрос бясконца:
дзе-ж і лета, дзе і месяц ліпень?—
Вусны пашчапаліся ад сонца
і да плеч кашулі зрэбныя прыліплі...

Праляцелі вятры над далінай,
праляцелі вятры праз сасоньнік.
Серп гарбаты на хмары ускінуць,
хай ускінуць яны сягоньня.

Людзі скажуць, што гэта месяц,
што зубілі яго там, дзе зоры.
На яго з зямлі пасьмяецца
электрычная жнейка скора...

М. Калінкавічы.

# З СКАЗАУ БУРЫ І ВІХОРАУ.

З. Бядуля-Ясакар.

... Го-го-го...
Посьвіст рэжа пушчу:
... Ф-ф-ф-ю-ю-у...
Ў апавітках ночнай сажы
З смаглаю журбою
Коціцца, паўзе па аксаміце лесу
Пошчак-рэха.
... Го-го-го...
Нехта звар'яцелы, дзікі
Голаў б'е аб сосны,
Скрабе плячом аб шурпаць жорсткіх пнёў
І сьвішча, сьвішча:
... Ф-ф-ф-ю-ю-у...

А пушча
Вілаватымі асілкамі,
Як той агромны ачарот,
Дрыжыць,
Дрыжыць,
Дрыжыць.
І шорах льле такі,
Як быццам на чыгун гарачы,
Да бела раскалёны,
Пырскае халодны град крапінак:
... Ж-ж-ж-ж...
Так бор гудзіць пчалой.

Тут гладкі быў абшар зямлі,
Як вялізарны плех.
А з далечы прастораў і часоў
Імкнулася сюды, бы шквал сталёвы,
Няведамае племя,
Калюча-кудрае, віхрастае і дзіка-воўчае,
Нахлынула, нарынула на веча-сход
Старукае, станогае
Няведамае племя.
І раптам—
Анямела, ацьвярдзела,

Мохам абсьцілалася,
Смалою абурштынілася,
Засталася навекі-вечныя стаяць
У пушчу—лес,
У лес з ваўкамі, ягадамі і грыбамі,
З казкамі дзядоў,
З труканьнем бяроставай трубы
Дзівацкіх пастухоў.
А мо' ня лес—
Коміны падземных фабрыкаў
Вылезьлі, як дудкі, ўверх з глыбі
Пячэр агнёвых, з падзямельля,
І сьвішчуць, сьвішчуць.

То пальцы два
У губу улажыў малойца новы
З новай казкі—
Засьвістаў.
Выскачыў з бярлогі сумны воўк,
Ад голаду сухі, бы корч,
І бразнуў фосфарам вачэй
У хмельны цемень лесу.
Іскравіў голадам, самотнасьцю
Вакол.
Паджаўшы хвост
І апусьціўшы нізка морду,
Воўк сунуў між пнёў—
Апрыкрыла яму „цю-га“ людзкое.

Як даўны рыцар лесу,
Які трымаў у страху
Магнатаў і князёў
І бараніў сярмяжны люд,—
Так і цяперашні славутны атаман паўстанцаў—
Янка Віхрабурны—
Хлопец з вёскі,
З буйнаю сям'ёю дзяцюкоў
Палохаў тых,
Хто сюды прышоў з Пазнані і Варшавы
Панаваць.
Белыя былі арлы ў паноў на шапках,
Багнэты і нагайкі—у руках,
Матка боская з ксяндзамі—у хвасьце.
Беларусь ад іх стагнала стогнам.
Беларусь апранута была
Ў пажарышчны бурнос паўстаньняў.
А кіпці белапанскага агіднага арла
Ірвалі яе грудзі,
І сэрца трэпетнае
Скублі на жылкі-ніткі.

...Што рабіць?—
Завойкаў люд па вёсках,—
...Што рабіць?
Дзе вoi нашыя?
Дзе нашыя чырвоныя саколы
З зоркай на шаломах,
З бурай вольніцы ў грудзёх,
З полымем штандараў
На штыкох?
Дзе воі Леніна?
Дзе?
— Тут!—
Гукнуў Янка Віхрабурны,—
Мы самі—ўсе па вёсках!
Хлопцаў грамада адзін ў вадзін!
Ідзём у цёмны лес!
Чырвоны певень загуляе па маёнтках!
Зрываць будзем масты!
Як зьвяроў, трывожыць будзем
Панскіх наймітаў трусьлівых!

Мы вытурым іх з Беларусі!
Наш курганны край задушыць іх жыўцом;
Апынуцца яны, як тыя мышы ў студні.
Нам не арліхі дохлыя патрэбны,
А творчы і мазольны Серп і Молат!
Мы адваюем край!
Ён вольным быць павінен!
Вінтоўкі ўсе з захаваў павыймайце!
Ідзём гуляць ў жыцьцё і сьмерць!
(На фабрыцы дагэтуль Янка працаваў
У горадзе, і выведаў на сваіх плячох—
Адкуль на сьвеце ліха.
Ён ведаў Маркса, Леніна чытаў,
Вярнуўся ў вёску вольніцы прарок).
Вочы ў хлопцаў загарэлісь,
Ап'янелі з яго слоў.

Ноч і глуш
Спляліся між сабою ў жудасны дыван.
Вандруюць, як разьведчыкі
Між прысадаў лясуновых
У дзікай пушчы.
Над цёмнаю карунай
Стромкіх дрэў
Вісіць на жылах сівай хмары
Ярка-медны месяц.
Ня месяц—
То ў крыві карона,
Сарваная віхорам з галавы
Агіднага і дзікага бажышча.
Ня месяц—

Чырвона-вогненнае сэрца волата
Блытаецца ў сумнай пустцы неба.
Ня месяц—
Агромністая бурая лілея
Ў бяздоньні шкла нямых пустотаў
Заквітнела.
А над борам
Па блакіце люстраў
Нехта рассыпаў вялікі коўш
Чырвоных, ядраных малін,
Пульхных, нібы вусны малалетак—
Зоркі.
Нехта расьсяваў па
Вадзяністым шоўку
Зерняткі з рубінаў—
Зоркі.
Нехта тысяччу вачмі
Глядзіць уніз—у кудры бору
І залатымі шпількамі
Коле пушчу.

Янка Віхрабурны
Толькі-што прышоў у лес.
Прыдушаным авеччым стадам
Ляжала водаль вёска.
Часам даляцелі стуль,
Бы спалоханыя качкі,
Шумы-згукі:
Скрып варот,
Сабачы брэх,
Ні-то гоман,
Ні-то шэпт людзкі.
Усё гэта лілося ў сэрца Янкі
Чароўнай музыкай,
Хмелем супакою,
Веяла яму у вочы абразкамі
Гадоў даўно мінулых...

Абразок за абразком мігцеў,
Бы на заходзе сонца плямы колераў.
Вось малы ён пастушок
З васільковым аганьком у зрэнках.
(У рэчку углядаючыся,
Ён заўсёды бачыў сам сябе
Ў русалчыным люстэрцы).

Старэнькі лысы дзед
З сьлязьлівымі вачыма
Яму тады пры стадзе
Казак шмат апавядаў:
Пра ведзьмакоў, русалак,
Ваўкалакаў і разбойнікаў.

А болей усяго яму былі ў спадобу
Казкі аб асілках,
Радзіўшыхся ад зор.
Расьлі асілкі тыя ў мігаценьне вока,
Высокія—бы сосны.
З жалезнай булавою ў сто пудоў
Пускаліся яны па сьвеце вандраваць.
Біліся з зьмяямі,
З чароўнай, цёмнай сілай,
З панскім войскам,
З панамі,
Што гаротны люд душылі на прыгоне.
У тых асілкаў:
За пазухаю—сонца,
Месяц ясны—на чале.
Дзед памятаў прыгон—
І жудасныя казкі-праўды
Гаварыў малому Янцы
Аб тым, што дзеялася
У маёнтках панскіх.
І кулаком старым, сухім,
Пажоўклым, бы карэньнем з-пад зямлі,
Трос стары у бок маёнтку
Пана Скрыцкага,
Які здалёку белым дахам
Неба падпіраў.
Тады ў вачох затухшых дзеда
Заіскравіўся захованы агонь...

З дзівам паглядаў малы Янка
На маёнтак панскі.
І доўга задумёны смутак
Яго вачэй палацы акрапляў...
Там...
Ў аксаміце, золаце і шоўку
Гадавалася, расла
Панская дачка Марына—
Беленькая, пухленькая дзеўчынка,
Як-бы сатканая з пуху
Сьнежнабелага, лябяжага...
А вочы... вочы...
Ласкавыя, мяккія.
Гляне—
Цёпла на душы малога Янкі робіцца,
Бы песьня жаўранка шчакоча яму вушы,
Бы васілёчкі пясьцяць яго губы.
І цэлы дзень тады
Шчасьцем быў ён сыт.

А раз...
Надаеў ён ёй.
Сабакамі яна яго цкавала,

„Хамам“, „быдлам“ абазвала,—
Як доўга на яе здалёку
Ён глядзеў.
І пахаваў ён глыбака ў душы,
Бы ў труне,
Пачуцьце нежнае, сьвятое.
Памёр яго дзіцячы бог.
І злосьць яго ўзяла.
У дзіцячым кволым—у „мужыцкім“ сэрцы
Нешта гордае і гнеўнае палала...
Як быццам раптам
Сярод ціхага і сонечнага дню
Пакрылі неба хмары,
Віхор пачаў круціць,
Маланка заіграла—
І сьцюдзена і жудасна зрабілась.
Ён сам ня знаў чаму,—
На Марыну болей не глядзеў ён.
Аднак-жа
Постаць дзіўная дзяўчынкі панскай
Ў яго грудзёх жыла,
Атрутаю хмяліўшы яго думкі.

З пастушка зрабіўся Янка
Парабкам здаровым, стромкім.
Марына вырасла ў паненку.
І кожны раз, як ён яе здалёку прыкмячаў—
Успомнілась цкаваньне.
І кожны раз ўздымалась тая злосьць
І гордасьць.
І кожны раз аднак цягнула да яе...
— О, проклятае сэрца!
Сьціхні ты, гадзюка, сьціхні!
Не для цябе атродзьдзе панскае!
Каб загасіць агонь пякельнага каханьня,—
Янка ўцёк у горад,
У невядомы, чужы горад.

Горад...
Як калісьці у дзяцінстве Янку вабіў лес,
Так яго зачараваў пасьля вялікі гарад:
Казка з каменя і сталі.
Горад
У зморшчынах глыбокіх, гулкіх вуліц,
У павуціне дротаў,
У рогаце машын,
У маланках—агнявіцах электрыцтва,
У хмельных скоках самаходаў і трамваяў.—
Нэрвовы, п'яны і вар'яцкі горад
Кіпеў жыцьцём.
Як мікробы
На целе аграмаднага, страшнога вапрука,

Кішмя кішэлі людзі.
А штодзень горад выў,
Бы ранены зьвяруга.
Гэта фабрыкі, заводы
Войкалі у неба,
Высунуўшы ўверх страшныя языкі,
Якія чадзілі яскрава-чорным
Дымам пэргамін вышыні,
Плявалі ў пэрламутравы, аблочны
Трон нябёснага, царкоўнага тырана.
Хрыплым, гнеўным выкрыкам
Цьвёрдых і магутных мазалёў
Рабочых стагналі фабрыкі.
Дрыжы, банкір і фабрыкант!
Свае хаўтуры чуеш ў гуку фабрык!
У бэтонных курганох
Навекі ты засьнеш.
Дрыжы!
Музыка, шампанскае, блудніцы
І блеск кафэ-шантанаў
Хай ліжуць твой распусны мозг,
Зацемраны францускаю хваробай.
У сутарэньні сядзіць галодны твой нявольнік,
У лахмоцьцях увесь,
З маланкай цёмнаю ў вачох,
З пракляцьцем у душы,
З матэршчынай на губах,
З сталёвым гартам у руках,
Ён сатрэ цябе з зямлі,
Ён створыць новае жыцьцё.

Янка на ліцейным доўга працаваў.
На тайных сходках часта ён бываў,
Там грамаце студэнты навучылі.
Паразумнеў, чытаў шмат кніг.
Шырокі, вольны, сонечны абшар
Горда думкі засьвяціў.
Вайна і Рэволюцыя.
І Янка добра ведаў,
Што такое пан
І што рабочы і мужык.
Гардзіцца ён пачаў,
Што належыць да тэй сям'і людзкой,
Дзе „костка чорная“ пакрыта
Мазалямі творчай працы;
Да тэй сям'і вялікай, братняй
На ўсім сьвеце,
Якая будучыну, шчасьце для людзей
З жалезнай сілай рве з рук,
Пагніўшай і аджыўшай век свой

Багатай клясы,
Што хутка пойдзе ў процьму
Тхлані, забыцьця.

У гэткіх думках-успамінах
Янка ня прымеціў,
Як паўстанцы-хлопцы падышлі
Са стрэльбамі,
З харчамі,
З кулямётам.
Ажыла пушча...
Там гнёзды сабе хлопцы парабілі,
І выхадзілі стуль часамі
Жаўнераў панскіх, нібы качак,
Паляваць.
А Беларусь, як-бы капусным рабаком,
Кішмя кішэла шляхтай і панамі.
Ваўчышчам край завыў,
Зьвяругай раненай, галоднай.
Музыка панскі бізуном іграў
На „халопскіх" сьпінах,
Забіраў дабро,
Гвалціў матак і дзяўчат,
Нішчыў вёскі,
Растрэліваў народ.

І помста полымем гарэла
У сэрцах у паўстанцаў.
Усе адзін ў адзін
Далі прысягу атаману—
Змагацца за народ,
Трывожыць пана,
Зьнішчыць яго да канца.
А сьведкаю была матуля-пушча.

Хто тры разы савою закугыкаў?
Хто будзіць пушчу сполахам паўночным?—
Малойцы Янкі знак даюць...
Чырвоны полаг неба.
Гарыць маёнтак панскі, як лучына.
І ноч успыхнула,
Прачнулась людзкім гоманам,
Спалохана чытае
Чырвоную прысягу
На аркушы мядзяным неба:
Помста,
Помста,
Помста
За вёскі,
За народ.
Гарыць маёнтак панскі.
Пажарышча рагоча, як вар'ят...

Гарачы, летні дзень.
У пушчы халадок і цень.
Пахне ягадай, грыбамі
І смалою.
Лепшага няма на сьвеце,
Як у лесе—у глушы
Сядзець грамадай маладой,
Гарачай і адважнай,
І сполах навадзіць на тых,
Хто крыўдзіць люд гаротны.
У любую хвіліну ты гатоў
Змагацца за жыцьцё,
Пайсьці на сьмерць.
Ты нібы на працягнутым
Над бяздоньнем дроце
Шагаеш.
Упадзеш—і скончана усё.
Ты чуеш, што жывеш...
Нібы зьмейкаю ў руках сьмерцю і жыцьцём
Іграеш.
Так думаў Янка,
Седзячы на пні.
Спакойна, з жартамі
Палуднавалі хлопцы.
Раптам нешта шаснула ў кустох...
Прыбег разьведчык:
„Пазнанцы абкружылі лес!"
Ускочылі паўстанцы.
Стрельбы—ў рукі.
Усьміхнуўся Янка.
Ведаў, што жаўнеры ў лес ня пойдуць—
Пабаяцца.
—А скуль даведаліс яны,
Дзе мы сядзім—
То вынюхаў мой брат Лявон...
О, подлы... здраднік...

З даўных пор Лявон
Акономам служыць у пана Скрыцкага.
Гадоў мо' з дваццаць міскі ліжа
Панскія, як пёс.
Ён рассыцеў і панам сам зрабіўся.
Ён за паноў гатоў цяпер
На шыбельніцу ўзьвесьці
Ня толькі ўсіх сялян—
І бацьку роднага.
Боль сумленьня ў ім загас,
Як той вуголь у лужы.

—Здавайцеся усе...
Мо' вас памілуюць.
Абкружаны вы тут

Жаўнерствам польскім.
З лесу шпілька не пралезе.
Ты звар'яцеў, мой брат.
За што спаліў маёнтак?
Пан Скрыцкі—добры пан,
Вер брату роднаму—
Здавайся.
Так соладка, так смачна гаварыў Лявон
З паўстанчай грамадой у лесе.
Пры гэтым выгляд у Лявона быў,
Як у сьвятога.
Вочы—бы ў ягня:
Пакорлівыя, добрыя.
Сам гнуўся у бакі туды-сюды,
Як быццам без касьцей ён быў.
Уся хітрасьць, хцівасьць вылезла наверх.
Лявон круціўся абаранкам,
Як пад карчом кусьлівая зьмяя.

А Янка—родны брат яго—
То бляднеў, то чырванеў,
Ён чуць стрымаў свой гнеў,
Уеўшысь пальцамі ў наган.
—Ты брат мне, кажаш, брат?
О, подлая гадзюка!
Хоць костка родная,—
Сабачым, панскім мясам
Абрасла...
Маланкі дзьве блакітныя
Бліснулі грозна з Янкавых вачэй.
—Хлопцы! Плі!
Кашлянулі рэвальвэры.
Лявон завойкаў, паваліўся.

Мядовым сокам канюшыны
Пахне сонца.
Яно зьвініць-гудзіць
Жаўранкамі і пчаламі.
Залатымі, драцянымі кудрамі
У рэчцы замільгала.
Зайчыкі яго на гладкім дне сьмяюцца,
Ў апракінутых уніз нябёсах,
У люстры з пэрлямутру
З акунькамі срыбнымі гуляюць.

Заціснуты абапал
Сьцяною жыта,
Возерам аўсу
Жвірова-жоўты ўецца
Шлях.
Ён цягнецца, як той рамнёвы, вялічэзны пас,
У даль,

У даль,
У даль...
З прастораў хмельных,
Ярка-гучных
Кідаецца у пушчу доўгі шлях;
Уцякае ў цень хваёў з гарачыні.

Абапал шляху—
Ў сполаху застыўшыя вандроўцы:
Сям'я рабін да скрыўленага плоту
Цісьнецца;
Абвернутыя ў скруткі кужалю
Дрыжаць бярозкі.
А водаль—ёлачкі,
Бы шэраг пірамідаў,
Уверх глядзяць.
Ім ветрык папраўляе складкі
На сьвітках з вожыкавых голкаў.

А дзе-ня-дзе
На межах,
Каля мшыстых крушняў,
Што абрасьлі „сабачымі грыбамі",
Вартуюць шлях
Крыжы...
То голыя, нязнаныя істоты
Выпучылі грудзі ўперад,
Разагнулі рукі ў шыры,
Выцягнулі шыі ўвышку...
Здані безгаловыя нямеюць...
Нямеюць,
Бо ня можна гаварыць
Аб тых, што дрэмлюць пад крыжамі,
Ня можна...

Сьпеце, косьці!
Тысячамі блукаліся па дарозе
Адвечна вінаватыя,
Адвечна загнаныя,
Адвечна прыбітыя,
Адвечна гаротныя
Сяляне—
„Бежанцы".
Вас царскія нагайкі
Павыганялі з родных гнёзд,
Пускалі вёскі полымем і дымам.
Павыкурылі ўсіх,
Бы стады счумленых авец.
Ад немцаў забіралі
З-пад Нёмна,
З берагоў Вільлі.
У вачох туга аб тым,

Што засталося.
Падушкі і цабэркі на павозках.
Жывёліны ад сполаху рыкаюць.
Пануры конь, пакінуты гаспадаром,
У задуме голаду дрыжыць.
І нібы збожжа з дзіравага мяшка
Па дарозе трупы сеялісь.
Ня плакалі аб іх—
Бо ня было калі, каму...
Сухія былі вочы,
Гарачыя ад роспачы.

Маўчы, крыжоў сям'я,
А то застогне камень,
Заенчыць поле,
Віхор скалыша шлях,
Уздыбіцца пясок
У абшарах Беларусі,
Засыпле вочы сонцу,
Досуха загаціць рэчкі
Ад гневу-помсты.

Ад вогнішчаў-пажарышч
Нашых вёсак
Ня мала пёкся шлях,
Бы скварка на патэльні.
Ня мала шлях у трасцы гойдаўся
Ад выбухаў гарматаў,
Ад рыку бомбаў з самалётаў,
Ад кулямётнай ашалелай малацьбы,
Ад гіку-сьвісту вострадзюбых стрэльбаў,
Ад абозаў markрознафарбных войск,
Ад коньніцы зьдзічэлай,
Што ўсё поле здратавала.
На беларускім полі
Залішне многа
Концэртаў сьмерці
Адбывалася.
У вопратках руінаў-папялішчаў
Беларусь галошаньне казала,
Прычытаньне рвалася з грудзей,
Кідалася, нібы град камнёвы
Зьнізу ўверх—
У нямую сталь нябёс;
Пракляцьцем білася,
Як той азябшы падарожнік
Б'еццa ў хату.

Гэй, шлях, маўчы!
А шлях наш не маўчыць...
Ганебны, тлусты польскі пан
Зноў яго ўзбудзіў.

Як жывая жыла,
Як нэрв паколаты, балючы,
Дрыжыць наш шлях-дарэга.
Войканьне і плач расьце.
З хатак-вёсак надыходзіць
Роем аваднёў.
Воблака пяску кудзеліцца над полем.
Коньніца. Павозкі.
Жаўнерскі брыль блішчыць.
Лаянка пазнанская.
Як дзікая працэсія з пякельні
У грозна-страшным выглядзе
Соваецца нешта:
Адзін ў адзін сабраны ўсе
Дзяды старыя з вёсак.
Вяроўкамі зьвязаны рукі.
Па лысінах сьпяклася
Цёмна-бурымі блінамі кроў.
Запухлі вочы на сьсінеўшіх тварах.
Акрываўлены кашулі на плячох
Ад шомпалаў жаўнерскіх і нагаек.

А побач з коньнікам
Ідзе старэнькі жыд.
З вяроўкаю на шыі,
Другім канцом прывязан да сядла.
Сівую бараду
З мясам вырваную
Трымае польскі „рыцар“ у руцэ—
Вайсковая трофэя.
Ботам па патыліцы
Старога жыда б‘е,
Каб той ішоў хутчэй.

На сялянскім возе
У ваднэй кашулі
Сядзіць дзяўчына.
Зашнуравана моцна да сядзеньня.
Рукі пераціснуты вяроўкай.
К акрываўленым грудзям дзяўчыны
Жаўнер зьдзічэўшы лезе
Бруднаю, спацеўшаю рукой
І жарты гадлівыя строіць.
Ахрыпшым голасам
Крычыць дзяўчына,
Плюючы жаўнеру ў твар
Крывавай сьлінай.

О, гордая красуня,
Прыгожая і сьмелая Агата!
За што дзявочу чэсьць тваю забралі?
За што такія зьдзекі над табой?—

Ты, Янкі Віхрабурнага сястра,
Разьведчыцай адважнаю
Была ў паўстанцаў.
Хтось падказаў жаўнерам..
Пяць уланаў гвалцілі яе.
Як белая галубка,
Трапяталась ты пад імі.
Спаміж ног яшчэ цяпер ліецца кроў...
— Будзь проклят, бог духоўнікаў,
Агідны і страшны!
Будзь проклят здраднік той,
Хто на мяне
Нагаварыў жаўнерам!—
Так пасінеўшымі, запухшымі губамі
Дзяўчына шэпча.

І цэлы сьвет
Зрабіўся цёмным для яе,
Гнілой магілай:
Старога бацьку толькі-што забілі.
Як бухнулі па чэрапе прыкладам—
Рассыпалася галава ў кавалкі,
Як арэх...
Труп, мабыць, шчэ цёплы.
Брат—у лесе...
І вочы дзеўчыны,
Налітыя крывёй,
Маланкаю бліснулі ў бок жаўнера.
— Ня злуй, пся косьць!—
І штырх яе у бок,—
Ня то йшчэ будзе!
А за грамадай, на калясцы,
Расьсеўшыся вяльможай,
Пан Скрыцкі ехаў сам.
Ён раптам загадаў
Каб „арыштанты" засьпявалі
„Ешчэ Польска не згінэла".
Нанова пад сьпякотай сонца
Катаваньне пачалося...
На панскую пацеху
Спынілі ход.
Упартыя былі сяляне:
Замест гымну—
Матаршчына...

А побач каласілась жыта
Рухліваю густой сьцяной.
І раптам...
Дзіва...
З жыта выскачыў
Атрад паўстанцаў...
Сполах.
Крыкі.

Страляніна.
Стогны.
Пан Скрыцкі першым паў ад кулі.
За ім—улан і конь,
Да сядла якога
Быў прывязан жыд стары.
Пакінуўшы грамаду „арыштантаў“,
Жаўнеры уцяклі.
Забралі толькі сястру Янкі...

Ад злосьці Янка скрыгатаў зубамі.
Цямнела у вачох,
А сэрца каменем распаленым
Пяклося у грудзёх.
— Агатка! Родная сястрычка!
Шчыра службу ты служыла
Нашаму народу.
З панскіх рук
Жывой цяпер ня выйдзеш...
Я адамшчу...
І вочы —
Два вуглі
На бледным твары загарэлісь.
І сківіцы, бы абцугі,
Сьціскаліся,
Скрыпелі.
І цела ўсё—
Сталёвая спружына:
Во-во,
Стралою сьмерьці
Пусьціцца ў дагонку
За катам польскім...
— За бацькі сьмерць —
Пан Скрыцкі заплаціў жыцьцём.
Марына—адменай будзе
За Агату.
З мясам вырву з сэрца я каханьне,
Як губку з дрэва.

Не ваўчанё
Над прыстрэленай ваўчыхай
Вые, прычытае, —
Марына, панская дачка,
Над забітым бацькам плача.
Б‘ецца галавой аб жвір.
Ручкі кволыя ламае.
Ўся дрыжыць, бы раненая птушка.
Змрокі падымаюцца, растуць,
Бы цёмныя густыя кудлы воўны.
Па лагчынах дыміцца туман.
У хвалях сівых хмарак
Месяц—човен залаты—
Плыве...

Шлях глытае цемра.
Вільготным супакоем
Гладзіць пух жвіровы.

— Ойчанька мой родны...
— Ойчанька мой мілы...
Марына ціха плача, прычытае.
Ня бачыць, што над ёю
Анямелы стаіць Янка—
Атаман паўстанцаў,
Той, каго яна калісь
Сабакамі цкавала...
Стаіць Янка,
Зачарован ёю.
Вачэй ня можа адарваць.
Маўчыць.
Забыў ён бацьку роднага,
Забітага сягоньня
Пад камандай пана Скрыцкага.
Забыў сястру Агату,
Якую во цяпер,
У гэтую хвіліну,
Жаўнеры мо' жывую рэжуць
На кавалкі.
Забыў пра тое,
Што тут нядаўна
Пракляў сваё каханьне
Да панскае дачкі.

Ён бачыць прад сабою,
Як дзіўная дзяўчына,
Стромкая, як топаль,
Белая, як сьнег,
Кволая, як кветка,
Прыгожа, як русалка,
З блакітнымі вачыма
Як бяздоньне неба,
Плача, убіваецца
У вялікім горы;
Трапечыцца, дрыжыць,
Бы яварак пад ветрам.
—Марына...—прашаптаў ён,—
Марына.
Марына ўскочыла на ногі,
Абвярнулась тварам да яго.
У вадну хвіліну
Вочы высахлі,
Сталёвымі, халоднымі зрабіліс.
Пранізвала яго
Пагардаю, нянавісьцю,
Што з роду ў род
Жыве ў паноў
Да „чорнай, хамскай косткі“...

Прытомнасьць да яго вярнулась.
— Дык вось якая ты, Марына,—
Прахрыпеў.
— За бацьку—бацька,
А за маю сястру—ты!
Рэвальвэр блiснуў..
Раптам хтосьці ззаду
За руку яго стрымаў.
— Не страляй, мой брат!
Ня трэба!
То была Агата.
Нейкім цудам вырвалась яна
З жаўнерскіх рук.
Уцякла.
— А ты, паненка,
Ухадзі скарэй,
Хоць ты мне вораг—
Табе таго ня жычу,
Што я мела.
Ня будзем мы, сяляне
Так сябе паганіць,
Як вашыя паны.
Ідзі, атродзьдзе воўчае, адгэтуль!
Такая ж гордасьць,
Такая ж сталь
Блішчэла у вачох Агаты,
Такая-ж ненавісьць
Да чужой клясы,
Як у панскай дочкі.

Прайшло йшче колькі дзён.
Галодная, аборваная, гнеўная
Армія Чырвоная
Імпетна, як віхор.
Гналася за сытым
Вайскам панскім—
За стадам вапрукоў.
Адкормленых амэрыканскім дзядзькам
Белаю мукой і салам.
На панскім карку
З страху
Лой дрыжэў, бы квашаніна.
За сьпінамі чулі сталёвы штык
Рабочых і сялян.
На Варшаву пуць трымалі.
Бы мора посьле буры,
Стыхія улеглася.
Песьні волі засьпяваў наш край.
Пачаў залізываць нанесеныя раны.
На папялішчах новае жыцьцё
Квітнела...

Раз вечарам у Менску
Па Савецкай вуліцы
Са сходу позна йшоў
Янка Віхрабурны,
Быўшы атаман паўстанцаў.
Цяпер партыец чынны.
Ішоў ён задумёны, незаўважыў.
Як за ім усьлед
Цікуе нейкая фігура;
Ідзе кашачым крокам,
Не адстае, як цень.
Падышла.
Рукой зьлягка штурхнула:
— Янка...
Уздрыгануўся ён.
Знаёмы голас.
Па нэрвах электрычнасць праскачыла.
— Марына...
— Я...
З-пад шырокага капялюха
Дзяўчына на яго скасіла вочы.
Яна — і не яна...
З вачэй, калісь прыводзіўшых яго
У трапятаньне шчасьця,
Цяпер іграла похаць,
Бессаромлівасць...
Губы нафарбаваныя былі,
І як надрэз на сыром мясе
Выглядалі...
— Якім чынам ты ў Менску апынулась?
Чаму з панамі не ўцякла?
— Ой, ня пытайся, Янка.
Жаўнеры польскія усё мяне
Забралі ў Менску на вакзале,
Адна я засталася.
Знаёмы ксёндз мяне к сабе забраў.
Паехалі мы з ім ў Расію
Дзівацкі быў той ксёндз.
Ён „маткай боскаю“ мяне назваў,
У белае мяне ён апранаў,
Маліўся на каленях прада мною
Кожны дзень.
А у вачох яго агонь гарэў брыдкі.
А раз у час малітвы,
Як зьвер ён на мяне накінуўся,
Зваліў на ложка.
З тых часоў я жонкаю яго была.
О, подлы і паганы ксёндз!
Саромлюсь і цяпер я расказаць,
Што вытвараў ён надо мной.
Ня вытрымала я.

Кінула ксяндза.
Да працы ня прывыкла.
вось другі ўжо год
Як сваім целам
Гандляваць пачала.
Ідзём са мной...
Ня хочаш?.. дай на кокаін!

Як хлапчук, зачырванеўся Янка,
Кінуў грошы ёй.
За галаву схапіўся,
Пусьціўся уцякаць.
Блудніцы рогат
Ляцеў за ім ўдагонку.
Яму здавалася,
Што з кожнай брамы,
Атуленыя цёмнай вільгацьцю,
На яго глядзяць
Марыны вочы...

Менск, 20/III—24 г.

# КУРС ЛЕКЦЫЙ ПА ГІСТАРЫЧНЫМ МАТАР'ЯЛІЗЬМЕ.

**Л. І. Аксэльрод (Ортодокс).**

## ПРАЦЯГ ЛЕКЦЫІ 3[1])

Беспасярэднім вучнем і пашыральнікам позытыўных і соцыялёгічных поглядаў Сэн-Сімона быў О. Конт. Конт з большай дакладнасьцю выдзеліў пазнаньне грамадзкага жыцьця ў асобную самастойную навуку, якую празваў соцыяльнай фізыкай або соцыялёгіяй. Соцыялёгія набывае самастойнасьці на падставе *азначэньня межаў усіх галін навуковае веды.* Дакладнае азначэньне прадмету і граніц усіх галін прыродазнаўства пакідае месца для соцыяльнага жыцьця, якое павінна падлягаць дасьледваньню й назіраньню, як усе галіны позытыўнае навукі.

Конт будуе вядомую клясыфікацыю навук, пачынаючы з матэматыкі і канчаючы соцыялёгіяй (матэматыка, астрономія, фізыка, хімія, біолёгія і, нарэшце, соцыялёгія). Усе гэтыя галіны ведаў разьмяшчаюцца ў паступовым радзе, пачынаючы з найменш складаных і найбольш агульных, і канчаючы найбольш складанымі і найменш агульнымі. Соцыялёгія, як апошні член у клясыфікацыі, вызначаецца найбольшай складанасьцю. Яе беспасярэдна папераджае біолёгія, з якой соцыолёгія зьвязана, згодна з прынцыпам клясыфікацыі, найбольшай супольнасьцю.

Да соцыолёгіі Конт падыходзіць з пункту погляду статыкі і дынамікі. Пад статыкай ён разумее даны стан і ўзаемныя адносіны грамадзкіх сіл і праяваў. Соцыяльная дынаміка цікавіцца разьвіцьцём, ці лепш, поступам людзкіх грамад і ўсяго чалавецтва. Падставай соцыяльнае дынамікі Конт лічыць вышэйпамянованы закон трох кругабегаў. Умысловае разьвіцьцё чалавецтва, як і паасобнага чалавека ў яго розных момантах яго веку, праходзіць паступова праз тры супольныя станы: у першым, тэолёгічным, чалавек, дзякуючы свайму надзвычайна багатаму выабражэньню, уяўляе сабе ўвесь сьвет зьяваў на падставе параўнаньня з сваёй уласнай дзейнасьцю; ён увасабляе прадметы і праявы прыроды, бачыць у іх адвольную дзейнасьць індывідуальных асоб ці багоў. Гэта кругабег тэолёгічны. У другім кругабегу—*мэтафізычным*, пераважвае адцягненае мысьленьне. Богі, якія дагэтуль уяўляліся і разумеліся конкрэтна, цяпер выпіхаюцца паняцьцем агульных істотнасьцей, першапрычын і канчатковых мэт. Трэці кругабег, позытыўны ўклад мысьленьня набывае навуковы характар: тут выдумкі тэолёгіі і адцягненае мысьленьне мэтафізыкі замяняюцца пазнаньнем запраўдных законаў прыроды, г. зн. пазнаньнем фактычнай сувязі назіраных зьяваў у іх суіснаваньні і паступовасьці.

---

[1]) Гл. Полымя № 2 (10).

Конт паясьняе закон трох кругабегаў гістарычным зьместам процэсу ўмысловага разьвіцьця, і стараецца давесьці, што агульны поступ чалавечага разьвіцьця канечна завяршыцца позытывізмам. Апошняе і галоўнае дасягненьне позытыўнае філёзофіі—гэта пабудаваньне соцыялёгіі, г. ё. наданьне навуковага характару грамадзкім і політычным концэпцыям. Дасягненьнем гэтае галоўнае мэты заканчываецца разьвіцьцё ўсіх галін чалавечага пазнаньня, надаецца ім пэўная еднасьць, і гэтым самым пазбаўляюцца ўсякага грунту мэтафізычныя і тэолёгічныя сыстэмы. Бо галоўнай крыніцай тэолёгічных вымыслаў і мэтафізычных блуканьняў зьяўляецца адсутнасьць об'ектыўна-навуковага погляду на грамадзкае жыцьцё. У істоце, новая навука соцыялёгія павінна стаць галоўным кіраўнічым і крыніцай, крытэрыем канечнасьці ці мэтазгоднасьці ўсіх іншых галін пазнаньня. Грунтуючыся на рэальных інтарэсах і імкненьнях чалавецтва, соцыялёгія мае сваім заданьнем перашкаджаць нашаму чыстаму розуму варочацца да старых мэтафізычных спэкуляцый. „З тае прычыны—разважае Конт,—што позытыўная філёзофія, пераважна, характарызуецца нахілам у бок соцыяльнага пункту погляду, то яе практычная прыгоднасьць натуральна выплывае з яе ўласнага тэорэтычнага пабудаваньня, якое, калі яго належна зразумець, дае магчымасьць сыстэматызаваць запраўднае жыцьцё, а не абмяжоўвацца чыста назіральнымі процэсамі. З другога боку, гэтае натуральнае застасаваньне яе значна ўзмоцніць ея ўмыслоўны характар, напамінаючы заўсёды а канечнасьці накіроўваць усе навуковыя сілы на адну канчатковую мэту, стрымліваючы, гэткім чынам, памагчымасьці, звычайную тэндэнцыю адцягненых дасьледваньняў пераходзіць у беспатрэбныя мудраваньні". Значыць, соцыялёгія павінна заўсёды быць на варце утылітарных мэт. Гэтая галіна веды, завяршаючы ўсе іншыя навуковыя дысцыпліны, і зьяўляючыся ў сваёй істоце навукай а жыцьці, заданьнях і мэтах чалавецтва, павінна контролёваць усе іншыя навуковыя галіны, маючы на ўвазе тую карысьць, якую яны могуць прынесьці чалавецтву.

На гэтым грунце, да соцыялёгіі далучаецца мораль, якую Конт дадае ў II-ім томе „Сыстэмы позытыўнае політыкі" да сваёй клясыфікацыі. У соцыялёгію ўносіцца, гэткім чынам, суб'ектыўны элемэнт, які вымагае ацэнкі тае ці іншае зьявы, тае ці іншае тэорыі, маючы на ўвазе карысьці і поступ чалавецтва. Гэткім элемэнтам зьяўляецца мораль і яе застасаваньне да соцыяльных законаў.

І вось, папершае, існуюць об'ектыўныя законы, як у галіне соцыялёгіі, так і ў сфэры моралі. Гэтыя об'ектыўныя законы канечна трэ' выявіць, і думка аб існаваньні і значэньні гэткіх об'ектыўных законаў зьяўляецца, на погляд Конта, найвялікшым дасягненьнем XIX сталецьця: „Калі сучасны розум давядзе шляхам папярэдняй сыстэматызацыі ўсяго мінулага чалавецтва, што існуюць няўхільныя законы адносна гэтых дзьвёх кляс (соцыялёгіі і моралі Л. А.), дык ён падымецца на такую вышыню, адкуль можна ўсё азірнуць і пабудаваць свой канчатковы сьветагляд". Але, як сказана, самі об'ектыўныя законы павінны ў апошнім падрахунку ацэньвацца з пункту погляду моралі або ідэалаў, інакш кажучы, да об'ектыўнае мэтоды дадаецца яшчэ і суб'ектыўная мэтода, якая і мае гэткую назову ў соцыялёгіі слыннага позытывістага.

Формуляй і лёзунгам об'ектыўнага дасьледваньня законаў соцыялёгіі зьяўляецца: „Ведаць, каб прадбачыць, мысьліць, каб дзейнічаць". Прынцыпы, якімі кіруецца суб'ектыўная мэтода, гэткія: „Любоў, як прынцып, парадак, як аснова, поступ, як мэта". З гэтага кароткага і сьціс'

лага выкладу можна пераканацца, што навука Конта зьяўляецца нечым адзіным, цэльным, прасякнутым агульнымі пачаткамі, якія даюць магчымасьць выявіць об'ектыўныя законы, як у сфэры дакладных навук, так і ў соцыялёгіі, якая, па думцы мысьліцеля, павінна стаць гэтак сама дакладнай навукай. Запраўды-ж—гэта далёка ня так: сыстэма Конта пазбаўлена грунтоўнае падставы, а разам з гэтым, і крыніцы законамернасьці, аб якой гэтулькі размовы ў „Курсе позытыўнай філёзофіі“. Дакладныя навукі разьмешчаны, як нам вядома, пачынаючы з найменш складаных і канчаючы найменш агульнымі. Паміж усімі галінамі раду павінна існаваць нешта агульнае і адзінае. Што-ж паміж імі ёсьць агульнага? Агульнае паміж імі тое, што ўсе яны маюць прадметам пазнаньня сусьветную рэчаіснасьць. Але што-ж такое гэта рэчаіснасьць? Позытывізм не дае адказу на гэтае істотнае запытаньне, лічачы мэтафізычным усялякае яго разьвязаньне, і, адкідаючы мэтафізыку, ён гэтым самым адкідае як сьпірытуалізм, гэтак і „матар'ялізм“. Сьпірытуалізм, цьвердзіць Конт, быў істотнасьцю, душою таго мэтафізычнага кругабегу, які меў месца ў агульналюдзкім сьветаглядзе перад позытывізмам. Прызнаць за аснову рэчаіснасьці сьпірытуалізм—значыць ісьці назад і стаць на рэакцыйны шлях.

Матар'ялізм мае некаторыя заслугі. Ён адыграў значную ролю ў эпоху перад рэволюцыяй у сфэры думкі, г. зн. ён у пэўным сэнсе быў падгатоўчай і пераходнай стадыяй на шляху да позытывізму. Але ў сучасны момант, г. зн. у момант паяўленьня і разгарненьня позытывізму, ён павінен пакорліва схіліць галаў і папрасіць адстаўкі. Матар'ялізм ня можа стаць асновай і мэтодай пазнаньня з прычыны двох сваіх недахватаў.

Папершае—„матар'ялізм прычыняецца да анархіі мысьленьня, падругое—матар'ялізм заўсёды імкнецца ўнізіць самыя ўзьнёслыя разважаньні, робячы іх падобнымі да самых прымітыўных“. Позытывізм падымаецца над абудвымі сьветапоглядамі, зьяўляючыся як-бы сынтэзам. Азначаючы сынтэтычны характар позытывізму, Конт кажа: „Здавальняючы беспараўнаньня лепш, чымся гэта было раней магчыма, усяму таму, што ёсьць слушнага ў навуках матар'ялізму і сьпірытуалізму, позытывізм беспаваротна руйнуе абодва кірункі—адзін як анархічны, другі—як рэтроградны“.

Паўстае запытаньне, у чым-жа істотнасьць позытывізму, або, інакш кажучы, што такое ў грунце рэчы гэтак званая рэчаіснасьць, дасьледваньнем якой займаюцца ўсе навукі наогул і соцыялёгія ўпаасобку? І на гэтае запытаньне нам даюць вось які гарды адказ: позытывізм мае дачыненьне з фактамі, а факт—гэта зьява. Але што-ж такое зьява? Справа ў тым, што зьява, як прадмет досьледу, разумеецца рознымі кірункамі позытывізму розна.

Папершае, пад зьявай разумеецца тое, што дадзена беспасярэдна ў сьвядомасьці суб'екта, які пазнае. Згодна з гэткім поглядам мы можам дасьледваць і пазнаваць толькі стан нашае ўласнае сьвядомасьці, а з гэтае прычыны і ўвесь знадворны сьвет павінен быць прызнаны фактам чыста суб'ектыўным, псыхічным. Гэты погляд зьяўляецца грунтам для ўсіх відаў і гатункаў суб'ектыўнага ідэалізму. Конт ня прытрымліваўся гэткага погляду. Ён ня грунтуецца на ўнутраных процэсах чыстае суб'ектыўнае сьвядомасьці. Псыхолёгія ў яго навуцы разумеецца як фізіолёгія, г. зн. як біолёгічны пачатак. Гэткім чынам, зьявы, або факты досьледу павінны стацца процілежнасьцю мэтафізычным істотнасьцям рэчаў. Але і гэтая апошняя зноў-такі пазбаўлена больш-менш дакладнага азна-

чэньня. То гэтыя істотнасьці разумеюцца, як пустыя і бяз зьместу адцягненасьці, выклікаными выключна нашым мысьленьнем, то яны зьяўляюцца прычынай або субстратам зьяваў, застаючыся наогул нечымсь зусім непазнавальным. Адным словам, выразнага і пэўнага адказу на гэтае істотнае, аснаўное запытаньне ў сыстэме Конта няма, а калі ён і ёсьць, то зусім нездавальняючы. Калі істотнасьць рэчаў зьяўляецца зусім непазнавальнай, тады зьява або, як Конт часьцей яе заве, факт досьледу, зьяўляецца суб'ектыўным станам. Зразумела, што позытывізм гэткага характару у апошнім падрахунку нічым не адрозьніваецца ад простага і адкрытага суб'ектыўнага ідэалізму. А вывад адгэтуль такі, што ўсе галіны дакладнага пазнаньня, а каштоўнасьці і значэньні якіх гэтак шмат гаворыць Конт, пазбаўлены ўсялякага рэальнага грунту, з тае прычыны што зусім неазначана рэчаіснасьць, дасьледваньнем якой яны павінны заняцца. На пытаньне, што ёсьць агульнага паміж усімі галінамі пазнаньня, разьмешчанымі паводле пэўных унутраных законаў, адказу няма, і калі пытаньне ставіць гэтак, то і разьвязаньня яго быць ня можа.

Натуральна, ня можа быць і размовы аб об'ектыўных законах соцыялёгіі.

Запраўды, соцыялёгія завяршае рад позытыўных навук, з якімі яна зьвязана агульнай, канечнай, унутранай сувяз зю. Усе позытыўныя навукі таму якраз і навукі, што яны дасьледуюць і азначаюць законы об'ектыўнай рэчаіснасьці, а тымчасам сама об'ектыўная речаіснасьць ёсьць ня больш, як суб'ектыўны процэс або зусім невядомая велічыня.

Гэтая бязгрунтоўнасьць дае сябе адчуваць ва ўсіх поглядах Конта на кожным кроку і, дзякуючы гэтай агульнай бязгрунтоўнасьці, новая навука—соцыялёгія—трымаецца ў паветры.

Як і кожная галіна навукі патрабуе мець прадмет дасьледваньня, соцыялогія гэтак сама патрабуе вызначыць істотнасьць або матэрыю грамадзянства.

Грамадзянства, як гэткае, як прадмет, які кіруецца пэўнымі законамі, ня можа быць выпадковым, мэханічным зграмаджэньнем чалавечых індывідаў. А адгэтуль паўстае натуральна запытаньне, што злучае людзкія індывіды ў грамадзянствы і якія законы гэтага злучальнага элемэнту?

На гэтае істотнае запытаньне, ад адказу на якое залежыць, можна прызнаць ці ня прызнаць соцыялёгію за навуку, Конт спачатку адказваў, што сям'я зьяўляецца *фундамантам*, каморкай соцыяльных адносін. Сям'я замыкае ў сабе ў зародку аснаўныя соцыяльныя адносіны, угрунтованыя на сымпатыцкім інстынкце. Але нават пры ўзьнікненьні больш шырокіх грамадзкіх саюзаў, апрача гэтага сымпатыцкага кроўнага інстынкту, галоўнае значэньне мае супрацоўніцтва, коопэрацыя. Коопэрацыя розных паасобных сіл для супольнай мэты выклікае адзіны ўрад. Утвораны ўрад падтрымлівае солідарнасьць грамадзкага цэлага супроць падзелу і барацьбы інтарэсаў, ідэй і пачуцьцяў.

Галоўнай асновай соцыяльнага цэлага зьяўляецца, гэткім чынам, сям'я. Урад ёсьць як-бы надбудовай. У нашыя часы гэты погляд цалкам адкінут. Да гэткага погляду нам прыдзецца яшчэ вярнуцца, але ў даным выпадку, у сувязі з навукай Конта, прыходзіцца прызнаць, што і ў самога мысьліцеля гэты погляд паступова адпадае.

На месца сямейнай адзінкі выступае чыста моральны момант, як галоўная аснова грамадзянства: „Узаемная незалежнасьць", кажа Конт, „размаітых істот, якія прыходзіцца злучыць у грамадзянствы, сьведчыць

аб тым, што першай умовай іх звычайнага супрацоўніцтва зьяўляецца іх схільнасьць да ўсеагульнага каханьня. Няма такіх асабістых інтарэсаў, якія маглі-б замяніць сабою гэты сьвядомы інстынкт. Гэткім чынам, мы бачым, што каханьне, соцыяльны альтруістычны інстынкт, павінен стацца асновай грамадзкага цэлага.

Да гэткага разьвязаньня пытаньня прымушае Конта ідэя прогрэсу, якая займае ў яго тэорыі першазначнае месца. Грунтуючыся на тым палажэньні, што сям'я зьяўляецца каморкай грамадзянства, Конт сам адчувае, што на гэтай падставе няма магчымасьці выводзіць ідэю поступу.

А поступ павінен канечна знайсьці сваё ўгрунтаваньне. У апошнім падрахунку ідэя поступу, а гэтым самым і аснова грамадзянства набывае рэлігійнага характару, які выявіўся ў навуцы а позытыўнай рэлігіі чалавецтва.

Ідэя чалавецтва, як цэмэнт цэлага, зьяўляецца завяршэньнем позытыўнае філёзофіі Конта. Спачатку ў „Курсе позытыўнае філёзофіі" Конт дае гэтай ідэі асьцярожнае азначэньне, апіраючыся на навуковым, досьледным грунце. Чалавецтва, як рэальная еднасьць, зьяўляецца ідэалам будучыны. Толькі ў будучыне, у меру ажыцьцяўленьня ідэй брацтва й гуманізму, чалавецтва ўсё больш і больш злучыцца ў водным агульным. Але чым далей, тым больш Конт прымушаецца прызнаць паасобнага чалавека пустой абстракцыяй, а суму соцыялёгічнай рэчавіснасьці пераносіць на чалавецтва, якое выступае ў якасьці організму. Лёгічны поступ думак зусім зразумелы. Стоячы на соцыялёгічным грунце ў формальным сэнсе, мысьліцель разумее чалавечы індывід, узяты па-за грамадзянствам, як адцягненую істоту, што цалкам слушна; але, ня маючы на відоку ніякіх об'ектыўных элемэнтаў, якія-б злучылі абстрактныя чалавечыя індывіды ў конкрэтную ўзаемную сувязь, Конт бачыць у чалавецтве, г. зн. зграмаджэньні індывідаў, органічную еднасьць, аб'яднаную і злучаную адзінай душой. Вось чаму ў „Сыстэме позытыўнае палітыкі" чалавецтва выступае ў якасьці боства вышэйшага прынцыпу, якому ўласьціва і знадворная і ўнутраная еднасьць. Знадворная або об'ектыўная еднасьць праяўляецца ў органічнай і несьвядомай солідарнасьці чалавецтва, як у яго статычным, гэтак і ў дынамічным існаваньні, якое вызначаецца агульным парадкам усіх умоў знадворнай сусьветнай рэчаіснасьці. Прызнаць гэты парадак і гэтую знадворную еднасьць, узалежніць сябе ад яе цалкам—вось позытыўная рэлігія. Унутраная суб'ектыўная еднасьць або душа Вялікае Істоты, г. зн. усяго чалавецтва, як гэткага, утвараецца шляхам яднаньня і міласьці з ім і паміж сабою ўсіх чалавечых індывідаў, справядлівей душ—мінулых, сучасных і будучых. Душы і іх яднаньне ў гэтым сэнсе зьяўляюцца элемэнтамі запраўднага чалавецтва, бо яно не выпадковае, эмпірычнае праяўленьне жыцьця чалавека, а выяўляе сабой той бок нашага існаваньня, які быў, ёсьць і будзе, а з гэтае прычыны каштоўны і зьяўляецца часткай Вякікае Істоты, г. зн. агульнага чалавецтва ў сусьвеце.

Бязгрунтоўная соцыялёгія, натуральна, завяршаецца рэлігійнай пабудовай, якая формулюецца ў стылі благаслаўлёнага Аўгустына: „Адгэтуль", гучыць гэта формула, „усё наша існаваньне—індывідуальнае і зборнае—будзе зьвернута на гэтую запраўдную Вялікую Істоту, якой канечнымі членамі зьяўляемся мы самі, на яе павінны быць зьвернуты нашы разважаньні,—каб пазнаваць яе, нашы пачуцьці—каб любіць яе, нашы ўчынкі,—каб служыць ёй". Вось які набожны настрой.

Але адным набожным настроем ня можа здаволіцца ніводная рэлігія. Рэлігія патрабуе культу, які раней ці пазьней заўсёды выплывае, як канечны вынік, з рэлігійных меркаваньняў. Ёсьць, як вядома, культ і ў позытыўнай рэлігіі Конта. Але пытаньне культу не ўваходзіць у наша заданьне. Адзначым тут толькі прынцып соцыяльнае політыкі, які выплывае з выложанага погляду. Галоўны прынцып замыкаецца ў наступным: з тае прычыны, што сувязь і еднасьць чалавецтва абумоўлена яднаньнем міласьці, як нязьменнай прыметы нашае духоўнае істоты, то кіраўнічымі і настаўнікамі павінны быць адумысловыя асобы, празначаныя служыць Вышэйшай Істоце, іншымі словамі, духавенства. Павінны, значыць, існаваць сьвецкая і духоўная ўлады. „Соцыялёгічны матар'ялізм", заяўляе Конт, у сучасны момант шкодзіць соцыяльнаму мастацтву, бо ён імкнецца не прызнаваць самага галоўнага прынцыпу апошняга, а іменна, сыстэматычнага падзелу ўлады на духоўную і сьвецкую, падзелу, які цяпер асабліва важна зрабіць непарушным, будуючы на лепшых асновах цудную пабудову сярэдніх вякоў". „*Позытывізм*", заканчвае сваю думку мысьліцель, *глыбока процілежны матар'ялізму ня толькі сваім філёзофскім характарам, але і сваім політычным значэньнем*" (Курсіў мой. Л. А.).

Сувязь паміж позытывізмам, рэлігіяй, з аднаго боку, і політыкай, з яе завяршэньнем—духоўнай уладай і зваротам да „лепшых момантаў сярэдневякоўя"—з другога боку, прызнаецца, як бачыце, самым Контам.

Але тут трэба сказаць, што калі Конт выступіў са сваім курсам позытыўнае філёзофіі, гэты вывад ня меў месца. Наадварот, у пару супольнае працы са сваім вялікім настаўнікам Сэн-Сімонам, Конт становіча адхіляў рэлігійныя тэндэнцыі настаўніка. Зварот да рэлігіі ня ёсьць рэзультат спэцыфічна-псыхічнага стану, якім тлумачылі некаторыя вучні Конта, не прызнаваўшыя рэлігійных концэпцый настаўніка. Не. Конт быў цалкам верны сабе. Соцыялёгія, гэта новая навука была пастаўлена на самы верх узьнесенай будыніны. То-ж яна, гэта новая навука, зьяўляецца галіной пазнаньня, якая ахапляе ўсё жыцьцё чалавецтва, і значыць, яна мае сваім заданьнем вытлумачыць мотывы ўзьнікненьня і лёсы ўсіх іншых навук. А ў той-жа час гэтая навука пазбаўлена об'ектыўнага рэальнага базісу. Як заўсёды ў такіх выпадках, на паратунак зьявілася даволі ўжо пашарпаная і спустошаная рэлігія, толькі ў іншых шатах, крыху падмалёваная і прадзваўшая сябе душой усяго чалавецтва або Вялікай Істотай. Вядома, што голь на выдумкі хітра.

Гэткім чынам, мы бачым, што „сьцісланавуковая філёзофія", якая азначаецца ў пачатку „Курсу позытыўнае філёзофіі", як філёзофія, пабудованая на падставе законаў позытыўных навук, абяртаецца ў вадзі на адменьнікаў рэлігійнае веры. Падругое, поступ, які зьяўляецца паводле агульнага замыслу Контавай соцыялёгіі галоўнай пружынай усяе концэпцыі, знаходзіць сваё завяршэньне ў крыху зьмененым, прыаздобленым сярэдневякоўі. Патрэцяе, прагалошаная об'ектыўная мэтода, якая мае сваім заданьнем вызначыць адносіны чалавека да знадворнага сьвету на грунце навукі і позытыўнае філёзофіі і выявіць законы чалавечага сужыцьця, уступае месца суб'ектыўнай мэтодзе, аснова якой заложана ў глыбіні чалавечае душы, і якая гэтым самым даводзіць да вышуканьня вышэйшых норм практычнага паступаньня, што зьяўляецца істотай позытыўнае рэлігіі і політыкі.

# ШКОЛА І ПОЛІТЫКА.

**А. Харэвіч.**

У сучасны момант можна лічыць аджыўшым той погляд, які панаваў яшчэ ня так даўно, і дзякуючы якому лічылася, што ў сьцены выхаваўчай установы не павінен праходзіць дух сучаснасьці. Раней жыцьцё выганялася са школы, а каля дзяцей як у школе, так і ў сам'і падтрымоўвалі штучную атмосфэру сучаснасьці. Яна імкнулася адпавядаць тым пісоўным дабрадзейнасьцям, з якіх складаліся хрэстаматыі і падручнікі для дзіцячага чытаньня.

Гэтая баязьлівасьць жыцьця, якая вельмі выразна адбівалася ў старой расійскай школе, з сучаснай тэорыі выхаваньня выключана. Запытаньні жыцьця лічацца цяпер законнымі запытаньнямі кожнага здаровага дзіцяці. Школа павінна перадаваць дзецям досьлед папераджаўшых пакаленьняў, а для гэтага неабходна сьцiслая сувязь яе з жыцьцём.

Амэрыканскі пэдагог Д'юі ў сваёй вядомай працы „Уводзіны ў філёзофію выхаваньня“ даводзіць аб тым, якое вялікае значэньне мае школа ў справе перадачы дзецям досьледу папераджаўшых пакаленьняў. Але дзякуючы таму, што з разьвіцьцём цывілізацыі гэты досьлед апрануўся ў сымболі, у літару, літаратуру, і ўрэшце, з павялічэньнем матар'ялу зьявілася магчымасьць вялікай прорвы паміж досьледамі жывога грамадзянскага жыцьця і кніжным навучаньнем у школе. Асабліва гэта трэба мець на ўвазе ў сучасны момант, калі запас ведаў і тэхнічных сродкаў пачаў вельмі хутка павялічвацца.

Але школа ня толькі вучыць, ня толькі перадае здабыты досьлед падрастаючаму пакаленьню, але і выхоўвае моладзь. Дзеля гэтага неабходна сувязь, як школы з жыцьцём, так і выхаваньня з навучаньнем. Аб мэтах выхаваньня часткаю гаворыць лацінскі корань гэтага слова. Выхоўваць гэта значыць кіраваць, весьці ўперад. (Educatio-ex-ducere—весьці куды-та). „Выхаваньне, як кажа проф. Жэнэўскага ўнівэрсытэту Фэр'ер, гэта штукарства пры дапамозе адбуджэньня цікавасьці дзіцяці кіраваць разьвіцьцё яго духоўных і моральных сіл так, каб яно адпавядала тым законам разьвіцьця, якога трымаецца ўсялякі прогрэс—біолёгічны, псыхолёгічны і соцыялістычны—гэта значыць, дыфэрэнцыяцыя і павялічваючаяся канцэнтрацыя ўсіх яго здаровых здольнасьцяў і сілы волі.

Каб лепш дапамагаць узросту і разьвіцьцю духоўных сіл дзіцяці, неабходна дапасаваньне да яго прыроды і цікавасьцей. Каб выхаваць з кожнага дзіцяці цэльнага чалавека, неабходна падрыхтаваць яго к сучаснаму соцыяльнаму жыцьцю. Мы павінны выхаваць з дзіцяці ня толькі чалавека, але і будучага грамадзяніна. Тут мы падыходзім да пытаньня аб грамадзянскім выхаваньні, якое ў адбітку нашай клясавай школы злучаецца з пытаньнямі палітычнага выхаваньня моладзі.

Амаль-што заўсёды, як толькі пачынаюць гаварыць аб узаемаадносінах школы да жыцьця, зараз-жа зачапляюць узаемаадносіны школы

да політыкі. Тут, здаецца, магчыма скласьці нават сярэднюю геомэтрычную пропорцыю: жыцьцё так адносіцца да школы, як школа адносіцца да політыкі. М. Байкоў у сваім артыкуле: „Марксыцкая пэдагогіка і беларуская школа“, зьмешчаным у „Полымя“ № 9, грунтуючыся на працы нямецкага пэдагога Э. Гэрнле: „Комуністычная праца ў дзіцячых групах“, даводзіць, што рэволюцыйна пролетарскае выхаваньне павінна быць практычным, а не аднабока-інтэлектуальным, павінна быць політычным, а не нэйтральным.

А ці вядома дзе-небудзь і калі-небудзь „нэйтральнае“ выхаваньне? Нават старая школа, школа дарэволюцыйнай Расіі, якая так любіла прыкрывацца лёзунгам аполітычнасьці, ні ў якім выпадку ня была такой.

Царскі ўрад прыдаваў вельмі вялікае значэньне гэтак званаму рэлігійна-моральнаму выхаваньню і прымушаў школу перарабляць навуку ў мэтах напіханьня вучнёўскай галавы ідэямі самадзяржаўя і праваслаўя. Праз увесь склад яе досыць выразна прабіваўся дух пасыўнасьці і чыноўніцтва, якім яна заражала дзяцей на ўсё іх жыцьцё.

Сярод школьных працаўнікоў яшчэ й дагэтуль зьяўляецца вельмі распаўсюджанай думка аб тым, што школа не павінна ставіць сабе якія-небудзь выхаваўчыя задачы, а абмяжоўвацца выключна мэтамі адукацыі, мэтамі навучаньня. Прынамсі гэтую думку можна пачуць у гутарках з настаўнікамі і ў спрэчках на настаўніцкіх конфэрэнцыях (мабыць у супроцьлегласьць гэтай думцы М. Байкоў і пісаў свой артыкул). У падмацаваньне пайменнай думкі часта прыводзяць такія варункі: папершае, школа пад сваім уплывам і нагляданьнем трымае дзіця вельмі малы час (4-5 гадзін) і дзеля гэтага прымушана абмежавацца мэтамі навучаньня, а выхаваньне аддаць сям'і і жыцьцю. Падругое, школа, на якіх-бы прынцыпах яна ні будавалася, ня можа і бясьсільна выхоўваць дзіця ў пэўным кірунку, калі сям'я і ўсё акалічнае жыцьцё выхоўваюць яго ў супраціўным. Тут вельмі часта прыводзяць старую расійскую школу, якая, згодна пералічаным умовам, быццам не пасьпявала рабіць свайго выхаваўчага ўплыву, і з яе сьцен выходзілі людзі, адмаўляючыя самадзяржаўны лад, людзі-рэволюцыянэры. Асабліва яркім прыкладам лічаць духоўныя сэмінарыі і іншыя рэлігійныя ўстановы, якія выхоўвалі ў большасьці выпадкаў ня прыхільнікаў рэлігіі, а заядлых бязбожнікаў. Аднак у рэчавіснасьці было трохі йначай. Дабралюбавы, Чарнышэўскія і іншыя зьяўляліся вельмі рэдкім выключэньнем. У большасьці выпадкаў, скончыўшыя духоўныя школы быць можа несьвядома, але адчувалі моцны ўплыў сваёй „alma mater“. Праўда, вышэйпайменную пропорцыю нельга цалком прыстасаваць да старой школы. Бясспрэчна, што яна была ў поўнай супярэчнасьці з жыцьцём і навукай. Але гэта яшчэ лепш сьведчыць аб тым, што, ня гледзячы на ўродлівыя формы выхаваньня, ня гледзячы на тое, што пад сваімі вежамі яна трымала вучняў невялікі час, усё-ж пасьпявала рабіць глыбокі ўплыў на сваіх выхаванцаў.

Мы ні ў якім выпадку ня можам сказаць, што старая расійская школа ў сваёй выхаваўчай працы была бескарыснай. Выхаваныя ў яе сьценах чыноўнікі ўсіх галін дзяржаўнага організму, па свайму матэр'яльнаму становішчу ніколькі незацікаўленыя ў зьберажэньні старога ладу, аднак доўгі час пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі заставаліся вернымі яго прыхільнікамі, а супроць Савецкай улады доўгі час утваралі сабатаж, контр-рэволюцыю і іншае. А хто будзе спрачацца а бескарыснасьці старой школы ў сэнсе русіфікацыі, у сэнсе напіханьня вучнёўскай галавы ідэямі расійскай народнасьці: „Расія для рускіх, Расія адзіная і недзя-

лімая—от Алтая до Дуная и от пламенной Колхиды до хладных Финских скал". Каму не вядомы вынікі гэтай русіфікацыі, прынамсі ў справе беларускага руху? Ці так даўно, як большая частка грамадзянства зьняважліва адносілася да гэтага і адраджэньне Беларусі лічыла непаразуменьнем? Ня кажучы ўжо аб сярэднім мешчаніне, подобны погляд нават існаваў сярод вучоных. У прыватнасьці, такі вялікі знаўца беларускай культуры, як акадэмік Карскі—і той у сваёй першай працы на магістра філёлёгіі даводзіў, што беларуская мова прадстаўляе сабою нішто іншае, як падмову агульнай маскоўскай мовы.

Такім чынам, выхаваўчы ўплыў старой школы на падрастаючае пакаленьне бясспрэчны і быў пакірован у бок расійскага самадзяржаўя.

У школе заходне-эўропэйскіх дзяржаў бачым тое самае. Там школа пэўна ставіць перад сабою задачы палітычнага выхаваньня ў сэнсе ідэй буржуазнай дзяржавы, а пэдагогіка са сваімі аўторытэтнымі прадстаўнікамі на чале йдзе насустрэчу гэтаму патрабаваньню. Так, напрыклад, уся сыстэма Лая, Кершэнштэйнэра і іншых мае на мэце даць моладзі грамадзянскае выхаваньне ў буржуазным духу. Лай у сваёй вядомай працы „Школа дзейнасьці" пакідае ня мала старонак палітычнаму выхаваньню, якое ён зьвязвае з рэлігійным выхаваньнем і выкладаньнем гісторыі ў пэўным патрыотычным кірунку.

Каб даць пэўны палітычны настрой і рэлігійны сьветагляд, ён нісколькі не саромеецца перарабляць і прыстасоўваць у гэтых мэтах гістарычныя і прыродазнаўчыя навукі.

Праўда, на старонцы 146 Лай абмаўляе, што сваёй працай „Школа дзейнасьці" ён мае на мэце даць вучню поўнае і ўсебаковае паняцьце аб соцыяльных узаемаадносінах, але пры ўважлівым разгляданьні становіцца яснай уся вартасьць гэтай „усебаковасьці". Прыведзеных слоў даволі, каб бачыць, як школа буржуазнай дзяржавы ўсе навуковыя дысцыпліны прыстасоўвае і прымушае служыць аднэй мэце, мэце палітычнага выхаваньня ў буржуазным напрамку.

Зразумела, што задачы палітычнага выхаваньня ў пролетарскай дзяржаве ня могуць быць аднолькавымі з задачамі буржуазнай школы. Канчатковая мэта савецкай працоўнай школы—*выхоўваць грамадзян соцыялістычнай рэспублікі, бараньбітоў за комунізм.* Кажучы словамі М. Байкова, у гэтым—істотная задача пролетарскай школы. Але апошні йдзе далей і дзеля ажыцьцяўленьня азначанай задачы перарабляе школу ў партыйнага агітатара. Школе беспартыйнай ён дае добра дыхту. Па словам М. Байкова, такая „беспартыйная пролетарская школа", у якой ёсьць „беспартыйны загадчык", „беспартыйныя выхаваньнікі" ды яшчэ „беспартыйны дух навучаньня", ва ўмовах клясавага змаганьня ёсьць палітычная бяссэнсоўнасьць („Полымя" № 9, стар. 147). А ці магчыма школа з беспартыйным духам навучаньня? Ці можна весьці выхаваўчую працу без орыентацыі на той або іншы грамадзянскі ідэал? Мы ведаем гэту орыэнтацыю ў старой расійскай школе, ведаем яе ў школе сучасных буржуазных дзяржаў. І той, хто пажадаў-бы даць дзецям грамадзянскае выхаваньне ў сэнсе сьціслай беспартыйнасьці, той, пры ўсёй сваёй шчырай сумленнасьці, ня справіўся-бы з гэтай задачай і выявіў-бы пэўны ўхіл у той або іншы бок.

Сам Байкоў даводзіць, як „буржуазная школа сьвядома гатовіла з пролетарскіх дзяцей або рабочае быдла, або шэрую салдацкую скацінку—арудзьдзе вайны". Але гэтыя яго словы ня зусім зразумелы. Каб стаць рабочым быдлам або мясам гармат, вучыцца ня трэба. Праўда, бур-

жуазны ўрад зацікаўлен, каб зрабіць з пролетарскіх дзяцей паслухмяную скацінку, але гэта ён хутчэй выконвае недапушчэньнем у школы, чымся школьнай адукацыяй. Мы ўсе добра памятаем, як старая расійская школа добра спраўлялася на службе царскаму ўраду. Каго прымала і каго падрыхтоўвала? У кожным выпадку ня „быдла“ і не „скацінку“, а ў большасьці сьвядомых монархістых і гэтак званых русацяпаў.

Наша савецкая школа ў лепшых умовах, чымся старая—расійская, або сучасная—буржуазная.

Для таго, каб выхаваньне адпавядала духу пролетарскай дзяржавы, нам зусім няма патрэбы прыстасоўваць або перарабляць навуку. Даволі толькі вызваліць яе ад тэй падтасоўкі, якую шырока ўжывала і ўжывае школа ўсіх ступеняў ува ўсіх буржуазных дзяржавах. Сэнс гістарычных падзей і сучасных грамадзянскіх зьяў настолькі ясны і бясспрэчны, што калі разглядаць іх так, як яны адбываюцца, то тэорыя Карла Маркса напрашваецца сама па сабе і адначасна лёгка пераймаецца дзяцьмі. Дзеля гэтага, для орыентацыі выхаваньня ў бок комунізму няма ніякай патрэбы перарабляць школы ў партыйнага агітатара. Павінна быць шырокае політычнае выхаваньне без усялякага нацягваньня.

У сучасны момант ня можа быць ніякай супярэчнасьці паміж задачамі школы і патрабаваньнямі пролетарскай дзяржавы. Школа павінна выхоўваць грамадзян соцыялістычнай рэспублікі, барацьбітоў за комунізм. У гэтым яе пэўная і галоўная задача. Наступіўшы праз некалькі гадоў пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі вядомы політычны схіл сярод шырокіх масаў настаўніцтва ў бок савецкай улады сьведчыць аб тым, што школа асьвядомілася ў сваіх задачах і імкнецца іх выконваць. Але ад некаторых можна вельмі часта пачуць, што адмоўныя зьявы новай экономічнай політыкі і ўзмацненьне дробна-буржуазнай навалы, бушуючай з усіх бакоў і захапляючай дзіця і падростка, зьвядуць на нішто ўвесь уплыў школы, як-бы моцна ён не выяўляўся. З гэтым можна згадзіцца, але ня зусім, бо НЭП, хаця і перашкаджае задачам політычнага выхаваньня ў бок комунізму, але толькі перашкаджае і ні ў якім выпадку ня зводзіць уплыў школы на нуль. Рэч вядомая, што выхаваньне не павінна быць адарваным ад жыцьця, і магутны ўплыў на дзіця буржуазнай школы тлумачаць тым, што, апрача складанай сыстэмы выхаваньня, яна ячшэ знаходзіла падмогу ўва ўсім складзе грамадзянскага жыцьця. Тымчасам у ім можна было лёгка ўбачыць і такія факты, якія вельмі супярэчылі ўсяму грамадзянскаму складу, і аднак уплыў гэтых фактаў, ня гледзячы на ўсю іх сілу, усяляк сьціраўся і закрэсьліваўся. У кожным выпадку і ў нашай савецкай школе, згустак НЭП'у, як-бы ня былі дужы яго абшары, нікога не павінен смуціць. Новая, нарадзіўшаяся кляса, якой прыналежыць будучына ўва ўсім сьвеце, у нас гэта кляса зьяўляецца пануючай; кляса зьміраючая, кляса буржуазіі, ня мае мажлівасьці рабіць свой шкадлівы ўплыў на нашае політычнае і грамадзянскае жыцьцё. Дзеля гэтага наша школа, паставіўшая сваёй задачай політычнае выхаваньне ў комуністычным кірунку, ні ў якім выпадку ня можа лічыцца адарванай ад жыцьця або зьвісшай у паветры.

Калі наша школа ў сучасны момант яшчэ ня зусім зьвязана з жыцьцём, то ў гэтым іншыя прычыны. Тут перш за ўсё неабходна, каб выхаваньне і навучаньне адбывалася на грунце сваёй нацыянальнасьці, на грунце родных, прызвычаеных умоў. Асабліва важнае значэньне мае ў гэтай справе родная мова. За пяць год існаваньня савецкай улады на Беларусі шмат чаго зроблена. Мы маем школы беларускія, жыдоўскія і

польскія; але ў нас ёсьць яшчэ школы расійскія, якія, сьцісла кажучы, непатрэбны. Прычына ў гэтым зразумелая: не хапае ні патрэбных кніг і навуковых прылад, ні належных настаўнікаў. М. Байкоў справядліва даводзіць, што калі на Беларусі павінна існаваць рабоча-сялянская школа, то гэта школа ў нас можа быць школай пераважна беларускай і толькі за нязначнымі выключэньнямі—жыдоўскай і польскай, але ніяк не расійскай; апошняя тут здавальняла-бы толькі цікавасьці буржуазіі. У Беларусі, як ён вельмі правільна кажа, няма расійскага пролетарыяту, а існуе толькі русіфікацыйна-настроенае ўрадніцтва і буржуазія, беларускі-ж пролетарыят складаецца на 90% з беларусаў і на 10% з жыдоў і палякоў (Полымя № 9, стар. 153).

Згодна сказанаму, шырокая і поўная беларусізацыя школ на ўсе 100%—вось істотная задача, стаячая перад настаўніцтвам і якая павінна быць разьвязана ў самым хуткім часе. Іначай мы ня можам гаварыць ні аб сувязі школы з жыцьцём, ні аб выкананьні нацыянальнай програмы комуністычнай партыі. У школах павінна быць выкладаньне на роднай мове, якая, па словах вядомага расійскага пэдагога Ушынскага, зьяўляецца сама па сабе цікавай і пекнай настаўніцай. Яна вучыць шмат чаму і вучыць па якому та лёгкаму і невядомаму мэтоду. Гэта „цікавая настаўніца"—родная мова, і ў справе політычнага выхаваньня навучыць многаму, у кожным выпадку навучыць бяз лішняй прадузятасьці і нацягнутасьці.

Кажучы аб політычным выхаваньні рабоча-сялянскай моладзі ў бок комунізму, як пэўнай і галоўнай задачы працоўнай савецкай школы, нельга не зачапіць тых шляхаў, па якіх павінна йсьці яе разьвязваньне.

Калі мы параўнуем два політычных паняцьці,—імпэрыялізм і СССР,—то лёгка і пэўна расчынім зьмест гэтай задачы, а што датычыцца шляхаў да яе ажыцьцяўленьня, то яны ў сучасны момант вельмі разнолькавы і пераплецены. Але працоўная савецкая школа ўжо намеціла пэўных два: 1) згуртаваньне дзіцячых абставін і ўсяго складу школьнага жыцьця і 2) атрыманьне грамадзянскіх навыкаў і ведаў.

Па першым шляху школа тым хутчэй пойдзе, чым сьцісьлей яна зьвяжацца з жыцьцём, чым болей пакіне месца ўдзелу дзяцей у школьным кіраўніцтве.

Што датычыцца другога, то, трымаючыся яго, мы павінны даваць дзецям магчымасьць шырокага ўдзелу ў разнолькавых школьных і па-за школьных суполках і весьці з імі заняткі па дасьледваньні асноў савецкай будовы. Паняцьце: „Асновы савецкай будовы" абымаюць сабою ня толькі формальны зьмест савецкай констытуцыі, але і прынцыпы марксыцкага вучэньня аб дзяржаве і праве, без чаго савецкая будова будзе незразумелай, або ў вучня складзецца няправільнае аб ёй прадстаўленьне.

Прычым, зразумела, што самы мэтод занятак павінен быць зволен ад схолястыкі і школьнай вучобы, якая, па выразу Пэсталёцы, ня мае вартасьці нават мядзянага граша. Сьвядомасьць, радасьць і цікавасьць—вось тыя асноўныя вехі, па якіх неабходна кіраваць выхаваньне і навучаньне дзяцей.

„Выхоўваць паграмадзянску", як кажа Д'юі, „значыцца дапамагчы дзіцяці зразумець значэньне яго дзеяньняў. Можна навучыць дзіця кланяцца, нажымаючы яго галаву, і ён аўтоматычна навучыцца нахіляць яе пры сустрэчы, але гэта яшчэ ня будзе значыць, што ён выхаван. Толькі разумеючы, дзеля чаго трэба рабіць тое або іншае, дзіця выхоўваецца.

Каб абуджаць радасьць і цікавасьць, неабходна як выхаваньне, так і навучаньне зьвязваць з дасьледваньнем асноў сучаснасьці і грамадзянскага ладу. Старая расійская школа, як мы ведаем, гэтага не рабіла і ўсялякімі сродкамі выганяла жыцьцё з сваіх сьцен. Тымчасам сучасная рэчавістасьць—вельмі падзячны матар'ял для адзначанай мэты.

Апрача таго, па словах Д'юі, „разуменьне сучаснага жыцьця і яго грамадзянскіх форм неабходна кожнаму чалавеку. У гэтым шмат дапамагае гісторыя, але апошняй трэба карыстацца толькі ў мэтах палітычнай і грамадзянскай самасьвядомасьці". І мы бачым, як у сучасны момант моцна падкрэсьліваецца думка аб тым, што мінулае дзецям патрэбна ведаць пастолькі, паскольку яно неабходна для зразуменьня сучаснага. Дзяцей цікавіць ня столькі ўваскросшы ў той або іншай форме старажытны славянін, сколькі сучасны склад жыцьця ўва ўсёй яго разнолькавасьці і разьвіцьці. Дзеля гэтага наша працоўная савецкая школа ня цураецца сучаснасьці, а ставіць задачай, каб абрывачныя веды, атрымоўваныя дзяцьмі з жыцьця і самастойнага чытаньня, зьвязаць у складную сыстэму, закласьці аснову для выпрацоўкі марксыцкага сьветагляду.

Асабліва важна ў гэтай справе кіраваць дзіцячым чытаньнем, шляхам падбору адпаведнай літаратуры і гутарак аб прачытаным. Пры абабраньні кніг для чытаньня неабходна кіравацца агульным разьвіцьцём дзяцей, іх асабістымі нахіламі, соцыяльнымі цікавасьцямі і зьвязнасьцю зьместу кнігі з сучасным жыцьцём. Апрача чытаньня літаратуры па грамадзянскіх пытаньнях, вельмі важна заахвоціць дзяцей да чытаньня дзіцячых часопісаў з вытрыманым ідэолёгічным напрамкам. У беларускай літаратуры такім часопісам для падростка можа служыць „Маладняк". Пажадана, каб дзеці вялі кароткі конспэкт прачытанага. Вельмі карысна прыахвоціць іх да вядзеньня індывідуальных дзеньнікаў, куды-б яны запісвалі як зьявы, адбыўшыяся ў працягу дню, так і свае ўражаньні аднесна іх.

Але ўсё гэта мае форму індывідуальнай распрацоўкі савецкай будовы, і імі адными школа ні ў якім выпадку ня можа абмежавацца.

Апошняя зьяўляецца тым соцыяльным ладам, у якім дзеці выхоўваюцца ў духу колектывізму, і пры колектыўным дасьледваньні роля школы значна пашыраецца.

У клясе, дзе дзеці працуюць супольна над агульнай справай,—кажа Гансбэрг, аўтор кніжкі „Пэдагогіка",—ідзе побач і выхаваньне соцыяльных навыкаў. У школе дзіцяці зьяўляецца магчымым колектыўная распрацоўка соцыяльных тэм. У ліку гэтых тэм дасьледаваньне грамадзянскага жыцьця займае адно з першых месц. Мэта навучаньня мецца ў тым, каб аб'яднаць, давесьці да разуменьня і паглыбіць уражаньні, перанятыя вучнямі па-за сьценамі школы. Адным з сродкаў, якім працоўная школа карыстаецца ў справе выхаваньня і навучаньня дзіцяці ёсьць яе сувязь з сучаснасьцю. Школа,—кажа ў другім месцы Гансбэрг,—мусіць павінавацца моцнаму веяньню часу, бо сама яна—дзіця свайго веку і ня здольна перавыхаваць свайго ўласнага бацьку. Школа павінна лічыцца з тымі абставінамі, якія акружаюць дзіця ў самым шырокім сэнсе. калі жадае рабіць на яго выхаваўчы і вумсьцьвены ўплыў. Яна, зразумела, павінна лічыцца і з тэй рачавістасьцю, у якой жыве дзіця, і з чаго фактычна ўтвараецца яго досьлед, што яно можа бачыць і наглядаць.

Пры колектыўным дасьледваньні асноў савецкай будовы сказанае зьберагае сваю моц. Матар'ялам могуць быць факты будзённага жыцьця, напрыклад, пасяджэньне мясцовай рады, збор налогу, апошняе газэтнае паведамленьне і інш.

Асабліва важнае значэньне прымае праца з газэтай, якая можа скласьці частку клюбных заняткаў з дзяцьмі.

У старшых клясах, дзе вучні стаяць на рубяжы самастойнага жыцьця, гэта праца мае неадкладны і жыцьцёвы характар. Тут можна ўчыняць цэлыя дыскусіі па тых ці іншых, зачапляемых у газэце, пытаньнях. Дзеля гэтага, пачынаючы, прыблізна, з пятага году навучаньня, лічаць неабходным выдзеліць дасьледваньне асноў савецкай будовы ў асобны прадмет і праходзіць яго сыстэматычна, бо калі прынцып комплекснасьці можа здаволіць запытаньні вучня пачатковых клясаў, то ён не здаволіць вучня вышэйшай ступені. Прынамсі на гэты шлях стаў Наркомасьветы РСФСР, прапанаваўшы сваёй праграмай семігадоўкі ў лік прадметаў апошняга году навучаньня вучэньне аб дзяржаве і праве.

Колектыўная распрацоўка грамадзянскіх і палітычных тэм можа яшчэ выяўляцца і ў форме розных гуртковых заняткаў, дзе вучні або робяць даклады на тыя ці іншыя тэмы, або ставяць палітсуды, практыкуюцца ў выбарах у саветы і г. д. Трэба толькі глядзець, каб гуртковыя заняткі ня былі адарваны ад цікавасьці большасьці вучняў; а каб у іх быў-бы ўцягнуты магчыма большы лік дзяцей, неабходна заняткі ў гуртках весьці побач з выкладаньнем грамадзяназнаўства ў школе, або ставіць іх у сувязь з грамадзянскімі цікавасьцямі вучняў, паскольні яны адбіваюцца ў сучаснасьці.

У заканчэньне трэба ўспамянуць аб аснаўным і галоўным мэтодычным патрабаваньні: пачынаць з мясцовага і пераходзіць да агульнага, зьберагаючы тую паступовасьць, якую можна наглядаць у паступовым разьвіцьці і ўзросьце пераняцьцяў дзіцяці.

У часы школьных заняткаў ды пры ўжываньні экскурсыйна дасьледчага мэтоду гэта патрабаваньне асабліва трэба мець на ўвазе. Чым прасьцей і больш зразумела экскурсія па сваіх заданьнях, тым лепей яна пераніма́ецца. Пры пераходзе ад аднэй тэмы да другой неабходна йсьці ад больш простага да больш складанага і цяжкага. Дзеля гэтага дасьледваньне сыстэмы мясцовай улады і мясцовых устаноў павінна папераджаць дасьледваньне будовы цэнтральнай савецкай улады.

Трэба заўважыць, што экскурсыйна-дасьледчы мэтод, як аб гэтым даводзяць многія аўторытэтныя пэдагогі, адбуджае ў дзяцей актыўную цікавасьць к савецкаму будаўніцтву і знаёміць у зразумелай для іх форме з асноўнымі прынцыпамі марксыцкага вучэньня аб дзяржаве і праве.

Такім чынам пуціна палітычнага і грамадзянскага выхаваньня шырокая, але яна пэўная. З самага раньняга дзяцінства школа ставіць перад сабою задачы выхаваньня ў дзецях грамадзянскіх інстынктаў, гуртуючы для гэтага адпаведным вобразам дзіцячае жыцьцё, як жыцьцё колектыву. З працягам узросту і разьвіцьця дзяцей школа пакіроўвае сваю ўвагу на формаваньне грамадзянскай сьвядомасьці дзяцей і падросткаў, дапамагаючы разьвіцьцю агульнага навуковага сьветагляду і навуковага разуменьня грамадзянскага развою ў духу марксызму. Поруч з гэтым, будуючы ўсё выкладаньне і выхаваньне на актыўнасьці і самадзейнасьці дзяцей і дапамагаючы дзіцячаму самакіраваньню, школа руліцца аб разьвіцьці ў дзецях грамадзянскіх навыкаў.

Калі мы з самага пачатку ўсё сказанае прымем пад увагу і выхаваньне пролетарскай моладзі павядзём па азначаных шляхох, то пытаньне аб узаемаадносінах школы да палітыкі стане ясным, дасьледваньне асноў савецкай будовы, як элемэнту сучаснасьці—лёгкім, а задача палітычнага выхаваньня ў бок комунізму ня толькі відавочнай, але і лёгка разьвязваемай.

# НЕКАТОРЫЯ ЎВАГІ ДА БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРНАЕ МОВЫ.

**Язэп Лёсік.**

*(Пачатак у № 2-10).*

## III. Інфінітывы.

Інфінітывам называецца неазначальная форма дзеяслова, г. зн. такая форма, што не паказвае ні часу, ні ліку, ні асобы, а толькі *называе* дзеяньне ці стан прадмета. Значыць, інфінітыў *ня выказвае*, як дзеяслоў, а толькі *называе*, як назоўнік, прыметнік ці прыслоўе.

Словы нашае мовы дзеляцца на выказальныя й назыўныя; выказваць нашу думку, агулам кажучы, могуць толькі дзеясловы (*пішу, чытаем, прынясуць, дайце, нясем*), а ўсе іншыя словы толькі называюць прадметы, прыметы прадметаў ці прыметы дзеяньня, напр.: *стол, брат, камень*; *добры, люты, пабіты*; *добра, хораша, блага.*

Да гэтых назыўных слоў належыць і наш інфінітыў. Некалі інфінітыў скланяўся, як назоўнік; цяпер ён не скланяецца, але, страціўшы здольнасьць зьмяняцца, ён стаў набываць уласьцівасьць дзеяслова *выказваць*. Праўда, рэдка гэта бывае, але ўсё-такі бывае, а ў якіх разох— аб гэтым дакладна гаворыць сынтакс. Гэтая новая ўласьцівасьць інфінітыва пазваляе адносіць яго, пры падзеле слоў на часьціны, да дзеяслова, хоць і не саўсім слушна, бо асноўнае значэньне інфінітыва застаецца старое: называць, а ня выказваць. Цяпер, калі мы хочам скланяць інфінітыў, то абарачаем яго ў назоўнік: *пісаць—пісаньне, чытаць—чытаньне* і. т. далей.

Але нас цікавіць інфінітыў ня сам па сабе, а з боку тае асаблівасьці, якую становіць ён у беларускай мове проціў іншых, бліжэйшых да нас славянскіх моў. Такую асаблівасьць у беларускай мове інфінітыў вытварае сваім асноўным значэньнем у мове—*называць*, а ня выказваць.

Возьмем, напрыклад, дзеяслоў „хачу". Хацець можна шмат чаго, але сам гэты дзеяслоў назваць гэтага ня можа. Тады прыходзіць да яго на падмогу інфінітыў, і мы кажам: хачу *есьці*, хачу *спаць*, хачу *піць*, хачу *гуляць*, хачу *сапачыць*, хачу *вучыцца*, хачу *жаніцца* і т. далей (інфінітывы тут падчыркнуты). З гэтых прыкладаў мы бачым, што дзеяслоў „хачу" выказаў, выявіў, а інфінітыў назваў наша хаценьне, назваў тое, чаго мы хочам. Дзеяслоў мог выказаць і нешта іншае, напр.: стаў, зачаў, люблю *есьці*, *спаць*, *гуляць* і т. далей, але інфінітыў ці іншае назыўнае слова павінны назваць тое, што мы *любім*, бо сам дзеяслоў назыўнай здольнасьці ня мае.

Потым, ёсьць шмат прадметаў, напрыклад, вада, машына, збанок, мяшок, для рознага назначэньня. Калі гэтым *назначэньнем* прадмета зьяўляецца дзеяньне ці стан, то яго якраз і можа назваць інфінітыў, бо ёнжа, будучы словам назыўным, дзеля таго й існуе ў мове, каб называць дзеяньне ці стан прадмета.

Дзеля гэтага пабеларуску й кажуць: машына *шыць*, машынка *стрычыся*, машынка *брыцца*, машынка перац *малоць*; вада *піць*, вада дзяцей *купаць*, палонка воду *браць* і т. далей. Парасійску ў такіх разох кажуць: машына *для шыцьця*, вада *для мыцьця*, вада *для купаньня* і т. д., а папольску—машына *да шыцьця*, вада *да купаньня* і т. далей.

Як бачым, расіец ці паляк, каб назваць назначэньне прадмета—назначэньне-дзеяньне, бярэ інфінітыў, абарачае яго ў дзеясloўны назоўнік (отглагольное имя существительное) ды прылучае яго да прадмета з дапамогаю прыназоўніка „для“ (расіец) або „да“ (паляк): *вада для купаньня, вада да купаньня*, а беларусін абыходзіцца ў такім выпадку адным інфінітывам, ня трацячы дарэмна часу на тое, каб перавярнуць спачатку інфінітыў у назоўнік, а потым зьвязаць гэты назоўнік з другім назоўнікам з дапамогаю прыназоўніка (предлога).

Пабеларуску бывае ячшэ так: калі хочуць памацніць, падвысіць назначэньне прадмета, што выражаецца дзеяньнем яго, то ставяць інфінітыў з злучнікам „што“, напр.: *вада, што піць*; *вада, што дзяцей купаць, палонка, што воду браць*; *машынка, што брыцца* і т. далей.

> Сюды належаць і такія звароты з інфінітывам: *Ня зьвер* я людзкую кроў *праліваць*. Ці ня было *рэчкі ўтапіцца* мне? Адзін *колас* дзетак *гадаваць*, другі *колас* чэлядзь *карміць*, трэці *колас* гарэлачку *гнаць* (пажаданьне гаспадару на дажынках). Бог ня дзіця дурняў слухаць. Адзін *серп* траву *жаць*, *другі* пшанічаньку *рэзаць*. Шырокія *вароты ўвайсьці*, да вузкія *выйсьці*.

Калі значэньне інфінітыва пераважае значэньне, што выражаецца дзеясловам-выказьнікам (сказуемым), то ён можа адрывацца ад свайго прадмета ў асобны сказ з злучнікам „каб“, напр.:

> Ня зьвер я (ёсьць), каб людзкую кроў праліваць. Бог ня дзіця, каб дурняў слухаць. Ці ня было рэчкі, каб утапіцца мне? Адзін колас, каб дзетак гадаваць, другі колас, каб чэлядзь карміць і т. далей.

Такія звароты ў мове бываюць і ў тых разох, калі інфінітыў адносіцца не да прадмета, а да дзеяслова, напр.:

> *Пашлі паглядзець* аўса. — Пашлі, каб паглядзець аўса. *Пашлі глядзець* зямлі, дзе ім сказалі сяліцца.—Пашлі, каб паглядзець зямлі, дзе ім сказалі сяліцца. Ой, мама, хачу есьці, да баюся ў пограб лезьці, да баюся, *каб ня ўпасьці*.

З гэтых прыкладаў мы бачым, што інфінітыў зьвязваецца з сваім дзеясловам злучнікам „каб“ у тых разох, калі мы хочам паказаць, што яго значэньне ў сказе пераважае значэньне выказьніка-дзеяслова. Калі мы скажам, напрыклад: „Пашлі паглядзець аўса“, то тут сэнс сказу выражаецца дзеясловам-выказьнікам „пашлі“; а калі скажам: „Пашлі, каб паглядзець аўса“, то гэтым выкажам, што асноўны сэнс ня ў тым, што „пашлі“, а ў тым, што „пашлі паглядзець“. Даўней на месцы такога інфінітыва ставіўся т. званы дасягальны дзеяслоў (супін), што канчаўся на цьвёрды зычны „т“ (паглядзе*т*, прадава*т*). У сучаснай мове супінаў няма, яны адмерлі, але ячшэ ў старасьвецкай беларускай літаратурнай мове (пра жывую мову з супінамі мы нічога ня ведаем, бо тады жывая

разгаворная мова не шанавалася), дык у старасьвецкай мове даволі часта сустракаюцца дасягальныя дзеясловы (прыехалі *тарiават*). У расійскай мове дзеясловы на цьвёрды зычны „т“ (пишет, читает, идёт) ёсьць нішто іншае, як формы даўнейшых супінаў; у іх мове супіны таксама адмерлі, але форма іх запанавала ў дзеясловах 3-яй асобы абодвух лікаў: *чытает—чытают*, *нясёт—нясут* і т. далей. У праславянскай мове ня было звычайных дзеясловаў з цьвёрдым зычным на канцы.

Гаворачы аб інфінітывах пры дзеясловах і назоўніках, тут можна стаць у прыгодзе нашым настаўнікам, а потым школьнікам пры разборы сказаў з інфінітывамі. Мы бачылі, што інфінітыў можа адносіцца да дзеяслова, да назоўнікаў. Калі дзеяслоў адносіцца да асабовага дзеяслова, то ён складае разам з ім тое, што ў граматыках называецца *падвойным выказьнікам* (пашлі глядзець, сталі вучыцца); калі-ж інфінітыў адносіцца да назоўніка, то ён складае з гэтым назоўнікам назоў аднаго прадмета (вада піць, машына шыць). Такім парадкам, сказ: „Машына шыць стаяла на стале“, трэба разабраць так: „машына шыць“—дзейнік, „стаяла“—выказьнік, а „на стале“—дапаўненьне.

Таксама разьбіраюцца вядомыя нашым школьнікам расійскія сказы: „Любители молчать редко где бывают“ (тут дзейнік-подлежащее „любители молчать“), а ў сказе: „И воля губить у меча отнята“ дзейнік будзе „воля губить“, бо гэтыя два словы—назоўнік і інфінітыў—складаюць назоў аднаго прадмета, як у падвойным выказьніку дзеяслоў з інфінітывам называюць адно дзеяньне (выказьнік).

Ёсьць сказы з двума інфінітывамі, напр.: Наварэце *есьці* гасьцей *частаваць*. Лясьнік сказаў *пайсьці паглядзець* на месцы, што там здарылася. У гэтых сказах першы інфінітыў паясьняе дзеяслоў, а другі інфінітыў паясьняе першы інфінітыў, а ўсе яны разам—дзеяслоў з інфінітывамі—складаюць назоў аднаго дзеяньня, адзін выказьнік—„наварэце есьці частаваць“, „сказаў пайсьці паглядзець“.

Такім парадкам, калі трэба назваць назначэньне прадмета, што служыць дзеяньнем, прыладай, то гэтае назначэньне называецца *інфінітывам* (вада піць, машынка брыцца). У тых разох, калі назначэньне аднаго прадмета служыць ня дзеяньне, а другі *прадмет* (мяшок на муку), то ў беларускай мове гэтае назначэньне называецца імем таго прадмета ў вінавальным склоне, прычым, канечна з прыназоўнікам „на“, а ў некаторых выпадках з прыназоўнікам „да“, напрыклад: *мяшок на жыта*, *мех на муку*, *скрынка на лісты* (пачтовая), *хлеб на продаж*, *адзежа на сьвята*, *убраньне на сьмерць*, *яблык на пахмельле*, *жыта на насеньне*, *пакінула жарабя на плямя* і т. далей, а потым—*хустачка да носу* (парасійску „носовой платок“), *ланцужок да гадзіньніка*.

Тут ужо прыназоўніка (предлога) „на“ паставіць нельга, а трэба прыназоўнік „да“ з імем, або назовам, прадмета ў формы роднага склону, бо склон залежыць ад прыназоўніка. Ёсьць вялікая розьніца ў зваротах: „мяшок на жыта“ і „хустачка да носу“; розьніца тут у валносінах паміж прадметамі, і гэтую розьніцу выражаюць прыназоўнікі, а прыназоўнікі ў мове на тое й служаць, каб выражаць розныя адносіны паміж прадметамі. Прыназоўнік „на“ звычайна абазначае рух на паверхні або прабываньне на чым-небудзь як у звычайным, так і ў пераносным сэнсе, а прыназоўнік „да“ абазначае граніцу, мяжу, да каторай даходзіць дзеяньне ў прасторы ці ў часе; гэта й выражаецца ў такім звароце, як „хустачка *да* носу“.

Мы бачым, што ў такіх зваротах прыназоўнік „на“ ў беларускай мове ставіцца ў значэньні расійскаго „для“. У нас таксама ёсьць прыназоўнік „для“, але ён абазначае прыналежнасьць, а найчасьцей прычыну або мэту дзеяньня на чыю-небудзь карысьць ці на шкоду, напр.:

Дай нам, браце, чырван злоты, бо мы *жалі для ахвоты. Нарэзала* многа курэй і гусей *для сваіх для любых гасьцей.* Ня плач, дзеўча, ня плач, сэрца, не клапаці ты галованькі: вазьму цябе, *не пакіну для* людзкай *пагаворанькі.*

Калі трэба выразіць, што адзін прадмет служыць назначэньнем для другога прадмета, то мы звычайна ставім прыназоўнік „на“. Пабеларуску, напрыклад, кажуць: „*На што* гэта?“, тады як расіец скажа: „*Для чего* это?“ Дзе ў нас стаіць „на“, там у расійца „для“ („этажэрка на кнігі, мяшок на жыта“—пабеларуску, а парасійску—„этажерка для книг, мех для ржи“), напр.:

„*На што* яму косы?—Сена касіць. *На што* яму сена?—Кароўкі карміць. Завілі вяночкі, завілі зялёныя *на годы* добрыя, *на жыта* густое, *на ячмень* каласісты, *на авёс* расісты, *на грэчку* чорную, *на капусту* белую. *На што* козамі сена травіць? *На што* ў клецьісьці па муку, калі торба вісіць на круку? Там і крупы драныя, і кускі ламаныя.

У тых разох, калі расіец ставіць пытаньне „зачем?“, беларусін скажа „на што?“ (*На што* нам тыя пісталеты, калі мы страляць ня ўмеем).

І цікава, што нават у тых выпадках, калі інфінітыў назначэньня падмяняецца дзеяслоўным назоўнікам, ставіцца „на“, напр.: *вада на ўмываньне, ручнік на ўціраньне*; звароты з прыназоўнікам „да“ больш польскія (вада да ўмываньня).

Значыць, пабеларуску лепш сказаць: *шкап на кнігі, сшытак на дыктоўкі, сшытак на арытмэтыку*, як з прыназоўнікам „для“: сшытак для дыктоўкі і т. далей, бо мы ня кажам: „для чаго гэта?“, а „на што гэты прадмет?“

З прыназоўнікам „на“ ў беларускай мове ёсьць шмат цікавых зваротаў, невядомых расійскай ці польскай мове, напр.:

Бачыў *на* свае ўласныя *вочы* (парасійску: „своими глазами“). Выбачай, кума, *на пірагі!* Ежце, госьцейкі, а *на другое* выбачайце. Захварэў *на сухоты*, хварэе *на грудзі*, слаб *на вочы*, слаб *на ногі*. Багаты *на латы*, а не *на шаты*. Наша мова багата *на словы й на звароты.*

Але аб прыназоўніках гутарка будзе ніжэй: *VI. Прыназоўнікі.*

## IV. Злучнікі.

У нашай мове ёсьць шмат злучнікаў (саюзаў), падобных да расійскіх ці польскіх, але ёсьць і свае, беларускія. У некаторых разох ужываньне паасобных злучнікаў супадае з ужываньнем іх у іншых славянскіх мовах, а ў некаторых—не супадае.

Наша мова багата на свае ўласныя звароты з злучнікамі, на што літаратурная мова павінна зьвярнуць належную ўвагу. Тут мы затрымаемся на тых злучніках, што часта ўжываюцца ў літаратурнай мове не ў беларускім значэньні.

1. *Каторы.* Звароты ў нашай мове, што ў расійскай мове перадаюцца адноснымі займеньнікамі „который“, „какой“, а ў польскай—ktory, jaki, зусім не падобны да расійскіх ці польскіх. Калі часам у запісах вус-

най народнай творчасьці сустракаецца слова „каторы“ ў значэньні расійскага злучніка, то гэта трэба лічыць уплывам расійскае ці польскае літаратурнае мовы на таго, хто запісваў. Напрыклад, такія звароты, як: „У моры гаду ёсьць, *каторому* й ліку няма“. „Замкнуў такімі замкамі, *каторых* няма й ня будзе мацней (запіс этн. Раманава),—не беларускія. Выясьняючы той ці іншы сынтаксычны факт мовы, пасылацца на запісы прозаю рызыкоўна, бо яны рабіліся людзьмі, слаба знаёмымі з беларускай мовай або выгадаванымі ў расійскай ці польскай мове. Яны часам несьвядома, а часам не разумеючы беларускага звароту ў мове ці формы словы, запісвалі пасвоему, уносячы ў свае запісы элемэнты расійскай ці польскай мовы, у залежнасьці ад культуры запісчыка. У Шэйна, напрыклад, бадай што нідзе ня сустрэнеш нашай праславянскай формы загаднага ладу: *нясеце, кажэце*, а заўсёды стаіць расійская форма: *нясіце, кажыце*.

Выясьняючы *сынтаксычны* факт, трэба зварачацца да больш цьвёрдай народнай мовы. Такую цьвёрдую і найбольш поўную народную мову становяць народныя песьні, прыказкі, загадкі, а ня казкі. У песьнях і прыказках, а таксама ў некаторых загадках і прымаўках мова прыбрана вершам, нібы закована ў верш, а гэта не пазваляе перакручваць яе на свой лад, падмяняць яе зваротаў зваротамі чужымі, а калі-б што й трапілася, то па вершу ці па іншаму тэксту лёгка выправіць. Шкода, што наша вусная народная творчасьць запісвалася не самімі беларусамі, а людзьмі чужымі або перакінчыкамі: яны часам нават наўмысьля перакручвалі мову.

І вот, у песеннай мове, у мове прыказак, прымавак, загадак ці ў іншых вершаваных народных творах (вялікодныя ці калядныя «рацы», напрыклад, або вясельныя прамовы, што перадаюцца традыцыйна) мы нідзе ня знойдзем зваротаў з словам «каторы» ў расійскім ці польскім значэньні. У беларускай мове такія звароты заўсёды перадаюцца злучнікам „што“, напрыкл.:

Пакажэце мне тую кветку, *што* расьце зімой і ўлетку. У канцы грэблі шумяць вербы, *што* я пасадзіла,—няма майго міленькага, *што* я палюбіла. Суседзі, суседачкі, *што* ў нашай бяседачцы. А дзе-ж тая галубачка, *што* з намі лятала? Гэта той, *што* хораша грае. Той, *што* ў аблавухай шапцы. Няма мілага, чорнабрывага, *што* верна кахала. Ой, пі, маці, тую воду, *што* я нанасіла; любі, маці, таго друга, *што* я палюбіла. Цясовыя столікі засланыя, *што* Ганулькай наткатыя; залатыя кубкі палітыя, *што* Пракопкам ня пітыя.

У тых разох, дзе ў расійскай мове стаіць злучнік „каторы“ з прыназоўнікам, пабеларуску стаіць злучнік-прыслоўе „дзе“, а на месцы расійскага „который-бы“ стаіць „каб хто“, напр.:

Павей, ветру, з таго краю, *дзе* мой мілы, *што* кахаю (зноў „што“, а не „каторага“). Гаспадар лёг у тэй хаце, *дзе* вячэралі, а нас паслаў у клець. Тады падышлі яны к таму слупу, *дзе* замураваны быў музыканта (замест расійскага „в котором“). Падбегла ліса да таго дрэва, *дзе* было дзятлава гняздо. Я такіх людзей ня знаю, *каб каму* аддаць дзяцей у навуку (расійск. „которым-бы“).

І велікаруская народная мова ня любіць зваротаў „з каторы“, а зьвязвае такія сказы злучнікам „што“; параўнуйце, напр.: „Спас, што на Песках“. Звароты з „каторы“ ў расійскай літаратурнай мове штучныя, ц.-славянскія. Значыць, нашай маладой літаратурнай мове такіх злучэньняў сказаў ужываць няможна, бо гэта будзе не пабеларуску, а па ц.-славянску.

У беларускай мове займеньнік „каторы"—рэдка калі злучае сказы („Ёсьць такі каменьчык, *цераз каторы* можна дастаць, чаго хочаш"). Калі займеньнік „каторы" не пачынае сабою пытаньня („*катора* гадзіна?" „Пытаецца сын у маці: *каторую* браці?), то ён абазначае тое, што парасійску выражаецца словамі: „который из двух" або „один из многих", напр.:

Шчыпай, кумка, ягадкі, *каторы* салодкі, а *каторыя* горкі, то для мае жонкі. Як *которы*—адзін навучыцца, а другі не. *Каторыя* самі не пашлі, а *каторых* бацькі ня пусьцілі. Чаго яны (дзеці) там плачуць—ці ня скінулася *каторае*? Вядома, калі хто *каторую* ўпадабае, то й думае, што яна лепшая за ўсіх. Часам неспадзявана выбежыць *каторы* з хаты...

2. *Які*. Злучнік «які» ставіцца для выражэньня якасьці; у такіх разох яму адпавядае слова „такі", напр.:

*Які* дзень, *такі* й пажытак. *Якія* мы самі, *такія* нашы й сані. *Якая* яда, *такая* й хада. Якое дзерава, такі й клін; які бацька, такі й сын.

3. *Што як*. Расійскі злучальны зварот, „так что" пабеларуску можна перадаць злучнікамі „што як", напр.:

Зьбеглася зайцоў на то што некалькі тысяч, а некалькі мілёнаў, *што як* беглі яны цераз лес, дык лапкамі карэньне павыбівалі, што аж лес паўсыхаў.

4. *Як да*. Расійскія звароты „смотря по тому", „в зависимости от того" пабеларуску часта можна перадаць зваротам „як да чаго", напр.:

*Як да* чалавека—адзін пусьціць, а другі й ня пусьціць. Ці дорага быдла?—*Як да* скаціны. *Як да* густу—адным падабаецца, а другому не.

5. *Што да*. Расійскі зварот „а что касается" (папольску „co się tyczy") пабеларуску лёгка перадаецца так: „што да мяне", „як на мяне", напр.:

*Што да* мяне, дык... *як на* мяне, дык я й з малым дзіцём гаварыць буду. *Па мне* хоць воўк траву еж.

6. *Толькі-як*. Расійскае „как только", „лишь только", „едва лишь" пабеларуску перадаецца „толькі-як", напр.:

*Толькі* мы выехалі з лесу, *як* стала сьвітаць.

7. *Што-то*. Расійскаму «чем-тем» у беларускай мове адпавядае „што-то" поплеч з „чым-тым"; апошняе мае больш прадметнае значэньне, напрыклад:

Кепска, пане Грыгоры: *што* далей, *то* горай. *Чым* далей, *тым* сьмялей. *Чым* хата багата, *тым* і рада.

8. *Што*—памацняльны злучнік. Каб жывей перадаць думку, што выражаецца заданым сказам, вельмі часта ў народнай мове перад злучнікамі „як", „які", „ці", „куды" ставіцца яшчэ злучнік „што"—для памацненьня, напр.:

І ўсе дзівіліся, *што як* ён будзе жыць. Стала думаць, *што ці* не застаўся ён там начаваць. Усе хвалілі, кажучы, *што які* ён разумны. А прадучы ўсё думала, што калі-ж гэта ён вернецца.

Такія даданыя сказы вытварыліся з простых пытаньняў. У беларускай народнай мове, калі чужаслоўе перадаецца дадана-залежным сказам, то такія сказы захоўваюць форму простае мовы, напр.:

Казаў, *што покі жыў буду, не забуду*. (Казаў: „Покі жыў буду, не забуду"). Спачатку пахваляўся, *што новую хату пастаўлю на дзьве палавіне*, а потым і старая разваліласа.

9. *І*. Злучнік „і“ можа быць памацняльным словам, напр.:

Вот *і* ўсё. Вот *і* добра. *І* туз часам воду возіць.

Часам „і“ мае значэньне прыслоўяў „нават“, „таксама“, напр.:

„Няўжож ты *й* гэтага ня ведаеш?!“ У гэтым сказе „і“ мае значэньне памацняльнага прыслоўя „нават“ або „таксама“.

Калі „і“ служыць памацняльным словам або прыслоўем, то пасьля галоснага перад зычным скарачаецца ў „й“, г. зн. перастае быць складовым ды вымаўляецца зьлітна (разам) з папярэднім словам, напр.:

То й добра! Галоднаму *й* пушнінка малінка. Сіла *й* салому ломіць. Вот табе *й* на! Прышла *й* восень.

Калі на памацняльнае „і“ прыходзіцца націск, то яно не скарачаецца, хоць-бы сабе стаяла паміж галосным і зычным, напр.:

Галоднаму каню *і* дубіна ня страшна. Аднаму *і* ў кашы ня спорна (тут „і“ стаіць нават паміж галоснымі: *ў* стала ў залежнасьці ад галоснага „і“).

Будучы злучнікам, „і“ скарачаецца толькі ў тых разох, калі злучае аднолькавыя часьціны зьлітага сказу, што ня маюць пры сабе паясьняльных слоў, г. зн. у тых толькі разох, калі „і“ злучае *голыя* аднолькавыя часьціны зьлітага сказу, напр.:

Саха *й* барана самі не багаты, а ўвесь сьвет кормяць. Ціха *й* плаўна коцяцца воды. А цемната ўсё гусьцее *й* гусьцее ды закрывае ад вачэй *і* поле, і лес. Тут поплеч рэчка *й* поле. Пуста *й* гола ўсюды. Бацька *й* маці вярнуліся з поля.

Але калі паміж аднолькавымі часьцінамі зьлітага сказу стаіць якоенебудзь паясьняльнае слова або калі пры пералічэньні ў зьлітым сказе робіцца перапынак (пауза) у голасе (на пісьме гэтая пауза абазначаецца *коскай*), то „і“ не скарачаецца, напр.:

Яны разам вучыліся *і разам* пасьвілі скацінку ў полі. Ён цяпер мае ўжо сваю сямейку, свой прытулак, жывёлу *і свой* кусок хлеба. Стаіць машына, грозна дыша *і сівым* дымам цяжка пыша. Ідзе жняя *і весела* пяе. Тут былі—*і* старыя, *і* малыя, *і* бабы, *і* дзеці.

У вершах, дзеля складу, „і“ ў такіх разох можа і не скарачацца (слова „скарачаецца“ трэба разумець так, што „і“ перастае тварыць асобны склад, г. зн. перастае быць галосным ды падмяняецца ётам *й*), напрыклад:

Стогне, плача *і* галосіць завіруха злая (Я. Кол.). Конік, сошка *і* араты мерна йдуць па полі (Я. Кол.). У стуку *і* груку забудзем мы муку працы свае (Я. Куп.).

У такіх сказах, як: „Адны вочы *і* плачуць, і сьмяюцца“, „Ён яго *і* корміць, і поіць“, першае „і“ трэба разглядаць, як памацняльнае слова пад націскам, тое самае, што ў сказе: „Ляніваму каню *і* дубіна ня страшна“.

10. *Ды*. Злучнік „ды“, агулам кажучы, мае аднолькавае значэньне з злучнікам „і“. Розьніца паміж імі тая, што злучнік „і“ мае больш агульнае значэньне; ён зьвязвае як далейшыя, так і бліжэйшыя паняцьці, а злучнік „ды“ ўжываецца толькі для цясьнейшага злучэньня слоў.

Найчасьцей гэтым злучнікам зьвязваюцца выказьнікі (сказуемые), надаючы ім характару большай чыннасьці, руху і лёгкага працістаўленьня. Злучнік „ды“ заўсёды стаіць там, дзе трэба выразіць паступовасьць, згоднасьць, асабліва тады, калі наступнік-выказьнік зьяўляецца як-бы вынікам першага, напр.:

Напісаў прашэньне *ды* да міравога. Увайшоў *ды* моўчкі стаў каля дзьвярэй. А ён узяў *ды* расказаў усё чыста. Запрэгла яна шэсьць камарыкаў *ды* паехала ў сьвет. Выбраў воўк найвялікшага барана *ды* кажа яму. Паскакаў мароз каля яе, а як разумнае гутаркі не пачуў, дык узяў *ды* замарозіў. Воўк схапіў віёрку *ды* хацеў яе зьесьці.

Злучнік „ды“ можа мець пасьля сябе памацняльнае „і“, калі трэба надаць выказьніку большай сілы й значэньня, напр.:

Глянуў *дый* заплакаў. Узяў *дый* пабіў яе (скрыпку) на друзгі. Што-ж? кажа баран (воўку):—такая мая доля! Але каб ня мучыцца мне доўга *дый* табе каб не ламаць зубы аб мае старыя косьці, дык стань у лагчынцы ды разьзяўся, а я ўзьбягу на прыгорак, разганюся ды ўскочу табе ў горла цалкам.

11. *Да*. Наша літаратурная мова як-бы сумысьля ўхіляецца ад злучніка „да“, адносячы яго да русіцызмаў, а тымчасам гэты злучнік у народнай мове ўжываецца даволі шырока і мае свае цікавыя асаблівасьці.

1) У зьлітым сказе „да“ ставіцца, калі злучаюцца аднолькавыя часьціны, выражаныя назоўнікамі йменнымі (существительными) ці прыметнікамі, у значэньні дабаўленьня (плюса), напр.:

Знае пра тое купец *да* мама (купец+мама). Пяць *да* чатыры, *да* пяць, *да* адзін. Казаўся наш сват багаты, аж толькі рызы *да* латы. Стаяла бярозка тонка *да* высока, лісьцем шырока.

2) У складана-злучаным (сочиненном) сказе „да“ ставіцца замест „але“ для абазначэньня неспадзяванай супярэчнасьці, напр.:

Вялік панок, *да* малы дварок. Поле роўна ляжыць, *да* гуляць не вяліць. Люблю цябе, *да* ня так, як сябе. Гульня, *да* не штадня. Хацеў-бы, *да* ня змога. Гаварыў-бы каток, *да* рот караток. Купіў-бы сяло, *да* грошай гало. Вачом завідна, *да* жывату не пажытачна. Ня дуж, *да* дасуж.

3) Часта „да“ ставіцца ў мове, як памацняльнае слова, каб падвысіць значэньне таго слова, пры якім стаіць, напр.:

Брацейка мой, родненькі! Едзь у луг *да* па каліну *да* калінавы лісточак *да* мне маладзенькай на вяночак. Радзіманька мая! *да* не зракайся ты на мяне, не зракайся ты на мяне *да* прыбудзь ты ка мне. Ты мае дзетачкі *да* пасіраціла. Добры вечар *да* суседка мая! Ці здарова *да* сямейка твая? Ой што-ж там *да* за пыл курыць? Што-ж там *да* за дым дыміць? У горы расла, ў горы замуж пашла. Я й думала, мне палепшае, работанькі мне паменшае, аж мне *да* пагоршала, работанькі мне *да* пабольшала. Усё па рыначку *да* валяецца, сваім родам зухваляецца, маім родам папракаецца.

4) Злучнік „да“ часам ставіцца паміж дзейнікам (подлежащим) і выказьнікам (сказуемым). У такіх разох ён, разумеецца, перастае быць злучнікам, а, стоячы паміж дзейнікам і выказьнікам, зьлёгка праціставіць чыннасьць ці прымету, што ў выказьніку, асобе, што ў дзейніку, напрыклад:

А той дзед *да* быў калека *да* шчэ й нямы. Яго гаспадар *да* бярэ к сабе ў прымы. Хоча, каб я замест Янкі да пашла за яго.

Крошку з іншым адценьнем ужываецца ў нашай мове злучнік „дык“, напрыклад:

А я *дык* ня люблю гароху. Той *дык* хоць старанны, а гэты—гультай, абібок да шчэ й дурань. А вот я *дык* пайду.

## V. Дапаўненьні.

Кожны ўскосны склон назоўніка называецца *дап ўненьнем* (парасійску: „Всякий косвенный падеж существительного называется *дополнением*"). Дапаўненьне ў мове выражае розныя адносіны паміж прадметамі. Гэтыя адносіны могуць быць самыя align розныя розностайныя, як прадметныя (матар'яльныя), так і не прадметныя (разумовыя).

Дапаўненьні бываюць *простыя й складаныя*. Дапаўненьне называецца *простым*, калі пры ім няма прыназоўніка (предлога), а дапаўненьне з прыназоўнікам называецца *складаным*, бо яно складаецца з прыназоўніка плюс простае дапаўненьне. Напрыклад:

*Працаю* сілы *прыроды к людзям у слугі* йдуць.

Тут словы-назоўнікі „працаю", „прыроды" ёсьць простыя дапаўненьні, а „к людзям", „у слугі"—складаныя дапаўненьні.

Дапаўненьнем можа быць і прыметнік, і кожнае скланяльнае слова, калі яно падмяняе назоўнік, напр.:

Бачу *сьляпога*, пашкадуй *малога*, ня б'юць *ляжачага*.

Раз дапаўненьне ёсьць назоўнік у форме ўскоснага склону, то яно можа быць вінавальнага, роднага, давальнага, прыладнага й меснага склону з прыназоўнікам ці без прыназоўніка (простае або складанае).

Калі пазнаёміцца з значэньнем у мове *простага* дапаўненьня, то ў *складаным* дапаўненьні застанецца толькі пазнаёміцца з *прыназоўнікам*, бо яно складаецца з простага плюс прыназоўнік, а калі адна частка разгледжана, то застаецца неразгледжанай другая. Вось чаму, калі сынтакс знаёміць з складаным дапаўненьнем, то мае справу толькі з *прыназоўнікам*.

Разумеецца, у гэтых кароткіх увагах да літаратурнае мовы нельга разгледзіць усіх беларускіх дапаўненьняў. Аб гэтым дакладна гаворыць сынтакс беларускае мовы; тут-жа будуць паказаны толькі найбольш цікавыя формы нашых дапаўненьняў, а пры зручнасьці, дзе гэта стане да рэчы, будзе зьвернута ўвага на некаторыя іншыя сынтаксычныя факты беларускае мовы, зьвязаныя з дапаўненьнем.

Аб складаных дапаўненьнях гутарка пойдзе потым (бач. VI. Прыназоўнікі), а спачатку аб простых дапаўненьнях, што без прыназоўнікаў у парадку склонаў (падежей).

*Вінавальны склон.* Вінавальны склон адказвае на пытаньні: *каго? што? (бачу)*; ён абазначае той прадмет, што на яго пераходзіць дзеяньне.

Першае пытаньне вінавальнага склону—гэта пытаньне *роднага* склону для прадметаў жывых (*каго няма? брата, каня*); другое пытаньне (*што?*)—гэта пытаньне *назоўнага* склону для прадметаў няжывых (*што*?—кол, камень, акно).

Што гэта значыць? Гэта значыць, што вінавальны склон ня мае свае ўласнае граматычнае формы; яго форма часам падобна да формы назоўнага (именительного) склону, а часам да роднага склону. Напрыклад: Паставілі *стол*, разьбілі *акно*, падралі *кнігі*, тут словы „стол", „акно", „кнігі" стаяць у вінавальным склоне, бо дзеяньне (паставілі, разьбілі, падралі) пераходзіць на гэтыя прадметы, а разам з тым гэта формы і назоўнага склону, бо толькі ў назоўным склоне ставіцца назоў прадмета (стол, акно, кнігі). Далей, калі мы скажам: бачу *брата*, пасу *каня*, то тут словы „брата", „каня" таксама стаяць у вінавальным склоне, але формы „брата", „каня"—гэта формы і роднага склону (каго няма? *брата, каня*).

У беларускай мове вінавальны склон мае сваю пэўную форму (канчатак „у-ю“) толькі ад назоўнікаў іменных (существительных именных) жаноч. роду адзіночн. ліку, ва ўсіх іншых разох ён супадае часам з назоўным, часам з родным склонам, а ў некаторых разох (вельмі рэдка) з клічным склонам. Гэта трэба мець на ўвазе пры знаёмстве з сынтаксычнымі фактамі вінавальнага склону.

У праславянскай мове вінавальны склон множн. ліку меў форму (канчатак „ы“) сучаснага назоўнага склону множн. ліку, а назоўны склон меў канчатак „і“. Такія сучасныя словы, як: *людзі*, *чэрці*, *суседзі*, а часам —*вароці*, *боці* гэта формы праславянскага назоўнага склону множн. ліку; цяпер-бы трэба было сказаць: *люды*, *чарты* (а, чарты яго бяры!), *суседы*, а *вароты*, *боты* так звычайна і гаворац; *вароці*, *боці* (селі на *вароцех* у чырвоных *боцех*) знаходзім толькі ў песьнях, дзе верш трымае іх у старой форме. Даўней, напрыклад, слова „стол“ у назоўным склоне множнага ліку мела форму з канчаткам на „і“—*столі*, як *людзі*, а ў вінавальным склоне была форма *сталы* (канчатак „ы“). Цяпер формы назоўнага склону мн. л. на „і“ адмерлі, а іх месцы заступілі формы праславянскага вінавальнага склону на „ы“ (*сталы*, *валы*, *браты* і т. далей).

Склоны, як і ўсе іншыя факты мовы, знаходзяцца ў стане нясупыннай зьмены: адны факты зьмяняюцца, другія адміраюць, а на іх месцы вырастаюць новыя. У вангельскай мове, напрыклад, засталося толькі два, ці што, склоны, а ўсе іншыя паадміралі. У сучасных, бліжэйшых да нас, славянскіх мовах, як і ў нашай мове, адмёр праславянскі *месны* (предложный) склон. Даўней, напрыклад, маглі сказаць: „А што той *грамаце* пісана“... „Пасадзілі на вялікім княжэньні *Вільні*“. „Жыве *Кіеве*“ і так далей, дзе словы „грамаце“, „Вільні“, „Кіеве“ стаяць у *месным* склоне. Цяпер мы так сказаць ня можам, а ставім пры гэтых простых дапаўненьнях прыназоўнік „у“ (у грамаце, у Вільні, у Кіеве), бо цяпер няма меснага склону без прыназоўніка. Вось чаму расійскія школьныя падручнікі называюць месны склон *предложным*, панашаму *прыназоўным*, бо мы „предлог“—гэты старасьвецкі беларускі граматычны тэрмін (расійцы яго пазычылі ў нас) называем *прыназоўнікам* (у граматыцы Б. Тарашкевіча „прыймя“), бо ён заўсёды стаіць пры *назоўніках* (существительных) іменных, лічэбных і займенных. Пры другой часьціне мовы прыназоўнік стаяць ня можа; ён заўсёды вытварае з назоўнікам *складанае* дапаўненьне.

Вінавальны склон ад прадметаў жывых найчасьцей падобен да роднага склону, і тады адказвае на пытаньне „каго“, а ад прадметаў няжывых—да назоўнага склону, і тады адказвае на пытаньне „што?“ Але ў беларускай мове сьціслай разьмяжованасьці тут ня бывае: можа жывы прадмет стаяць у форме назоўнага склону, а няжывы—у форме роднага, і наадварот.

У нашай мове вінавальны склон, як і некаторыя іншыя, пазнаецца толькі па свайму значэньню, а не па форме. Вось чаму нашы дапаўненьні вінавальнага склону, апроч свайго агульнага значэньня, і з гэтага боку маюць свае асаблівасьці проціў, напрыклад, расійскай мовы.

1) Калі дзеяньне выражаецца дзеясловам пераходнага значэньня, то назовы жывых прадметаў множнага ліку звычайна ставяцца ў вінавальна-назоўным склоне, калі гэта не *асоба*, не чалавек, напрыкл.:

Паю *коні*, пасу *авечкі*, ганю *валы*. Мяняе *быкі* на індыкі. Певень жытам *куры* частуе. У новай стайніцы *коні* сядлае Запрагай, братка, *пара* (і пару) коняй (тут вінавальна-назоўны склон будзе

„пара“, а слова „пара“, як лічэбнік зборны, заўсёды кіруе родным склонам—„коняй“=родны склон парнага ліку). Запрагайце сівы *коні* ў чорныя кочы (вазок з будой), павязём мы дзяўчыначку цёмнае ночы. Арол напаў *гусі*, давай мардаваці. Ваўкі падушылі *авечкі*. І сава свае *дзеці* хваліць. Багатаму чорт *дзеці* калыша. А хто *дзеці* мае, няхай навучае, позна да карчомкі гуляць ня пускае. Ой пайду я даганяць *леты* маладыя.

Само сабою разумеецца, што ў такіх разох і складанае дапаўненьне стаіць у вінавальным склоне, напр.:

„Сабака брахаў *на ваўкі*“.

Нават пры асобе, чалавеку, знаходзім часам дапаўненьне з пераходным дзеясловам у вінавальна-назоўным склоне, напр.:

Прывяла яна два *сыны*. Пісала-б лісты – ня ўмею, паслала-б *пасլы* (замест „паслоў“)—ня сьмею. А хто *дачкі* (можа быць і родн. ск. „дачок“) мае, няхай навучае, позна да карчомкі гуляць ня пускае. Наймай кавалі (замест „кавалёў“) даражэнькія, куй сярпочкі залаценькія да шлі *жнейкі* маладзенькія (хоць можа быць і „жнеек“).

Тут патрэбаю верша нельга нічога аб'ясьняць, перш-на-перш, дзеля таго, што для верша ўсё роўна, ці будзе стаяць тут родны склон, ці вінавальны, а потым, навогул, верш нічога не аб'ясьняе, бо тады можна запытаць: чаму-ж мова пазваляе строіць такія вершы? Прычынаю тут ня верш, а імкненьне мовы падпарадкаваць аднолькавыя факты аднолькавай форме.

2) Але дапаўненьне ад *асобы*, чалавека множн. ліку, а таксама назовы прадметаў жывых адзіночн. ліку звычайна стаяць у вінавальна-*родным* склоне на пытаньне „каго?“, напр.:

Бачу *братоў*, частую *сватоў*, не сьмяшы *людзей*. Ён частуе, ён вяльбуе (выхваляе, узьвялічае) дарагіх *гасьцей*. Толькі выслала наша гаспадынька *сыноў сакалоў* да нявестак лябёдак, толькі выслала.

А поруч з гэтым знаходзім ужо і слова „коні“ ў форме роднага склону, напр.:

*Коняй* не тамі, людзей ня турбуй: як прыдзе пара, прыеду сама. *Коняй* патапілі, плацьця памачылі. Запражэце, залажэце *семярых вараных* (коняй), адвязеце майго кума дамоў.

У такіх сказах, як: «Парэзала многа *курэй*, *гусей* для сваіх для любых гасьцей. Спарадзіла чачотачка сямёра *дачок*, спарадзіла невялічкіх сямёра *малых*. Запрагайце пара (ці пару) *коняй*. Наймала чачотачка многа *музыкі*“—падчыркнутыя дапаўненьні пры пераходных дзеясловах стаяць у родным склоне дзеля таго, што ўсе зборныя лічэбнікі і неазначальныя прыслоўі (многа, мала і інш.) заўсёды кіруюць родным склонам, а значыць, самі падмяняюць або мысьляцца ў вінавальным склоне.

3) Тут цікава яшчэ вось што, што ў беларускай мове родны склон можа ставіцца замест вінавальнага і ад прадметаў няжывых як адзіночнага, так і множнага ліку, напр.:

*Ражна* зьясі, калі ня хочаш хлеба (тут родны склон «ражна» мог стаць па падабенству з словам «хлеба», дзе родны склон пры пераходным дзеяслове азначае частку прадмета падзельнага). Дык яна гэта ўваткнула яму *рубля* (замест «рубель»). Вазьмі замка (як «каня», «вала»), паддай *мяшка*, сьсячы гэтага *дуба*. Твайму Яначку вянок з дабра, а нам дасі на трох *рубля*. Стаіць явар над вадою, *явара* вада мые. Камяні, ідзеце *тапароў* тупіць! Толькі выслала цём-

ная тучка дробнага *дажджу* і ціхага *ветру*, толькі выслала. Хадзеце, дзевачкі, у лес гуляці, зялёных *вянкоў* завіваці (і тут-жа знаходзім вінавальны склон: «а мы ўжо *вяночкі* завілі і гарэлачку папілі). На раніцу цар кажа слугам: «Ідзеце й выкіньце *касьцей* часавога.» Пі, маці, таго *піва*, што я наварыла; любі, маці, таго зяця, што я палюбіла.

Такім чынам, вінавальны склон, ня маючы свае формы, можа ва ўсіх выпадках падмяняцца родным або назоўным склонам, але, прымаючы не ўласьцівую сабе форму, ён разам з тым выражае іншае адценьне ў сваім значэньні. Калі ставіцца, напрыклад, родны склон замест вінавальнага ад прадметаў няжывых, то гэтым выражаецца *неазначальнасьць*, і тады мысьліцца як-бы ня ўвесь прадмет ці прадметы, што павінна быць, а толькі частка іх («вянкоў віць»).

4) Вінавальны склон сумесна з назоўным знаходзім ад слова «палавіна», напр.:

*Палавіну* сад цьвіце, *палавіну* вяне. *Палавіну* садоў цьвіце, што зелена разьвіваюцца; траціну шлюбоў бяруць, што верна кахаюцца. *Палавіна* саду цьвіце, *палавіна* вяне. *Палавіну* саду цьвіце, *палавіну* разьвіваецца; *палавіну* шлюб бяруць, *палавіну* раскідаюцца.

5) Вінавальны склон часу на пытаньне «калі?», напр.:

Яго гэтую *ноч* возьмуць. Тую *пару* мой брат з вайны ехаў. Пачакай тут *трошку*! Што *дзень* пры дні ў карчомцы п'е. А бадай ты казачанька, *той час* (параўн. расійскае «сейчас») ажаніўся, як у млыне на камені куколь урадзіўся! Была мая кашулька што *нядзелю* бялюсенька. Што *суботку* вымывалася, што *нядзельку* убіралася.

Вінавальны часу на пытаньне «калі» можа падмяняцца родным склонам часу, напр.:

Пачакай тут *трошкі*. Яго гэтае *ночы* возьмуць. Тае пары мой брат з вайны ехаў. Што *суботы* вымывалася, што *нядзелі* прыбіралася. *Аднаго разу* паехалі мы ў лес па дровы. *Тады* (як «пары»), тое будзе. Бадай ты, дзяўчыначка, *тады* замуж вышла, як па бітай дарожачцы рута-мята ўзышла. Галоднага *лета* людзі ўміралі. Астатняга *году* зіма была халодная. *Штадня* варкатня. Аднае *нядзелі*, тых *дзён*, таго *часу*, Няхай жонка вып'е гэтага адвару, дык *таго часу* мець будзе (дзіця).

З роднага часу вытварыліся такія прыслоўі: *сёлета*, *сёньні* = *сёньня*, *штадня*, *летась*, *пазалетась* (лета+сь) і інш., але вінавальны часу з пытаньнем «колькі» не падмяняецца родным часу, напр.:

Усю *ноч* байкі баяў. Пабыў тры *дні* ды паехаў. Жыла яна так тры *годы*. Пражыў з намі цэлы *год*. Я *многа* нацярпеўся.

6) Вінавальны-таўтолёгічны. Нашай літаратурнай мове варта мець на ўвазе вельмі пашыраныя ў народнай, так званыя *таўтолёгічныя* звароты з вінавальным і іншымі склонамі. Калі хочуць падвысіць, памацніць тое ці іншае слова ў сказе, найчасьцей дзеяслоў-выказьнік, то, замест памацняльных прыслоўяў (вельмі, надта, аей-як), ставяць таўтолёгічныя звароты, г. зн. ставяць іменьнік аднаго кораню з дзеясловам, напр.:

Думу думаць, гора гараваць, век векаваць, мост масьціць, гаць гаціць, суды судзіць, права правіць. Няўжо дарэктар так заўзяты, што будзе *права* свае *правіць* і на калені штадзень ставіць?! (Я. Кол.). Буду *зіму зімаваць*, вясны-лецейка чакаць. Куплю сабе *званок званічак*. Паехаў *суды судзіць*, *раду радзіць*. Бадай мы здаровы *плён плянавалі*, бадай мы здаровы за рок дачакалі.

Вінавальны-таўтолёгічны можа быць з прыназоўнікам у значэньні спосабу дзеяньня, напр.:

*У крык крычыць, у стук стукае.* Маці сына правяла (сын ехаў казакаваць) *на век вечны* пракляла.

Вельмі часта таўтолёгічныя звароты ставяцца з прыладным склонам, напр.:

Пытам пыталі, жадом жадала, рэвам раўці, крыкам крычаць, плачам плакаць, рогатам рагатаць, ходарам хадзіць. Хата *ходарам ходзіць*. Яго двары *тынам тынены*, тынам тынены да сырым дубам. Яго дворня *брукам брукавана*, а *тынам тынавана*. Розным *торгам тарѓавала*. Твой дварочак *мостам мошчан. З доляю даляваць* будзеш, а з *паненкаю панаваць* будзеш. Да я тую крынічаньку *тычкомператычу* да сваю дзяўчыначку к сабе пераклічу.

Таўтолёгічныя звароты бываюць з *назоўным* склонам, напр.:

Гром грыміць, званы звоняць. Да ўжо *вечар вечарэе*. Стары старым, а малады маладым. *Старое старыцца*, а маладое расьце. Дзень добры, дзяўчына—*бель бяліці! Ой сваты сватове!*

Таўтолёгічныя звароты знаходзім і з кожнай іншай часьцінаю мовы, напр.:

Устань рана ранюсенька, мыйся бела бялюсенька. Застаўся голым голы, босым босы. А я млода маладзюсенька за табою прапала. Як бель, бялюткі. Сарочка чорна чарнюсенька. Дарожка біта таптана.

Блізкія значэньнем да таўтолёгічных зваротаў тыя звароты, дзе прыметнік памацняецца другім прыметнікам з адмоўнасьцю «не», але з адваротным значэньнем, напр.:

Ой *цёмна* ночка *нявідная*! Смуцен мой сакол, *смуцен невясёл*. *Дурна*, дзеўча *неразумна*, што ня ўмела адказаці. Густы гаю, густы гаю, *густы не прагляну*. Ой *высока* да *ня нізка* гарох на лагчыне, ой *далёка* да *ня блізка* казак на Украіне!

Асабліва любіць народная мова выражаць выказьнік (сказуемое) двума featured рознымі дзеясловамі, але такімі, што перадаюць адно дзеяньне, адно паняцьце, напр.:

Пакінь, дзеванька, *думаць-гадаці*: пашлі дзеванькі краскі рваці. *Затужыў-занудзіў* малады малойчык. *Хаджу-блуджу*, як то сонца ў крузе, куды пайду, ці што раблю, а ўсё сэрца ў тузе. Ой ляцелі жураўлі, *селі-палі* на гальлі. Пад ёлкаю-верабінкаю малойчык ляжыць, сам *ня знае*, сам *ня ведае*, што ў яго баліць. Ляцелі гусанькі цераз сад, *крыкнулі-гукнулі* на ўвесь сад. Буду *піці-выпіваці* і каплі ня пушчу,—тады, міл, цябе забуду, як вочкі заплюшчу. Ой ляцелі гусі з Беленькае Русі, *селі* яны *палі* на ціхам Дунаі. *Будзь* ты, нявехна, *вумна-разумна*: распусьці долю па майму полю, а прыдольлейка па застольлейку. Ці *ня відзелі*, ці *ня бачылі* п'янічэнькі йдучы?

Калі Якуб Колас умее трапна ўжываць таўтолёгічныя звароты з рознымі склонамі, то Янка Купала багата выкарыстаў асаблівасьць народнае мовы з дваякімі выказьнікамі, напр.:

*Ідзе-ідзе* размова ў вечар. *Пацяклі-паплылі* за гадамі гады. *Падхапілі-ўзялі* гусьляра-старыка, *павялі-панясьлі* на загубу. Аддайце славу нашу нам—на што *схавалі-расхваталі*?!

Такія выказьнікі падобны да складаных іменьнікаў, што абагульняюць два паняцьці злажэньнем двух асобных слоў, напр.:

Папараць-кветка, думкі-гадкі, траўка-мураўка, шчука-рыба, пацеха-забава, хлеб-соль, песьня-дума, вясельле-разгул, пушча-лес, салавей-птушка, рыба-плотка, каліна-маліна, песьня-весялушка, хлопцы-малойцы, малодкі-лябёдкі, браточкі-сакалочкі, рута-мята. Ой у полі *клён-дзярэўца* розна. Ой за лозамі, за бярозамі *рута-мята* ня ўсходзіць. Бягай, міла, да гаю, шукай *зельля-размаю*. Міла к гаю не дайшла, *размай-зельлейка* знайшла. Узялі Яся парубалі, *срэбра-злота* адабралі. Плача, плача *айцец-маці*, па роднаму дзіцяці. У нядзелю рана ня ў дудачкі граюць, ня ў трубачкі трубяць: *айцец-мамачка*, плачуць каля Дунаю ходзячы, у Дунаю просячы. Зачула Ганулька ў сьвятліцы седзячы, *срэбра-злота* дзержачы. А я роду вялікага, *айца-маткі* багатага. Ясны месяц далёка—айцец-матка далёка. Як стаяла, у Дунай пала, ціхі Дунай скаланула, *шчуку-рыбу* накарміла, а шчадра да напаіла.

Я наўмысьля падаў многа прыкладаў на злучэньне «айцец-маці», улюблёнае нашай народнай поэзіяй, а народная поэзія мае густ і добра ведае сваю мову. Тымчасам, наша літаратурная мова чамусь ухіляецца ад слова «айцец», думаючы, мабыць, што яно польскае, ды ўсюды ставіць будзённае слова «бацька» або «бацькі».

Праўда, і папольску будзе «ойцец», але справа тут ня ў польскасьці: у славян шмат аднолькавых слоў. Справа тут вось у чым: у беларускай мове ёсьць такі закон чарадаваньня (падмены) зычных: калі *дзь* ці *ць*势 стануць перад зычным (даўней перад «ць»), то гэтае злучэньне зычных падмяняецца ётам (*й*), напр.:

*Маладзец-малайчына*, *малойчык* (замест „малодзцык; у прасла-вянской мове „ц“ было толькі мяккім), *малайцы*, *малайцом*; *райцы* (ад „радзіць“, „рада“, „парада“-радзьці-райцы), *здрайцы* (=„здрадзьці“ ад „здрадзіць“); *айца* (=оцьця), *войчым*, *ойчанька*; адгэтуль ужо *айцец*, куды ёт перайшоў, як кажа акад. Карскі, з ускосных склонаў (айца, айцом і т. д.); сюды трэба аднесьці вельмі пашыранае ў беларускай мове слова *трэйці* замест „трэцьці“ (цяпер пішам „трэці“, хоць лепш гаварыць і пісаць *трэйці*).

Значыць, словы „айцец“ ці „ойцец“, „ойчанька“ ці „войчанька“ бясспрэчна словы беларускія, хоць яны могуць быць і ў польскай мове. Адгэтуль ужо маем такія словы: *ойчаства* (расійск. „отчество“), айчына (рас. „отечество“, польск. „ойчызна“, а некалі расійцы пісалі „отчизна“ на стара беларускі лад пад уплывам польскага слова).

Тут яшчэ трэба заўважыць вось што: словы „ойчанька“, „ойцец“ з націскам на „о“ рэдка ўжываюцца з прыдыханьнем „в“, якое, як ведама, заўсёды зьяўляецца перад націскнымі „о“ ці „у“ (восень, вокны, вуліца, вугаль). Ёт (й), стаўшы пасьля „о“, адкідае прыдыханьне; яно ў такіх разох становіцца непатрэбным. Вось чаму мы звычайна кажам „ой“, а ня „вой“, хоць можа быць і прыдыханьне, але тут ужо прыдыханьне ставіцца па падабенству, а не з фонэтычнай прычыны. Чаму гэта так—аб гэтым дакладна гаворыць граматыка (фонэтыка).

Слова „ойцец“ ці „айцец“ дзеля павагі ці ўрачыстасьці часта ўжываецца зьлітна з словам „пан“—*панойцец*, а ласкальнае ад „ойцец“ маем *ойчанька*; клічныя формы: *ойча* (адзін. лік), *айцове* (множн. лік); з клічнае формы множнага ліку вытварылася цікавая форма множн. ліку назоўнага склону—*айцовы*.

Прыклады: Ня вінны нашы гловы[1]), а вінны нашы *айцовы* (бацькі). Тут табе, лазіца, не векаваці, а мне ў *панойца* не зімаваці! Табе зімаваці ў клеці на паліцы, а мне векаваці ў чужога чужаніцы (з вясельнае песьні). Да ляцелі гусанькі цераз сад—час табе, дзеванька, на пасад! Што-ж вам, гусанькі, да таго? Ёсьць у мяне *ойчанька* для таго. Засьцілайце камлі—я паду; благаславі *панойцец*—я сяду. *Ойчанька* мой родненькі! Што-ж там да за пыл курыць?—Гэта-ж твой маладзён едзе ў чысьценькім полі на вараненькім коні.

Складаныя йменьнікі й дзеясловы ці іншыя часьціны мовы адпавядаюць таўтолёгіі, асабліва, калі зложаны два блізкія паняцьці, а часам з аднолькавым коранем, як, напрыклад: *чужы-чужаніца, ждаці-паждаці, клясьці-праклінаці*. Будзь ты, нявехна, *вумна-разумна*: распусьці долю па майму полю, а прыдольлейка па застольлейку.

Абагульненьне двух процілежных паняцьцяў з адмоўнасьцю „не“ знаходзім у такіх зваротах, вельмі пашыраных у народнай поэзіі, напр.:

*Ці стаяла-не стаяла*, толькі тая слава. Хоць *маліся-не маліся*, а есьці ня будзеш. Ой *ці змыта, ці ня змыта*, абы не прабіта. Ой *ці чула, ці ня чула*—не адзывалася, бо на цябе, мой міленькі, не спадзявалася. Хоць *прыляцела*, хоць *не прыляцела*—ня скажам.

Тут цікава параўнаць гэты факт з такімі прыслоўямі: *калі-ні-калі, дзе-ня-дзе, як-ні-як* і інш.

7. Вінавальны-клічны. Здараецца, хоць вельмі рэдка, у ролі простага дапаўненьня вінавальнага склону клічная форма, напр.: Яшчар паночку, аддай мой *вяночку*.

Гэта аб'ясьняецца ня ўплывам вершу, а тым, што вінавальны склон у некаторых разох, як мы бачылі, падобен да назоўнага, а назоўны склон цяпер часта стаіць на месцы клічнага, а дзьве велічыні, роўныя паасобку трэйцяй, роўныя паміж сабой. Значыць, калі форма назоўнага склону можа выступаць у ролі дапаўненьня вінавальнага склону, то й клічная форма пры патрэбе можа стаць простым дапаўненьнем вінавальнага склону.

Разумеецца, у прыведзеным прыкладзе форма „вяночку“ пастаўлена дзеля рыфмы з словам „паночку“, але тут цікава тое, што мова дапускае дапаўненьне ў форме клічнага склону, бо зрыфмаваць можна было й так: *паночак-вяночак*.

8. Аб другім вінавальным гаварылася ўжо вышэй (бач. II. Дзеяпрыслоўнікі).

9. *Родны склон*. Родны склон можа стаяць пры дзеясловах (хачу *хлеба*), пры назоўніках (кусок *хлеба*) і пры некаторых прыслоўях (шмат *грошай*, многа *гора*). Гэта значыць, што форма роднага склону залежыць альбо ад дзеяслова, альбо ад прыназоўніка, а часам ад прыслоўя.

1. Родны *прыналежнасьці*. Сюды належаць такія звароты ў мове: „Хата бацькі, хустка маткі, творы Коласа, творы Купалы, тэорыя Дарвіна, табліца Лінэя, гняздо птушкі“ і так далей. У такіх зваротах родны склон называе той прадмет або тую асобу, што ім прыналежыць нешта; тут прыналежнасьць выражаецца *назоўнікам* у форме роднага склону.

Але ў беларускай мове такія звароты з родным прыналежнасьці хоць трапляюцца, але вельмі й вельмі рэдка. Вучоныя кажуць, што гэта нават не славянскія звароты. У беларускай мове прыналежнасьць найчасьцей і звычайна выражаецца прыметнікам, напр.: бацькава хата, мат-

[1] Аб формах—*глова, млоды, злота* і іншых гутарка будзе ніжэй.

чына хустка, птушынае гняздо, Пётрава шапка, Вольчына стужка, хлопцава кніжка, а адгэтуль ужо трэба казаць: *Дарвінава* тэорыя, *Лінэева* табліца, *Ньютонаў* біном, *Коласавы ці Купалавы* творы і т. далей. Прыклады з народнай мовы:

*Ганульчыны* ўборы, да не *Ганульчыны* ўклоны. Чую, чую,—ня *мамчыным* голасам пяеш! *Васілёвага* сына забілі на вайне. Прыехалі на *цесьцяў* двор. *Бацькава* дараваньне на сьняданьне, а *матчына*—на абед. Пашла замуж за *кавалёвага* сына. Барсукова гара. Кірылава магіла. Матчын дар. Музыкава доля.

З гэтых прыметнікаў прыналежнасьці вытварыліся з часам назовы пераважнай большасьці нашых гарадоў: Барысаў, Мсьціслаў, Слуцак, Полацак, Даўгінаў, Друцак, Пінск, Віцебск, Смаленск, Менск і шмат іншых. Даўней гэтыя назовы-прыметнікі ўжываліся з словам „горад" або „места": *Барысаў горад, места Пінска(о), Пінскі горад.* Але гэтыя словы паступова забыліся або не называліся, і даўнейшыя прыналежныя прыметнікі абярнуліся ў назоўнікі (существительные).

Родны прыналежнасьці, г. значыць *назоўнік*, а ня прыметнік, можна ўжываць толькі ў тых разох, калі ён паўтараецца: творы Коласа, Купалы, Багдановіча, Ядвігіна Ш., Гаруна і т. далей, або калі асабовая назва дае *ў прыметніку* цяжкую форму (Дуніна-Марцінкевічавы творы), хоць можа быць і так: *Ядвігінавы Ш.* творы.

Родны прыналежнасьці заўсёды будзе тады, калі перад ім стаіць ужо прыметнік або ўласнае імя асобы, напр.: творы *вялікага Дарвіна*. поэзія *Якуба Коласа*, Комуністычны Маніфэст *Караля Маркса* і т. далей.

У народнай мове сустракаецца часам родны прыналежнасьці ў такіх зваротах: *Добрага бацькі дзеці*, *Дурні* вы ня нашага *бога*.

Гэты родны падобен да роднага прыналежнасьці, але ён азначае *якасьць* прадмета часовую або пастаянную; пры ім заўсёды стаіць прыметнік або назоўнік лічэбны, напр.:

*Чалавек* высокага *росту*. *Мужчына лет* можа сараку. Надзенеш ты *боты* нямецкай *работы*. На ім *боты* сьвіное *работы*, на ім *кажух* з рыжых *цялух*. *Аленка* добрага *роду*: зьняважыла нам роду, а пакрасіла два двары: адзін дварочак сьвякраткін, а другі дварок таткін.

2. *Родны об'ектыўны й суб'ектыўны.* Сюды належаць такія звароты з родным склонам: *забойства бацькі*, *страх сьмерці*, *жаль увагі* ня мае, а далей—*жыцьцё расьліны*, *цела чалавека*, *утварэньне клеткі*, *адход цягніка*, *спосабы барацьбы* з сухотамі і іншыя.

Гэтыя апошнія звароты з родным склонам мала адпавядаюць сынтаксу беларускае мовы: іх лепш замяняць, дзе гэта можна, зваротамі з прыметнікамі або апісовымі зваротамі, напр.: *расьлінная жыцьцё*, *чалавечае цела*, *як гадаваць скаціну* (замест „гадоўля скаціны"), *як бароцца з сухотамі* і т. далей.

Замест таго, каб паставіць гэты родны склон пасьля дзеяслоўнага назоўніка на „ньне" (*чытаньне* кнігі), лепш ставіць звароты з дзеяпрыслоўнікамі—гэта больш адпавядае духу нашае мовы, напрыклад: замест „пры чытаньні кнігі"—„чытаючы кнігу"; замест „па скончэньню дасьледзін"—„скончыўшы дасьледзіны".

Але нашая мова ня любіць толькі злучаць дзеяслоўных назоўнікаў з „пры", „па", „для", а з прыназоўнікамі „на", „за" яны злучаюцца вельмі часта, але ў іншых зваротах, напр.:

Пазычаньне *на неадданьне*. Залаты персьцень—то *на мяняньне* пярловы вяночак—то *на вянчаньне*, шаўковы платочак—то *на ўціраньне*. За яго панаваньне (заміж „пры яго панаваньні“). Бач. інфінітывы з „на“.

Разумеецца, калі падмена роднага склону прыметнікам зьмяняе значэньне звароту, то такое падмены быць ня можа, напр.: „мова поэзіі—поэтычная мова“, „значэньне падобнасьці—падобнае значэньне“ і т. далей.

Калі родны склон выражае *азначэньне* таго прадмета, пры якім стаіць, а падмена яго прыметнікам выражае шырэйшае паняцьце, то такі родны склон азначэньня можна абмінуць з прыназоўнікамі „на“, „у“, напрыкл.:

Гарады Беларусі—гарады на Беларусі (беларускія гарады—шырэйшае паняцьце); пачуцьце чалавека—пачуцьце ў чалавека; замест „Полацкі павет Віцебшчыны“, трэба сказаць: „Полацкі павет на Віцебшчыне“; „насяленьне Польшчы й Беларусі“—„насяленьне ў Польшчы й на Беларусі“ і т. далей.

У літаратурна-навуковай мове нельга, разумеецца, зусім абмінуць роднага склону суб‘ектыўнага й об‘ектыўнага, але ў мове прыгожага пісьменства зрабіць гэта можна й трэба.[1])

3. *Родны склон часу*. Аб гэтым гаварылася ўжо вышэй (бач. вінавальны склон часу); тут трэба дадаць яшчэ, што звароты з родным склонам на азначэньне часу ня маюць пэўнага часоўнага характару ў выражэньні мінуласьці, цяперашнасьці ці прышласьці (наступнага, „будучага“ часу), напр.:

Спарадзіла яна сына *цёмнае ночы* (замест „у цёмную ноч“). Вядзі мяне, тапі мяне *цёмнае ночы*.

Беларускія звароты з родным склонам часу маюць неазначальны характар, а выражэньне часу вінавальным склонам з прыназоўнікам „ў“ мае больш сьціслы характар, напр.: Браў мяне ты *ў дзень*, ні *ў ночы*—дзе-ж тады меў свае вочы?

Выражэньне часу родным склонам з характарам прамінуласьці ў звароце з прыназоўнікам „за“, напр.:

*За караля Саса* было хлеба й мяса, а настаў Панятоўскі, стаў хлеб не такоўскі. *За жыцьця* яшчэ адпісаў яму сваё дабро. Не *за нас* гэта пачалося, не *за нас* і перастане

Але гэты родны часу так цесна зьліўся з вінавальным часу з прыназоўнікам „за“, што лепш бачыць тут вінавальны склон часу, як:

Гэта было яшчэ *за прыгон, за паншчыну, за палякоў*. *За восень* трэба ўправіцца. *За пагоду* трэба ўправіцца з сенам. Каб добра спажывалі да *за год* прычакалі.

Вінавальны часу з прыназоўнікам „за“ ўжываецца поплеч з прыладным (творительным) часу з гэтым прыназоўнікам, напр.:

*За гэтым каралём* нос можна ўцерці й рукавом. *За пагодаю* трэба ўправіцца з сенам. Гэта было *за прыгонам, за паншчынай*. За царом Мікалаем служылі 25 год. Не *за намі* гэта сталася, не *за намі* й перастане.

---

[1]) У расійскай мове часам так густа ставяць звароты з гэтым родным склонам, што трудна злавіць сэнс, напр.: „Сущность доклада председателя технической комиссии учебного отдела общества распространения технических знаний“, або: „Значение признания необходимости введения новых способов земельного обеспечения кресьтьян земледельческого района“. (А. М. Пешковский: „Русский синтаксис в научном освещении“, адкуль узяты гэтыя прыклады).

Калі вінавальным склонам з прыназоўнікам „за“ выражаецца пэўная мера часу, то ён зваротам з прыладным склонам не падмяняецца, напр.: *за год, за дзень, за ноч, за зіму, за лета* і т. далей.

*Вінавальны* склон часу з прыназоўнікам „у“ таксама можа ў некаторых разох падмяняцца прыладным склонам, але без прыназоўніка, напр.: *шчасьлівою гадзінаю* замест „у шчасьлівую гадзіну“. Цьвіце рожа пры дарозе чырвоненькім цьветам—ехаў казак да дзяўчыны бялюсенькім *сьветам*.

Адгэтуль маем такія прыслоўі ў форме прыладнага склону: *вясною, зімою, леткам, ноччу*. (Што ты знаеш, *ноччу* радзіўшыся?); а поплеч з гэтым ужываецца і вінавальны склон часу з „у“, напр.: *у дзень, у ночы* (Браў мяне ты ў дзень, ня ў ночы—дзе-ж тады меў свае вочы?), *у летку, у восень, у зімку* (Пакажэце мне тую кветку, што цьвіце *зімой і ў летку*), а часам ставяць нават прыназоўнік „у“ з прыладным склонам часу, напр.: *увясною, узімою*, як *у восень, у ночы* і т. далей.

Ёсьць яшчэ шмат зваротаў з ускоснымі склонамі на выражэньне часу (бач. VI. Прыназоўнікі). Часовыя звароты належаць да тых моўных фактаў, *дзе тонкасьці граматычныя пераходзяць у тонкасьці стылістычныя* (Пакажэце мне такую кветку, што расьце *зімой і ў летку*), дзеля гэтага трудна правілам разьмежаваць, калі каторы зварот ужываецца.

4. *Родны поклічу*. Сюды належаць такія звароты: Дык ён тады *ходу!* Едзь, сынку,—*такое бяды! Такое бяды!* Найму сакала. Ці-ж гэта *праўды* было? Ой, *ня праўдачкі* гэта. *Ня праўдачкі* сказалі.

Родны *поклічу* ставіцца замест назоўнага або вінавальнага склону.

5. *Родны часьці*. Ён залежыць ад іменьнікаў: Пражыў ён *веку* сто год.

Гэты склон, хоць вельмі рэдка, сустракаецца нават *пры параўнальнай* ступені, напр.:

Складу я галоўку *ніжэй вас*. Цёмна, цёмна на двара, *цямней таго* за дваром. Рана, рана сонца ўставала,—*раней таго* пава лятала. Ой рана, рана трое курэй пела, *раней таго* вароты скрыпелі.

Тут родны склон выражан займеньнікам „той“; калі-ж у такіх разох павінен стаяць іменьнік, то ў беларускай мове параўнальнасьць выражаецца родным склонам з прыназоўнікамі „за“, „ад“, „над“, напр.:

Ён старэйшы *за яе*. Няма зьвера дужэйшага *за льва*. Яго рученькі гарачэй *ад агню*. Няма горшага ката *над нашага брата:* ён-жа маю косаньку распусьціў, ён-жа мяне маладзеньку ня ўзьлюбіў (з вясельнае песьні). Сядзь сабе бліжэй *за ўсіх*, будзе табе *мілей ад усіх*.

6. Родны склон з дзеясловамі: *глядзець, пільнаваць, сьцерагчы, даглядаць, хаваць* і іншых, напр.:

Пільнуй, сватку, парадку! Даглядае *саду*. Папільнуй дзяўчынкі, каб яна ня скінулася. Не паслухаў *мае рады*, дык цяпер рабі, як сам знаеш. Устань, стары, устань, абач майго *цела*: да ўжо мае цела крывёю скіпела. Пашый, дзеванька, шырокія рукавы, што-б было дзе класьці *нявіннае славы*.

З дзеясловамі: *вучыць, вучыцца, навучацца, слухаць*, напр.:

Навучайцеся *муштру добрага*. Лепей дома цэпам бухаць, як на вайне *муштраў* слухаць. Трэба яго *розуму* навучаць. Не даюць мне *веры* (расійск. „не верят мне“). Пусьці, пусьці, маці, *гуселек* паслухаць і *песенек* навучыцца! Ня пушчу, дзіцятка, *гуселек* слухаць і *песенек* вучыцца: тыя цябе гусელькі маладу з ума зьвядуць.

Але пры гэтых дзеясловах можа быць і давальны склон, напр.:

Будзем сына *пісьму* вучыць, а дачушку шоўкам шыць. Ты *рады* просіш? Вот табе мая рада: ня трымай дзяцей пры сабе, бо сьпесьцяцца, разгультаюцца, а аддай іх лепей у навуку: кола людзей патруцца—*рабоце навучацца*. Аддалі *вучыцца кавальству*—прыбыльная работа; аддалі *вучыцца сталярству, бандарству*—дзятлы к бандарству здольны (з казкі).

Адгэтуль ужо прыслоўі ў форме давальнага склону прыметніка з „па“, напр.:

*Парускy, папольску, панямецку, пацыльтайску*, часам у поўнай прыметнікавай форме: *пакашачаму, пачалавечаму*. Што за панове, што за сватове—*парускy* ходзяць, *папольску* мовяць? Гэты Марцін Глінскі навучыўся гаварыць *пакашачаму*, а кот навучыўся гаварыць *пачалавечаму* (з казкі).

Ёсьць прыслоўе з „па“ ў форме прыметніка роднага склону: *палатыні*. Такім парадкам, пабеларуску можна сказаць:

„І *чужому* навучайцеся, і свайго ня цурайцеся“. „Вучыцца беларускае *мовы*“ (родны скл.) і—„вучыцца беларускай *мове*“ (давальны склон).

7. *Родны аддаленьня* пры дзеясловах: выракацца, цурацца, ухіляцца, баяцца і іншых, блізкіх з імі сваім значэньнем, напр.:

Хоць і надзеў жупан, але ня цурайся *сьвіткі*. *Выракся* мяне айцец, выраклася й мацi *роднага дзіцяці*. Выракаецца *свайго слова, сваіх слоў*. Не зракайся ты *мяне* да прыбудзь ты ка мне. Адрокся *бацькі*.

Але такі родны аддаленьня найчасьцей ужываецца з прыназоўнікам „ад“, напр.:

Ня ўхіляйся *ад работы*. Адрокся *ад* свайго *бацькі й мацi*. Ледзьве схаваліся *ад ваўкоў*.

8. *Формы роднага склону множ. ліку*. У нашай літаратурнай мове вельмі часта ставяць іменьнікі жаночага й ніякага роду множнага ліку з канчаткамі „аў-яў“ (пад націскам „оў-ёў“). Гэта канчаткі мужчынскага роду множнага ліку. Назоўнікі йменныя, або йменьнікі (существительные именные), жаночага і ніякага роду множнага ліку *ў родным* склоне маюць форму *голае асновы*, г. зн. яны ня маюць ніякага канчатку (*кніг, рук, ног, нянек, шапак, зямель і т. далей*) і толькі ў рэдкіх выпадках прымаюць канчаткі муж. роду „аў-яў“; і наадварот, іменьнікі муж. роду множн. ліку *ў родн. склоне* толькі ў рэдкіх выпадках маюць форму голай асновы (*дзён, пяць год*). Трэба яшчэ ведаць, што фонэтыка беларускае мовы вымагае, што калі аснова йменьніка жаноч. ці ніякага роду канчаецца на два (можа быць і больш) зычных гукі, то ў родным склоне множн. ліку гэтыя зычныя разьбіваюцца галоснымі гукамі, каб лягчэй было вымаўляць, напр.: *зямель* замест *земль*, *песень* замест *песьнь*, *сясьцёр* замест *сёстр*, *вокан* замест *вокн*, *вядзёр* замест *вёдр* і так далей.

Народная мова бадай-што ніколі ня ўжывае гэтых іменьнікаў у родным склоне з канчаткамі, а заўсёды знаходзім адну голую аснову, напр.:

З сямі[1]) *поль* пшанічанька, з васьмі *крыніц* вадзічанька, дзевяці *кароў* масла і *яец* паўтараста. А з суботы да нядзелі—гадзіна,—сабралася нявесьціна радзіна; зьнясьлі, зьвязьлі сем *коп яец*, сем *фасак* масла да на каравай. Іграй, дудачка, з *сёл да сёл*, каб мой міленькі

[1] Чаму „сямі“, а не „сямёх“—аб гэтым гутарка будзе ніжэй.

быў вясёл. Сама-ж я ня знаю, што ў гэтым караваю: сямі *поль* пшанічанька, сямі *рэк* вадзічанька, дзесяці *кароў* масла да *яец* паўтараста. У мяне баліць галоўка трэйці дзень: ня відзела Іванькі сем *нядзель*. Пілі-пілі ў панядзелак, а прапілі сорак *дзевак*; пілі-пілі ў аўторак, а прапілі *жанок* сорак. Лятала стада *курапат* (ад „курапата“) па полю.

У мужчынскім родзе заўсёды знаходзім родны склон з канчаткам:

Ехала *казакоў* сем *палкоў*. Сем *хунтаў* шафрану—к караваю прыправу. Я й да *конікаў* канюх, я й да *стадачак* (ніякі род) пастух, я й да *вутачак* (жаноч. род) стралец, я й да *дзевак* маладзец.

9. *Прыметнікі ў родным склоне*. Пры лічэбніках „два“, „тры“, „чатыры“ знаходзім родны склон іменьніка *адзіночн.* ліку ці назоўны множн. ліку з прыметнікам у родным склоне *множн.* ліку, напр.:

Зрабіў дзьве *труны каменных*. У Андрэйкі два брацейкі *родненькіх*. Запражы, братка, тры кані *сваіх*. Тры месяцы *ясных*—тры малойцы *красных*.

*(Канец у наступным №).*

# У НАДЗЕЯХ НАД ПРАСТОРАМІ.

*Жыцьцё і творчасьць Алеся Гурлы.*

**З. Жылуновіч.**

„Я думаю, што справа беларускіх нацыянальных дзеячоў чыстая і харошая, што яна нясе ў глухія закавулкі беднае краіны і першыя веды, і цікавасьць да кніжкі, і прагу да разумнага, асэнсованага, вартага чалавека жыцьця. Я думаю, што іх праца—не бясплённая і ў тым ці іншым кірунку, можа стацца, нечакана для іх саміх, прынясе жатву“.

Гэтак пісаў у сваім артыкуле „Белорусские поэты“ А. Пагодзін у 1911 годзе. Буржуазны публіцысты, супрацоўнік лібэральна-дэмократычнай часопісі „Вестник Европы“, як відаць, ужо ў той час, на аснове выяўленых фактаў, меў правіловы прогноз для пасьпешнага разьвіцьця беларускага руху. Будучы ў той час прыхільнікам адраджэньня нацыянальных культур, А. Пагодзін адчуваў у разьвіцьці беларускай культуры нешта большае, чым думалі яго сучасьнікі, і ўпікаў пр. Е. Карскага за тое, што ён, беларус, „трапеча перад народным рухам“ і б'е трывогу, нібы Бурачок „стараецца падняць сэпаратычныя імкненьні нацыянальныя і літаратурныя, адпіхнуць беларусаў ад вялікарусаў і штырхнуць іх да апрацоўкі самастойнай літаратуры“[1]).

З таго моманту мінула шмат часу. Дагадкі А. Пагодзіна ня толькі збыліся, а і ў многім апярэджаны. І, пэўна, чуючы зараз аб посьпехах беларускага працоўна-культурнага руху, ён ня толькі дзівіцца, а, седзячы ў стане чорных, баіцца яго развою. А ці ведае к таму А. Пагодзін, што „консервативный историк белорусского движения“, як ён вялічаў Е. Карскага, ня толькі нічога не зрабіў сваёю актыўнаю баязьлівасьцю перад „сепаратистическим стремлением у белоруссов“, а нават, ухіліўшыся,—пасьвяціў беларускай пісьменнасьці—„самостоятельной литературе“—цэлы том.

Як-бы там ні было, вядома, бяз усякіх залежнасьцяў ад абудвых прыпомненых часам асоб, роўна „спагадаючых“ вызваленьню беларускіх працоўных гушчаў пад сьцягам Кастрычніка, беларускае культурнае адраджэньне к гэтаму часу сягнула далёка-шырока. Калі ў 1911 годзе можна было пералічыць чацьвярых поэтаў з першымі іх надрукаванымі творамі („Жалейка“, „Песьні жальбы“ і рэдкія вершы ў „Нашай Ніве“ М. Багдановіча), калі ў тыя часы беларуская поэзія была „сумная, небагатая тэмамі і вобразамі“,—то цяпер аб гэтым забыта.

Беларуская пісьменнасьць поруч з беларускім працаўніком мусіла за 13 апошніх год перажыць багаты этап свае гісторыі і дасягчы надзвычайнага посьпеху ў сваім поступе.

[1]) Прыведзеныя словы бярэ А. Пагодзін з пісаніны Е. Карскага.

Царская вайна, разбурэньне Заходняй Беларусі, лютаўская рэволюцыя, нямецкая окупацыя і... праз Кастрычнік Беларусь, як незалежная Савецкая Рэспубліка—гэтыя вагромністай вагі фактары далі магутны, надзвычайны штырхач разьвіцьцю беларускае літаратуры, беларускага мастацтва, наогул—беларускай культуры. Нацыянальны тэатр, выдавецтвы, школы, пэрыодычныя часопісі—гэта замест аднае газэты „Наша Ніва" і дзесятку-другога кніжачак „сумнае, небагатае вобразамі поэзіі". Дзесяткі здольных поэтаў—замест чацьвярых.

Гаварыць зараз аб беларускай літаратуры нельга іначай, як толькі з пачуцьцём умільнасьці і ўважлівага пахіленьня перад яе сілаю, багацьцем, перад яе паступовым няўхільным разьвіцьцём, перад яе заслугаю ў справе вызваленьня беларускіх працоўных грамадаў і ў справе агульнарасійскай рэволюцыі. Пройдзены ёю шлях, здавалася-б, так малы і вузкі, а ўмовы—так мізэрны, а тота-ж, яна пераможна выбралася на шырокі шлях буйнага рознастайнага далейшага разьвіцьця свайго.

Калі раней можна было падходзіць да ўсёй беларускай пісьменнасьці з аднакавай меркай „сумнасьці і беднасьці тэм і вобразаў", то цяпер толькі заядлы вораг, якому ў страху ці ў сваёй выгадзе прыходзіцца зацямняць факты і закрываць вочы на іх праўдзівасьць,—толькі той цяпер сумысьне ўмаліць багатую, буйную развойнасьць беларускае пісьменнасьці. Яе плёны зраўняліся з плёнамі суседніх літаратур, яе высата дасягла ўзроўню, калі не перасягла высату нядаўна багацейшых яе літаратур. Багацьце тэм, рознастайнасьць вобразаў, рознаколернасьць фарбаў, паўната мастацкіх атрыбутаў—на воку. Кожны поэта, кожны пісьменьнік—перайшлі самотную, самастойную сьцежку свайго разьвіцьця, выкрысталізаваліся ў выразна абасобную ядынку. І, асабіста, Янка Купала, Якуб Колас—на тысячу вёрст аддаліся ўперад ад „Жалейкі" і „Песьняў жальбы". Гэта вачавідкая фактычнасьць замацована непарушнымі даказамі тысячаў прыкладаў. Не талентнасьць, ня здольнасьць, а гэніяльнасьць лунае ўкол іх. І зараз дадаваць сваіх слоў для яе большых убёраў ня прыходзіцца.

Цяпер паўстае неадложнае пытаньне: болей шырака, болей падрабязгова крануцца шмат малодшых з беларускіх песьняроў, якія на „Жалейцы" ды „Песьнях жальбы" ўпяршыню адчулі сваё літаратурна-нацыянальнае „я" і, у сваю чаргу, сталі буйнымі адзінкамі. К гэтаму часу беларуская пісьменнасьць мае ў сваім стане багата здольных, яскрава выяўленых поэтаў і пісьменьнікаў трэцяга пасьля Янкі Купалы прыходу.

Да аднаго з іх, а менавіта, Алеся Гурло, мы й маем перайсьці.

Сын селяніна з м. Капылю на Случчыне, ён перайшоў шлях пакутнага жыцьця. Недастачаў, недахватаў дало яно поэту багата, а навукі —толькі двухклясовую сельскую школу. Доля большасьці беларускіх пісьменьнікаў. І сярэдняя асьвета і ўнівэрсытэт—замяняла горкае бядотнае жыцьцё і цяжкая мардотная праца. Алеся Гурлу гэта праца вучыла жыць, вучыла пазнаваць і, разам-жа, вучыла апяваць сваю долю і долю роўных сабе.

Калі А. Гурло пачуў першыя пазывы да літаратурнай творчасьці, ужо яго землякі-таварышы—Цішка Гартны і Хведар Чарнушэвіч—друкавалі свае творы на старонках беларускае газэты „Наша Ніва". Ён чытаў іх пасьля „Жалейкі" і „Песьняў жальбы" і адчуваў насядаючую патрэбнасьць падаць і свой голас, прылажыць і свой мотыў у маладую беларускую капэльлю. Песьні чуліся нудныя, як нудна выглядала ўся вакольная сапраўднасьць; як нудна жылі людзі, таварышы, што пялі, знаёмыя

яму; як нудна шумелі гаі і нізкае рэдкае збожжа на нівах; як цяжка было сваё ўласнае жыцьцё! І ня толькі, дзе поэта бачыў, з чым стыкаўся, а ўсюды—ад Ленінграду да Вільні. Не здарма-ж песьняры Янка Купала і Якуб Колас стуль падавалі свае мінорныя тоны. А вось зьліць-бы ўсе сумныя пачуцьці ў вадно джарало, выбухнуць іх перад сьветам і затапіць людзкое гора і бядоты жыцьця!

І вось у 1910 г. з простымі, пакуль далёка ад дасканаласьці, але са стройнымі вершамі выходзіць А. Гурло на доўгае ўпартае змаганьне побач са сваімі папярэднікамі-таварышамі. На „Песьні жальбы" на „Жалейку" адгукаецца спагадаю да краю.

Краю мой, краю,
Горам павіты,
Ўсё ў табе, знаю,
Потам абліта.
Поту і сьлёзаў
Многа бяз ліку,
Як-бы марозаў
Ў доўгую зімку,
Як-бы завеяў
Ветраў шалёных,
Як-бы надзеяў
Ў шчасьце бяздольных.[1])

Так ва ўсім краі. Ну што-ж казаць аб сабе, аб прыватным жыцьці? Яно залежыць ад агульнага. Знача, галоўная мэта—змагацца за лепшую долю працоўных мас, а тады надасца й сабе. Але змагацца, ня нудзець, не сумаваць. І поэта хутка кідае мінорныя напевы, а пераходзіць да бадзёрых, рэзвых, забучых.

У гэтых сваіх напевах ён топіць, разам з горам агульным, і сваё ўласнае гора, пазбываецца яго сьвядома. Нават пытацца не даецца:

Ня пытай ты аб жыцьці маім,
Бо ты сэрца да болі трывожыш,
І душа камянее на ім!
Ці-ж пытаньнем ты гору паможаш?[2])

Лепш маўчаць.

І А. Гурло адмахваецца рукамі ад прыватнага жыцьця, занядбайвае яго таму, каб яно не перашкодзіла думаць аб агульным, аб супольналюдзкім жыцьці. Ці-ж мажліва быць здаволеным самому, калі вакол мукі і бяда, вакол „гора пануе?" Душа А. Гурлы не магла гадзіцца з гэтым. Ён уступіў у сьвядомае жыцьцё ў эпоху рэволюцыйнага ўздыму 1905-6 г. г., запаліўся яго ідэаламі, аддаўся яму. А падышлі гады рэакцыі—ён перадаўся нацыянальна-рэволюцыйнай справе. Маладая, палкая—гэта справа абурыла яго істоту, завалодала ёю, і поэта глядзеў у перад, поўны надзей і імкненьняў.

Пад шум лясоў,
Пад сьпеў руччоў,
Ляціць душа...[3])

---

[1]) А. Гурло. Вершы. „Маладая Беларусь", Сшытак 3. Ленінград, 1913 г.
[2]) Там-жа.
[3]) „Маладая Беларусь"—Вершы.

Калі вакола панавала псыхічнае разладзьдзе, а царскае правіцельства спраўляла баль перамогі над працоўнымі гушчамі, А. Гурло пяяў:

Мой сьпеў ня гэтакі жудлівы,
Я ім маркотнасьць адганю!
Я песьняй яснаю, як сонца,
Далёка ў полі адзавусь,
І буду пець і пець бясконца. [1])

І ён пяяў. Не глядзеў, што бяда цягне за полу і прымушае азірнуцца наўкола. Не глядзеў, як-бы нічога няма. А суцяшаў іншых, супакойваў:

Ня тужы, бядача,
Што сямейка плача,
Стогне, усхліпае—
Бо шмат гора знае.
Гора яе душыць,
Гора яе сушыць.
Ня тужы, гаротны:
З хвіляй пералётнай
Гэта ўсё праміне,
Ў вечнасьці загіне;
Прахам ад нас пойдзе,
І мы шчасьце знойдзем. [2])

Гэта шчасьце, пакуль, бачылася А. Гурлы цямлівым і нявыразным. Інстынктыўна адчуваўся яго прыход, згодна закону поступу. У маладога поэты хапала веры казаць гэта. Але шляху дайсьці да яго ці сродкаў, якімі-б яго прыход падблізіць, ён ня бачыў. Ды не стараўся, пакуль, знайсьці. Гэта—далейшыя клапоты. Перш хлынулі бурлівымі пацёкамі жыцьцёрадыя галасы юнацтва. І поэта арудваў маладым пачуцьцём, задорнымі імкненьнямі.

Яму ўсё „так радасна пяе!“. На гэтых вясёлых мотывах поэты хацелася абаперціся, каб глянуць далёка ў перад і парадвацца, што хоць аднаго з цэлага раду беларускіх песьняроў і пісьменьнікаў абмінула пачуцьцё суму. Хацелася верыць, што разьвіцьцё А. Гурловай творчасьці пойдзе няўхільным, роўным шляхам пад сьветлым настроем. І міжвольна зварачалася на яго пільнае вока чытача. Аднак ня гэтак вышла: жыцьцё не дало спуску і А. Гурлу; яно зьвіхнула яго з роўнага шляху і пачало кідаць па ўхабах хваль. Сьвежая моладасьць, яшчэ небясьпечная, зацьмучаецца раптоўным здарэньнем у сям'і. Памірае бацька і пакідае на яго трое малодшых дзяцей. Запушчанае гаспадарства развальваецца далей. Грозіць небясьпека голаду. Што рабіць? Брацьна сябе цяжкую ношу галавы хаты, бацькі двух братоў і сястры? Закапацца ў дробную будзённую працу, каб яна адняла ўсе мажлівасьці ўдзяліць хвіліну агульнай справе, ліры сваёй і справе недастаючай асьветы? Чаму другім удаецца вылезьці з балота будзёншчыны, распрасьцерці скрыдлы і ляцець да намечаных мэтаў? У А. Гурлы ападаюць скрыдлы: ён б'ецца, як птушка ў клетцы, думае і гадае, як і што рабіць: ці пагразнуць у бяздольным хатнім жыцьці, ці адным замахам разарваць з ім, акамяніўшы сэрца, і шукаць новых шляхаў, невядомых. Пасьля доўгіх раздум ён рашае кінуць дом, братоў і сясьцёр, кінуць на „што будзе—тое й будзе“ і ехаць у

[1]) „Маладая Беларусь“—Вершы.
[2]) Там-жа.

Ленінград, у асяродак культурнага жыцьця. Бяз нічога ў руках—не загіну, не! Але загінуць—ня гіне, толькі пападае ў нямерна цяжкія ўмовы вучня на заводзе. Атрымлівае мізэрныя грошы, на якія трэба пражыць у сталіцы і хоць колькі паслаць дамоў. Дзесяцёхгадзінны працоўны дзень, становішча вучня, страшныя лісты з дому... Чужыя людзі—далёкія яму. Новы сьвет. Стомлены вечарам кідае завод, ідзе на кватэру і думае-думае. Побач з беднатою—гэткая пышнасьць, гэткая роскаш! Бачыў цягасьць дома: бедакоў тысячы і ядынкі багацеяў. П'яўкамі рассасаліся памешчыкі. Але шэрае мора мужыкоў! Скаланецца яно, рушыць і затопіць рэдкія выспачкі панскіх двароў з іх насельнікамі. Толькі час, толькі слушны момант... А тут, у вялікім горадзе, у шумнай сталіцы! Тут усё збудавана на людзкіх косьцях, трымаецца на сьпіне працоўных гушчаў і трымае ў крэпкіх абдымах штыхоў і гармат гэтыя гушчы. Уся сталіца, амаль, жыве тым, каб умела й хітра трымаць у руках вялікую краіну. Якая розьніца з домам! Як цяжка ў халодных сьценах маўчлівых муроў, за якімі ня відаць сонца!.. Трэба прачуць поэтыцкай чулай душою ўсю веліч, усю сілу гораду-крывасмоку і разам—яго драпежнасьць! Ехаў з надзеямі крылатымі, з намерамі шырокімі, а ачуўся зьвязаным, сьціснутым, абязмоцненым...

Поэт—сын ніў і лясоў, выхаванец ціхіх местачковых абставін, узьляцеўшы над імі, здавалася, нямерна высока, усё-ж апаў у настрої, зьнізіўся да зямлі ва ўмовах бурлівай сталіцы. І замест далейшага гартаваньня сваіх надзеяў—у яго зарадзілася трывога. Варстаты заводу, трэск і грукат запяялі хлопцу не аб надыходзячай перамозе працаўнікоў, а жудлівую цяжкую песьню ваяўнічага наступу нядолі. Мінорны тон, навеяны капыльскімі нівамі, пераліваецца ў сум туманных слотных пецярбурскіх вуліц. Расквітшыя надзеі ломіць журба ды нявер'е. І песьні, крануўшыя ўпяршыню яго музу, песьні „скорбі і пячалі“, бяруць верх над радаснымі мотывамі. Залазіць у поэтаву душу густы цьвёрды камяк заняпаду, сьціскае істоту і хвалюе безнадзейныя думкі. Струны музы выцінаюць балючыя зыкі:

Колькі мукі душы, колькі сьлёз пралілось,
Пры ўспамінку аб роднай краіне!
Спазнаць гора-нуды многа мне давялось,
Ў гэтай сумнай далёкай чужыне! [1])

Гэтымі радкамі А. Гурло акрэсьлівае ўсю палосу пэражытага ім у Ленінградзе душэўнага заняпаду, які цягнуўся каля трох гадоў і адбіўся на творчасьці поэта шэраю плямінаю ў настроі і ў разьвіцьці ды паглыбленьні творчай стыхіі. Большасьць вершаў гэтага пэрыоду—1912—1914 гады—занесены ім у аддзел „Трывогі й надзеі“ ў зборніку „Барвенак“. І нават калі прачытаеш тыя з іх, у якіх, па аўтору, ідзе рэч аб надзеі, чуеш тую самую трывогу.

Трывога за долю, за марна прайшоўшую моладасьць, за загубу веры ў сьветлую будучыну. Яна ашчаперыла песьняра кагцістымі лапамі і не давала спакою. Нядаўна нядбайны аб сабе, поэта пачаў скардзіцца, што:

√Ня раз у дрэнны час
Думаю-гадаю;
А над чым і за чым?
—Долі я ня маю...“ [2])

[1]) „Барвенак,“ стр. 14—верш ад 1914 г.
[2]) „Барвенак,“ ст. 13.

Ён хоча разуверыць сябе, што ня паў духам, што можа яшчэ „сыграць пабудку таму, хто сьпіць“, але ў гэнай ігры яскрава адбіваецца вялясьць і бязьвер'е. Бадзёрыя тоны—натужлівы і фальшывы; у іх няма запалу, няма натхненьня; сілаю выціснуты на ліры і няўдачлівы, не расьпяяны належна, без завучага, крэпкага рытму. І замест таго, каб адчуць, што сапраўды песьняю „зганяецца ночы сон“, чуеш:

Склеп турмы бяз бляску сонца;
Я адзін ды цень...
І ў высокае вaконца
Ледзьве глянуў дзень.[1])

А з гэтае турмы поэта рвецца, як мага, куды ўжо там падаваць воклічы другім. У самога—

Ні сьцежкі шляху, ні сьлядоў
Ад жыцьця пройдзеных гадоў.[2])

Цікава, што ў ленінградзкі пэрыод у А. Гурлы мала вершаў аб каханьні, аб прыродзе. Наогул—адмячаецца значная пасыўнасьць. Як быццам-бы злая воля адпіхнула яго ад усяго таго, што дае асалоду бадзёрасьці, што запаляе крылатыя жаданьні, што абурвае чалавека. Так сама і першыя крокі да грамадзянскай працы, якія поэта зрабіў дома, наперакор чаканьням, не абагачаюцца, а застываюць. А. Гурло мала цікавіць праца ў культурна-асьветных таварыствах рабочых, дзе концэнтравалася будучая пролетарская грамадзкасьць, дзе адбывалася падгатоўка рэволюцыі. Партыйнасьць, няпрышчэпленая дома, у провінцыі, астаецца чужым зьявішчам і ў Ленінградзе. Толькі ўсяго, што ёсьць магчымасьць пабыць на сходах маладых беларусаў у „дзядзькі Б. Шыпілы“.

Але цяжкія ўмовы сталічнага жыцьця, надавіўшыя на А. Гурлу нечакана для яго, ня выціснулі аднаго пачуцьця—гэта пачуцьця любасьці да роднае краіны. Дзе чулася роднае слова, дзе йшла гутарка аб Беларусі, туды цягнула поэта „нявідзімая сіла“. Можна сказаць, што ў гэтыя часы А. Гурло толькі й жыў радзімай, толькі й падтрымліваў тлеючы агоньчык душы. Знаходзячыся большаю часткаю наядзіне, ён сягаў думкамі да Капылю, песьціў у марах бесклапотныя гадзіны свайго жыцьця, цешыўся асалодаю іх успамінаў. Бо—

Там прыгожа так сонца сіяе
Над радзімай маёю хацінай.
Усякі думку маю там згадае,
Руку помачы даць не праміне.[3])

Даходзіла да гэтага—зламалася душа. У адлічча ад многіх беларускіх поэтаў, як А. Гарун, Ц. Гартны, Я. Колас, Ф. Шантыр і інш., А. Гурло пакуль ня бачыць свайго прызваньня ў паяднаньні музы з політычнаю чыннасьцю. Забывае, што „грамадзянінам быць павінен“. Ленінград адхіліў яго ад гэтага шляху. Нават занёс руку і над гэнаю музаю. Чым далей ішоў час жыцьця на заводзе, тым неахвотней поэта браўся за пяро. Бліснуўшы багацьцем і плённасьцю, ён стаў дужа скупым на творчасьць. Разьвіцьцё таленту, падаўшыся крыху ўперад, таксама застанавілася. Тэхніка мярцьвела, кругазор—не пашыраўся. Паглыбленая

[1]) „Барвенак“, стр. 20.
[2]) Там-жа, стр. 23.
[3]) Там-жа, стр. 14.

самотнасьць зачыняла празорнасьць пагляду і здатнасьць выхапленьня жыцьцёвых вобразаў. Пэрыпэтыі заводаўскага жыцьця з яго шумам і нясупынным развоем; нарастаньне нездаваленьня і протэсту ў рабочых гушчах супроціў пануючага становішча; быт рабочых, акольваючы поэта (колтышы, дзе жыў А. Гурло),—нічога не прабівалася да замкнутае ў свае мукі, аб якіх раней не даваўся пытацца поэта, сіратлівае яго душы.

Цяжка сказаць, у які бок пахіліўся-б поэта, каб яму давялося далей жыць у абставінах рабочага, хоць-бы вышаўшага з вучняў. Але падышла вайсковая служба. А. Гурлу забралі на яе, зачысьліўшы ў матросы. Якраз навучэньне сьлясарству саслужыла ў войску сваю службу. Яго назначылі ў машыннае аддзяленьне рабочым, а гэта абараняла ад каманднае муштры, якая-бы магла паглыбіць душэўны заняпад поэта.

Праўда, цяжкі рэжым ваеншчыны, пры гэным супаўшы з абвяшчэньнем вайны, даваў аб сабе чуць. Цёмны трум карабля, надаедлівы гул машыны гнялі душу і сьціскалі сэрца песьняра. Няволя, вастрог. Алавяным цяжарам павісла дысцыпліна, вядомая дысцыпліна адмірала Вірэна. Ні чкхні! Ні загляні лішні раз у кніжку, ні напішы лішняга радка. Працуй неадгінна, нявыходна на „абарону айчыны". Усе гэтыя прыгожасьці жахлівым чудзішчам апанавалі А. Гурлу, які падцяў сваю веру нудным „Вулканам"[1]). Праглянула безнадзейнасьць выйсьця. Трэба было бачыць поэта ў гэтыя часы—ад яго дарэмна было чакаць таго, што ён пасьля даў.

Толькі цярплівая душа, толькі настрой да затаенасьць вялікай крыўды пасобілі яму перабыць гэты часы... Далей А. Гурло стаў сваім чалавекам на караблі. Звыкся, зжыўся... Выехаў у мора. І тут пачынаецца як-бы новая паласа ў яго творчасьці. Трэба было ачуцца на яго хвалях, каб на шырокім, неабмежным прасторы зразу разьвеяць свой сум, абмыць зацёкшую крывёю душу, захапіцца стыхіяй. Мора шугнула яго вольным ветрам, магутнасьцю, шыр'ю, воляю. І сагнала пыл са струн музы, і настроіла поэта на рэзвасьць. Ён захапіўся морам і прыняў да душы яго дзікі цнотны стан.

Я люблю бурлівасьць мора,
Роўны іскрам хваль крыштал,
Шыр бязьмежную прастору,
Сонца бляск на версе скал,
Чаек быстрае кружэньне,
Гоман іх у высі хмар,
Зранку сонца нараджэньне,
Яго вечарам пажар"[2]).

Аднак, хоць у А. Гурлы і „стогне мора і сьмяецца", яно мае многа „жальбы, трывог". Як „вар'ятнае", „нясецца-нясецца" і разам „баіцца чаго". У гуле хваль ня чуецца сілы, ня чуецца ўпартага разгону, песьняў паходнага маршу, грозных удараў у цьвёрдыя скалы. У гэты час, пакуль, гурлоўскае мора—ня цар, ня волат-стыхія, а пакорлівае стыхіі дзіця. Гайдаецца, калі гоніць вецер хвалі, сьмяецца, калі сьвеціць сонца, плача, калі стыкаецца са скаламі. Адзнакі душэўнага смутку: наскочыць хвіліна—стане крыху весялей; блісунць надзеі, засьвяціцца даль. Тады—

Песьню, песьню мы зацягнем вольным дням,
Што жычліва так зіяюць з далі нам!..[3])

---

[1]) Завод, на якім працаваў А. Гурло да салдатчыны.
[2]) „Барвенак", стр. 125.
[3]) Там-жа, стр. 128.

Фактычна, мора сагнала з А. Гурлы сталічны занялад, сталічны смутак і, ня больш, як вярнула яго да ўзроўню даленінградзкага настрою, да настрою шарага ідэалісты — мрыйніка. У гэты час. будучына ў А. Гурлы—толькі сьветлая пляма, часта гінучая. І пазывы да яе—дзіцячасэнтымэнтальныя. Іх выяўленьне яшчэ зразумела ў тыя гады—1910-1911—калі поэта толькі-што пачынаў пісаць. Сярод сумных напеваў бесчасоўя яны блішчэлі сьветлымі іскрачкамі. Як ужо вышэй адмячалася, А. Гурло ў той час выглядаў нават песьняром „радасных надзей“. Выдзяляўся на шэрым фоне, хоць далёка было да баявых прызываў, да ажыватварэньня ў песьнях працоўных напеваў. Ну, а пасьля таго, калі Ленскі растрэл нанова падняў рэволюцыйную хвалю, калі чырвоныя іскры рабочага руху заблішчэлі вакола і над сьветам „зарэяў сьцяг чырвоны“,—цяпер крохкія надзеі, да якіх вярнуўся поэта, выглядалі шэрымі. Па крайняй меры, яны дапаміналі ціхага Надсона, благачасьцівага Фруга, менш знатных дзевяцідзесятнікаў у расійскай поэзіі.

Мора, узяўшы багата эмоцый, ня ўліло ў душу поэты ваяўнічых і іскрастых слоў палкага пачуцьця, не падбавіла яркіх фарбаў. Не пасобіла яму і матроская атмосфэра. Як і на заводзе, у матроскай бунтарскай сям'і А. Гурло не падглядзеў завучых, дзерзкіх жэстыкуляцый, не падслухаў „бурлівага гневу кіпеньня“. Яго маракі плывуць да тых-жа, сьветлых даляў, куды „заносіў сваю душу“ Фруг.

Тымчасам к 1914 году, калі Ленінград, а за ім і іншыя часткі царскай Расіі садрыгаліся ад выбуху рабочага нездаваленьня, калі матросы нападалі на казакаў на Выбарскім баку, у Ленінградзе мы маем ужо ў багатай беларускай поэзіі досыць „сьветлых пяцен“. Янка Купала, Алесь Гарун, Цішка Гартны, Ф. Шантыр падаюць ваяўнічыя воклічы і выразна апяваюць вольную ў наступным Беларусь, змаганьне за яе прыход, змаганьне за рэволюцыю. Усё выразьней прабіваецца ў беларускай поэзіі колектывісцкі момант, агульныя задачы.

У А. Гурлы-ж паціху і мора губляе „сьветлыя пятны“. Пачынаюць тухнуць маякі. Вершы 1916 году куды смутней вершаў 1914 году—першага спатканьня з морам. І выразна відаць, што поэта і ў другоны раз пачаў падавацца ўхілу ў бок мінорнасьці. Ды нават куды шпарчэй, бо балячаму месцу хутчэй захварэць нанова... Стала відаць, што яму ня выбрацца далей ад стану першай пары. пары пачынаньня. Зьвіхнуўся і не паправіцца. Два гады назад хоць мора „пляскала“ вечнай воляй...

Чайка вольнай узрасла[1])

а ў 1916 годзе нават

Мора поўна вялікага жалю,
Вісьне змрок і туман, дзе ні глянь...[2])

у 1914 годзе:

„Заблішчэлі ў цёмнай далі маякі“...

А ў 1916 годзе:

І патанулі ў цемры маякі.

---

[1]) „Барвенак“, стр. 134.
[2]) Там-жа, стр. 135.

З надышоўшаю цемраю рэакцыі А. Гурло засуцэліў пахільны пэрыод свае творчасьці. З 1910 году да пачатку рэволюцыі 1917 году цягнуўся ён у поэты пераваламі, межанінаю хвіль проблеску з хвілямі непраглядняй шэрасьці. Запяяўшы бадзёра, падышоў да смутку безнадзейнасьці. Адмахнуўшыся ад уласнага жыцьця, ён мусеў вярнуцца да яго і затуліцца ў ім—што ня відаць было нічога Раз за разам, некалькі раз.

Бязумоўна, што гэтыя перабої дрэнна адазваліся на посьпеху і росьце А. Гурлы. Углыбленьне ў самотнасьць і пакора перад сумам абрывалі яго скрыдлы, рвалі струны ліры. Думцы ня было палёту—сэрцу не знаходзілася асалоды. Марыў завалодаць ведамі, вабраць як найболей іх у сваю душу, разгарнуцца з імі і сягнуць сямімільнымі крокамі па шляху мастацкага развою—а замёрз на месцы і, замест палёту, мусеў паўзьці доўгі час роўнаю дарогаю, ня ўзыходзячы на горку.

І мы бачым, што на працягу гэтага часу ў песьнях поэты няма мацнейшых тонаў, не знаходзіцца цянейшых зыкаў, новых мэлёдый. Роўныя, з чуць прыметнымі вібрацыямі. Бледнасьць і чуць аднальковасьць фарбаў таксама. Абмяжованасьць горызонту. Слабае разьвіцьцё формы і тэхнікі вершаваньня. Аднакава старыя меркі, лікам да сямі-васьмі. Пры гэтым такія, што скрадаюць часамі пекную ігру слоў і вобразаў, так мала і скупа намаляваных А. Гурлом за адмечаны пэрыод. У дадатак значнае кульганьне з моваю. Амаль ня кожны верш кідае і частымі русыцызмамі і, асабліва, не-беларускім пабудаваньнем строф, злачыньнем з націскамі, як: „Вось рвуцца радыё драты", „Вінты" замест „трубы", „аганькі" замест „агеньчыкі", „дням" замест „днём", „чоўн" замест „човен" і г. д.

Асабліва рэзка адмячаецца гэта, калі прыраўнаваць вершы А. Гурлы гэтага тэрміну з вершамі яснай зычнай чаканкі ў Купалы, Багдановіча і інш , якія нясупынна расьлі й разьвіваліся, працуючы над сабою. А. Гурло меў менш мажлівасьці для гэтага, але больш старчала ў яго і нядбайнасьці.

І ўрэшце—малапродукцыйная шарая палоса без яскравых плям, канцом у 19.7 год.

З гэтага-ж году, як і другія беларускія песьняры ды пісьменьнікі, А. Гурло амаль ня зусім заціхае да 21 году. Толькі зрэдку, урыўкамі, калі вольны ад удзелу—вольным ці вымусовым—у палітычным змаганьні, поэта хапаецца за пяро. Ды й то? Куды там да песьняў, калі вакола кіпіць вайна за вызваленьне працы, за аслабаненьне прыгнечаных нацыянальнасьцяў! Перш фэйервэрычна падае самадзяржаўе бурліць чыннасьць па аформленьню палітычных партый, рэволюцыйнай законнасьці, нацыянальнага будаваньня. Занесен меч над зданьнем страшэннае вайны, грымяць зыркія прызывы да агульна-людзкога пабратаньня—і помеж, тут-жа, паўстаюць грозныя адзнакі наступнай грамадзянскай вайны. Рэакцыйныя сілы гуртуюцца яўна і скрытна, чуюцца бразгі шабель і міжвольныя стрэлы вінтовак. Працоўны стан гатовіць адпор. Рэволюцыйнае войска, рэволюцыйны флёт. У тым ліку і мінаносец „Забіяка", на якім служыць А. Гурло. Рознымі прычынамі гэты карабель аставаўся слаба рэволюцыянізаваным і, пакуль панавала часовае правіцельства А. Керэнскага, быў у яго паслушэнстве: мінаносец адпраўлялі бараніць каля-рыскія выспы і трымаць бойку з цэлаю эскадраю нямецкаю. Гэта пасьля аддачы немцам Рыгі. Аднак рэволюцыйная пропаганда не абмінула й гэтага карабля. Развой рэволюцыі, які на вогненых скрыдлах нёс чырвоны Кастрычнік, ахапіў полымем пролетарскага паўстаньня ўвесь царскі флёт. У нізрынуцьці буржуазіі прыняў чынны ўдзел і мінаносец „Забіяка". Яго ка-

манда не адрозьнілася ад суцэльнай натхненна-рэволюцыйнай матроскай сям'і. Болей таго: „Забіяка“ хутка становіцца ў першым шэрагу ахоўнікаў Кастрычнікавай рэволюцыі. Каманда „Забіякі“ на весну 1918 году калі Савецкую Рэспубліку акольваюць нязьлічаныя ўнутраныя й надворныя ворагі, становіцца авангардам для змаганьня з імі. Яна папаўняе храбрую Волскую флацілію, якой даводзіцца змагацца з савінкаўцамі пры Яраслаўлі ды з чэхаславакамі пры Казані і ўніз па Волзе.

У атрадзе А. Гурло. Замест пяра—вінтоўка. Ён разам з таварышамі, матросамі, пракладае шляхі да „сьветлае будучыны“, аб якой марыў у надзеях і сумных жаданьнях, і якая так далёка была ад яго ў скрутныя часы яго жыцьця ад 1913 да 1917 г. г. Пракладае, каб пасьля апяваць. Якаво мусіць быць шчасьце для поэты, каторы выступіў з юнацкіх гадоў на службу працоўнаму люду, прыняць удзел у сьмяртэльнай бойцы ня з ліраю, а з вінтоўкаю. Якою бледнасьцю становяцца фарбовыя рысы ямбаў ды хорэяў у параўнаньні з дынамічнымі ўзмахамі караблёў на баявой лініі!

У той вялікі час А. Гурло ня мог пісаць: ён змагаўся з агульным ворагам працоўных усіх нацый старое Расіі.

Паўстаўшая белагвардзейшчына ад выгляду эс-эраў і меншавікоў да аблічча Калчака, Дутава, Карнілава, Юдэніча і інш. нясла з сабою скінуты Кастрычнікавай рэволюцыяй дубальтовы ўціск для нацыянальнасьцей, для працоўных гушчаў „недзяржаўных“ нацый. Дэклярацыя правоў прыгнечанага і абіранага народу стаяла пад пагрозай чорных нацыяналістых з расійскай зямельнай, грашовай і дробна-мяшчанскай контр-рэволюцыі. У перамозе над імі хавалася і вольная Савецкая Беларусь.

У доўгі пэрыод гэтага змаганьня А. Гурло нічога не напісаў. [1]) У зборніку „Барвенак“ толькі два вершы адмечаны 1917 годам, пэўна яго першаю паловаю. У вадным пясьняр, захоплены выбухам лютаўскае рэволюцыі, зразу, пасьля сумных настрояў 1916 году, пераходзіць да ружовых фарбаў.

Рэволюцыя страсянула яго бязьвер'е і выняла з душы сьвятлейшыя тоны. Праўда, тоны далёкія ад гымнаў рэволюцыі, ад урачыстасьці, ад захапленьня надзвычайнымі ў людзкім жыцьці падзеямі. Гэты верш напісаны ўжо баявым цьвёрдым рытмам, запазычаным, да рэчы, ад „Палтаўскага бою“ А. Пушкіна, выяўляе сабою стан мора ў гэткім выглядзе:

Шуміць вада, хвалюе мора,
Карабль мой шпарка ўдаль ляціць,
А песьня вольная з прастору
Мне душу, сэрца весяліць.[2])

Адбітак часу на воку.

А ў другім вершы, таксама ўдарным па строю, ён пяе аб свабодзе ў гэткай форме:

З песьняй звонкай, з песьняй волі
Мы даб'ёмся лепшай долі.
Час сумлівы хай загіне,
Хай нядоля нас пакіне.

---

Па крайняй меры сярод надрукованых вершаў ні адзін не пэмечан гадамі 1918, 1919 і 1920.

[2]) „Барвенак“, стр. 133.

Льлюцца хай вясёла сьпевы!
На загонах рунь пасеваў
Спадзяецца хай уроды!
Воля сьвеціць хай народу![1])

Іншых і больш зыкаў, якія-б адносіліся да лютаўскае ці Кастрычнікавае рэволюцыі, мы ад песьняра ня бачылі. І ад 1917 году мусім зразу пераступіць да 1921 году.

Падлячыўшы нагу, якую раніў у часы грамадзянскай вайны, А. Гурло з Ніжняга Ноўгараду, пасьля доўгай разлукі з Беларусьсю, вярнуўся ў вольную Савецкую краіну, на пабудаваньне якое паклаў ён столькі сілы. Гэта зьявішча вагромністай гістарычнай вагі захапіла поэта. Ці-ж шкадаваць перажытых мук, каб дажыць да гэтага!

А. Гурлом заваладала натхненьне пілігрыма, які, пасьля доўгіх вандровак, без яды і вады, з рознымі мукамі нарэшце прыходзіць да сьвятога месца.

Савецкая Беларусь стала сьвятым месцам для А. Гурлы. Ён захапіўся праўдзівасьцю факту... Вякі пагарджаная краіна мужыкоў і парабкоў, бяствараяя, закінутая, будуе сваё дзяржаўнае жыцьцё і разьвівае сваю працоўную культуру. У сталіцы, абноўленай, выніклай фэніксам з попелу вякоў, сабраліся яе лепшыя сыны і, не шкадуючы сілы ды жыцьця, кладуць моцныя падмуркі новаму ладу, нячуванаму ў гісторыі! А песьняры, што перанясьлі пакутныя дні сочкі за вось-вось маючай згінуць краінай, пяюць літаньні ясназыркай свабодзе, палымянай комуне. Жалобная вопратка разадрана і кінута пад ногі. Змоўклі балючыя

Вісьне скарга уздоўж Нёмна...

і, замест яго, раздаецца:

Я—шумлівы чарот, я—мяцежны бунтар,
Я балота буджу гучным шумам...

І А. Гурло, крануўшы струн ліры, зразу чуе праменныя зыкі, што ўкладаюцца ў песьні-думкі:

Песьні-думкі я складаю
З зораў ясных і праменьняў,
З дарагіх красой каменьняў;
Маладых сваіх імкненьняў
Я патроху прыкладаю.[2])

Клапоціцца, каб яны не завялі, каб вакольныя абставіны не паспасобілі гэтаму:

Каб не завялі,
Каб ня зьбілі іх пяруны,
Я дару ім зелень руні;
Я даю ім зычны струны,
Каб аб шчасьці век сьпявалі.[3])

---

1) „Барвенак“, стр. 42.
2) Там-жа, стр. 9.
3) Там-жа.

На крохкае недавер'е, што, тайком крадучыся, яшчэ прабуе крануць поэта, сеючы сумненьне ў тым, хто-ж „будзе яго песьні слухаць“, пясьняр настайвае, што яго сьпеў

Рвецца ў поле, рвецца ў лес,
Ён абнімае шыр палёў,
Ён даганяе бег руччоў;
Да хараства імкнецца ён,
Заве і будзіць, быццам звон.

А. Гурло нанова, як даўно, у маладыя гады, зноў любіць шчыраю цёплаю любоўю

...месячык і зоры
І сонца радасны усход,
Чырвоны вечарам заход,
Туман навісшы па-над морам
І хваль магутных голас звонкі.[1])

Але шчырэйшым сьмехам яму сьмяецца сонца, прывычней хістаюцца каласы збожжа на нівах, куды яго цягне нейкая сіла, яму клён

Шуміць лістамі, нібы звон.

Яму адчыніліся зусім новыя кругазоры, разгарнуўся далёкі пазем, як завеса, што доўга хавала за сабою жаданую красу, і ён любіць

...лесу шум вясеньні
І ў ім птушыны першы сьпеў,
Магутнае журчаньне
З гары бягучае вады.[2])

Дзівіцца поэта, гледзячы на ўсход, бо з усходам, ведае ён, „сьвятлом раніцы ўп'ецца“.

Гэта сонечная раніца адчыніла й асьветліла новыя шляхі жыцьця. Раней яна

Была заросшы палыном
І блудам нейкім і трывогай...
Ніхто ня знаў, дзе пэўны шлях,
І скрозь цяжар і скрозь прымусы
Таіўся голас у грудзях...[3])

А цяпер

Мы чуем песьню, песьню-гудку,
Яе іграе нам дудар...

Гэткія жыцьцёрадыя мотывы прэваліруюць у А. Гурлы на працягу ўсяго 1921 году. Ад іх нясе прыемным настроем і задавальненьнем за адраджэньне песьняра. Не глядзіш і забываеш, што рознастайнасьці тэм таксама скупа, што тэхніка зусім нязначна пасунулася ўперад, што заграмаджэньне нявыразкымі разуменьнямі звонка-выразных у пачатку вершаў даволі многа, што пабудаваньне каструбатае, без элястычнасьці, бяз плаўнасьці, без дасьціпнага ахайваньня. Забываеш—і тут-жа бачыш,

1) „Барвенак“, стр. 46.
2) Там-жа, стр. 65.
3) Там-жа, стр. 143.

што ў поэты ёсьць задаткі хаценьняў і здольнасьці пакрысе папраўляцца, прогрэсыраваць, як расійцы кажуць, „усовершенствоваться“. Узварушаны гэтымі данымі, пераходзіш да 1922 году. І праўда, посьпех у тэхніцы і рознастайнасьці тэм—на далоні. Вось чытаеш:

### У ДАРОЗЕ.

Эй, праклён вам, злыя буры, маразы!
Ў гурбах сьнегу вязнуць коні...
Эх, халодны дзень сягоньня!..
Стогнуць жальбаю марознай палазы...
Эй, нясеце-ж, мае коні, вы мяне.
Не хачу я ў гурбах сьнегу
Ні спачынку, ні начлегу,
Бо чакае недзе шчасьце ды ня ў сьне...[1])

Новы памер—новая архітэктоніка. Парывістасьць, наступ у форме. Гладкасьць у апрацоўцы, адшліфоўка, кідаецца ў вочы. Люстраная яснасьць сэнсу. Пясьняр перамагае нядбайнасьць, якая часта праглядае няграматнасьцю. Кожны верш далёка адыходзіць ад папярэдніх сваёю суцэльнасьцю. Дзе й знаёмы памер—усё-ж здаецца ён новым, калі адчуваеш усю яго дагледжаную вытрыманасьць.

Насьпелы колас гнецца к долу,
Вядзе вятрыска з ім гамонку;
І звоніць серп сталёвы звонка
У тахту з песьняю вясёлай...

Адмячаецца пабагачэньне й тэм.

Поэта пачынаюць цягнуць да сябе й працоўныя напевы; але яшчэ цягне праца земляробская, на ніве, на лузе, на прасторы, пад сонцам. Праца, якую ён бачыў у горадзе, на заводзе, якая глушыла яго сваім жалезным цяжкім шумам і сьвістам, якая душыла смуродам ды чадам,—гэта праца пакуль ня можа выціснуць з яго ліры адпаведных напеваў.

У гучным стуку малатоў, у бразгу жалеза А. Гурло яшчэ ўсё бачыць дысгармонію, нявыразны гул стыхіі індустрыяльнага чудзішча. Але ўжо не баіцца яго, а прыглядаецца, прычуваецца, каб хутка прыняцца за апяваньне...

Праўда, для А. Гурлы ўсё яшчэ праца на полі, хоць і цяжкая ды потная, затое прыхарошаная зеленьню, сонцам ды кветкамі, праца з посьвістам касы, з матляньнем сярпоў, з песьнямі жніўнымі,—гэта праца, знаёмая песьняру, пралазіць у яго душу і трумціць струнамі ліры.

Блішчаць на сонцы стальлю косы,
З касы зганяюць срэбра росаў,
Ў рады, у стройныя палосы
Кладуцца сьвежыя пракосы.[2])

У палявой працы поэта бачыць урачыстасьць творчае сілы, уздым энэргіі, панаваньне здаровага пачатку. Праца на полі—са значнаю дозаю музычнасьці, з радасным настроем.

---

[1]) „Барвенак“, ст. 121.
[2]) Там сама, ст. 94.

Не здарма ўсё выглядае перад ім у ружовых, жывых фарбах. Косы блішчаць, раса серабрыцца, даль ясьнее, мянтушкі зычаць. У вогуле—усё пяе жыцьцю літаньню, высноўвае песьні нараджэньня. Здавалася-б, што пры касьбе—зелень замірае, вянуць кветкі, шарэе залёны гал, ападае тэмп жыцьця—мусіла-бы павейваць сумлівым настроем, а тота-ж сум гіне ў адзнаньні разумнага погляду на натуральны процэс жыцьця, растае ў бразгу косаў і вяртаецца да вуха ў музычным зыкасплёту. Праца вытыркаецца пераважным момантам, вышэйшым пачаткам. Ня дзіва, што перад ёю, чакаючы яе прыходу—

Сьпелым звонам зазьвінелі каласы...
Шыр далёкая
І бунтуе, і хвалюе, і пяе;
Нейкай радасьцю і шчасьцем аддае...
Каласы
Чакаюць, калі прыдзе жняя жаць,
Калі будзе песьні жніўныя пяяць...

Гэтай парою пясьняр, наогул, жыцьцёрадасна глядзіць на сьвет, на ўсё, акольваючае яго. Як-бы нехта выпусьціў з яго душы балючы нарыў жуды, аблягчыў яе і ўдыхнуў здаровыя сокі энэргіі. З шарае беспрасьветнае імглы ўхмыльнулася яскравае сонца, затапіла сваім праменьнем абшары і затрапятала яму калыханьнем радасьці. Поэта ў натхненьні ад летняй ночы, якая напоўнена сокамі жыцьця, асалодаю бытаваньня. Ён чуе яго рухі ў „зыку лістка і былінкі“ і ня можа самкнуці воч бо—

Салодзіць ўсё і ўсё п'яніць—
І пах пасьпелай садавіны
І шум лістоў, як шэпт дзяўчыны.

Абураны прагаю жыцьця, ён „бачыць нейкі рай“, ня любіць красы каторага—грэх. Так бывае шчасьліва птушка, якую, пасьля доўгай няволі, выпусьцілі з клеткі.

Для А. Гурлы жыцьцё дарэволюцыйнай пары з усімі яго адваротнымі атрыбутамі, было няволяю. Ён гэта адчуваў, цярпеў ад гэтага неміласэрна, пакутаваў і ня меў надзеі прагледзець яго канца. Нечакана ўсё-ж канец прышоў—ды шумлівай хадою, з громам ды бураю, з маланкамі. І поэту выплеснула на прасторы, на волю, якой ён апіўся, набраўся натхненьня, азіяўся бляскам проміну. Адчыніліся шырокія відокі, і ён угледзеў, што сьвет апанавала бура новага жыцьця. Але сама сутнасьць рэволюцыі, якая захапіла поэту ў свой вадакрут і зразу не праняўшая дашчэнту яго душы—асазналася пасьля. Яна ўстала перад ім у поўнай сваёй статнасьці, магучай сілай, непаборнай будаўніцай новых форм, іншых адносін, крэпкіх падмураў сьветлых дзён панаваньня працы і вызваленьня толькі ў канцы 22 і пачатку 23 г. І яе хаду А. Гурло намаляваў у разыходзе буры:

Завыла бура, імчыцца полем,
Зьмятае сьмецьце, варушыць пыл...
Завыла бура—ёй шмат раздольля,
У ёй дастатак магутных сіл...
Завыла бура, ўзьнялась над вёскай
І рве салому з струхлеўшых стрэх...[1])

[1]) „Барвенак“, ст. 110.

„Бура бунтуе хваляй абшар прастору і шырыць болей свой стромкі гмах“. Бура расчысьціла прасторны шлях да сьветлых даляў. Яны глянулі поэту ў вочы ня смутнымі ды нявыразнымі, а яркімі, пыхаючымі, жывымі вобразамі хараства. Яны ўжо пакінулі адводзіць гора й смутак, а сталі даваць бадзёрасьць, уліваць сілу ды натхненьне ў яго душу. І ў поэты гіне апатычная нярухомасьць, адчыняюцца на ўсе зрэнкі праглівыя вочы... Поэту хмеліць і бунтуе водырны пах моладасьці жыцьця, і ён дзерзка выгуквае:

Хіба я ня князь ўладарны
Над жыцьцём і над стыхіяй?

Горда зычыць з яго вуснаў рашучае слова чалавечай вартасьці, сілы і пераважнасьці над натураю. Прыгнечаныя рабы—гушчы працаўнікоў, з якіх і поэта—скінулі няволю і сталі гаспадарамі жыцьця. Тут ён павяртае да заводу, да рабочага, да пролетарскай стыхіі. Ушчэнт разьляцеліся перад яго азнаньнем фальшывыя легэнды аб тым, што рабочы ня здацен да творчай працы, што яго лёс і заданьні—працаваць згодна вуказцы „белай“ косткі. Не! Колектыўная сіла і воля працаўнікоў—адзіная аснова людзкога жыцьця ды яго поступу. І ў стукаце малатоў А. Гурло цяпер пачувае зусім новыя ноты—тыя-ж ноты ўрачыстасьці, што і ў буры ды навальніцы. Няхай яны страшныя, няхай сіберныя, але ўжо не для яго, не для рэволюцыянэра-ваякі. Калі ў 1913 годзе яны кавалі ланцугі, то цяпер разьбіваюць муку й няволю. Калі раней чуўся ў іх грукаце звон пагарды, то цяпер пяе блаславенства сьвятошнага звону.

Стукае молат паўднёвымі ўдарамі,
Суліць растацца з мукай, з цяжарамі,
Будзіць палёт пачуцьця...

Сапраўды будзіць палёт пачуцьця і маніць поэту ў горад, у завод, туды, дзе калісьці ён мучыўся ды нудзеў. Цёмны, дымны, чадны—то ў мінулым. А цяпер—іншае. Завод—гэта горан, дзе гартуюцца моцныя душы. А ня то—завод—музыка, нават, вясёлая, пераліўная, захапляючая. Пясьняр рашуча пачынае даходзіць да гэтага, пераконваецца. Пахіл да вясковай працы, пераважнасьць яе над працаю заводзкаю паступова меншае, і чым далей, тым з большай пільнасьцю Гурло пачынае прыслухоўвацца да зыкаў заводзкага жыцьця. У канцы 1922 году, якраз пасьля жніва, асаладзіўшыся „сьвістам касы ды сярпа“, поэта пражэ больш экстэнсыўнай працы, дынамікі, колектыўна-зьлітнай рытмікі рухаў і стукаў і бегу машын. Яго сэрца здрочыць адчуваць нясупыннае калыханьне. Ён чуе

Машынны звон, стальны,
Магутны, ён мой гоніць сон...

Там—

Скрозь дым і муць куюць, куюць
Жалеза і чыгун...
А печы дзьмуць—агнём плююць...[1])

[1]) „Барвенак“, ст. 206.

„Завод гудзе ў далі ад ніў ды сёл“. Але гэта нічога. Поэту кліча ў завод паравік, яго вабяць машынныя гукі, і ён сьмела заяўляе:

Дзе пануе на вуліцах змрок,
Я прарэжу яго, як маланкай,
Мне падуладны жалеза і ток—
Я прымушу стаць ноч пазаранкам.

Бо ў нашага песьняра адчуваецца ўжо сіла сьлесара-тварца, якая выяўляе незамерлае пачуцьцё свае роднасьці з заводам, з цяперашнім заводам, дзе не нявольнікі капіталу, а будаўнікі працоўнай дзяржавы. Даходзіць да таго, што А. Гурло сазнаецца, што любіць „фабрык пераклічку“:

Люблю я фабрык пераклічку,
Іх раньні гук,—
Вядома працы мне прывычка,
Мазольнасьць рук!
Як толькі зьнікне з пазаранкам
Туман і цень,
Машынны зык ляпей шарманкі
Сустрэне дзень...
Шчасьлівай долі ў ім надзея
І працы сьпех,
Яго музыкай душу грэю
Замест пацех...
Зброя для рук—мае мазолі,
А жылы—дрот;
Загэтым я кірую к волі
Свой гмах-палёт[1]).

Гэтым і пазьнейшымі вершамі поэта выразна пачынае адкрываць свае пачуцьці пролетарскасьці. Ён становіцца цьвёрдаю ступою на шлях змаганьня за зацьвярджэньне новай работніча-сялянскай культуры. Выпрацоўваецца няхілкая, роўная лінейка яго далейшага разьвіцьця ў напрамку рэволюцыйнага поступу...

Ня будучы комуністым, ён, аднак, шчыльна падышоў да комуністычных ідэй і стаў шчырым падарожным. Савецкая ўлада—яго ўлада. Бо хто-ж, апроч яе, так шырока разьвінуў нацыянальную політыку? Хто даў мажлівасьць вольнага разьвіцьця беларускай культуры? Толькі комуністычная партыя, партыя рабочых. А. Гурло яскрава гэта адзнае і рад і шчасьліў за сваю радзіму, якую нямерна любіць і якой удзяляе добрую частку свае творчасьці.

Калі мы кажам, што ў творчасьці А. Гурлы адзначаецца новы пахіл, пахіл у бок „песень працы“, то гэта не гаворыць за тое, што ён хацеў-бы чуць іх „унепрастранства“, саміх па сабе. Не! А. Гурло сазнаецца, што ён рад-бы бачыць заводы ў сваёй краіне і чуць песьні „працы“ ў родных мэлёдыях. Затое ён—нацыянальны поэта. Так! Нацыянальны элемэнт у творчасьці А. Гурлы праходзіць чырвонаю ніткаю, ня ўбывае да апошніх часоў. Краіна—Беларусь—як краіна працоўных гушчаў, раней, да яе вызваленьня, выклікала поэтаву спагаду, смутак наст-

[1]) „Барвенак“, ст. 210.

рою, скаргі і затаеную злосьць да прыгнятацеляў. Тады любіў яе поэта і шкадаваў. А зараз поэта любіць сваю радзіму, як калыску рэволюцыі, як выспу, дзе будуецца вольнае жыцьцё. Любіць не пачуцьцём кутніка-абываталя, не пачуцьцём краявіка-шовіністага, а душою рэволюцыянэра-працаўніка, бунтаўшчыка-патрыёта. Так любілі комунары французскую комуну, так любяць работніча-сялянскія масы свой СССР. Любяць, да гэтага, не платонічна, ня словамі, а з пачуцьцём самаахвярнасьці. А. Гурло радуецца, што „ўжо час ліхі мінуў“, што „зацьвітае ўжо красою наша бацькаўшчына-маць“. Ён жадае селяніну „жыць у гэтую пару“. А краіну блаславіць з рэволюцыяй, з вызваленьнем:

Весяліся, край-старонка,
Пасьля горкай долі,
Сьпявай песьню сваю звонка
Ў хаце, ў лузе, ў полі.
Хмары згінулі на небе,
Сонца сьвеціць з высі;
Ў чарназём і тлусту-глебу,
Край мой, убярыся!
Распачні з ахвотай працу
На заросшай ніве,
Замест хатаў—строй палацы
Новых дзён шчасьлівых;
Бо даволі ў цьме блудзілі,
Гінулі бясконца...
Зацьвітай-жа, край, красою,
Як вясною кветкі!
Гостры плуг і серп з касою
Пройдуць хай палеткі![1])

Доля радзімы, Беларусі,—доля поэты. Шчасьце і воля працоўных мас—яго воля і шчасьце.

Новаю думкаю душу парадую,
Новай, нязнанай надзеяй уп'юся—
Край мой родны к жыцьцю ўзварухнуўся.

Пэўна, што да рэволюцыі ён ня жыў, а марнеў, безварухна стаяў на адным месцы. А цяпер узварухнуўся, і А. Гурло стараецца прылажыць сваю долю працы, долю сваёй энэргіі для таго, каб гэты ўзварух ня спыняўся, не аслабяваў. Ён хоча ўсімі фібрамі свае шчырае душы давясьці сваю краіну да культурнага, экономічнага і гаспадарчага ўзроўню апярэдзіўшых яе краёў. І адзнае, што гэта будзе тым хутчэй, чым хутчэй Беларусь пакрыецца гігантамі-заводамі, калі над яе ціхімі прасторамі панясецца гул малатоў, песьні сырэн, калі заўюцца пукі чорнага дыму. Малаты выкавалі рэволюцыю—малаты выкуюць культуру. Ня трэба быць тэорэтыкам экономічных ведаў, каб спыніцца на гэтым прогнозе. Рабочы (а А. Гурло—рабочы) жыцьцём пераконаны ў гэтым. І чым далей, тым больш і больш сымптомаў за тое, што наш поэта павarочвае сваю творчасьць у бок гарадзкое стыхіі. Нашчупвае грунт да дасканалай пролетарскасьці. І яму ўдаецца гэта. Цьвярдыня, вагкасьць,

[1]) „Барвенак“, ст. 159.

гучнасьць выразьнеюць у яго строфах. Пераймаецца сугучча тых ці іншых процэсуальных тонаў пры рабоце і ўдала перакладаецца ў склады вершаў:

А стружка, нібы ўюн,
Варштат грызе... Яна паўзе
З зубоў яго на дол...
Аж пот ідзе... Завод гудзе...

Рэальны вобраз—жывы вобраз. Бо А. Гурло ў апошнія часы—поэта рэволюцыйна-рэалісты. Яго завод прымацован да зямлі, зямля-ж злучана з ім блізкасьцю і роднасьцю працы. Яго праца—з акрэсьленай мэтай, праца дзеля збагачэньня зямлі, для яе вытворчага гадаваньня больш багатай прыгожасьці.

А. Гурло, аддаючы ўсё большую ўвагу элемэнтам пролетарскасьці, пакуль не пераходзіць граніц і ня кідаецца ў прасторы бязьмежнасьці ў гэтым напрамку. Пакуль яго рабочы—не адарваны ад прыроды, не абяздушаны, не перавернуты ў шрубу вагромністай машыны. І гэта—добрая адзнака. Спыніўшыся на гэтым, поэта сумее астаяцца і мець здаровую точку гледжаньня. Бо тут-жа побач мяжуе хілкі шлях—гэта шлях вузкага індустрыялізму. Расійская поэзія ўжо перажыла гэты ўхіл, выразна вытыркшы яго ў 1919 і 20 годзе. Сьвет—бяздушная фабрыка,—вось яго аснова. Чорная і цяжкая. Як ня цікавен завод, якава-б ня была захопліваючай і ўздымнай праца ў ім, рабочаму хочацца адвясьці душу ў шумлівым лесе, на беразе рэчкі, на лугу ўквечаным, між густога жыта. Вось чаму А. Гурло й стараецца паяднаць гэта пачуцьцё ў вадным твары. Хоча абхарошыць, авільжыць сокамі шарыя, чадныя і сухія шкілеты сьцен і машын у заводзе. Хоча вобраз пастораў умясьціць у чатырох сьценах... Гэта цікава... Далейшае пакажа, як пойдзе яго разьвіцьцё на новым шляху і як сумее на ім утрымацца пясьняр. А пакуль мы радзім трымацца менавіта гэтага шляху. Мы радзім кінуць хістаньні і озіркі на самотныя развагі ды на любоўныя палотны. Яны не ўдаюцца поэту. Слабы, бяз пластыкі, бяз сочнасьці. Быў час, аддаў увагу—і годзі. Беларуская поэзія мае пэрлы гэтага жанру ад іншых поэтаў, якія і часам і талентам вышукалі іх досыць. Песьні каханьня Янкі Купалы цяжка перасягнуць здольнасьцю і прыгожасьцю. Вядома, гэтым мы ня думаем сказаць, што ў А. Гурлы нічога каштоўнага не напісана на адзначаныя тэмы. У адпаведным аддзеле яго зборніку „Барвенак"—„Чары каханьня"—ёсьць ня дрэнныя вершы, але яны напісаны як быццам-бы між іншым, у вольны ад працы час, на пасьля, і таму—шмат слабейшыя за вершы на грамадзянскія тэмы. У іх не выглядае вялікай здольнасьці, бракуе ў іх і індывідуальнага пачуцьця. Занадта шмат вытыркае запазычаньняў, а дзе сваё, уласнае—там сочны прымітывізм як у форме, гэтак і ў рытме. Не пакрыўдзіцца поэта, калі мы скажам, што ён сам адвёў сваім малачароўным „чарам каханьня" скупа месца ў „Барвенку". З адзнаньнем іх другараднасьці, на добры лад яму ня трэба было-бы даваць і таго, што дадзена з гэтага аддзелу; тады зборнік вышаў-бы больш цэльным і закончаным.

А. Гурло пераважна поэта пастораў і надзей. У апошнія часы яго разьвіцьцё нормальным парадкам сягае далей, уступіўшы ў рэволюцыйна-пролетарскае ўлоньне. Гэта натуральная хада поступу. Прымаючы пад увагу пору поўнасільля поэты—яму толькі перайшло за 30—можна

спадзявацца бачыць ад яго шмат каштоўнага для беларускае працоўнае літаратуры. Тым болей гэта можа быць, калі ён не палянуецца папрацаваць над сабою з боку пашырэньня свайго вокагляду і з боку больш пільнай апрацоўкі свае мовы і тэхнікі вершаскладаньня. Многа псуе вочавідкая нядбайнасьць у апошнім.

Наогул-жа, паступовае разьвіцьцё А. Гурло знамянуе сабою нясупыннае разьвіцьцё беларускае літаратуры ў агульным ахопе і ў абасобнасьці да кожнага аўтора, а гэта сьведчыць ёй багатыя мажлівасьці. Дык вось—у надзеях над прасторамі!

17/VII—24.

# ЦЁТКА.

## Я. Хлябцэвіч.

Рэволюцыйны рух 1905 году сярод рабочых і сялян Беларусі яскрава выявіўся ў асобе беларускае поэтэсы Алёізы Пашкевіч, вядомай пад псэўдонімам „Цётка“.

Дачка бедных сялян Лідзкага павету Віленшчыны Алёіза Пашкевіч (Кейрысовая) з маленства спазнала душой гаротнае жыцьцё бедных людзей, што нудзіліся пад цяжарам панскага ўціску. Вось чаму Цётка ўнясла ў сваю рэволюцыйную чыннасьць жывую душу бедака-рабочага й селяніна і яе вобразную праўду, сялянскую прастацкасьць і шчырасьць. Вершы Цёткі гралі ролю агітацыйных проклямацый, паддаваўшых духу да рэволюцыйнай барацьбы рабочым Вільні і сялянам Беларусі.

У часе рэволюцыйных надзеяў перад агульнай забастоўкай у кастрычніку 1905 году Цётка падмацоўвала энэргію рабочых і сялян Беларусі. У вершы „Вера Беларуса“ Цётка моцна праканана ў блізкасьці рашаючага моманту:

Веру, братцы, ў нашу сілу,
Веру ў волі нашай гарт:
Чую вагонь ў нас—ня брылу,
Бачу, братцы,—мы ня з карт.
Мы ня з гіпсу—мы з каменя,
Мы з жалеза, мы са сталі;
Нас кавалі у пламені,
Каб мацнейшыя мы сталі.
Цяпер, братцы, мы з граніту,
Душа наша—з дынаміту,
Рука цьвёрда, грудзь акута,—
Пара, братцы, парваць пута[1]).

Гэтае прагненьне барацьбы з царызмам і буржуазіяй знайшло вобразна-народнае выяўленьне ў вершы „Пад штандарам“[2]).

Ня плач, матуля,
Ня пляч, татуль,
Што забілі Вінцуля,
Што ня прыдзе адтуль;
Што чырвоны штандар
Прад народам ён нёс,
Што крычаў: „Гасудар,
Ці наеўся ты сьлёз?
Ці напіўся крыві,
Ці пакрыўдзіўся нас?
Мы з штандарам прышлі—
Расплаціцца ўжо час“.

---

[1]) Skrypka biełaruskaja, у руск. выд. „Гаўрылы з Полацку“ 1906 г.

[2]) Верш напісаны Цёткай у 1905 г. і зьмешчаны ў зборніку пад назвай „Хрэст на свабоду“, выданы ў 1906 г. ў Львове.

Растрэл работніцкай дэмонстрацыі, на чале якой рабочы Вінцуль нёс чырвоны штандар, рэволюцыйныя хаўтуры з шматтысячным натоўпам-процэсіяй—„Вінцуля на могілкі нясуць“—і ўсе гістарычныя абставіны царызму, стварыўшыя ўмовы, рэволюцыянізуючыя шырокія масы й салдат, якія дагэтуль растрэльвалі работніцкія дэмонстрацыі, а пасьля зрабіліся „сьвядомымі“,—усе гэтыя вобразы 1905 г. выражаны ў тым самым вершы:

І салдат не такі,
Як тады к нам страляў:
Капітан ня жывы,
То-б яго не пазнаў.
Няслуханы салдат
Афіцэру гіркне:
„Я народу—сын, брат!“
У дэмонстрацыі йдзе.
На прыказ падаць залп
У чырвоны штандар
Выстрал пусьціць у жарт
У аблокаў аўтар.
А народ і пяе,
Пад штандарам ідзе,
На ворага-цара
Крэпку руку нясе.
Нясе доўг у грудзёх
Для тыранаў, цара,
І прыказ у вачох:
„Цару згінуць пара!“

З імем аўтора гэтых вершаў-проклямацый, Цёткай, зьвязаны першыя спробы масавай рэволюцыйнай агітацыі сярод рабочых і сялян на Беларусі ў 1904-1905 г.г., калі ўпяршыню выступілі цэлыя рабоча-сялянскія масы, а не асобныя групы й гурткі.

Цётка прымала ўдзел ва ўсіх нелегальных мітынгах, работніцкіх сходках і вучнёўскіх гуртках, а калі надышоў час адкрытых мітынгаў з кастрычніка па сьнежань 1905 г., дык Цётка выступала ў Вільні й Нова-Вялейску, заўсёды сьледам за вядомым таварышам Сьцяпанам Вігілевым[1]), які карыстаўся надзвычайна вялікім уплывам на рабочых і вучняў г. Вільні.

Успамінаецца выпадак на адным гэткім мітынгу ў клюбе чыгуначнікаў у 1905 г., наладжаным лігай роўнапраўнасьці жанчын; выступалі тады прамоўцы ад усіх соцыялістычных партый, разглядаўшыя жаночае пытаньне, як частку рабочага пытаньня. Цётка-ж адразу пачала так: „Працавітай бядноты тут няма, а толькі капялюшніцы“[2]) і так далей у тым самым тоне, прычым, нарэшце, Цётка прапанавала работніцам уваходзіць ня ў лігу роўнапраўнасьці жанчын, а ў соцыялістычныя партыі.

Прамовы Цёткі заўсёды на мясцовай мужыцкай мове ўносілі элемэнт прызнаньня грамадзкае асабістасьці й людзкое вартасьці ў беларускім рабочым і селяніне, якіх лічылі дагэтуль за „быдла“ мясцовыя паны, шляхта і расійскія урадьнікі.

[1]) Відны лідэр Р.С.-Д. партыі, меўшы вялікі ўплыў на работніцкія масы г. Вільні ў 1905 г., аб якім пазьней клапаціўся Ленін. Гл. арт. Ганецкага ў „Правде“—сакавік-красавік 1924 г.

[2]) Шляпніцы.

Дзякуючы мастацкай вобразнасьці і сялянскай прастацкасьці беларускай мовы, б'ючай сваімі праўдзівымі словамі, Цётка карысталася вялікім пасьпехам і ўвагай з боку рабочых і сялян. Віленскія рабочыя расхоплівалі яе вершы і з вялікай цікавасьцю дэклямавалі іх на фабрыках і заводах і, нават, на вуліцах.

Вялікасьць рэволюцыйных падзеяў 1905 году і чаканьне шырокіх пэрспэктыў выклікалі ў яе душы новыя сілы, новы ўздым рэволюцыйнае творчасьці, знайшоўшы водгук у псыхолёгіі мас. Вяшчуны рэволюцыі 1905 г.—вялізарныя рабочыя дэмонстрацыі, растрэльваемыя царскім урадам—і наогул уся расійская рэволюцыя вобразна выяўлены ў вершы „Мора“:

Мора вуглем цяпер стала,
Мора з дна цяпер гарыць,
Мора скалы пазрывала,
Мора хоча горы змыць.

Мора злуе, крэпнуць хвілі,
З дзікім шумам бераг рвуць;
Гром грыміць кругом у мілі,
З мора брызгі ў неба б'юць.

Месцам хваля стонам рыкне,
Месцам плач сарвецца з губ,
Месцам бераг болем ікне,
Гром грыміць у тысяч труб.

Мора зброіцца палкамі;
Шум русалак разбудзіў.
Запаліўся смок агнямі;
Неба чорны гнеў накрыў.

Бог сярчае: злая бура
Псуе вельмі сьвяты сон;
Б'ецца, рвецца ўся натура.
Аж дрыжыць нябесны трон.

Трон дрыжыць, ня сьпяць прарокі.
Бог склікае сьвяты сход;
А там радзяць, што аблокі
Мусяць штурм пусьціць у ход.

Бой пачаўся. Войска бога
Жалпам паліць ў горды хвіль...
Мільён згіне, нова змога
Расьце крэпка праз сто міль.

Растуць сілы мора злога,
У размаху відзен гарт,
Не адступяць войску бога...
Бой пачаўся не на жарт.

Такі бой вякамі жджэцца,
Такі бой гігантаў дасьць;
Ў такім бoі толькі грэцца!
Ў такім бoі толькі пасьць!

Бягучыя падзеі—як 9-га студзеня,—павялічыўшыя рэволюцыйны рух сярод пролетарскіх мас у зьвязку з іх агульным бяспраўным станам, Цётка скарыстала тады з агітацыйнай мэтай, што на простай беларускай мове прыбліжала яе творы да шырокіх мас. Гэтак, у вершы „Хрэст на свабоду“ чытаем:

Ў Пецярбурзе зьмерлі людзі:
Ім прышылі куляй грудзі,
Бо то з песьняй і алтарам
Пайшлі з папом перад царам,
А цар сыпнуў, як-бы з неба,
Тысяч куляў—так і трэба!

* * *

Дурняў хрысьцяць на свабоду,
Цар навуку даў народу,
Паказаў ім, як-бы з неба,
Што больш цара не патрэба.

Народ зразумеў, як трэба здабываць сабе свабоду; вочы працоўных, верыўшых яшчэ ў цара, расчыніліся. Гэтае асьведамленьне масамі неабходнасьці рэволюцыйных сродкаў барацьбы з царызмам выражана ў словах таго самага вершу:

Трэба шроту, бомбаў, стрэльбаў,
Трэба біць нам гэтых шэльмаў;
Чуе яшчэ голас з неба,
Што цара павесіць трэба!

* * *

З тэй пары Масква, Варшава,
Рыга. Вільня, Бак, Лібава,
Беларусь, Літва, Расея
Гоняць вон цара-зладзея.
Народ чуе голас з неба,
Што больш цара не патрэба.

* * *

Бомба—трах! Сяргей[1]) у шматы;
Мірскі[2]) бяжыць аж да хаты;
Цар у страху, сэнат млее;
Беданосцаў[3]) аж хварэе.

* * *

Кладуць сеткі, каскі, бляхі,
Найбольш страшаць—гэта ляхі,
Ціха колюць, цэльна стрэляць,—
Так, як жыта, чарцей меляць,—
Народ чуе голас з неба,
Што свабода яму трэба.

---

1) Вялікі князь Сяргей, пакараны Каляевым.
2) Міністар унутраных спраў Сьвятаполк-Мірскі.
3) Пабеданосцаў.

Гэты верш, як і папярэднія, выданы быў Беларускай Грамадой у 1905 г. і распаўсюджаны ў дзесятках тысяч экзэмпляраў.

Шмат разоў пішучаму гэтыя радкі даводзілася наглядаць, з якім здавальненьнем віленскія рабочыя чыталі гэтыя вершы-проклямацыі на вуліцах пролетарскіх кварталаў.

Яшчэ з большай агітацыйнай сілай уплывалі гэтыя вершы на псыхолёгію беларускіх сялян; апошнія, упяршыню пачуўшы вершы аб волі і зямлі на сваёй роднай, простай, мужычай мове, бачылі ў гэтым прызваньне чалавека ў мужыку і ўзвышэньне свае людзкое вартасьці, усьведамлялі сваю рабочую й сялянскую грамаду-колектыў.

Цётка адразу схапіла сваім поэтыцкім чуцьцём усю глыб і дзейнае значэньне рэволюцыйнай пропаганды на беларускай народнай мове, выражаючы простымі мужыцкімі і дзеля гэтага блізкімі для беларускіх рабочых словамі ўсю соцыяльную крыўду.

У гэтых простых, створаных народнай стыхіяй словах, адчувалася жывая туга і нянавісьць да паноў, ажыцьцёўленых у трапных вобразах, бо каму-ж, як не беларусам, давялося выцерпець столькі бяды ад розных паноў і ураднікаў, якія зьневажалі іх, называючы іх імем „хамаў" і „хлопаў"...

Соцыяльны быт беларускіх сялян адбіўся ў беларускіх народных песьнях (палявых, пакосных) з іхным рытмам працоўных дзеяньняў. Паходжэньне беларускіх песен—працоўнае: у часе працы рытм уносіць экономію ў працоўны процэс і прывучае іх да колектыўных дзеяньняў. Цётка, як дачка бедных сялян, з маленства ўспрыняла мотывы працоўных песен беларусаў, спазнаўшы разам з імі самае жыцьцё і цяжкую пад'ярэмную працу земляробаў. Вось чаму кожнае слова яе, пранікнутае соцыяльным зьместам і ажыцьцёўленае ў мастацкіх вобразах так рэволюцыянавала народныя масы, ня кажучы аб тым, што ў стасунку політычнае асьветы простая беларуская мова або, як называлі яе, мужыцкая, была самым вобразным сродкам агітацыі й пропаганды, што ў свой час (1863 г.) зразумеў віленскі Мураўёў-шыбельнік, забараніўшы ўсялякія выданьні на гэтай мове (забарона трывала да 1905 году).

Уплыў агітацыі і пропаганды на беларускай мове адпавядаў псыхолёгічнаму складу беларусаў і дзеля таго быў мацнейшы за выданьні на расійскай мове, асабліва на сялянскія масы Беларусі.

У гэтым пішучы гэтыя радкі беспасрэдна праканаўся ў вёсках Бельскага, Беластоцкага і Слонімскага паветаў Горадзеншчыны, а таксама і ў Віленскім павеце (у сёлах каля Нова-Вілейску).

Асаблівай популярнасьцю пасьля вышэйпаказаных вершаў Цёткі карысталася беларуская газэта „Наша Доля" (усе шэсьць нумароў яе былі конфіскаваны ў 1906 г. ў г. Вільні) і потым заступіўшая яе месца „Наша Ніва".

У гэтай газэце відны ўдзел прымала Цётка, зьмяшчаючы вершы, будзіруючыя рэволюцыйную энэргію працоўных мас. Якую ролю адыграла „Наша Ніва" для грамадзянскага выхаваньня мас у часе царскага рэжыму відаць з таго, што яна ўпяршыню *выявіла* беларускіх поэтаў з народнае масы, як Якуб Колас, Янка Купала, Цішка Гартны і інш., якія цяпер зьяўляюцца гордасьцю беларускае поэзіі.

Вось чаму рэволюцыйны рух сярод беларусаў, які пачаўся барацьбой сялян з панамі, даў моцны штурхач да нацыянальнага *самавызначэньня* народу і цяпер сумяшчаецца з клясавым. Гісторыя ў гэтай краіне спаяла апошняе з нацыянальным вызваленьнем, якое, у сваю чаргу, разьвівалася на соцыяльна-экономічным грунце.

Спагадная глеба для разьвіцьця рэволюцыйнага руху ў 1905 годзе сярод сялян Беларусі заключалася ў тым, што беларусы прадстаўлялі клясу, галоўным чынам, сярэдняга й безьзямельнага (батрацкага) сялянства, складаючую 76% насельніцтва краіны, працуючую на праспалосных „шнурох“ зямлі. Подлуг даных А. Л. Бурбіса, паданых у кнізе Турука, сярод сялянства Беларусі, згодна даных 1905 году, *перавышаў пролетарскі* (да 5 дзес. на гаспадара) і *напаўпролетарскі* (ад 5 да 10 дзес.) *элемэнт, досыць вялікі процант працоўнага сялянства* (ад 10 да 15 дзес.), *дробна-кулацкае сялянства з наймітам* (ад 15 да 20 дзес.) і кулацкае сялянства (звыш 20 дзесяцін на гаспад.) з эксплёатацыяй наёмнай рабочай сілы; капіталістычна-дробныя гаспадаркі складалі досыць невялікі процант, што відаць з наступнай табліцы па губэрнях:

| Назвы губэрняў | Да 5 дзес. на гаспадара | Ад 5 да 10 дзесяцін | Ад 10 да 15 дзесяцін | Ад 15 да 20 дзесяцін | Звыш 20 дзес. на гаспадара |
|---|---|---|---|---|---|
| Віленская . . . | 3,9% | 28,5% | 29,0% | 25,3% | 14 % |
| Віцебская . . . | 2,2% | 46,6% | 29,6% | 7,5% | 14,8% |
| Горадзенская . . | 4,5% | 10,6% | 31,6% | 30,2% | 22,9% |
| Менская . . . . | 11,5% | 61,9% | 13,8% | 6,9% | 5,6% |
| Магілёўская . | 9,9% | 68,5% | 17,0% | 2,0% | 2,0% |
| Смаленская . . (паветы беларускія без 4-х велікаруск.) | 6,13% | 71,5% | 19,0% | 4,5% | 1,9% |
| Чарнігаўская . . (5 паўночных паветаў) | 40,5% | 51,7% | 6,8% | 6,9% | 0,4% |

Варта адзначыць, што царызм, штучна ўзбуджаючы нацыянальную і соцыяльную розьню між народамі, пробаваў папярэдзіць соцыяльную клясавую барацьбу на Беларусі паміж рабоча-сялянскімі масамі і панамі і капіталістымі. З гэтай мэтай русыфікацыйная політыка царызму ўжывала праваслаўе, рускую народнасьць і казакоў з бізунамі, маючы пад сваім загадам цэлы штат дзяржаўных гісторыкаў, школы, цэрквы, вураднікаў і г. д.

Асабліва старанна культываваліся штучныя эксцэсы, якія даходзілі часта да сапраўднае бойкі (м. Зельва Горадзеншчыны) між каталікамі і праваслаўнымі затое, што папы абураліся на ксяндзоў, будаваўшых косьцел на нейкай зямлі, за якую йшла спрадвечная спрэчка—каталіцкае духавенства ці праваслаўнае раней уладала гэтым зыскоўным месцам. Справа даходзіла да такога фанатызму, што адны беларусы лічылі сябе праваслаўнымі і дзеля гэтага рускімі; другія-ж беларусы каталіцкага вызнаньня лічылі каталіцкую рэлігію і польскую нацыянальнасьць за адно й тое і затым залічалі сябе не да беларусаў, а да палякоў, хаця ўжывалі мясцовую беларускую мову. Гэткае непраўдзівае разуменьне культывавалі папы й ксяндзы, польскія паны й расійскія вураднікі.

У гэткіх умовах працавала Цётка, заражаючы ўсіх таварышоў палкім імпэтам да рэволюцыйнае барацьбы, сваёй прастатой, беспасрэднасьцю і шчырасьцю. Цётка зьяўлялася незаменным таварышом і надта харошым чалавекам, шукаўшым у кожным мужыку-беларусе працаўніка-чалавека, і знаходзіўшым яго. Заўсёды захоплена-радасная, заўсёды бяз грошай,—Цётка ніколі не сумавала і рабіла сваю рэволюцыйную справу барацьбы працоўнай беднаты і мужыкоў з панамі пры ўсякіх умовах. Сярод таварышоў—слухачоў вышэйшых вольных курсаў Лесгафта ў Ленінградзе—Цётка заўсёды гаварыла „папросту“, на „мужыцкай мове“. Інтэлігэнцкі-настроеныя соцыялістыя крыху паблажліва адносіліся да яе слоў і, ня маючы зьвязку з рабочымі масамі, не разумелі таго, што Цётка са сваімі мужыцкімі словамі карысталася такой увагай і давер'ем гэтых мас, аб якім марылі таварышы, ня ўмеўшыя падыходзіць да мас на іхнай мове. Усе яе таварышы разумелі яе шчырыя намеры і з вялікім замілаваньнем і павагай адносіліся да Цёткі.

Будучы поэтэсай і артысткай, Цётка ведала, якое значэньне мае мастацкая форма агітацыі й пропаганды і заўсёды гарэла рэволюцыйным агнём, здабываючы прыхільнасьць да сябе сярод рабочых і сялян.

Як і ў вершах, Цётка выступала на мітынгах, на базарах і кірмашох і наогул усюды, дзе прасьцейшы народ-сярмяжнікі, „дзе беларусы“, шукаючы іх сярод рабочых і пытаючыся ва ўсіх таварышоў, якіх спатыкала, „чы не беларус?“, лічачы, што беларус можа быць толькі работнікам і мужыком, бо панамі тут былі палякі, а ураднікамі—рускія. Вось чаму вуснамі рабочага і селяніна Цётка кідала стальныя словы: „Мы—сіла, мы—права“. З яе грудзей з вульканічнай сілай вырываўся ў 1905 годзе верш:

Цяпер, брацьця, мы з граніту,
Душа наша з дынаміту;
Рука—цьвёрда, грудзь—акута!
Пара, брацьця, парваць пута.

(„Сон над крывавымі разорамі“, гл. „Наша Доля“ № 1—1906 г. і „Скрыпка беларуская“).

У асобе Цёткі мы бачым прыклад гармонічнага злучэньня поэтыцкіх парываньняў з рэволюцыйнымі дасягненьнямі.

Прымаючы чынны ўдзел у стварэньні Беларускай Рэволюцыйнай Грамады, Цётка закончыла сваю нелегальную дзейнасьць скліканьнем 2-га зьезду Б. С. Грамады ў студзені 1906 году. Калі я ў часе калядных канікул знаходзіўся ў Бельскім павеце Горадзеншчыны, дык атрымаў ад яе гэткую тэлеграму: „Халімон, прыяжджай у Менск на шлюб. Цётка“. Ня ўцяміўшы, што гэта за вясельле наладжвае Цётка, я выправіўся ў Менск. Прыехаўшы туды да знаёмых мне таварышоў, братоў Луцкевічаў, я накіраваўся з імі далёка на канец гораду на кватэру быўшага ў той час бібліотэкара Пушкінскай бібліотэкі[1]).

За сталом сядзяць усе віленскія і менскія таварышы[2]), а таксама рабочыя і сяляне, быўшыя члены сялянскага саюзу ад Менскай губ.

---

[1]) Сасланага пазьней на катаргу за распаўсюджаньне проклямацый БСГ праз кнігі, якія выдаваліся з Пушкінскай бібліотэкі.

[2]) А. Бурбіс, Цётка, Ф. Умястоўскі, Вілейка, браты Луцкевічы, А. Уласаў і сяляне Менскай губ. Ваўлаў Іваноўскі, вядомы под прозьвішчам „Вацюк Тройца“, абраны быў у цэнтральны комітэт завочна, бо ўдзелу на зьезьдзе ня прымаў.

Цётка, зразумела, у цэнтры, здаволеная, размахвае рукамі.

— А-а-а! Халімон!? Прыехаў такі з-пад Белавескай пушчы. А каб цябе халера! А мы думалі, што ня прыедзеш на шлюб. Ну, сядай за стол, пі гарбату, пакаштуй шынкі, гэта шлюбная беларуская шынка...

Пасяджэньні зьезду цягнуліся цэльны дзень да позьняй ночы. Дзякуючы таму, што ў пачатку студзеня 1906 году адбываліся арышты і вобыскі, мы разьмяшчаліся па горадзе і начавалі ў грамадзян, якія зусім не займаліся палітыкай. Зьезд цягнуўся 3—4 дні. Усе пытаньні старое програмы былі перагледжаны. Дакладчыкі па кожным пытаньні програмы асьвятлялі пытаньне на грунце ўсёй, якую мелі, літаратуры, сярод якой значную ролю гралі працы Маслова і Н. Леніна ў аграрным пытаньні.

Другі зьезд, замест быўшай у програме Б. С. Г. соцыялізацыі зямлі, прыняў новую програмную пастанову аб утварэньні краёвага зямельнага фонду краю, конфіскацыі панскай, царкоўнай, скарбовай, удзельнай і інш. зямлі.

Гэткім чынам, ужо тады быў закладзены фундамант для нацыяналізацыі зямлі. Пастанова аб утварэньні гэткага краёвага зямельнага фонду была ў 1905-6 г. г. першым соцыялістычным выступам, які прыбліжаў Беларусь да нацыяналізацыі зямлі.

І вось калі на зьезьдзе зайшла гутарка аб тым, што за карыстаньне зямлёй у сялян будуць брацъ асобныя падаткі (дыфэрэнцыяльная рэнта), дык пішучы гэтыя радкі, протэстуючы сьпярша процуў капіталістычных форм, напамінаўшых ранейшую арэнду,—усё-ж згадзіўся з асноўным палажэньнем дакладчыка, што, праўда, пры нацыяналізацыі зямлі, падатак за карыстаньне зямлёй у форме дыфэрэнцыяльнай рэнты і ў іншых формах ідзе ня ў кішэню пана і капіталістага, а на карысьць усяе дзяржавы—на заснаваньне больніц, школ, на разьвіцьцё прамысловасьці—у інтарэсах усіх працоўных.

Гэткім чынам, прыняўшы такую пастанову ў аграрным пытаньні зьезд стаў на пляцформу с.-д.

У зьвязку з гэтым і ў палітычным стасунку пастаўлена было заданьне дабівацца тэрыторыяльнай аўтономіі Беларусі разам з правамі культурна-нацыянальнай аўтономіі для нацмен, якія жывуць на гэтай аўтономнай тэрыторыі. На жаль, гэтае пытаньне неправілова комэнтыруе Ф. Турук у сваёй кнізе „Белорусское движение", М., 1921 г. ГИЗ, асьвятляючы працу 2-га зьезду Б. С. Г. ў тым сэнсе, што гэты зьезд нібы займаецца, галоўным чынам, пытаньнем дзяржаўнага ладу Расіі (?) на прынцыпе не аўтономіі, а фэдэрацыі „вольных з вольнымі", шукаючы падтрыманьня ў суседзей (Літвы, Украіны і Латвіі). Ф. Турук у гэтым месцы ссылаецца на дадатак да яго працы № 7—„Нарыс програмы Б. С. Г". Тымчасам наш асабовы ўдзел у гэтым зьезьдзе і дакумант, на які ссылаецца Турук—„Нарыс програмы Беларускай Соцыялістычнай Грамады",—якраз пацьвярджаюць, што 2-і зьезд Б. С. Г. найбольш займаўся пытаньнем дзяржаўнага ладу Беларусі на прынцыпе якраз аўтономіі ды яшчэ і тэрыторыяльнай, а т. Турук піша: „на принципе не автономии, а федерации", неправілова лічачы, што калі фэдэрацыя, дык ужо ні ў якім разе не аўтономія. Тымчасам, дакумант, на які ссылаецца Турук і асабістыя ўражаньні ў поўнай меры і азначана паказваюць на тэрыторыяльную аўтономію ў форме незалежнае рэспублікі (гэта было ў 1905 г.). Практыка Савецкага гаспадарства выпраўдала гэтае толькі пазьней. Мы бачым, як сучасныя Савецкія рэспублікі будаваліся незалежнымі і на грунце ўмоў уступалі ў сувязь—Р. С. Ф. С. Р.,—а потым утварылі Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Нарэшце, пастаноўка пытаньня аб незалежнай рэспубліцы Беларусі на 2-ім зьезьдзе Б. С. Г. зусім ня была такой, што нібы гэты зьезд займаўся пытаньнем дзяржаўнае будовы Расіі (якраз не *Расіі*, а *Беларусі*. Курсіў наш. Е. Х.).

Другі зьезд Б.С.Г. ў 1906 г. найменш клапаціўся аб вернападданьніцкай адданасьці расійскай дзяржаве, і амаль-што ніхто нічога не казаў аб тым, каб заставацца „ў межах супольнага дзяржаўнага організму Расійскага гасударства". Дый у „Нарысе програмы Б. С. Грамады" (дакумант, на які ссылаецца т. Турук) бліжэйшая мэта Б. С. Г. формулявана йнакш: „Скінуць самадзяржаўе ў Расіі разам з пролетарыятам усіх народаў Расійскага гасударства" (гэта зусім не азначае, што Б.С.Г., вырашаючы нібы пытаньне наконт фэдэрацыі (?), адначасна (?!) лічыла патрэбным „аставацца ў межах супольнага дзяржаўнага організму Расійскага гасударства". Тады-ж разважалі аб агульнай барацьбе разам з усім пролетарыятам, а не аб „межах". Агульнае заданьне 2-га зьезду было больш паважнае—„раскінуць цяперашні капіталістычны парадак і аддаць у рукі ўсяго народу зямлю, снасьці рабочыя і ўсе способы комунікацыі для супольнага ўладаньня", а не заставацца ў межах Расійскага самаўладзтва. Бо прынята была рэзолюцыя (ўпяршыню) аб незалежнай Беларускай рэспубліцы.

Зьезд закончыўся без перашкод, азначана вырашыўшы ўсе пытаньні програмы й тактыкі, абраўшы Ц.К., замяніўшы назву „Беларуская Рэволюцыйная Грамада" назвай „Беларуская Соцыялістычная Грамада", надаўшы програме с.-д. характар.

Пасьля зьезду мы паехалі з Цёткай у Вільню, дзе яна хавалася ў прыватных кватэрах ад шукаўшай яе паліцыі, дала мне грошай на дарогу, і я паехаў да дому.

Пабыўшы нейкі час у студзені 1906 г. ў якасьці міласэрнай сястры ў Нова-Вялейску па чужым пашпарце, Цётка рыхтавалася ўцякаць заграніцу, і ўцякла ў гэтым самым 1906 годзе.

Больніца, месца працы Цёткі, зьяўлялася базай, дзе наладжваліся нелегальныя пасяджэньні сяброў Б.С.Г., і адтуль мы мусілі падарожнічаць з агітацыйнымі мэтамі ў суседнія сёлы, прылягаючыя да Вялейскай больніцы.

Знаходзячыся ў Львове, дзе яна вучылася ва ўнівэрсытэце і вывучала народны тэатр „батлейкі", Цётка прынялася за навуковую распрацоўку пытаньня аб беларускім народным тэатры, а таксама практычна вывучала драматычнае мастацтва ў тэатральнай школе і выступала ў тэатры на беларускай мове.

Цётка манілася наладзіць беларускае драматычнае мастацтва і скарыстаць яго як з мастацкімі мэтамі, гэтак із палітычнымі. Цётка колькі разоў паказвала на тое, што яна мусіла здабываць сродкі да жыцьця або працай на сцэне, або практыкай фэльчаркі.

З прычыны сваёй адарванасьці ад грамадзянскай працы на Беларусі сярод сярмяжных беларусаў, яна сумавала па рэволюцыйнай рабоце.

У гэты час яна напісала верш „Я хацела-б":

Я хацела-б быць зярном пшаніцы,
Упасьць на ніўкі, вёскі,
Зазалаціцца без мятліцы,
Даць хлеб смачнейшы трошкі.
Хацела-б быць я рэчкай быстрай

Абегчы родны край,
Дзе напаіць, а дзе скупаць,
А дзе ўтуліцца ў гай.
То зашумець, то зашаптаць,
То стаць ў салодкім сьне,
То зноў сарвацца, зноў гуляць.
Агнём кіпець у дне;
Ды так разгрэцца і сьпяніцца,
Каб ў неба хваляй здаць,
Украсьці сонца, зноў спусьціцца,
Больш сьвету людзям даць.
Усё прыгорнуць у дарозе,
І каплю шчасьця й долі ўліць;
Усюды думаць аб народзе
І родны край усюды сьніць.
Пасьля рассыпацца расою
Скрозь на галінках, на лістох
І так абняціся з зямлёю,
Каб нас ніхто разьняць ня мог!

* *
*

Або ветрам абярнуся
Ды над сьветам палячу,
Цёмным віхрам закручуся,
Ўсех на месяц загляну.
З усёй сілы ды размаху
Горкай скаргай ў зьвёзды здам,
Сыпнуць іскраў сноп ад страху,
Задрыжыць аж месяц сам.
Хто ты? Скуль ты? Чаго хочаш?
Чаго выеш і шуміш?
То праз сьлёзы нам рагочаш,
То гарыш увесь й дрыжыш.
Я—пасланец, вецер буйны,
Прыляцеў на суд вас зваць!
У нас цёмна, край наш хмурны,
Як замерзшы, людзі сьпяць;
Я там біўся, я там віўся,
Я ім хаты паламаў,
Але ўсё-ж я не дабіўся,
Каб народ свой голас даў...

Гэтак адбілася на яе творчасьці няўдача рэволюцыі 1905 г.

Жывучы заграніцай, Цётка ўсё-ткі час-часом прыяжджала па чужым пашпарце ў Ленінград: гэтак колькі разоў яна прыяжджала, калі студэнты—яе землякі—наладжвалі гадовыя спэктаклі на беларускай мове з концэртным аддзяленьнем. Цётка выступала на вечары за артыстку, у концэртным аддзяленьні дэклямавала свае вершы, выконваючы гэтае са стараннай мастацкай тэхнікай.

У зьмесьце і ў тоне вымовы іх Цётка выражала свой смутак эмігранткі і марыла аб звароце на бацькаўшчыну:

Ї душна, і цесна, і сэрца самлела
Мне тут, на чужыне, здалёк ад сваіх...
Як птушка, на скрыдлах ляцець-бы хацела,
Як хваля на моры, плыла-бы да іх.
Зьнялась-бы, здаецца, расінкай на хмары,
А хмары-бы ветрам казала я гнаць
Далёка, далёка, дзе сьняцца мне чары,
Дзе боры густыя над Нёмнам шумяць.
Дзе пацеркай белай Вільля прабягае,
Дзе Вільня між гораў гняздо сабе ўе,
Дзе кожна дарога і крыж мяне знае,
Дзе ўсё, усё чыста вярнуцца заве:
Там я нарадзілась і вырасла ўволю,
Там першыя словы вычалась казаць...
Ой, мілыя, мілыя, сьнегам пакрытыя
Зялёны лясочкі, дарожкі мае.
Эх, як вы у сэрцы маім не забыты,
Як часта абраз ваш у думцы ўстае.

Ад нуды Цётка траціла свае душэўныя сілы, а сухоты адбіралі ў яе сілы фізычныя. З кожным днём таялі яе сілы, але яна яшчэ больш рвалася да рэволюцыйнай барацьбы, да рэволюцыйнага мастацтва і асьветы мас на бацькаўшчыне.

— Геня,—сказала яна мне, нелегальна прыехаўшы ў Пецярбург:— ведаеце, якое рэволюцыйнае значэньне мае мастацтва? Калі хочаце гэта зразумець, дык прачытайце „Леонардо-да-Вінчы“ А. Меражкоўскага...

У часе свайго апошняга прыезду Цётка казала:

— Ведаеце, Геня, я ніяк не магу пагадзіцца са сьмерцю. Мяне заўсёды хвалююць гэтыя пытаньні—„каханьне й сьмерць“. Я рада, што вы, грамадзянскі дзеяч, разьвіваеце нашыя дасягненьні 1905 году.

Цётка прадстаўляла сабе ўсе магчымасьці разьвінуць свае здольнасьці і адначасна разумела, што сілы яе аслаблі.

Граў-бы я многа, дык сіл не хватае,
Ї рвецца за стрункаю струнка,
Хоць песьня яшчэ не замёрла ўдалая,
Хоць родзіцца думка за думкай.
Можа з тэй ліры вырасьце іва,
З парваных струн—белыя кветкі;
Можа вясною будуць ігрыва
У дрэўца ценю гуляць дзеткі;
Можа хто з дзетак скруціць жалейку,
Ўнучку паломанай ліры,
Ї так зайграе, што ўсенька зямелька
Пачуе мой водгалас шчыры.
Дзедавы струны, рана парваныя,
Зноў громка азвуцца, як звоны.
Песьня за жыцьце яго недаграная
У сэрцы ўнука дасьць плёны.
А на задушкі пад цёмнаю івай
Жывое пачуецца слова,
Што песьня устала з *стотысячнай сілай*,
Жыве мая ліра нанова.

Цётка мела рацыю спадзявацца, што песьні яе „ўстануць са стотысячнай сілай“ і будуць доўга жыць у сьвядомасьці рабочых мас. Падставы гэтыя былі соцыяльнага характару, якія выразіліся ў яе вечнай трывозе за лёс рабочых і сялян Беларусі, за вызваленьне іх ад цара, вураднікаў і паноў. Вельмі памастацку абмалёвана жаночая доля сялянкі ў вершы „Вясковым кабетам“:

Як каліну град страсае,
Як пярун каменьне крышыць,—
Так лёс рана вас ламае,
Так жыцьцё красу вам нішчыць.

Колькі болю ў вачох хмурных,
Колькі скаргі з губ зьбялелых!
Колькі срэбра ў косах густых,
Колькі поту з рук абмлелых!

Ой, кабеты, ой, вясковы,
Ой, вы, кветкі прызавяты,
Ой, лілейкі вы бяз мовы,
Ой, вы птушкі бяскрылаты!

На месца пафосу рэволюцыйнае барацьбы ў апошнія гады ў Цёткі зьявілася глыбокае спагаданьне да гора бяздольных бедных людзей, і парываньне да рэволюцыйнае творчасьці замянілася беларускай романтыкай і культурнай працай.

Вышаўшы замуж і зьмяніўшы, дзякуючы гэтаму, сваё прозьвішча, Цётка вярнулася ў Вільню, дзе і надалей займалася ня толькі літаратурнай працай, але і організацыйнай.

У часе нямецкай окупацыі г. Вільні і Віленшчыны бязупынна працавала ў якасьці міласэрнай сястры сярод хворых, раненых—афяр імпэрыялістычнае бойні.

У гэты самы час у роднай вёсцы Лідзкага павету Віленшчыны памёр яе бацька. Паехаўшы хаваць яго, яна і там ня ўседзіла без работы: дзякуючы свайму бунтаўнічаму і заўсёды спагаднаму да людзей характару, яна пачала езьдзіць па вёсках і сёлах, дзе тады надта распаўсюджаны быў тыфус, з мэтаю дапамагчы й выведаць становішча сялян дзеля таго, каб паклапаціцца ў Вільні наконт дапамогі пацярпеўшым ад вайны. І вось тутака Цётка захварэла на тыфус і ўночы на 5 студзеня 1916 г. памерла.[1])

Пахавалі яе на вясковых могілках сярод шэрых „гаротнікаў“, на карысьць якіх яна працавала ўсё сваё жыцьцё.

Рознастайнасьць творчае працы, імкненьне прыняць удзел у рэволюцыйнай працы грамадзянскае асьветы мас на роднай мове, прабуджэньне грамадзянскіх інтарэсаў у другіх—найлепш характарызуе Цётку, як першую беларускую поэтэсу-рэволюцыянэрку і як чалавека-таварыша. Парывістасьць да мас і праца на іх выявілася ў бунтаўнічым духу Цёткі, гатовай заўсёды разарваць усе путы, закаваўшыя працоўны народ Беларусі. Гэты бунтаўнічы дух Цёткі або горда рваўся на волю з кайданаў рускага самаўладзтва і панскай улады, або, змучаны безнадзейнай немачай, стогне літасьцю да беларуса, злучаючыся з прыродай, і разьліваецца ў палкіх поэтыцкіх сьлёзах жаночае тугі.

[1]) Anton Nowina—Naszy pieśniary. Wilna, 1917.

Цётка яскрава выразіла ў мастацкіх формах сваіх твораў моц грамады—„працавітай беднаты“—і гарачую вялізную адданасьць бяздольнаму лёсу працоўных мас у зьвязку з іхнай рэволюцыйнай барацьбой.

Цётка была бясцэнным дарагім сябрам усіх падпольных таварышоў і крышталька-чыстым чалавекам, што выяўлялася ва ўсіх яе словах, чыннасьці і захоплена-поэтыцкай дзіцячай радасьці, якая запаляла рэволюцыйным агнём усіх, каму здаралася быць у кампаніі з ёю.

Памяць аб беларускай Цётцы захавалася ў сэрцах беларускага народу, які шануе яе ў Савецкай Беларусі пролетарскай пашанай.

Цётка часта разумела, што яе фізычныя сілы ў зьвязку з сухотамі штодзень гаснуць, што „рвецца за стрункаю струнка“. Поэтэса, паміраючы, пацяшала сябе надзеяй, што пасьля яе „жывое пачуецца слова, што песьня устала з стотысячнай сілай, жыве мая ліра нанова“.

Цётка верыць у масы і, пачынаючы рэволюцыйную песьню, заклікае „мільёны грудзей зьліцца ў вадзін тон“, падтрымаць гэтую песьню „грамадай голас даць“:

Вам, суседзі, вам, кумочкі,
Беларусы-галубочкі,
Пяю з сэрца; надцінайце,
Вы грамадай голас дайце.
Зложым песьню цэлым людам.
Як сьвет сьветам яшчэ стаў,
Такой песьні ня слыхаў:
Восем... дзевяць і мільён
Грудзей зьлецца ў вадзін тон...

**Яўг. Хлябцэвіч.**

# ПАДСТАВЫ І ПРАКТЫКА РЭВОЛЮЦЫЙНАГА ТЭАТРУ.

**Хрысанф Херсонскі.**

## I.

Мастацтва—гэта ёсьць выяўленьне эмоцыянальнага і інтэлектуальнага жыцьця грамадзянства. Ранейшыя дасьледнікі мастацтва, шукаючы ў творчасьці толькі індывідуальных чыньнікаў, гублялі пад нагамі рэальны грунт пахаджэньня зьяваў мастацтва і прычыну організацыі гэтых зьяваў у соцыяльна-колектыўныя „плыні“ і стылі. Несправядліва і недарэчна браць мастака, талент і нават паасобнага гэнія толькі ў рамках яго самога, бо ніякага мастацтва нельга ацэньваць без яго ўзаемных адносін з асяродзьдзем, з аўдыторыяй. Кожная ацэнка сама па сабе ўжо ёсьць азначэньне суадносін сіл, адноснай каштоўнасьці прычын, дасягненьняў і вынікаў ва ўзаемным уплыве мастака і грамадзянства. Можна сказаць, што мастак, як і кожны дзеяч, зьяўляецца толькі найбольш удасканаленым вокам, праз якое яго грамадзянства пазірае на сьвет, і найбольш чулым організаваным зьбіральнікам, у сваёй галіне, думак, поглядаў, імкненьняў, што зараджаюцца ў соцыяльным колектыве.

Соцыяльны колектыў зьяўляецца глебай, выхаваўцай і масавым організатарам дзейнасьці паасобных мастакоў, груп, і плыняў мастацтва.

Наша грамадзянства, пакуль не ажыцьцёўлены комуністычны соцыялізм, падзелена на клясы, і жыцьцё гэтага грамадзянства ў цэлым і складаючых яго кляс, кожнай паасобку, залежыць ад іх перакрыжаваных узаемных адносін і барацьбы. З гэтае прычыны, толькі „прыняўшы пад увагу клясавае змаганьне і дасьледуючы яго шматлікія перавівы, патрапім мы больш-менш здавальняюча высьвятліць духоўную гісторыю цывілізаваных грамадзянстваў“ і „хто не ўсьведамляе сабе змаганьня, шматвяковы і завілы процэс якога складае гісторыю, той ня можа быць сьвядомым мастацкім крытыкам“[1]).

У гэтым нарысе я пастараюся зрабіць агляд найбольш характэрных зьяваў у расійскім тэатры, зьяваў, што адбыліся пасьле Кастрычніцкай рэволюцыі пад уплывам соцыяльна-колектыўных пабудак, вынікшых у грамадзянстве, як скутак сучаснай рэволюцыі. У залежнасьці ад гэтага выданьня, мой нарыс ня будзе спэцыяльна-навуковым і вычэрпваючым, гэта толькі вуток—упрошчаны да элемэнтарна-зразумелай схэмы. У агульным сынтэзе зьвязаных між сабой зьяваў, што складаюць жыцьцё чалавечага грамадзянства, нашы дасьледваньні маюць ня толькі тэорэтычную, але і практычную цікавасьць, дзякуючы імкненьню ўзаемна выкарыстаць разуменьне значэньня як тых зьяваў, што адбываюцца, гэтак і мінулых прац, каб дапамагчы мастацтву прыняць больш правіловы кірунак і падмацаваць яго рэзультатамі пройдзенай практыкі.

---

[1]) Г. В. Плеханов. „Судьбы русской критики“.

## II. Напярэдадні.

Яшчэ напярэдадні Кастрычніцкай рэволюцыі, паміж плынямі мастацтваў узгадованых буржуазна-капіталістычным грамадзянствам, насьпявалі плыні супярэчныя яго асноўнаму духу, падрываўшыя знутры яго тыповыя традыцыі. Але гэты рэволюцыйны протэст выяўляла ў мастацтве толькі мастацкая богэма, якая зьяўлялася часткай буржуазнай інтэлігэнцыі, перажываўшай у сваім ужо спарахнелым буржуазным грамадзянстве анархоіндывідуалістычныя настроі. Гэты процес адбываўся ўнутры аднае клясы і выліваўся толькі ў эстэтычнае бунтарства, характарызуючы эпоху дэкадансу, упадку буржуазіі, але не выяўляў сабою новага здаровага будаўніцтва, бо ў яго ня было дзеля гэтага іншае соцыяльнае падставы. Пролетар'ят і сяляне прымалі ўдзел у агульным жыцьці мастацтва толькі ў асобе сваіх выхадцаў, мастакоў-паядынак, або замыкаючыся ў прымітыўным саматустве. А мастацкая богэма, анархічная ў сваёй соцыяльнай істоце, не магла пайсьці далей эпатыраваньня, г. зн. літаральна, зьбіваньня з ног, свайго буржуа, які, закончыўшы раней эпоху свайго рэволюцыйнага соцыяльнага нарастаньня, цяпер ужо ня быў органічна цэлай, здаровай і творчай соцыяльнай клясай. Гэткім парадкам, дзейнасьць многіх мастакоў у тую рэакцыйную і дэкадэнцкую пару была абмяжована аналітычнай працай і дзейнасьцю руйнаваньня, а ў сваёй творчасьці ня йшла далей „вышуканьняў“ формаў і формачак, што выяўляла толькі хваравіты стан свайго грамадзянства.

Гэты кругабег дэзорганізацыі цэльнага клясычнага стылю ў мастацтве характэрны, напрыклад, пераходам ад рэалізму праз імпрэсыянізм і экспрэсыянізм да такіх праяваў, як кубізм у малярстве, „завумніцтва“ ў поэзіі, а ў тэатры ён выражаны тым-жа змаганьнем з рэалізмам праз эстэтычны тэатр, у якім эстэтычная прыгожасьць, вытворнасьць, орыгінальнасьць формы, форма для самой сябе, зрабілася галоўнай мэтай. У рэчышчы гэтае плыні былі ўмоўныя пастаноўкі В. Мэйэрхольда, Старажытны тэатр Н. Еўрэінава, „Тэатр шарлатанаў“ Н. Форэггэра, і асабліва Камэрны тэатр А. Таірава.

Гэты кругабег не закончыўся й дагэтуль, бо мастацкая інтэлігэнцыя і дагэтуль сядзіць паміж двох крэсел, паміж даўнейшым і новым грамадзянствамі, а калі адна часьць яе і перасаджваецца з натугай, то другая частка расьцярушана і безнадзейна-бяспомацна, бо дэклясавана. Апрача гэтага, трэба памятаць, што расійскае посьле-кастрычніцкае грамадзянства ўяўляе сабой толькі пераходны кругабег і яшчэ ня выжыла клясавай многаіснасьці, супярэчнасьці і змаганьня.

Якое-ж значэньне для нас гэтага пэрыоду?

Распад мастацтва на рознастайныя элемэнты, узаемныя адносіны мноства прыёмаў, вышуканасьць новых эстэтычных супярэчных адна другой манер і г. д.—усё гэта выявіла перад намі шырокі малюнак тэхнічнай дасканаласьці ў мастацтве, раскладзеным на часьці, з якіх посьле пройдзенага дасьледваньня і выпрабаваньня мы можам выбіраць патрэбныя нам элемэнты для новых абагульненьняў, для новага сынтэзу, у якім мы стараемся выявіць суцэльны клясычны мастацкі стыль абноўленага грамадзянства, што йдзе да соцыялізму праз пролетарскую рэволюцыю.

Гэты новы вялізны і пераважны соцыяльна-колектыўны зьмест, побач са сваім органічным ростам, зьбірае цяпер элемэнты для свайго мастацтва, для новага монолітнага сплаву, свайго і па духу і па форме.

Буржуазнае мастацтва, распадаючыся, адчыніла перад намі відавочна тэхнічную кухню свайго штукарства; на практыцы якога мы вучымся, даведваемся, што нам трэба і што непатрэбна, як лепш і як і чым наогул можна карыстацца ў мастацкай творчасьці. У нашых руках мноства праверaных спосабаў і інструмантаў мастацкае дзейнасьці.

Вось чаму гэты пераходны кругабег беспасярэдна зрабіў уплыў і на новую творчасьць, збагаціўшы яе тэхнічныя набыткі. У далейшым выкладзе мы пабачым, як рэволюцыйны тэатр гэта прабаваў выкарыстаць.

Тыя-ж, хто ставіць заданьнем новага мастацтва, у паасобку тэатру, монолітны мастацкі рэалізм,—павінны прызнаць, што гэты новы рэалізм у тэхніцы свайго штукарства будзе значна адрозьнівацца ад старога, спарахнелага „рэалізму“, бо яго новае штукарства будзе збагачана новымі колерамі і способамі, якія дало само жыцьцё пераходнага кругабегу і яго аналітычнае мастацтва.

## III. Тэатральны кастрычнік.

У першыя два гады посьле Кастрычніцкай рэволюцыі народныя гушчы, пролетарыят, чырвонаармейцы хлынулі ў тэатры, куды яны ўпяршыню атрымалі масавы доступ. Але паміж запатрабаваньнямі гэтага новага глядзельніка і рэпэртуарам і стылем тэатраў выявілася глыбокая пропасьць. Зьяўляючыся плёнам дваранска-памешчыцкай культуры (Вялікі і Малы імпэраторскія тэатры), буржуазнага грамадзянства (тэатр Корш) і іх інтэлігэнцыі („Художественный“ і Камэрны тэатры),—тэатры былі ня ў сілах здаволіць запатрабаваньні новай эпохі і пролетарскага глядзельніка. Самы ўклад гэтых тэатраў, склад і грамадзкія настроі іх супрацоўнікаў і напрацягу гадоў зложаны рэпэртуар—рабілі, у істоце, посьле рэволюцыі тое, што зьяўлялася з тэатральных сцэн рупарам ідэолёгічнага контр-рэволюцыйнага ўплыву на масы, кепска прыкрытага дзеля самааховы лёзунгам „аполітычнасьці“ мастацтва.

Урад і комуністычная партыя былі цалкам заняты працай на політычным, ваенным, гаспадарчым і адміністрацыйным фронтах, і не маглі ўдзяляць значнай увагі на пераробку „фабрык мастацтва“.

Нежаданьне руйнаваць культурныя і мастацкія каштоўнасьці, стараньне выкарыстаць іх для падняцьця культурнасьці мас, прычынілася да таго, што ўлада апекавалася тэатрамі і давала ім шырокую матар'яльную дапамогу.

Але хутка ўсё больш і больш няўхільнай станавілася канечнасьць увесьці асновы Кастрычніцкай рэволюцыі і ў гэтую галіну. У 1920 г. група комуністых і спрыяўшых ім тэатральных працоўнікаў, на чале з В. Э. Мэйэрхольдам, назначаным загадчыкам тэатральнага аддзелу Наркампросу, організавалася для правядзеньня „тэатральнага кастрычніка“. Праз кіраўнічы савецкі орган—тэатр. аддзел—гэтая група пашырала свой уплыў на ўсе тэатры, апрача „акадэміцкіх“, выдзеленых у асобную групу пад ахову іншых органаў Наркампроса. У той-жа час лёзунгі „тэатральнага кастрычніка“ В. Э. Мэйэрхольд стараўся сам правесьці практычна ў даручаным яму тэатры, які быў складзен з розных артыстычных сіл і названы „Театр РСФСР 1-ый“.

Якія-ж былі асноўныя мэтоды „тэатральнага кастрычніка“?

Тэатр павінен быць моцна зьвязан з нэрвамі свайго дню. У эпоху творчасьці комуністычнага сьвету, тэатр павінен актыўна прымаць удзел у апрацоўцы новага жыцьця, робячы ўплыў на масы, як трыбуна „новага комуністычнага будаўніцтва“. Ён павінен даць новую агністую

пропаведзь, апранутую ў мастацкую форму, што адзывалася-б проста да пачуцьця глядзельніка.

Для гэтага патрэбны новыя п'есы, новая драматургія. А покуль-што гэтых п'ес ня было. „Тэатральны кастрычнік“ узышоў на шлях пераробак старых п'ес, разглядаючы іх *толькі як матар'ял або як сцэнарый, з якіх рэжысэр мог ляпіць спэктакль суцчны сучаснасьці.*

Гэтак была пераароблена для пастаноўкі В. Мэйэрхольдам і В. Бебутавым п'еса Вэрхарна „Зоры“, якой адчыніўся „Театр РСФСР 1-ый“. З часам перарабляліся ў большай або меншай меры многія п'есы, як напр.: „Ноч“ Марсэля Мартынэ ў пераробцы поэта С. Трэт'якова, у пастаноўцы В. Э. Мэйэрхольда празваная „Земля дыбом“; новая композыцыя тэксту „Вільгэльм Тэльля“ Шыльлера ў постаноўцы В. Бебутова; падрыхтоўваная і недаконченая В. Мэйэрхольдам і В. Бебутавым пастаноўка опэры „Рыенці“ Вагнэра; „На всякого мудреца довольно простоты“, перарабленная С. Трэт'яковым для пастаноўкі С. Эзэнштэйна ў Пролеткульце; Ул. Маякоўскі сам перарабіў сваю „Містэрыю-Буфф“ для пастаноўкі яе В. Мэйэрхольдам.

Пытаньне а пераробках найбольш завастрылася ў адносінах да клясыкаў, увайшоўшых раней ў эстэтычную сьвядомасьць, як суцэльная і вялікая праява мысьлі і мастацтва. Шмат хто супярэчылі супроць пераробкі такіх п'ес нанава. Але „кастрычнікаўцы“ цьвердзілі, што найлепшая роля вялікіх клясыкаў замыкаецца ў тэй карысьці, якую яны могуць прычыніць новай творчасьці, а ўсваеньне намі ранейшых дасягненьняў культуры павінна быць глыбока крытычным, не пасыўным, а пераапрацоваючы і пасвойму, згодна свайму новаму мэта-пагляду. Бо й самі-ж клясыкі зусім таксама карысталіся ранейшымі працамі іншых аўтораў для сваіх новых прац,—гэтак рабіў Шэксьпір і Пушкін. Кожная паўторная творчасьць здабывае права на існаваньне, калі яна зьяўляецца рэзультатам унутранай няўхільнасьці. Інтарэсы аўдыторыі, глядзельнае залі, інтарэсы творчага тэатру набываюць рашучага значэньня над лёсам рэчы нябожчыка-аўтора, а не наадварот.

Пераробка „Зор“ Вэрхарна, зробленая ў пэрыод ваеннага комунізму, у часе першага ідэолёгічнага і практычнага націску „тэатральнага кастрычніка“ зьяўляецца вельмі характэрнай. З гэтае прычыны цікава разглядзець яе для прыкладу.

Спачатку тэкст Вэрхарна быў ачышчан ад яго літаратурных зьлішак, якія мітрэнжылі тэатральнае дзеяньне. Затым быў перагрупаваны пазасталы матар'ял. Напрыклад, самы патэтычны момант роляў галоўных актораў быў зьвязан у адзін яскравы пук прамоў на іх высьцігах перад народным сходам. Гэта было пастаўлена на сцэне так, што ўся публіка глядзельнае залі зьяўлялася як-бы ўдзельнікам гэтага сходу (у той час, як у Вэрхарна, напр., Эно сваю „програму максімум“ разьвівае ў часе гутаркі з сястрой у сямейнай абстаноўцы). Далейшая праца над тэкстам Вэрхарна выясьняе і падкрэсьлівае малавыразныя ў яго пытаньні і адказы: хто каго перамагае ў п'есе? хто каго заваёўвае? нашто трэ' было гэрою п'есы пераносіць труп свайго бацькі ў абложаны горад? і г. д. Усяму гэтаму пры пераробцы стараліся прыдаць выпуклы пэўны сэнс, які выяўляў перад глядзельнікам ролі народных верхаводаў і поступ рэволюцыі. Пафос Вэрхарна халодны, філёзофска-кніжны, мала спрыяў праблежэньню п'есы да гарачай беспасярэдняй аўдыторыі тэатру. Адцягненасьць, пэўны сымболізм і заблытанасьць п'есы, усё гэта вымагала новых прамоў і дыялёгаў, напісаных нанава.

Апрача гэтага, каб уцягнуць усіх глядзельнікаў у нэрв п'есы, а п'есу ўцягнуць у нэрв таго дня,—быў застасован рад новых пастановачных способаў.

*Глядзельная заля была ўцягнута ў дзеяньне п'есы* тым, што студэнцкі натоўп быў памешчан у „оркестры“ паміж сцэнай і глядзельнікамі ў беспасярэдняй блізкасьці да апошніх. Гэткім чынам оркестра служыла зьвяном паміж глядзельнікамі і акторамі, якія зварачаліся да сцэнічнага „народу“, а разам з гэтым, натуральна, зварачаліся і да народу глядзельнае залі. Эрэньен кідаў у публіку лістоўкі, якія адначасна з галёркі ляцелі і па ўсёй залі, падніжаліся і чыталіся ўсёй публікай.

На лістоўках была надрукована адозва да народу:

Працоўнікі ўсяго сьвету!

Праклятыя граніцы капіталістычных дзяржаў душаць вас, адасабняюць вас, аслабляюць вашу волю да перамогі.

Зруйнуйце гэтыя граніцы дружнымі натугамі.

Будуйце саветы!

Няхай жыве сусьветная комуна працы!

У глыбіне верхняга яруса памяшчаліся оркестры. Калі акторы запявалі „Вы жертвою пали“ і „Інтэрнацыянал“, то мэлёдыя, падхопленая хорам актораў „народу“ і падмацованая медзьдзю й трубамі оркестра, захапляла аднаго за другім і рабочых і чырвонаармейцаў у публіцы і расла, магутна і шырока напаўняючы ўсю залю.

Апрача гэтых сучасных прамоваў і песень, у спэкталь „Зоры“, з часам, у сцэну, што злучала артыстых і глядзельнікаў як-бы ў народны сход, уведзена было чытаньне паведамленьняў з баявога фронту, і гэткім парадкам аднойчы было прачытана толькі-што атрыманае ў Маскву па тэлеграфу паведамленьне т. Сьмілгі а тым, што чырвоная армія заняла Перакопскі пярэсмык у Крыме. У тэатр перадаваліся перад спэктаклем вячэрнія тэлеграмы, і глядзельнікі, жывучы тады трудным баявым годам рэволюцыі, даведваліся тут са сцэны аб апошніх падзеях на фронце. Слова актора станавілася ў гэты момант словам самога жыцьця, актор быў грамадзянінам, сцэна—трыбунай. Былі моманты, якія ня могуць сьцерціся ў памяці. Праз некалькі дзён пасьле бурнага „ура“ і Інтэрнацыяналу, якім акторы і глядзельнікі віталі перакопскую перамогу, яны-ж слухалі з тэй-жа сцэны дзеда-чырвонаармейца, сівога дзядулі, які прыехаў проста „адтуль“, каб расказаць а бойках арміі, аб загінуўшых. Ён увайшоў на сцэну ў часе ігры і папрасіў слова ў чарзе з акторамі, што йгралі верхаводцаў у п'есе Вэрхарна. Калі ён, закончыўшы сваю прачулую прамову, заплакаў, то разам з ім заімглілася сьлязьмі ўся глядзельня, і калі ён засьпяваў „Вы жертвою палі“—ні было ніводнай нярухомай губы, ніводнага мёртвага сэрца наўкол. І акторы, што стаялі „на выхадах“ за кулісамі, мімавольна пазьнімалі свае бутафорскія капялюшы.

Другім разам актор сказаў экспромтам прамову ў дзень памяці 9 студзеня.

Тэатр прабуджаў грамадзянскае пачуцьцё ня толькі ў глядзельнікаў, але і ў актораў.

У годы вайны, голаду й холаду шчыра гучэлі словы яго кіраўніка трупе: „Агонь творчага духа павінен сагрэць і натхнуць наш тэатр. Назавем яго „тэатрам чырвонага сьцягу“, накшталт таго, як некалісь гішпанцы называлі свой тэатр тэатрам плашча і шпагі. Няхай гэты сьцяг і будзе нашым сымболем, нашай эмблемай, як у свой час эмблема чайкі была сымболічным знакам для „Художественного“ тэатру“.

Цікавай, лічу, будзе маленькая спраўка з маіх асабістых успамінаў а велічыні матар'яльнай аплаты, што выдавалася артыстым гэтага тэатру. Пры выплаце пэнсыі, спозьненай часамі на некалькі месяцаў з прычыны адсутнасьці грошай у касе Галоўполітасьветы, велічыня пэнсыі пры ўпадку вартасьці грашовых знакаў зьмяншалася да таго, што многім другарадным акторам трупы ня было сэнсу ехаць па грошы... трамваем. Пасылалі аднаго пасланца з даручэньнямі ад трупы, каб трамвайны выдатак, разьдзелены на многіх, не зьядаў-бы ўсёй пэнсыі кожнага актора. У гэтыя-ж часы за аўторскі гонорар ад вялікага артыкулу ў журнале можна было купіць тры фунты чорнага хлеба.

У пагоні за сцэнічнымі спосабамі, якія адпавядалі-б замыслу гэтага тэатру, былі тады апрача вышэйадзначанага, выкарыстаны:

ігра бяз грыму, каб вызваліць актора-чалавека ад шаблённай, мярцьвяцкай прытворнай маскі;

ігра без пакаёвай „псыхолёгіі“ і „перажываньняў“, імкненьне да прамяністасьці, радасьці і запальнасьці творчасьці актора, паднятага на аратарскую трыбуну;

ігра на пафосных эмоцыях, на напружанасьці, якая даходзіла да „ймгненна-няпрытомнай“ імпэтнасьці;

асьветленая глядзельная заля;

зруйнаваньне граніц сцэны, ранейшага рубяжа, што аддзяляў рампай актора ад глядзельніка; перанясеньне дзеяньня ў партэр і лёжы, як напр. у „Мистерии Буфф“ Маякоўскага, пры пастаноўцы якой непатрэбна была заслона;

імкненьне да плякатнасьці, схэматызацыі дэкарацый;

імкненьне да таго, каб будаўнічы матар'ял рэчова адчуваўся і афармляў спэкталь, што дасягалася пры дапамозе жалеза, дрэва, каменьня і канатаў; у далейшым, са скрынкі тэатру належала выйсьці на адчыненыя сцэнічныя пляцоўкі; на пляц перад заводам, на натуральную а ня штучную арэну. Мэйэрхольд казаў: „Нашы маляры, кінуўшы пэндзаль, з вялікім здавальненьнем возьмуць у рукі сякеру, кірку і молат і пачнуць высякаць сцэнічную аздобу з даных самой прыроды“.

Але ўсё-ткі, застаючыся ва ўмовах „скрынкі тэатру“ і карыстаючыся тэатральнай сымболікай і ўмоўнасьцямі, „Театр РСФСР 1-ый“ ішоў шляхам новых форм стылю ў рамках эстэтычнага тэатру, атрымаўшага ў спадчыну шмат-што ад мастацкага дэкадансу. Эстэтызм вытворных мастакоў і рэжысэраў, перасычаных рэалізмам, а быць можа і няздольных да яго падняцца, часта адрываў мастацкі бок іх спэктакляў ад успрыманьня пролетарскіх масаў, а эмоцыянальная „няпрытомнасьць“ была на рубяжы псыхічнага надрыву і „хадульнасьці“. Агітацыя далёка не заўсёды была трывалай і паглыбленай. Калі ў тэатр уліваліся моманты натуральнага хвалюючага жыцьця, то яны заставаліся самі па сабе, жыцьцём, а не тэатрам; тэатральны-ж, мастацкі бок не заўсёды перамагаў тыя межы-перашкоды, што аддзялілі тэатр ад „беспасярэднага шляху проста ў душу глядзельніка“. Націск тэатральнага кастрычніка быў шмат у чым павярхоўным, гучэў часамі, як непасільная натуга, далёкая ўсё-ткі ад рэальнай псыхолёгіі мас, якія знаходзілі тут больш нэўрастэнічнасьці і штучнасьці, чымся арганічнага свайго зьместу, больш эстэтызму, чымся здаровага „чорнага хлеба“ мастацтва.

Спробы „Театр'у РСФСР 1-ый“ прабуджалі думку, прабуджалі ініцыятіву, вышуканасьць, паднімалі цяжкую цаліну профэсыянальнага „апалітычнага“ г. зн. буржуазнага тэатру, паднімалі пытаньні грамадзян-

скае вайны ў тэатры, але гэты чарнавы, плякатны і недасканалы, часткай дэкадэнцкі, нарыс новага тэатру павінен быў уступіць месца больш паглыбленай і вытрыманай працы. Гэтая праца йшла вось якімі шляхамі:

*навукова-экспэрымэнтальныя досьледы* (з часам гэта праца выявілася, галоўным чынам, у майстроўні Мэйэрхольда, часткай у спробах майстроўні Фэрдынандава, часткай у апошніх працах Пролеткульту);

*утварэньне самастойнага пролетарскага тэатру* (у Пролеткульце і рабочых гуртках і клюбах на фабрыках і заводах, а гэтак сама ў форме масавых відовішчаў і сьвяточных карнавалаў);

*утварэньне популярнага, зразумелага для мас, рэволюцыйнага тэатру* „памяркоўнымі“ мастацкімі сіламі і сродкамі старых профэсыяналаў (Тэрэвсат, затым „Тэатр Рэволюцыі“ і тэатр культаддзелу маскоўскага гарадзкога савету профэсыянальных саюзаў).

## IV. Школа.

Будаўніцтва новага тэатру, перажыўшы кругабег агітацыі і дэклярацый, паглыбілася ў мэтодычную паступовую працу шляхам грунтоўнага перавыхаваньня ўсяго тэатральнага організму і ў першы чарод зварачаючы ўвагу на основу тэатру: на актора і на акторскі колектыў.

Актор—грамадзянін; актор, які прышоў з пролетарскага асяродзьдзя і органічна з ім зьвязан; актор прасякнуты і праводзячы ў сваёй працы—змаганьне за комуністычнае будаўніцтва; актор—рэволюцыйны грамадзянскі работнік, які ажыцьцяўляе сваю грамадзкую дзейнасьць праз тэатр, —вось аснова новага рэволюцыйнага тэатру.

Рабочыя, чырвонаармейцы і сялянская моладзь праявілі пасьле Кастрычніцкай рэволюцыі многа гарачай ініцыятывы, каб здаволіць сваю патрэбу ў тэатры. Тэатральны інстынкт, які знаходзіў, паміж іншым, сабе выяўленьне і ў царкоўных царамоніях, і ў абрадах вёскі, пачаў шукаць сабе новага грамадзкага тэатру сучаснага дню. Широка разьвінулася тэатральная самадзейная праца пролетарыяту. Агляду зьяваў гэтай дзейнасьці павінен быць ахвярован спэцыяльны нарыс. Але ні новы пролетарскі актор, ні ранейшыя профэсыяналы-акторы, што далучыліся да нашай барацьбы і будаўніцтва, не маглі абысьціся бяз мэтодычнай навукі свайго мастацтва. Гэтая новая навука прасякала ідэолёгіяй новага часу, утварала новую школу актора.

Якія-ж асноўныя вехі соцыяльнага, навуковага і мастацкага замыслу гэтай школы?

а) Культура фэодальна-буржуазнага грамадзянства пранікнута дуалізмам, дваістасьцю. Тут мы бачым такое процістаўленьне: душа і цела, ніжэйшае і вышэйшае, часовае і вечнае, поэзія і проза жыцьця; мастацтва павінна нібы навяваць ілюзорны сон, які-б адрываў нас ад рэальнага сьвету. Артысты акружаецца культам „боскага натхненьня“, ён сьвяты жрэц духа.

Суцэльны, монолітны сьветапогляд пролетарыяту не ўцякае ад „прозы жыцьця“, наадварот, ён цалкам знаходзіць сябе ў гэтай земнай рэальнасьці і апіраецца не на ільлюзію і „натхненьне“, а на дасьледваньне рэальных законаў жыцьця і на аўладаньне імі.

Акторы старога тыпу йгралі звычайна „на нутры“ або „на перажываньні“ г. зн. штучна-напружана падбушоўваючы і гіпнотызуючы сваю псыхіку. Новая школа актора шукае натуральнага здаровага выяўленьня акторскай ігры, „душу“ разглядае не як самастойную „навалу нат-

хненьня“, а як рэзультат навукова-азначальнага псыхо-фізычнага стану актора. Рухі і праявы псыхічнага стану, а гэтак сама і ўплыў яго на глядзельніка ўзалежнены ад законаў рэфлексолёгіі і паддаюцца сьвядомай рацыянгльнай організацыі.

На гэтым грунтуецца імкненьне навукова дасьледваць і організаваць працу актора-чалавека. Канечным ёсьць умацаваньне яго фізычнай здаровай прыроды, фізычная культура для актораў-вучняў, разьвіцьцё ў іх умеласьці ўладаць сваім целам і сваімі псыхічнымі рэфлексамі на асновах, гэтак кажучы, жыцьцё-мэханікі, або йнакш—біо-мэханікі.

Чалавечае цела, з яго ўласьцівасьцямі і спосабамі псыхічнага ўплыву праз рухі, міміку, голас—вось галоўны матар'ял тэатру. Біо-мэханіка Мэйэрхольда прабуе дасьледваць гэты матар'ял і навучыць актора ім карыстацца. У сваёй галіне актор павінен працаваць, як практычны організованы рабочы. Вельмі памыляюцца тыя, хто думае, што біо-мэханіка—гэта толькі акробатыка, што ўносіцца ў спэктакль; запраўды-ж, акробатыка не зьяўляецца нейкім штампованым пастановачным спосабам, а ёсьць мэтод падрыхтоўчага выхаваньня актора, для якога акробатыка зьяўляецца толькі адным з многіх тэхнічных сродкаў. Найбольш па акторску біо-мэханічны, у істоце, усе буйнейшыя артыстыя, як напр., Шаляпін, Станіслаўскі, М. Чэхаў. Але тое мастацтва, да якога яны дайшлі або інтуіцыйна або дзякуючы свайму таленту, навука „біо-мэханікі“, прабуе перадаць праз выхаваньне больш-менш кожнаму актору. Мэйэрхольд адкідае ігру „нутром“ і „перажываньнем“, бо не актор кіруе імі, а яны акторам, на шкоду яго натуральнай фізіолёгічнай прыродзе. Ігра актора—гэта такая-ж грамадзка-карысная праца, як праца ўсіх іншых рабочых; адгэтуль вельмі важна, каб гэта праца обыходзілася без балючых патуг, а адбывалася організована, шчасьліва, лёгка для актора. Гэта важна ня толькі для самога актора, але і для глядзельніка, які абавязкова заражаецца, нават выхоўваецца ў залежнасьці ад таго або іншага стану і павядзеньня актораў.

б) Далей, істотна важна паставіць актора ў такія ўмовы на сцэне, каб яго цела гармонічна дапасоўвалася да акаляючых яго прадметаў, і каб актор умеў карыстацца імі з найбольшым эфэктам, без драбніц і мішуры, што адцягваюць і заграмаджаюць увагу. Акторская ігра-праца становіцца галоўнай істотай тэатру. Сцэна ачышчаецца ад размалёваных анучных дэкорацый, актору ставіцца канечны для яго працы „варстак“, пабудованы мэтазгодна, г. зн. конструкцыйна з найпрасьцейшых матар'ялаў. Паводле гэтага-ж прынцыпу прыгатаўляюцца патрэбныя для ігры рэчы. Інжынэрная мэтазгодная побудова гэткага „рэчовага афармленьня“ спэктаклю і зьяўляецца істотай тэатральнага конструктывізму. У гэтым збудаваным афармленьні сцэны сучасныя мастакі прабуюць застасаваць законы мэханікі, упадабляючы „дэкорацыю“ машыне, як тэхнічнаму выражэньню сучаснага сьветаадчуваньня, якое адкаснулася ад мяшчанскага любаваньня „прыгожасьцю“ рэчаў і аздобаў, і жадае паддаць усе рэчы на сцэне цалкам і толькі акторскому вытворчаму процэсу. Прымусіць іх актыўна прымаць удзел у працы-ігры актораў.

Паводле гэтага-ж прынцыпу будуецца і тэатральны касьцюм. Адгэтуль спроба падшукаць актору вытворчую вопратку, найбольш выгодную для ігры. Эволюцыя гэтай вопраткі ў майстроўні Мэйэрхольда, ад нэйтральнай уніформы, застасованай у „Великодушном Рогоносце“, праз спробу лаконічнай характарыстыкі паасобных тыпаў у схэматычных касьцюмах „Смерти Тарелкина“, да аўладаньня складанай ігрой касьцюма ў „Лес'е“ —гэта выхаваўчы шлях для актора.

Адпаведна да гэтага выхаваўчага шляху, Мэйэрхольд ускладняе схэматычны конструктывізм, уводзячы ўсё больш складаную ігру рэчаў на сцэне, як напр. у „Смерть Тарелкина“, „Земля дыбом“, „Озеро“, „Люль“, „Лес“.

в) Пасыўнае пагружэньне ў супярэчнасьці індывідуальных перажываньняў ня мае месца ў рэволюцыйным тэатры гэтых гадоў. Ён бярэ за аснову масавы, соцыяльны замысел п'есы, а паасобныя тыпы і іх перажываньні стараецца паказаць сьцісла-коратка, завострана, у гэтак званай гротэсцы, у манэрах эксцэнтрычнага рысунку ў адносінах да тыпаў соцыяльна-адмоўных і ў адлітай форме моцнага і радаснага *вялявога* нарастаньня тыпаў дадатных.

Гэтае супроцьстаўленьне найбольш было падкрэсьлена ўнутры спэктаклю „Земля дыбом“, яго можна прасачыць і параўноўваючы такія спэктаклі, як „Зоры“ і „Смерть Тарелкина“.

У аснову кладзецца соцыяльны кірунак асобы і яе знадворны рысунак даводзіцца да яскравага, рэзкага ўдару па ўспрыйманьню глядзельніка.

Рэволюцыйны тэатр змагаўся ў гэтыя гады з натуралістычным псыхолёгізмам, галоўным чынам маючы на ўвазе змаганьне з індывідуалізмам і з замыканьнем асобы ў мяшчанскую сэнтымэнтальную пакаёвасьць (комнатность) перажываньняў.

Залучэньне асабістасьці ў паток масавых стычак, у быстрым тэмпе і рытме сучаснасьці, выклікала, паміж іншым, адраджэньне *народнай мэлёдрамы*, прасякнутай рэволюцыйным пафосам, як напр., у спэктаклі „Земля дыбом“, і *народнага балягану*, прасякнутага сучасным эксцэнтрызмам, як напр., многія сцэны „Лес'у“ і некаторыя сцэны тэй-жа „Земля дыбом“ і спэктакль „Смерть Тарелкина“.

Новы актор вучыцца на гэткім матар'яле востра і яскрава адгукацца сучаснасьці, выяўляць змаганьне яе супярчнасьці. Вучыцца новага тэхнічнага майстэрства.

А рэжысэр прыходзіць яму на дапамогу, уводзячы ў афармленьне спэктаклю сучасныя рэчы і мэтоды, як напр.: мотоцыклі, самаход, нават самалёты ў „Земля дыбом“; выкарыстаньне кіно, як дапаможнага сродку ў „Земля дыбом“ і нават выкарыстаньне кінематографічнага мэтоду драбленьня і монтажа сцэн, як напр. у „Лес'е“.

Наогул, спробы Мэйэрхольда, уводзячы новыя спосабы і рэчы ў тэатральную эстэтыку, перавыхоўваючы маладога актора, надаюць тэатру вострай рэволюцыйнай сучаснасьці, імкнучыся выйсьці са сьцен тэатральнай скрынкі на пляц, на „варстак“ пад адчыненым небам, адсейваючы няўдачы і бязупынку шукаючы і вынаходзячы;—даюць сытнае спажывеньне і навуку іншым майстроўням тэатру, у асаблівасьці гурткам рабочых і моладзі.

Мне здаецца, што мэты, якія кіруюць гэтай працай, зусім не супярэчаць адраджэньню новага глыбокага рэалізму на сцэне, нават спрыяюць яго набліжэньню. Можна было-б адзначыць і шмат ухілаў з гэтага шляху і супярэчнасьці ў працы Мэйэрхольда, які знаходзіцца толькі галавой у комуністычнай эпосе, а нагамі ў сваім эстэтыка-декадэнцкім мінулым. Можна крытычна асудзіць яго індывідуальныя, падчас павярхоўныя „тэатральныя дракі і авантуры,“ але нельга не адсеяць з яго працы многа матар'ялу, карыснага нам.

*А „навука не даецца без памылак і няўдач“.*

## V. Сплавы.

Побач з досьледамі ў экспэрымэнтальнай працы, тэатры посьле кастрычніка павінны былі даць, „чорны хлеб“—тэатральнае здаровае пажывеньне пролетарскім масам. Утвораны тэатр рэволюцыйнай сатыры „Теревсат“, перажыўшы пэрыод павярхоўнага агітацыйнага лубка і даволі нявытрыманага ідэолёгічна і мастацка „гэроічнага“ рэпэртуару, уступіў месца сучаснаму „Тэатру Рэволюцыі“ Моссавета. Політсавет Тэатру Рэволюцыі мае сваім заданьнем шырокае соцыяльнае і культурнае выхаваньне масавага глядзельніка, пашырэньне яго рэволюцыйнай сьвядомасьці ў духу комуністычнай эпохі, выяўленьне новага комуністычнага сьветаразуменьня і новага быту, шляхам утварэньня ўласьцівых тэатру жывых і абагульняючых вобразаў, якія адбіваюць усю рознастайнасьць сучаснага жыцьця і рэволюцыйных падзеяў мінулай гісторыі.

У тэатральнай тэхніцы і знадворным афармленьні спэктакляў Тэатр Рэволюцыі, ня ўпіраючыся ні ў якія эстэтычныя догматы і не прытрымліваючыся раз назаўсёды знойдзенай формы. шукае новага рэволюцыйнага выражэньня для кожнай данай п‘есы, адпаведна да зьменных форм самога жыцьця і дасканалячыхся густаў новага глядзельніка.

Дзеля гэткіх-жа заданьняў утварыўся тэатр культ-аддзелу Маск. гар. савету профэсыянальных саюзаў; гэты тэатр пачаў сваю дзейнасьць з прымітыўна-мастацкага натуралізму, стараючыся выключна даць ідэолёгічна-комуністычны зьмест тэм п‘ес. Пастаноўка п‘есы „Казнь Сальва“ (пераробка С. Пракоф‘ева з роману Золя „Парыж“) паказала сур‘ёзныя ідэолёгічныя намеры гэтага тэатру. Наступныя стэктаклі паказалі ў той-жа час, што дзеля таго, каб не перайсьці ў мастацкіх адносінах у павярхоўную халтуру (напр. спэтакль „Калігула“) трэба, як і Тэатру Революцыі, выхоўваць ня толькі новага глядзельніка, але і выхоўваць свайго актора, сваіх новых драматургаў і рэжысэраў. Калі Тэатр Рэволюцыі надужываў часамі эстэтызм формы і вельмі вялікую ўвагу зварачаў на глядзельны бок спэктаклю, часамі на шкоду яго ідэолёгічнай вытрыманасьці („Озеро Люль“, „Файко“, „Стенька Разин“ В. Каменскага), то тэатр МГСПС часамі замала зварачаў увагі на форму.

Абодвы гэтыя тэатры паступова выпрацоўваюць больш сур‘ёзныя органічныя сплавы свайго ідэолёгічнага зьместу са штучнай формай, для якой, пэўна, павінна быць выкарыстана ўся практыка рэволюцыйнага тэатру за гэтыя гады.

Абодва гэтыя тэатры запраўды абслугоўваюць шырокія пролетарскія масы, зьяўляюцца аўдыторыяй рабочых, чырвонаармейцаў і часткай сялян. Гэтак напрыклад, Тэатру Рэволюцыі за два гады існаваньня ўдалося даць магчымасьць быць бясплатна на спэктаклях 150.000 асобам і 300.000 асоб было прапушчана па паніжаным і льготным цэнам. Зразумела, гаспадарчы вырахунак не павінен засланяць сабой доступ у тэатр шырокім масам, гэта застанецца асноўным прынцыпам. Трэба адзначыць добры пачатак тэатру МГСПС, які прыцягнуў да сваёй працы рабкораў; гэтыя апошнія даюць ня толькі ўдумную рабочую крытыку спэктакляў, але й наперад абгаварваюць рэпэртуар гэтага тэатру.

Але ўсе спробы даць у тэатры жывы зьмест сучаснага жыцьця, рэальную істотнасьць новага быту, ня могуць быць даволі глыбокі і грунтоўны, пакуль гэтыя нашыя тэатры ня знойдуць трывалай падставы ў новай драматургіі. Гэта іх галоўны клопат. Утварэньне новага рэпэртуару яшчэ наперадзе. Тэатру Рэволюцыі і тэатру МГСПС часамі пры-

ходзілася стаяць перад фактам амаль поўнай адсутнасьці твораў, якія здавальнялі-б з ідэолёгічнага і мастацкага боку; і прыходзілася з пачатку выкарыстоўваць матар'ял, які толькі часткай адпавядаў заданьням тэатру.

Паміж настроямі заходняй драматургіі і псыхолёгіяй рускага пролетарскага глядзельніка ўтвараецца ўсё большая прорва. Нам прыходзіцца ўсё больш і больш разьлічаць толькі на свае ўласныя сілы.

З гэтай мэтай, паміж іншым, абодвы тэатры пачынаюць гуртаваць навокал сябе маладых тэатральных аўтораў, сумеснымі сіламі наладжваюць як-бы лябораторыю сваёй драматургіі.

Побач з гэтым тэатры ня ўхіляюцца і ад клясычных твораў расійскай і сусьветнай драматургіі ў іх сучасным ідэолёгічным і тэатральным разуменьні.

Пэўна, новая справа на шляху свайго разьвіцьця, будзе высоўваць і новыя запатрабаваньні. Спробы рэволюцыйнага тэатру ні ў якім разе не закончаны, не завершаны, і перад гэтым тэатрам вельмі многа далейшай паглыбленай адказнай працы побач з далейшым разьвіцьцём наогул рэволюцыйнага будаўніцтва на шляху да соцыялізму.

Распад мастацтва пераходнага пэрыоду на рознастайныя элемэнты, узаемныя адносіны мноства спосабаў, вышуканьне новых,—усё гэта разгарнула перад намі шырокі малюнак тэхнічнага майстэрства, з якога мы маглі-б выбраць патрэбнае нам для новых абагульненьняў, для новага сынтэзу; у гэтым сынтэзе мы будзем старацца выявіць суцэльны клясычны мастацкі стыль абноўленага грамадзянства, якое йдзе да соцыялізму праз пролетарскую рэволюцыю.

Мы ставім заданьнем новага мастацтва, упаасобку тэатру, *монолітны мастацкі рэалізм*,—і павінны прызнаць, што гэты новы рэалізм у тэхніцы свайго майстэрства будзе значна адрозьнівацца ад старога. Новае майстэрства будзе ўзбагачана фарбамі і спосабамі, якія дало само жыцьцё. Ня толькі рэволюцыйныя, але і ўтвораныя раней акадэмічныя тэатры паступова прасякаюцца дасягненьнямі апошніх год, як у інтэрпрэтацыі п'ес, гэтак і ў знадворным іх афармленьні і ў спосабах акторскай тэхнікі: рухі, размовы, унутранае апраўданьне і г. д.

Але для органічнага росту новага мастацтва важна, пэўна, ня гэтулькі тэхнічнае майстэрства, колькі ідэёвае грамадзка-соцыяльнае яго апраўданьне. Надзвычай яскравы ў гэтым сэнсе словы, памёршага два гады таму назад, выдатнага маладога рэжысэра Е. П. Вахтангава:

„Калі мастак хоча тварыць новае, посьле таго як прышла рэволюцыя, то ён павінен тварыць побач з народам. Не „для“ яго, ня „дзеля“ яго, а *разам* з ім. Каб стварыць новае і дабіцца перамогі, мастаку патрэбна Антэева зямля. Народ—вось гэта зямля. Народ—што творыць рэволюцыю“.

# МЕНСКАЕ ТАВАРЫСТВА ПРЫГОЖЫХ МАСТАЦТВАЎ.

*(З гісторыі опозыцыйнага руху ў Беларусі).*

**Падаў З. Ж.**

У 90 гадох мінулага стагодзьдзя лібэральнымі асобамі менскага грамадзянства па ініцыятыве старшага рэвізора акцызнай управы А. Аляксандрава было заснована „Менскае Таварыства Аматараў Прыгожых Мастацтваў“. Гэта таварыства офіцыяльна ставіла сваёю мэтаю культурную працу і дзеля гэтага было падзелена на сэкцыі: 1) літаратурную, 2) драматычную, 3) музычную і 4) мастацкую. На сходах літаратурнай сэкцыі чыталіся рэфэраты на літаратурныя тэмы, рабіліся разгляды часопісаў, разьбіраліся творы вядомых пісьменьнікаў. Пасьле рэфэратаў, звычайна, адбываліся дэбаты. Драматычная сэкцыя па пятніцах і нядзелях ставіла п'есы ідэёва-выхаваўчага значэньня. У мастацкай сэкцыі адбываліся выстаўкі працаў мясцовых мастакоў—Кругера, Папова і інш.

Час ад часу таварыства выпісвала для чытаньняў лекцый вядомых расійскіх пісьменьнікаў і публіцыстых, як крытык Айхэнвальд, Тан, Е. Чырыкаў і інш. На іх лекцыі зьбіралася шмат паступовага грамадзянства і, асабліва, моладзі; лекцыі, рэфэраты і дыспуты прымалі ажыўлены, урачысты выгляд і праходзілі з вялікай зацікаўленасьцю. Ня глядзячы на сваю лойяльнасьць, Таварыства Прыгожых Мастацтваў служыла адзіным прытулкам лібэральна-опозыцыйнай, нават, рэволюцыйнай думкі і цягнула да сябе ўсё перадавое грамадзянства места Менску. Панаваўшая ў 90 гады цяжкая рэакцыя, якая справодзіла новае царстваваньне апошняга Раманава дубальтавалася ў Беларусі ўзмоцненым развоем русыфікатарскай політыкі. Самае чорнае, авантурнае чынавенства, прадажнае папоўства запаланяла беларускія гарады і мястэчкі, вядучы настойнае змаганьне з малейшым уяўленьнем прогрэсыўнае думкі. Офіцыяльная грамадзкасьць вылівалася ў казённа-субсыдуемых організацыях розных брацтваў і чыноўніча-чорнасоценных аб'яднаньняў. Прогрэсыўна-лібэральная думка мусіла шукаць публічнага выяўленьня ў розных замаскірованых выступленьнях. Організацыя Таварыства Прыгожых Мастацтваў—было фактычным аб'яднаньнем супроціў офіцыяльнае думкі. Мажліва, а бадай і пэўна, што організаторы яго з перадавых буржуазна-дэмократычных дзеячоў, як акцызьнік А. Аляксандраў, адвакат Чаусаў, палкоўнік С. Чарапанаў і інш. ня мелі на воку мэты „зьбіраньня супроціў правіцельственых сіл“, а звычайна думалі, як уродна гэтаму тыпу людзей, пайграць у опозыцыю. Аднак, надышоўшы развой рабочага руху, які к канцу 90 і пачатку 900 гадоў выразна пракаціўся па царскай Расіі, вымусіў мімаволі схіляцца таварыства ў лева. Паступова ў яго сябры сталі ўпісвацца рэволюцыйныя дзеячы розных партый, як С. Кавалік (народаволец), С. Скандракоў (с.-р.), А. Бонч-Асмалоўскі (народаволец) і інш. Паралельна гэтаму і напрамак працы таварыства ламаў у лева.

Мастацкая работа пачала адступаць перад палітычнай, якая—чым далей, тым болей—прабівалася ў таварыства праз рэвалюцыйных удзельнікаў яго. „Гэткім чынам“, як піша А. Бонч-Асмалоўскі, [1]) „з пачатку ў поўнай меры лойяльнае, Таварыства Прыгожых Мастацтваў паступова, па меры росту грамадзянскага нездаваленьня, прымала ўсё больш і больш ўдзел у палітычным жыцьці. З гэтае прычыны за ім сталі пільна сачыць: на літаратурныя сходы пачалі прысылаць паліцэйскага, рэфэраты пачалі трэбаваць для папярэдняга прагляду ў губарнатарскай канцылярыі, вайсковым забаранілі прымаць удзел у таварыстве. З паявлічэньнем рэволюцыйнага руху, рэволюцыянэры сталі выкарыстоўваць таварыства для рэволюцыйных мэтаў і пад выглядам бэнэфісаў ставілі спэктаклі для збору грошай на нелегальныя мэты“.

Асабліва выразны рэволюцыйны від прыняла праца Таварыства Прыгожых Мастацтваў у рэволюцыйныя 1904-5 гады. У гэты час яно літаральна зрабілася рэволюцыйным клюбам, дзе йшлі сходы, дыскусіі на палітычныя тэмы, нават раздаваліся проклямацыі. Але ўздым рабочага руху, кіпеньне рэволюцыі былі надзейным ахоўнікам таварыства ад замераў на яго з боку начальства. Ды апошняму ня было рады справіцца нават з адкрытым выступам рэволюцыйных сіл, якія павялі дружны наступ на самадзяржаўе. Трэ‘ было перайсьці да абароны і забыць на нейкі час пра наступ. Тым ня меней, менская ўлада, на кожны выпадак, ня спускала свайго пільнага вока з таварыства. У яе меўся досі філёраў, каб пільнаваць за працаю таварыства і ў адпаведны момант палічыцца з ім. І сьлежка ня спынялася праз усе бурлівыя часы 1905 г. Калі-ж хваля рэволюцыйнага ўздыму заметна апала і стала вочавідкі, што правіцельства на гэты раз перамагло рэволюцыю,—пачалася па ўсёй Расіі страшная цяжкая рэакцыя.

Яна адазвалася і ў Менску.

Расправа за расправаю валілася на малейшае праяўленьне рэволюцыйнай чыннасьці. Адзін за другім гасіліся паўстаўшыя к чыннасьці ў канцы 1905 году рэволюцыйныя і проста опозыцыйныя асяродкі. Провінцыяльным сатрапам былі перададзены шырокія поўнамоцтвы для змаганьня з „крамолаю“. Тагочасны менскі губарнатар Курлоў, адзін з крывавейшых паліцэйскіх, заліўшы вуліцы Менску крывёю растрэленай грамады 18 кастрычніка, прыняў да душы расправу з рэволюцыйнымі праявамі. Пачаўшы з адкрытых выступаў рабочых, Курлоў дайшоў і да розных клюбаў, аб‘яднаньняў і таварыстваў.

Ня гледзячы на тое, што кіраўнікі Менскага Таварыства Прыгожых Мастацтваў, парэджаныя выборкаю з іх сям‘і рэволюцыйных элемэнтаў, самі запалохаліся развою выбуху рэволюцыйнай хвалі і самі прыцішылі гострасьць выступленьняў таварыства,—ня гледзячы на гэта Курлоў ужо з пачатку 1906 году закінуў руку на таварыства. Паліцмайстар Нораў, які вёў нагляд за таварыствам, 25 студзеня 1906 году падаў губарнатару рапорт гэткага зьместу: „У Таварыстве Прыгожых Мастацтваў многія сябры належаць да крайніх партый рэволюцыянэраў, а таму госьці іх— у большасьці аднадумнікі і ўжо не аднораз было ўстаноўлена, што на сямейных і танцавальных вечарынах, а таксама на розных чытанках дапускаліся супроціўправіцельственыя прамовы і дэмонстрацыі з раздаваньнем проклямацый. Кожны раз, як у таварыстве зьявіцца чын полі-

[1]) Зборнік „Беларусь“—*Опозыцыйны рух на Беларусі*. Выданьне ЦІК Беларуск. Рэсп., 1924 г.

цыі, яго сустракаюць варожа, а мінулаю ноччу гарадавы 4 часьці Мікалаеў затрымаў Яна Антонавага Шлегера з трыма проклямацыямі, з якіх ён адну атрымаў у „Таварыстве Прыгожага Мастацтва“, як гэта відаць з дастаўленага пры гэтым рапорту [1]). З прычыны гэтага і прымаючы на ўвагу цяперашні трывожны час, маю гонар прасіць ваша правасхадзіцельства, ці ня прызнаеце вы мажлівым супыніць чыннасьць таварыства.

В. д. поліцмайстра Нораў.

На гэты рапорт губарнатар Курлоў запрасіў болей „падрабязговых вестак аб гэтым“, адпісаўшы поліцмайстру сакрэтна.

„Менскаму поліцмайстру.

З прычыны рапорту ад 25 студзеня № 186 адносна зачыненьня „Таварыства Аматараў Прыгожых Мастацтваў“, прадпісваю В. В. даць мне ў дадатак да азначанага рапорту больш падрабязговыя і мотываваныя весткі наконт гэтага, каб устанавіць стопню шкоднай і супроціўправіцельственай чыннасьці названага таварыства. Г-р Курлоў“.

Поліцмайстар на пропозыцыю губарнатара зараз-жа, 8 лютага, адказаў новым рапортам, у якім прывёў багата фактаў, якія компрамітавалі політычную лойяльнасьць таварыства. Вось гэты рапорт: „Для выпаўненьня прадпісаньня ад 28 мінулага лютага за № 633, маю гонар данясьці вашаму правасхадзіцельству, што Менскае Таварыства Прыгожых Мастацтваў складзена з гэткіх асоб: старшыні Віктара Іванавага Чаусава, таварыша старшыні Сяргея Янавіча Мядзьведзева, які, па сабраных тайным способам вестках, прымаў удзел у падгаворы вучняў да забастоўкі і стараўся падтрымаць забастоўшчыкаў, Ляксея Ляксеевага Холмскага, сакратароў: Костуся Мацеевага Какоўцава і Костуся Есіпавага Фальковіча—абудва супроціўправіцельственага напрамку, і, апроч таго, апошні прымаў удзел у ўстройстве забастоўкі вучняў; заведуючага гаспадарствам Андрэя Ляксеевага Зярнова, старшынь: драматычнай сэкцыі Карнея Ляксеевага Пятрова, мастацкай—Гарасіма Майсеевага Пінуса і адміністрацыйнага аддзелу—Вячэслава Гілеравага Сушчынскага, старшынь: Саламона Юльлянавага Нэйфаха, Міхася Паўлавага Мысаўскага, які зьбег за некалькі дзён да зробленага распараджэньня арыштаваць яго, і быўшага ў сасланьні Сымона Давыдавага Камінскага, які зараз сядзіць у вастрозе, Веры Данілавай Аляксандравай, Кацярыны Парфіравай Урыновіч і Міхася Абрамавага Нодэльмана. Усе перапісаныя асобы, апроч адмечаных у нядобранадзейнасьці,—адных пераконаньняў і поглядаў; поліцыі не ўдалося іх улічыць, з прычыны няйменьня часу і многасьці экстрэных спраў ды ўмелага правядзеньня імі сваіх ідэй у таварыства.

Пры гэткім складзе таварыства, безабмылкова можна сказаць, якую мэту яно ўганяе, ды гэта даказваецца й тым, што на сямейных вечарынах бываюць выключна вучні і асобы, якія прыналежаць да партыі рэволюцыянэраў; некалькі разоў у памяшканьні таварыства былі захоплены недазволеныя сходы і быў час, што перадлюдна казаліся прамовы, якія падбухторвалі да нізрынуцьця існуючага дзяржаўнага парадку; часта зборы з вечарын ішлі на карысьць рэволюцыянэраў, абвясьціўшы бэнэфіс якога-кольвечы актора, як гэта было 31 студзеня, а ўчора ў час вечарыны адбыўся збор у карысьць вучняў рэальнага вучылішча; вучні перапіліся, дазвалялі сабе мудрагельствы і сьмяяліся з прысутнічаўшага там вартавога памоцніка прыстава Шпілеўскага.

[1]) Рапорт падаў поліцмайстру прыстаў Барнэцкі.

З усяго выложанага відаць, што пакінуць на далейшы час існаваць таварыства больш чым не пажадана, бо папярэдзіць недазволеныя сходы і зьбёры на карысьць рэволюцыйнага руху немажліва. В. д. поліцмайстра Нораў".

Гэты рапорт перакаваў урэшце Курлова. Апошні рашыў у той-жа дзень выдаць распараджэньне часова супыніць чыннасьць таварыства, давёўшы аб гэтым міністру. 8 лютага 1906 г. губарнатар аднача сна паслаў сваё распараджэньне і Менскаму поліцмайстру і ўправе таварыства.

Поліцмайстру Курлоў пісаў:

„Прызнаўшы неабходным забараніць на час, згодна п. 2, ст. 16 палажэньня аб надзвычайнай ахове, усякія сходы і пасяджэньні сяброў Менскага Таварыства Аматараў Прыгожых Мастацтваў з прычыны шкоднага напрамку, аб гэтым паведамляю ваша высокаблагародзьдзе дзеля неадкладнага выпаўненьня; пры гэтым дадаю, што аб зробленым зачыненьні Таварыства Аматараў Прыгожых Мастацтваў я даводжу да ведама міністэрства ўнутраных спраў. Аб выкананьні гэтага мне данясьці. В. д. губарнатара. В. аб. правіцеля канцылярыі".

Управе таварыства была паслана гэткая папера:

„Управе Менскага Таварыства Аматараў Прыгожых Мастацтваў.

Паведамляю Ўправу Менскага Таварыства Аматараў Прыгожых Мастацтваў, што я аднача сна з гэтым даў распараджэньне Менскаму поліцмайстру аб часовай забароне, на моцы п. 2, ст. 16 палажэньня аб часовай ахове, усякіх сходаў і пасяджэньняў сяброў адзначанага таварыства і што аб зробленым зачыненьні яго я паведамляю міністэрства ўнутраных спраў. В. д. губарнатара. В. аб. правіцеля канцылярыі".

Аднача сна Курлоў тэлеграфаваў аб гэтым М. У. С. А. Праз тыдзень пасьле гэтага ім было паслана падрабязговае данясеньне аб чыннасьці і складзе таварыства. Сабраўшы больш выпуклыя здарэньні, якія адбыліся на пасяджэньнях таварыства на працягу 1905 году, году яго выразнага пахілу ў бок політычнасьці, губарнатар даводзіў міністэрству аб неабходнай патрэбе зацьвердзіць яго пастанову аб зачыненьні таварыства—пры гэтым назаўсёды. У сваім данясеньні выразьней усяго на маніфэстацыі 18 лютага 1905 г., з апісаньня якога данясеньне й пачынаецца. Вось яно:

„Міністру ўнутраных спраў.

З прычыны маіх даводзін, зробленых тэлеграмаю ад 8 лютага за № 633, маю гонар давясьці: 1) 18 лютага 1905 году ў памяшканьні Менскага Таварыства Прыгожых Мастацтваў, у час чытанкі лекцыі аб Чэхаве, сабралася—спачатку з білетамі, а пасьле й бяз білетаў—вялікая грамада, да 1000 чалавек, у большасьці жыдоўскай моладзі. Калі скончылася лекцыя, на трыбуну пачалі ўсходзіць розныя асобы і казаць прамовы рэволюцыйнага зьместу, і кожная прамова адзывалася выкрыкамі: „Далоў самадзяржаўе!", „Няхай жыве рэспубліка!" Поліцыя была спачатку прыціснута да сьцяны, а пасьле адціснута на сходы. Сходка разышлася а палове дванаццатае гадзіны ў ночы і вышла з памяшканьня Таварыства Прыгожых Мастацтваў трыма грамадкамі ўсё-ж з тымі рэволюцыйнымі оклічамі, але на вуліцы натаўп быў разагнаны поліцыяй. Аб гэтым здарэньні своечасна было паведамлена дэпартамэнту поліцыі і рабілася дазнаньне па даручэньню майго папярэдніка старшым чыноўнікам асабовых даручэньняў Куцынскім, але, да няшчасьця, гэта дазнаньне было ня скончана і нікуды не накіравана. З тых-жа вестак, што атрыманы ад начальніка жандарскага ўпраўленьня, відаць, што справа

аб маніфэстацыі, якая адбылася 18 лютага ў Таварыстве Аматараў Прыгожых Мастацтваў, дасьледваньнем спынена. Гэткім чынам, першая дэмонстрацыя ў гор. Менску мела месца ў памяшканьні названага таварыства. Улетку таварыства не працавала, а таму й ніякіх выпадкаў не здаралася. 2) А толькі пачаўся зімні сэзон 1905 году, як, па вестках паліцыі, гэтак і чыноў корпусу жандараў, амаль не на ўсіх вечарынах пад аховаю старшынь і дзякуючы бездагляднай даступнасьці асобам рознага званьня й становішча, у большасьці жыдоў, пачаліся абгаворы ў розных колках, а часамі й досыць выяўна, пытаньняў палітычнага характару, абгавор чыннасьці правіцельства й мястовае ўлады. Сябры таварыства няскрытна агітавалі за забастоўкі вучняў, а вучні старэйшых клясаў амаль ня ўсіх вучылішчаў ахвотна хадзілі на сходы таварыства. Як паведамляе паліцыя, многія сябры таварыства адкрыта прызнаваліся, што яны належаць да крайніх рэволюцыйных партый і стараліся як мага, каб большасьць публікі складалася з іх аднадумцаў; таксама не аднораз было дасьледжана, што на сямейных і танцавальных вечарынах і на розных чытанках, посьле таго, як казаліся прамовы супроціў правіцельства, ладзілі нязначныя дэманстрацыі ды раздавалі прысутным проклямацыі. Калі зьяўляўся паліцэйскі чын, яго сустракалі вельмі няпрыхільна, і засьведчыць праз сьведак факт дэмонстрацыі супроціў правіцельства было ня толькі трудна, а й немажліва, бо сабраная публіка мела агульную солідарнасьць. У ночы перад 24 студзеня паліцыя затрымала Яна Антонавага Шлегера, які служыць у службе цягі Л.-Р. ж. д., з трыма проклямацыямі; Шлегер проста заявіў, што адну з гэтых проклямацый ён атрымаў у Таварыстве Аматараў Прыгожых Мастацтваў зусім адкрыта і што наогул выпадак распаўсюджаньня гэтых проклямацый, як яму вядома, не ў пяршыню. Шлегер накірован у жандарскае ўпраўленьне“.

Далей у 3 параграфе свайго данясеньня Курлоў пералічае галоўных удзельнікаў таварыства, згодна іх характарыстыкі, якую ў сваім рапарце падаў паліцмайстар Нораў. Посьле губарнатар пераходзіць ізноў да апісаньня чыннасьці таварыства, робячы гэткія вывады аб галоўных кіраўніках яго: „Усе пералічаныя асобы выразна настроены супроціў правіцельства і зусім солідарны ў сваіх пераконаньнях, якія яны дружна, усімі мажлівымі способамі, праводзяць сярод сяброў і гасьцей таварыства. Склад людзей, якія прыходзяць на сямейныя вечарыны, што ладзіць іх таварыства—вучнёўская моладзь і моладзь жыдоўская, якая большай часткаю належыць да партыі Бунду; гэтыя вечарыны і лекцыі яна пераварачвае ў недазволеныя сходы, а маскарады з прэміямі на лепшыя гарнітуры—у адчыненую выстаўку карыкатур на правіцельства, запазычаных з сучасных юмарыстычных супроцьправіцельственых журналаў. Бэнэфісы ў карысьць якога-кольвечы актора нібы назначаюцца з мэтаю добрачыннасьці, а сапраўды служаць зборам грошай на рэволюцыйныя мэты. А 31 студзеня на вечарыне ў карысьць небагатых вучняў рэальнага вучылішча, калі а 12 гадз. начальства рэалістаў разышлося, а старшынь ці ня было, ці яны не мяшаліся, вучні рэальнага вучылішча перапіліся і ўсякся мудраваліся, адкрыта глумячыся з паліцыі, якая старалася заспакоіць іх.

Прымаючы на ўвагу, што далейшае існаваньне Таварыства Аматараў Прыгожых Мастацтваў павядзе да яшчэ большых непажаданых вынікаў, і што мэты, якія таварыства, згодна статуту, павінна выконваць—служыць збліжэньню мясцовых дзеячоў у галіне прыгожых мастацтваў і асоб, якія ім спачуваюць, дапамагаць распаўсюджаньню мастацтва ў Менску і дапамагаць тым жыхаром Менску, якія жадаюць удасканальвацца ў

прыгожых мастацтвах, ня выконваецца існуючым статутам таварыства, а наадварот — гэты статут служыць выключна мэтам рэволюцыйнай пропаганды,—я, на падставе 321 ст., т. II агульн. губэр. устаноў, выдан. 1892 г., 8 лютага зачыніў агульныя сходы таварыства і хадайнічаю перад В. В. аб канчатковым зачыненьні Мен. Тав. Амат. Прыгожых Мастацтваў, выключна шкоднага па свайму рэзка выказанаму супроцьправіцельственаму напрамку, які ня мае нічога агульнага з пастаўленай статутам таварыства задачаю“.

Данясеньне Курлова аб чыннасьці таварыства і, асабліва, аб дэманстрацыі, якая адбылася ў ім 18 лютага на лекцыі аб Чэхаве, было пераслана ў дэпартамэнт паліцыі. Дырэктор апошняга—Вуіч—шыфраванаю тэлеграмаю гэткага зьместу патрабаваў больш падрабязных вестак аб дэманстрацыі: „Просьба неадкладна паведаміць поштаю для дакладу міністру аб непарадках, якія былі дапушчаны ў лютым 1905 году ў памяшканьні Менскага Таварыства Аматараў Прыгожых Мастацтваў у час лекцыі аб Чэхаве“.

На другі-ж дзень, 28 лютага, губарнатар адказаў дэпартамэнту паліцыі, пераказаўшы літара ў літару ўсё тое, што пісаў у ранейшым данясеньні міністру. На канцы-ж дапісаў просьбу, каб дэпартамэнт паліцыі паведаміў яму, ці можа ён даць дазвол на сход таварыству, калі яно запросіць яго разрашэньня на гэта, для ліквідацыі свае чыннасьці.

Як аднёсься да гэтага дэпартамэнт паліцыі—з папер ня відаць. Паміж гэтага, 18 сакавіка Дэпартамэнт Агульных Спраў паведаміў Менскага губарнатара, што „яму належыць, на дасканалым фундаманце ст. 33 Адд. I і Адд. VI часовых правіл аб саюзах і таварыствах, аддаць на вырашэньне мясцовага губэрскага па справах аб таварыствах прысутства пытаньне аб зачыненьні Мен. Тав. Аматараў Прыгожых Мастацтваў.

Пасьле гэтага мінула тры з лішнім месяцы часу ведамственай перапіскі, у якія таварыства лічылася „часова прычыненым“. 8 ліпеня за подпісам старшыні рады таварыства В. Чаусава на імя губарнатара была падана заява гэткага зьместу:

„Савет старшынь Менскага Таварыства Аматараў Прыгожых Мастацтваў мае гонар хадайнічаць: 1) каб дазволіць яму склікаць сяброў таварыства дзеля вырашэньня пытаньня аб ліквідацыі спраў таварыства на экстраны агульны сход, назначаны на 18 ліпеня ці на 25, калі, з-за няўкі законнага ліку сяброў, сход 18 не адбудзецца; 2) каб хутчэй накіраваць у законным парадку пытаньне аб зачыненьні таварыства, якое, згодна новаму закону аб таварыствах і саюзах, павінна быць неадкладна перададзена на разгляд губэрскага аб таварыствах прысутства і 3) каб дазволіць надрукаваць павесткі на запрашэньне на агульны сход у прыкладзенай на асобным лістку рэдакцыі.

Губарнатар „соизволил“ даць дазвол на скліканьне агульнага сходу таварыства на 18 ці на 25 ліпеня, але даў умовы, „каб у памяшканьне таварыства ў часы агульнага сходу не дапускаліся пастароньнія таварыству асобы і каб, апроч пытаньня пра ліквідацыю спраў, іншыя пытаньні не абгаворваліся. Наконт надрукаваньня запрашальных павестак, губарнатар парадзіў зьвярнуцца да паліцмайстра, паведаміўшы яго аб сваім рашэньні. Пэўна апошні разрашыў надрукаваць павесткі, бо ўжо 11 жніўня губарнатар паслаў паліцмайстру адносьнік з даручэньнем, каб той данёс, ці адбыўся 25 ліпеня агульны сход сяброў таварыства і калі адбыўся—каб даставіць копію прынятага таварыствам рашэньня, сказаўшы, ці яно выканана“. Прыказаньне губарнатара паліцмайстар выпаўніў. Копія рашэнь-

ня агульнага сходу таварыства, які адбыўся 25 ліпеня, была паслана губарнатару 24 жніўня В. Чаусавым. Аб гэтым апошні паведаміў акалодачнага надзіраценя, якога паліцмайстар пасылаў да яго з адносьнікам ад 25 жніўня.

Вось пратакол агульнага сходу сяброў Таварыства Аматараў Прыгожых Мастацтваў ад 25 жніўня 1906 г., прысланы губарнатару: „Сход адчыніў прадсядацель Рады Старшынь Таварыства В. І. Чаусаў, які заявіў, што сход, дзякуючы прысутнічаньню 80 сяброў, якія расьпісаліся на асабістым лісьце, сход, як другі, згодна прыметцы ст. 41 статуту, лічыцца законным—і запрапанаваў выбраць прадсядацеля сходу і сэкратара.

Прадсядацелем быў выбраны сябар таварыства А. Ф. Аляксандраў, сэкратаром С. А. Левінсон. В. І. Чаусаў далажыў аб прычынах зачыненьня таварыства, зрабіў справаздачу аб фінансавым становішчы па 18 лютага і запрапанаваў Радзе Старшынь зьліквідаваць справу, з прычыны распараджэньня адміністрацыі аб часовым зачыненьні таварыства; да гэтага якраз падышоў добры момант: заснованае новае Літаратурна-Артыстычнае Таварыства выказала пажаданьне здабыць маемасьць таварыства і прыняць на сябе ўсе яго даўгі ды арэндныя дагаворы. Упаўнаважаны Управы новага Літаратурна-Артыстычнага Таварыства гр. Алешнікаў падмацаваў рашэньне таварыства прыняць на сябе выкананьне павіннасьцяй Таварыства Прыгожых Мастацтваў.

Агульны сход аднагалосна пастанавіў зьліквідаваць справы Таварыства Аматараў Прыгожых Мастацтваў і перадаць маемасьць Управе Літаратурна-Артыстычнага Таварыства з тэй умоваю, што яно прыме на сябе ўсе абавязкі Таварыства Прыгожых Мастацтваў і заключаныя ім арэндныя дагаворы. Затым агульны сход аднагалосна зацьвердзіў даложаную прадсядацелем Рады Старшынь В. І. Чаусавым грашовую справаздачу Рады Старшынь аб зваротах таварыства да 18 ліпеня 1906 г. і балянс аб маемным становішчы таварыства на 18 ліпеня, з якога відаць, што маемасьць таварыства павінна быць ацэнена на 7172 р. 35 к., а даўгі таварыства скадаюць 7795 р. 92 к.—знача, па зьліквідаваньні спраў дэфіцыт павінен быць вылічан на 623 руб. 57 к.

Агульны сход пастанавіў таксама перадаць усе правы на іскі і абавязак адпавядальнасьці таварыства па іскаў Літаратурна-Артыстычнаму Таварыству.

Вырашана даручыць Радзе Старшынь Таварыства Аматараў Прыгожых Мастацтваў зрабіць перадачу як маемасьці, гэтак і абавязкаў Таварыства Аматараў Прыгожых Мастацтваў Управе Літаратурна-Артыстычнага Таварыства.

Па пропозыцыі прадсядацеля сходу А. Ф. Аляксандрава, агульны сход выказаў узьдзячнасьць Радзе Старшынь Таварыства Аматараў Прыгожых Мастацтваў за пакладзеную ім на карысьць таварыства працу. Копію пратаколу рэшана паведаміць Управе Літаратурна-Артыстычнага Таварыства разам з опісьсю маемасьці а справаздачы.

Пратакол падпісалі: прадсядацель сходу А. Ф. Аляксандраў, сэкратар сходу С. А. Левінсон і ўпаўнаважаны сябар Управы Літаратурна-Артыстычнага Таварыства П. Алешнікаў“.

Гэтак скончылася гісторыя жыцьця й чыннасьці Менскага Таварыства Аматараў Прыгожых Мастацтваў, якое саслужыла досыць значную ролю ў справе распаўсюджаньня рэволюцыйных ідэй і выхаваньня рэволюцыйнага руху ў Менску.

# КНІГАПІС.

**„Беларускі лемантар" С. Некрашэвіча і наогул аб беларускім лемантары.**

Лемантар С. Некрашэвіча даўно ўжо дастаўлены з Бэрліну й разасланы на паветы. У наступную зімку ўся нашая дзятва—вясковая й гарадзкая—пачне здабываць асьвету й культуру па гэтай кніжцы. Дзеці ня толькі што здабудуць мэханізм чытаньня, але з дапамогаю яшчэ настаўніка і абформяць свае ўяўленьні аб знаёмых рэчах і зьявах з унешняга міру. Адным чынам, лемантар, цераз які дзеці пераходзяць у вобласьць навукі і культуры, зьяўляецца надта і надта сур'ёзнаю кніжкаю ў школьна-пэдагогічнай літаратуры. Апрача гэтага, на беларускі лемантар трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу затым, што нашая культура адраджаецца, мае да сябе з боку розных асоб і розныя адносіны, і, значыцца, ад кожнага новага кроку значна залежыць або посьпех, або няўдача. Таксама па нашаму лемантару, як і па ўсякай кніжцы, працаўнікі іншых культур могуць судзіць і аб становішчы нашае асьветы наогул.

Вось з якімі прадпасылкамі трэба падыйсьці да разгляду лемантара С. Некрашэвіча.

Пачнем з галоўнейшага ў лемантары, з гукаў і літар. Усе яны йдуць у лемантары С. Некрашэвіча ня толькі згодна пэдагогічнаму правілу: ад лёгкага да труднага, але й згодна дадзеным фонэтыкі беларускае мовы; так, лягчэйшыя галосныя і зычныя: *а, у, м, ш, с* ідуць спачатку, а труднейшыя, як ёты: *я, ю* і *ў, й*—нескладовыя, афрыкаты *дз, дж* і чужаземны гук *ф* зьмешчаны ў канцы. Праўда, ня ўсюды тут выпаўнена пасьлядовасьць; так, гук і літара *х*, лёгкі дзеля выгавару і дзеля пісьма, зьмешчаны аж на 23 месцы, у той час *ы* і *к* зьмешчаны ў пачатку, на пятым і шостым месцы, хаця яны труднейшыя дзеля пісьма і па выгавару (параўні: „х" і „к"). У лемантарох Флёрава і Смоліч—*ы* на восьмым месцы, а ў Фартунатавай і Шлегер—на трынаццатым; гук і літ. „к" у Флёрава на дванаццатым месцы. Дзякуючы гэтаму, сказы ў лемантары С. Некрашэвіча пачынаюцца толькі посьле сёмай літары („А кыш, куры"), а ў Смоліч сказ ідзе посьле чацьвертай літары („Мама муху мах"). Кульман кажа, што дзеля хуткага стварэньня „поля чытаньня", як мага барждэй даваць дзецям сувязны тэкст, а ня трымаць іх на словах, апошнія толькі звужваюць „поле чытаньня" (здольнасьць бачыць і наперад).

Словы ў так званых „слупкох" падабраны па магчымасьці згодна закону падобнасьці, напр.: ка-ла, ка-лу, ка-лы, ма-лы, лы-ка, са-ла, ма-ла (16 стар.). Дзякуючы гэтаму прыёму, дзеці навучаюцца лёгка чытаць новыя злучэньні літараў, маркуючыся з *падобным папярэднім злучэньнем.*

Словы ўзяты такія, якія ўжываюцца ў дзіцячай гутарцы; кожнае слова

азначае рэальны прадмет, няма ніводнага нікчэмнага складу. У лемантары Смоліч, напр., дык, побач з словам „*му*“, стаіць і склад „*ма*“—праўда, гэта адзін выпадак.

Першы сувязны артыкульчык зьмешчаны посьле дзевятнаццаці літараў—„Дразды“, а ўсіх падобных артыкульчыкаў на літары памешчана толькі семнаццаць. У аддзеле „Посьле лемантара“ маецца дваццаць чатыры артыкулы; усе яны досыць цікавыя, вясёлыя, складзены гожаю дзіцячаю гутаркаю. Лепшыя з іх: „Курка“—дзіцячая казачка, „Дзіцячая песьня“ (Люлі, люлі, люлі, прыляцелі куры). „Дарожка“, „У весну“—верш Ясакара, у якім прадстаўлены галасы жывёлы:

Пяюць жабы: „ква-ква-ква“.
. . . . . . . . . . .
. . . . . . . авечачка
Забляяла: „мэ-мэ-мэ“.
Вясну кліча птах-зязюля,
Зычна кліча: „ку-ку-ку“.
. . . . . . . . . пчолка
Бае байкі: „зум-зум-зум“.

Здараюцца артыкульчыкі з добрым прыкладам для вясковых дзяцей, гэта: „У яблыках“, „Куды ты, Пятрусь“ і інш. Досыць ёсьць беларускіх пасловіц і загадак, якія важны для ўзбагачэньня дзіцячае мовы і разьвіцьця іх здаўменьня на занятках па роднай мове.

Узоры пісьма дадзены таксама добрыя: пісаныя літары й словы здавальняючай велічыні, надта чоткія і ў простых дзьвёх лінейках, бяз сеткі, што адкідаецца сучаснаю мэтодыкаю пісьма, бо сетка толькі горш затрымлівае рухі рукі, не дае свабоды рухам. Дадзены для сьпісваньня таксама цэлыя вершыкі і артыкульчыкі, цікавыя па свайму зьместу, напр.: „Жытні колас“, „Вясна“—вершы Коласа, „Каток“—цікавая дзіцячая гутарка („Пашоў каток у лясок, знайшоў каток паясок“...) і інш. Маюцца і малюнкі да матар'ялу, назначанага да сьпісваньня, напр.: „Наша вёска“ і малюнак вёскі над ракою—Нёмнам, артыкульчык пра сенакос і малюнак логу з стагамі і воза з сенам. Гэта надта добры пэдагогічны прыём да разьвіцьця сьвядомага пісьма і да наданьня ахвоты к пісьму. *Шкада толькі, што такіх узораў для сьпісваньня мала.*

Маюцца малюнкі ў лемантары С. Некрашэвіча і дзеля таго, каб вучань усвоіў процэс чытаньня па флёраўскаму правілу: „чытай, як гаворыш“. Дзеля гэтага на кожную новую літару і новыя практыкаваньні дадзены належныя малюнкі. Пазіраючы на знаёмы прадмет, вучань лёгка адразу прачытае цэлае слова. Агулам, што перш усяго кідаецца ў вочы ў лемантары С. Некрашэвіча—гэта яго паказнасьць: усіх малюнкаў маецца 198. Першыя сем старонак лемантара толькі й запоўнены аднымі рознымі малюнкамі, якія назначаны да вусных бясед—як да чытаньня, так і ў часе чытаньня. Пры гэтым усе малюнкі знаёмага дзецям зьместу, а затым і лёгка могуць выклікаць дзяцей на гутаркі, напр.: лоўля хлопчыкамі рыбы, коўзаньне брата і сястры на санках; характарныя малюнкі з жыцьця дзяцей беларускае вёскі: хлопчыкі з хлыстакамі качаюць кацёлку, гуляньне з зробленым ветрачком. Малюнкі працоўнага зьместу: праца на гародзе, у полі, на сенакосе і інш. На 6 і 7-ай стар. зьмешчаны малюнкі свойскай і дзікай жывёліны.

Апрача гэтага, на 10 і 11 стар. дадзен у малюнках матар'ял для лепкі, раскладзены ў сыстэматычным парадку. *Гэта навіна ня толькі для беларускага лемантара, але для многіх і расійскіх.* Пэўна, па лепцы ёсьць і спэцыяльныя падручнікі, але як пропаганда, як першы матар'ял, памяшчэньне ўзораў лепкі ў лемантары вельмі важна.

Разам з тым, на першых старонках лемантара дадзен матар'ял і для дзіцячага маляваньня, цераз якое дзіцячая рука лепш усяго ўсвойвае мэханізм пісьма. Гэта таксама мэтодычна, а затым і карысна.

Адным чынам, лемантар С. Некрашэвіча, наогул кажучы, зьяўляецца надта важным укладам у беларускую школьную літаратуру. Наступным аўторам новых беларускіх лемантароў без лемантара Некрашэвіча не абыйсьціся.

Зірнем-жа цяпер больш глыбей на лемантар Некрашэвіча, заўважыўшы дадзеныя экспэрымэнтальных досьледаў над чытаньнем.

Перш усяго слупкі... Яны ў лемантары даюцца скрозь на кожную літару. Няўжо мы кажам толькі асобныя словы, нічым між сабою ня зьвязаныя, як гэта даецца *чытаць—гаварыць* дзецям у слупкох? Другое, як настаўнік ня будзе старацца, чытаньне слупкоў усё-ж-такі малазмысловае, ня лёгічнае, напр.: што агульнага між словамі ў слупку: ма-ла-ко, ма-ло-ла, сма-ла, шко-ла, лас-ка, лыс-ка, калыс-ка (16 ст.). Настаўнік, праўда, хоць пытаньнем напомніць дзецям сэнс кожнага слова, думка хоць і будзе лётаць ад „малака“ да „смалы“, „лыскі“ і „калыскі“, але калі будзе чытаць дзіця само, дык такія словы проста будуць чытацца мэханічна, бяз уніканьня ў іх сэнс, бо няма аднае зьвязуючае думкі, да якое-б адносіліся словы. Куды цікавей прачытаць дзецям сказік: „А кыш, кулры!“, „Мама, аса!“ (15 ст.), або з лемантара Смоліч: „Малы Сымон ласун“, „У нас хораша“ (10 ст.) і інш. З гэтым і кажацца ў програме для 7-гадовак РСФСР: „Слупкі слоў, аніяк ня зьвязаных па сэнсу, бязглуздыя сказы [„у мужа ус“, у кіта ухо (?)] павінны быць назаўсёды адкінуты, як шкодны матар'ял, замацоўваючы бязьцямнае чытаньне“.

Яшчэ больш дапасуе з боку псыхолёгічнага і дыдактычнага даваць вучням ня сказы, ня зьвязаныя між сабою, як словы ў слупкох, а кароценькія артыкульчыкі — на кожную новую літару. Добры прыклад гэтаму ўяўляе сабою расійскі лемантар пад рэд. Сьцеблева „Дзіцячы мір“. Там першы расказік пачынаецца з восьмай літары „ы“: „У осы усы“. У мака осы“. Далей артыкульчыкі больш складаныя, напр.: на літ. „т“—„Кот. У кота мышка. Наш кот сыт. Кот катал моток: он устал“. Або на літ. „и“: „Около липы малина. Нина и Миша пошли по малину и напали на лису“. І гэтак на кожную літару. Слупкоў і ў паміне няма. Сьпісваньне-пісьмо таксама пачынаецца са сказаў („Мама, ау“) і далей адбываецца на артыкульчыках. У лемантары-ж С. Некрашэвіча мы яшчэ маем справу з „слупкамі“ і радкамі нязьвязных між сабою сказаў. Дзеля спробы возьмем месца на 40 стар.: „*На хвойцы вісеў (а мо, стаяў?) вулей. Тата! Пашый мне новыя боты. Мы злавілі рой. Мама расказала мне байку. Няхай жыве наш родны край Беларусь*“. Чаго тут толькі няма: і хвойка, і вулей, і тата, і боты, і рой, і мама, і Беларусь. *Але няма шака тут аднаго: лёгічнасьці, сувязі*, чаго мы так дабіваемся ад дзяцей на іншых лекцыях.

Мала гэтага, словы падзелены на склады. Дзеці вучацца гаварыць-чытаць па складох: ма-ма, ру-ка і г. д., а ня так, як трэба і чытаць, і гаварыць, і як, звычайна, гаворыцца і чытаецца: рука, мама,—адразу цэлае слова.

І вось навейшая экспэрымэнтальная дыдактыка настойна раіць пачынаць навучэньне з цэлых слоў, прапануе так званы мэтод цэлых вобразаў альбо слоў.

Трэба коратка сказаць, што мэтод цэлых вобразаў мае за сабою моцны навуковы і практычны грунт.

Досьледы над процэсам чытаньня рабіліся з дапамогаю апарата „tachistaskopa“ і выявілася, што граматны чалавек пры чытаньні схватвае зразу вобраз цэлага слова, а не застанаўліваецца на кожнай асобнай літары; пры гэтым успрыяцьце слова, скажам, у чатыры літары, патрабуе ня больш, а нават менш часу, чым успрыяцьце аднае асобнае літары. Далей, зрочны вобраз літар і цэлых слоў ня сумяшчаецца з гукавым складам

слова і яго значэньнем,—бо літары часта ўмоўна азначаюць гук. Напр.: у слове „*дзядзька*" гукаў 5, а літар 8, у слове „чытаньне"—гукаў „н" мяккіх 2, а літары 3 і г. д. Гук „е" не пад націскам у сілу закона аканьня вымаўляецца ў нашай мове, як „я", напр.: „вецер"—„вецяр", верацяно"—вярацяно", а часам і неўлавімы для слыха нейкі сярэдні гук паміж „*е*" і „*я*". Таксама ўмоўнасьць у літарах *я*, *ё*, *ю*, *е*, і гэта ўмоўнасьць у беларускай мове больш значная, чым у расійскай мове. Урэшце ў беларускай мове часта здараюцца такія гукі і ў злучэньні іх у словы, якіх з дзецьмі ніяк нельга раскласьці на чыстыя гукі,—гэта дыфтонгі: у͡о,ʻу͡о (j=у͡о), і͡е, о͡о, оў—нісхадзячыя і ўо йе—усхадзячыя, напр., у словах: куонь, піеч, воўз, во-о͡з і інш. І гэтыя дыфтонгі пашыраны на значнай частцы цяперашняй Савец. Беларусі. З дзецьмі гэтых дыалектаў нельга аналізаваць на чыстыя гукі слова *конь*, *печ*. *воз*, бо яны, дзеці, будуць казаць пасвойму: *воўз* або *вооз*. З другога боку, практыка сьведчыць, што, робячы расклад слоў хоць сабе і пры мэтодзе Флёрава (які, дапушчаючы папярэдні гукавы аналіз, не дапушчае гукавога сынтэзу,—у чым ёсьць яго падобнасьць і розьніца ад мэтоду цэлых слоў) усё-ткі ў вучняў, калі мала практычны настаўнік, будзе такое чытаньне нават на такіх словах: М (ы) а=ма+М (ы) а = мама *). Дык вось, каб ня было такога „мыканьня" й „хыканьня", больш дарэчна ўзяць слова „мама" і навучыць, як яно павінна чытацца, адразу, не раскладаючы саўсім на гукі, што, кажуць Фартунатаў і Шлегер, патрабуе адчотлівасьці адцягненага мысьленьня, бадай на якое дзеці і здатны.

Аналіз робіцца мэтодам параўнаньня: *мама*=*рама*, або *му*=*ау*, адкуль дзеці зрокам з дапамогаю слыху вылучаюць літары *м* і *р*, *м* і *а*. Гук—элемэнт слова, але-ж асобна яго трудна казаць, лягчэй яго выгаварваць у слове, а словы таксама лягчэй чытаць у цэлым сказе, чым асобна.

Пры мэтодзе цэлых слоў дзеці, мала таго што навучаюцца чытаць цэлыя словы адразу, але іх чытаньне заўсёды роўнае, гладкае, без перарываў, чаму яны навучаюцца на складох: ма-ма, ра-ма...

Вось загэтым я й стаю на тым, што беларускі лемантар павінен быць пабудованы па мэтоду цэлых слоў або вобразаў.

Усе расійскія вядомыя пэдагогі захоплены гэтым мэтодам, праводзяць яго на практыцы і маюць надта добрыя вынікі. Досыць назваць такія іменьні, як Салаўёва, Ціхеева, Марозава, Фартунатаў, Шлегер, Цімафеяў, Багуслаўская і інш. Беларускі лемантар мае яшчэ лішні плюс на мэтод цэлых слоў і тым, што ў беларускай мове больш афрыкатаў, чым у расійскай мове,—гэта „*дз*" і „*дж*", якія азначаюцца дзьвюма літарамі, а таксама лішні нескладовы гук „*ў*", трудны і немагчымы для вылучэньня; больш розьніцы між выгаварваньнем і азначэньнем мяккіх зычных (сьнедаць, сьціхні, зьмерзьці і г. д.). Ва ўсіх такіх разох самым дарэчным будзе выходзіць ад цэлага слова і цэлага сказу; вучні зразумеюць, чаго ад іх будзе дабівацца настаўнік, напр.: „сягоньня йдзе дождж"—дзіця навучыцца і чытаць і пісаць, калі пабачыць у цэлым гэты сказ.

Будзем трымацца, скажам сабе, і мэтоду Флёрава, значыцца, ужываць папераду толькі адзін аналіз слова на гукі, дык і то няма аніжаднага сэнсу даваць дзецям чытаць словы па складох ды яшчэ з рыскамі: *а—ры*, *а—ру* (13 ст.) або: *е—ла*, *а—ле*, *ма—е*, *шы—е*, *е—лі*, *се—е* (22 ст.). Ёсьць і такія неправіловыя падзелы: *мас — ка* (13 ст.), *лас — ка* (16 ст.), *час—та*, *чыс—та* (43 ст.) і інш. Апрача няроўнасьці ў чытаньні, вучань замацоўвае вачыма яшчэ і неправіло-

*) „ы" маленькае ў дужках паказвае, што прыгук „ы" хоць слабы, але бывае.

вы падзел слова на склады для пераносу.

У вапошнім выданьні лемантара Флёрава бачыць рысак у складох мне ўжо не даводзілася.

Ёсьць недагляды ў лемантары Некрашэвіча і з боку самага сэнсу слоў, сказаў і нават артыкульчыкаў. Напр.: *ракам* (13 стр.), плот, — а малюнак частакола (21 стр.), піляць — замест пілуюць (65), ножніцамі — замест нажынкамі (66), сьвіньня дае *шарсьціньне*—замест шчаціньне (66), шэрсьць — шарсьціньне (хаця так на Меншчыне ці кажуць дзе?) дае авечка, а сьвіньня шчаціну або шчаціньне. На першыя літары зьмешчана слова „ам“ (брэх сабакі), тагды як усюды дзеці кажуць: „гаў“, „ам“—русіцызм; „уа“—крык дзіцяці (там-жа) на сам дзеле кажуць: „куга“; слова „жыр“—замест тлустасьць (23). Далей дапушчаны такія словы, выразы і нават адзін артыкульчык для сьпісваньня, якія ў ніякім разе ня могуць мець места ў сучаснай кніжцы ды яшчэ лемантары,—гэта: *рай, тройца* (40), „*Ляціць птах цераз божы дах* (48), „неяк *сьвятым днём* пякла маці аладкі; для сьпісваньня: „*ня я б'ю, вярба б'е. За тыдзень Вялікдзень*“ . . . і г. д. (52 стр.).

Пісьмо ў Некрашэвіча пачынаецца з „гістарычнае“ простае палачкі. Але ў такім разе малюнкі саўсім не патрэбны, бо настаўнік усё роўна будзе налягаць з дзецьмі на пісаньне розных палачак і так званых элемэнтаў, што супярэчыць натуральнаму навучэньню пісьму. „Думаць, што палачкі падгатуюць да пісаньня літар па меншай меры не лёгічна. Усе літары алфавіту надта закруглены, каб можна было пачынаць вучыцца пісаць іх з дапамогаю палачак. Было-б шкада, каб чалавек пачынаў гаварыць толькі пасьле вывучэньня граматыкі“—такі погляд д-ра Монтэсоры на пісаньне „палачак“ і „элемэнтаў“ літар. Дый у нас, у Расіі, ужо шмат гадоў таму назад ня ўсе аўторы пачыналі навучэньне пісьму з палачак. Напр., Флёраў у „Наглядных уроках пісьма“ на першыя практыкаваньні ў пісаньні дае маляваньне радугі, сьцяга, пугі, лістоў і інш. контураў авальнае формы. Палачка пастаўлена ў канцы шэрагу 5-ае групы практыкаваньняў. Монтэсоры да контурных малюнкаў дадае яшчэ й штрыхоўку, якая вельмі памагае разьвіцьцю рухаў рукі. Маляваньне з штрыхоўкаю, па словах Монтэсоры, ёсьць пісьмо бяз пісаньня, бо ўменьне пісаць утвараецца ў дзяцей у такім разе потэнцыянальна.

Потым і самыя малюнкі пачынаюцца ў лемантары Некрашэвіча з гарызантальнае рысы—гэта таксама труднае практыкаваньне і ў маляваньні; дзіця з першага-ж разу пачне толькі сумнявацца ў сваіх сілах. Першымі натуральнымі практыкаваньнямі павінны быць авальныя формы, якія мы наглядаем у самой прыродзе (лісты, яблыка, яйцо, гарбуз і інш.).

Паглядзім цяпер на малюнкі ў лемантары Некрашэвіча з боку мастацтва. У гэтым адношаньні,—мо' аўтор і нявінен,—але-ж трэба сказаць, што наогул усе малюнкі зроблены дрэнна. Першыя малюнкі для бясед, апрача таго, што замалы,—нявыразны. Напр., мядзьведзь і воўк—зусім падобны адзін да другога (9), а вожык зроблены ў відзе вяночка штрыхоў (9), вусы (20) толькі й затым вусы, што так падпісаны; на 28 ст. кабаны ходзяць па моры, але ў артыкульчыку з боку тлумачыцца, што кабаны зьбіраюць жалуды, якіх нідзе ніводнага і ня відаць. Рогі (32 ст.)—чыстыя дзьве гадзюкі дый годзе; шыя (34)—нейкі пень, белка (29)—дык ні то чарвячок ні то „нешта нейкае“, і надпіс „белка“ зусім не на месцы; хлопчык, што лёг спаць з ложкаю (45 ст.), якраз як дзевачка,—так дзеці й сказалі. Словам, у кожным малюнку што-небудзь ды бракуе. Нагляднасьць у большасьці ад малюнкаў ня толькі што слабая, але й шкодная, бо даецца няправільнае ўяўленьне аб унешніх прадметах. Лепш, каб такіх малюнкаў і ня было.

Потым трэ' было-б адрозьніць „г" узрыўное (ганак) ад „г" фрыкатыўнага (гарбуз), у Бэрліне гэта можна было-б зрабіць.

Урэшце трэба сказаць і аб самым друку ў лемантары. З аднаго боку, друк вельмі добры: выразны, чоткі, ня маркі, як гэта бывае ў выданьнях нашых, але з другога боку, друк, асабліва на першых старонках, надта і надта малы для дзяцей, якія яшчэ пачынаюць чытаць.

Сама папера добрая, касная, формат кніжкі сымэтрычны.

Вось што, памойму, добрага й бракоўнага ў лемантары С. Некрашэвіча, выяўляючы што, я выказаў і погляд на той мэтод (мэтод цэлых слоў), па якому навучэньне чытаньню, мяркую, больш будзе мець посьпеху ў нашай беларускай школе.

Жадана, каб наконт усяго гэтага выказаліся іншыя настаўнікі і больш сьвядомыя працаўнікі.

**Шатэрнік.**

**„Народное хозяйство Белоруссии"** № 12. Декабрь 1923 года. Минск. 165 стр.

Зьмест кніжкі:

1. А. И. Любимов—Построение государственного и местного бюджета на 1923-24 г.
2. С. Я. Талунтис—Крестьянское хозяйство и налоги.
3. Л. Л. Циперович—Заработная плата за 1920 г. и январь-сентябрь 1923 г. в Белоруссии.
4. Н. Томкович — Итоги работ Управления лесами Наркомзема Белоруссии за 1922-23 операционный год.
5. Проф. В. И. Переход—Вопросы государственного лесного хозяйства Белоруссии.
6. Д. И. Морохин—К вопросу о расах сосны (Pinus Silwestris L).
7. Проф. И. И. Калугин—Животноводство на выставках Белоруссии в 1923 году.
8. Проф. И. И. Калугин—Электрокорм.
9. Экономическая хроника.
10. Оффициальный отдел.

Журнал „Народная гаспадарка Беларусі" зьяўляецца часопісьсю Эканомічнае Нарады пры Радзе Народных Камісараў Беларускай С. Р. Рэспублікі. Пачаў выходзіць штомесячна з пачатку 1922 г., і наступны, 1924 г., зьяўляецца трэцім годам выданьня журналу. Рэдагуе журнал вядомы беларускі пісьменьнік і журналісты І. А. Пятровіч (Я. Нёманскі). Выдаецца Радай Народных Камісараў Беларусі разам з Белтрэстдрукам.

Дасюль вышла 24 нумары журналу ў 20 асобных сшытках ад 6 да 14 друкаваных аркушаў кожны. Па зьместу журнал, як у люстры, адбівае ўсё наша эканомічнае жыцьцё і, як скрозь прызму, праламляюцца ўсе беларускія асаблівасьці народнай гаспадаркі. Аб гэтай часопісі расійскі друк дае найлепшыя адозвы з усіх сталых журналаў па эканоміцы наогул, і тым болей нам прыемна, што ён так шчыльна датыркаецца нашай старонкі.

Для кожнага сьвядомага беларускага працаўніка гэта—найлепшая справачная кніга, характарызуючая эканомічнае становішча Беларусі, так патрэбная ў штодзеннай працы па адраджэньню беларускай культуры і гаспадаркі. А для ўсіх тых, хто-б так ці йначай хацеў азнаёміцца з нашым краем, журнал дае найлепшы матар'ял па эканомічнай географіі Беларусі.

Асабліва каштоўным здабыцьцем зьяўляецца журнал для розных бібліотэк. А наогул штомесячнік „Народная гаспадарка Беларусі"—вялікі ўклад у скрабніцу беларускае культуры і каштоўнасьць для беларускага агронома, лесавода і эканомістага.

У праглядаемым нумары журналу частка зьмешчаных артыкулаў належыць пяру адпаведных працаўнікоў Беларусі. Зьмест іх датыркаецца пабудовы грашовага пытаньня і пытаньня працы на Беларусі. Плян будовы дзяржаўнага і мясцовага бюджэту,

грунтуючагася на нашых рэсурсах і магчымасьцях, разьмеркаваньня яго паміж асобнымі ўстановамі, узаемаадносіны ў сялянскай гаспадарцы падаткаў у зьвязку з яе бюджэтам, дынаміка заработкаў у рабочых у сувязі з часам—вось тэмы дню, знайшоўшыя свае вырашэньні і асьвятлэньні на старонках журналу.

Усё тое, аб чым пішацца, па патрэбе падмацоўваецца фактычным матар'ялам, надта добра ўложаным у табліцы. У лясной гаспадарцы на Беларусі Н. Тамковічам падведзены *itoгі* працы Управы лясамі Камісарыяту Земляробства за леташні год і намечаны шляхі і конкрэтныя магчымасьці яе разьвітку.

Другая частка артыкулаў належыць пяру профэсуры беларускіх сельскагаспадарчых устаноў і абмяркоўвае пытаньні лясное і сельскае гаспадаркі на Беларусі. Тут разьбіраецца чыста практычнае пытаньне дзяржаўнае беларускае лясное гаспадаркі альбо чыста навуковае пытаньне аб расах сасны.

Пытаньні сельскай гаспадаркі афяраваны выключна беларускаму жывёлаводзтву. Проф. Калугіным зроблен надзвычайна каштоўны агляд нашага жывёлаводзтва па матар'ялах павятовых выставак і Усесаюзнай сельска-гаспадарчай выстаўкі ў 1923 г. і дадана колькі цікавых разваг і чарговых учынкаў для яго паляпшэньня і разьвіцьця. Ім-жа дан популярны выклад пытаньня аб сілаваньні кармоў і захове яго сьвежым і сакаўным на зіму з ужываньнем электрычнасьці, яго тэхніка і эканомічнае значэньне для разьвіцьця продуктавага жывёлаводзтва на Беларусі.

Трэцяя частка журналу абыймае хроніку, кнігапіс і афіцыяльны аддзел. У экономічнай хроніцы даны лічбы аб паступленьні сельска-гаспадарчага і мясцовага падаткаў у Беларускай С. Р. Р., штомесячныя справаздачы Менскай Таварнай Біржы, становішча каштарысаў Цэнтрабелсаюзу, балянсы Менсарабкопу, Белвайскспажыву, Беларускага Чырвонага Крыжу, Тарговага кніжнага складу Наркамасьветы, беларускіх кантор Хлебапродукту, Усётэксьцільсындыкату, Сельпрамгандлю, Укртутуньтрэсту, Загметалу, Масгандлю і Мэталясындыкату.

У афіцыяльным аддзеле прыведзены два пратаколы пасяджэньня экономічнае нарады і дадаткі да іх: палажэньне аб шляхавым аддзеле Наркамату Унутраніх Спраў, статут групавога кіраваньня прадпрыемствамі Вышэйшай Рады Народнай Гаспадаркі, пастанова аб вэтэрынарным аглядзе, інструкцыя аб льготах за добрае вядзеньне сельскай гаспадаркі.

Замест бібліографічнага аддзелу, дан пералік артыкулаў, надрукованых у журнале з 1923 г. Усяго было надрукована за год у 12 нумарох 85 каштоўных артыкулаў. Па розных галінах яны разьмяркованы гэткім чынам.

Бягучым пытаньнем беларускай сельскай гаспадаркі з яе палявымі культурамі, досьледамі станцый і асобных гаспадарак, жывёлаводзтвам і інш. афярована 25 артыкулаў, і сучасным пытаньнем лясное гаспадаркі на Беларусі і лясных дасьледчых установ афярована 13 артыкулаў. З прамысловасьці ў 15 артыкулах разгледжаны пытаньні: вінакурэньня, бульбаапрацоўкі, смалакурэньня, шкляной, дрэваапрацовачнай, шкураной і хімічнай прамысловасьцяй у нашым краі. Таксама 7 артыкулаў афярована фінансам і крэдыту, 4—гандлю і коопэрацыі і 21—розным іншым пытаньням. Акром гэтага, за год у журнале было выдрукавана шмат цікавейшых бібліографій—кнігапісаў, друкавалася экономічная і гандлёва-прамысловая хроніка, праўда, слаба пастаўленая і мала ўвагі ўдзяляючая мясцоваму жыцьцю, і патрэбны афіцыяльны аддзел.

У апошняй кніжцы журналу зроблена першая спроба ўспрыгожыць яго малюнкамі-застаўкамі ў тэксьце і на вокладках. Некаторыя з такіх малюнкаў мастаку Г. Е. З. удаліся

нічога сабе, а некаторым прыходзіцца пажадаць лепшага выкананьня. Ну хоць-бы такога, як у Пецярбурскай „Маладой Беларусі“ 1911 г. альбо Менскай „Беларусі“ 1924 г.

Прыходзіцца пашкадаваць аб несваячасным, з вялікімі спазьненьнямі выхадзе журналу і шчыра пажадаць яму яшчэ лепшага посьпеху і росквіту на слаўным шляху адраджэньня народнай гаспадаркі Беларусі.

Цікава адзначыць, што ў журнале, які па сваёй істоце зьяўляецца беларускім, ня было ніводнага радка надрукована пабеларуску. Дасюль усе экономічныя артыкулы, напісаныя пабеларуску, знаходзілі прытулак у штомесячніку „Полымя“. Спадзяемся, што дзядзька Пятровіч пачне патроху зьмяшчаць у „Народнай гаспадарцы Беларусі“ артыкулы, пісаныя пабеларуску.

**П. С. Жук.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ.

**Да 15-ёх-гадовага юбілею рабоча-сялянскага поэты Алеся Гурло.**

О 16 студзеня 1925 году споўніцца роўна пятнаццаць гадоў літаратурнай чыннасьці рабоча-сялянскага поэты Алеся Гурло.

За гэты час Алесь Гурло здолеў заняць самабытнае месца ў беларускай літаратуры. Зараз ён зьяўляецца самым старэйшым па творчасьці сябрам усебеларускага аб'яднаньня поэтаў „Маладняк".

„Маладняку" гонар мець такога прадстаўніка ў сваіх маладняцкіх шэрагах.

Вось „Маладняк" і ўзяў на сябе ініцыятыву организацыі і правядзеньня ўрачыстасьці 15-ёх-гадовага юбілею А. Гурло. Для гэтага выдзелена адпаведная комісія, у склад якой увайшлі поэты: Н. Чарнушэвіч, А. Бабарэка і Я. Пушча. Зараз ужо комісіяй прымаюцца чынныя крокі да правядзеньня ўрачыстасьці. Да дню ўгодкаў комісія рыхтуе зборнік выбраных вершаў поэты з артыкулам аб яго жыцьці і творчасьці; таксама вядзецца падрыхтоўка да организацыі правядзеньня юбілею па ўсіх школах Беларусі. Падрыхтована некалькі выбраных вершаў для перакладу на музыку і г. д.

**Тэатр і мастацтва.**

О Наступны чацьверты зімовы сэзон Беларускага Дзяржаўнага Тэатру пачнецца першымі днямі кастрычніка.

Трупа ўжо працуе з 1-га жніўня і зрабіла перарыў працы толькі дзеля выезду ў Бабруйск. Рэпэтыцыі адбываюцца 2 разы на дзень. „Панскі Гайдук" — гістарычная драматычная хроніка Наз. Бываеўскага ўжо закончана. Мастак тэатру Марыкс даў дзеля гэтага багатыя дэкорацыі. Паралельна ідуць пробы „Чырвонай Маскі" А. Луначарскага. Тут наш тэатр прабуе свае сілы ў далейшым напрамку конструктывізму, увязанага з рэалістычным сцэнічным выяўленьнем.

Да некаторых актаў „Чырвонай маскі" пішацца т. Ягоравым і іншымі орыгінальная музыка.

У пачатку другой палавіны сэзону пойдзе орыгінальны твор т. Міровіча „Каваль-ваявода". П'еса мае добры рэволюцыйны зьмест. Пойдзе пры музыкальным справаджэньні.

Яшчэ рыхтуюцца к сэзону: „Кара Сальва"—паводлуг роману „Парыж" Э. Золя, „Непрымірымыя"—Няверава, бытавая п'еса на фоне грамадзянскай вайны 1919—1920 г.г. і „Чырвоныя кветкі Беларусі", драма ў 4-х дзеях Гарбацэвіча.

Калі да гэтага дадаць яшчэ некаторыя з незайграных п'ес мінулага рэпэртуару, дык ужо рэпэртуар на новы тэатральны год поўны.

О Наркамасьветы робіць заходы перад Саўнаркомам Беларусі аб тым, каб трупу Галубка залічыць II Бел. Дзярж. трупай і ўтрымаць яе на дзяржаўны кошт.

За апошнія гады трупа Галубка дала па акраінах Менску, па мястэчках і вёсках каля 1500 спэктакляў.

О Вядомы артысты Бел. Дзярж. Тэатру і першы організатор Беларускага Тэатру ў Менску ў 1917 г. Фл. Ждановіч камандыруецца ў Віцебск дзеля організаваньня там беларускага тэатру.

### У „Маладняку“.

О Сябар Маскоўскай філіі „Маладняку“ Міцкевіч здаў у друк зборнік сваіх п‘ес.

О Аб‘яднаньне „Маладняк“ рыхтуе да друку зборнік прозы. У зборнік увойдуць апавяданьні Бабарэкі, Кузьмы Чорнага і др.

О Аб‘яднаньне „Маладняк“ апрацавала плян організацыі філіяў у Віцебску, Магілёве, Воршы і ў др. гарадох.

О Аб‘яднаньне „Маладняк“ рыхтуе да друку зборнік п‘ес. У зборнік увойдуць п‘есы Вольнага, Родзевіча, Міцкевіча і др.

О Поэта Дудар заканчывае апрацоўку поэмы „1920 год“.

О Аб‘яднаньне „Маладняк“ атрымала ад чэскага мастацкага аб‘яднаньня „Дзевяць сіл“ пропозыцыю аб абмене друкаванымі выданьнямі і інформацыяй.

### Выдавецкая справа.

О Закончана ўжо фактычна зьліваньне былых выдавецкіх організацый — Белтрэстдруку і „Савецкае Беларусі“. Аб‘яднаны разам і кнігарні Наркамасьветы ў Менску. Сфармована адналітнае Дзяржаўнае Выдавецтва, якое павінна будзе як сьлед паставіць выдавецкую справу на беларускай і др. мясцовых мовах. На чале Дзярж. Выдавецтва стаіць т. Мароз М. Я., былы поўнамоцны прадстаўнік БССР у Маскве.

Можна спадзявацца, што гэтаю рэформаю справа належнай і адпавядаючай сучасным патрэбам выдавецкай дзеяльнасьці на белар. мове будзе грунтоўна разьвязана.

О Вышаў з друку № 5 часопісі „Маладняк“.

О Вышлі з друку кніжкі З. Бядулі — „Вера, паншчына і воля ў беларускіх народных песьнях і казках“ і зборнік вершаў пад назоваю „Буралом“.

О Вышлі з друку зборнікі апавяданьняў М. Чарота — „Веснаход“ і Ц. Гартнага — „Трэскі на хвалях“.

### Навука і культура.

О Рост нашага маладога Музэю ідзе ўсё ўперад. Нават пры выпадковасьці некаторых яго збораў, Музэй ужо мае высока-мастацкія вартасьці, датычачыя беларускага мастацтва (старасьвецкія іконы, тканіны, асабліва слуцкія паясы). Ёсьць хоць і невялічкая, але ўжо цэнная колекцыя карцін і гравюр. Папаўняецца ён, галоўным чынам, добрахвотнымі афярамі грамадзян і нашай моладзі, посьле розных экскурсый, якія будзяць у моладзі ахвоту падтрымаць малады Музэй.

Белар. Дзярж. Бібліотэка закончыла складаньне сыстэматычнага каталёгу. Наша маладая Дзярж. Бібліотэка мае зараз 190.000 томаў кніг.

Удалося згаварыцца з самымі буйнымі дзярж. бібліотэкамі Масквы і Ленінграду аб продажы нашай бібліотэцы патрэбных ёй на папаўненьне выданьняў мінулых гадоў з іхных фондаў дублетаў.

Цэнтр. Вык. Комітэт адпусьціў ужо на гэта 5000 руб. і згадзіўся на штогоднае асыгнаваньне грошай на гэтую-ж мэту ў далейшым.

О Як вядома, з гэтае восені Інбелкульт будзе рэорганізован згодна свайго зацьверджанага статуту. Штаты яго ўжо зацьверджаны, каштарысы складзены і адпавядаюць вымогам тае шырокае культурна-творчае працы, дзеля якое і ўтворан быў Інбелкульт. У бліжэйшы-ж час будзе разьвязана і пытаньне аб належным будынку, які павінен будзе зьмясьціць у сабе шырока разьвінутую сыстэму яго сэкцый, комісій і навуковых габінэтаў.

З пачатку новага опэрацыйнага году можна будзе, грунтуючыся на сталых каштарысах, распачаць і выданьне часопісі Інбелкульту і др. набытых ім навуковых прац.

### Магіла Максіма Багдановіча.

На брацкіх могілках у Ялце адшукана магіла без пары памёршага беларускага поэты Максіма Багдановіча. Зроблена 5 фотоздымкаў. Асыгнавана 250 руб. па помнік, які будзе пастаўлены на магіле.

### За рубяжом.

*У Вільні і ў Коўне.*

За апошнія часы ў Вільні выдрукаваліся вось якія беларускія кніжкі: „Прамовы дэпутатаў Бел. Пас. Клюбу ў Польскім сойме", выданьне газэты „Сын Беларуса", „Страшны вораг"— кніжка пра гарэлку. Напісаў Бутрым Каляда.

У Коўне выдрукавалася на беларускай мове „Батаніка" М. Зеленскага, падручнік для сярэдніх школ, з 120 рысункамі і слоўнікам назоваў. Пераклаў К. Душэўскі.

### Беларускі рух у Амэрыцы.

Беларускі рух штораз шырыцца ў Амэрыцы, дзякуючы інтэнсыўнай працы беларускай інтэлігэнцыі—як мясцовай, так і прыехаўшай з бацькаўшчыны. У тамтэйшым расійскім, польскім і ўкраінскім друку ўдзяляюць многа месца беларускаму пытаньню. Сярод беларускіх фэрмэраў чытаюцца лекцыі аб беларускім руху і беларускай культуры.

### Італьянская часопісь аб беларускай літаратуры.

У трэцім гадавіку італьянскага журналу „L'Europa Orientale" (за 1923 год) надрукована стацьця проф. Шчэбедзева (украінца) аб нашай літаратуры.

Аўтор дае агляд беларускай літаратуры. У літаратурнай творчасьці беларусаў увагу проф. Шчэбедзева зварачае на сябе салодкасьць, музыкальнасьць і элегійнасьць беларускай поэзіі, якая нагадуе яму часамі творчасьць Fra Angelico.

Агляд сучаснае беларускае літаратуры аўтор пачынае *Купалай*, творы якога былі ўжо перакладзены на мовы: нямецкую, чэскую, польскую, украінскую і расійскую. Купала мо' найбольш інтымны пясьняр Беларусі, якую называе Ніобай усіх народаў. Проф. Шчэбедзеў падае пераклады цікаўнейшых вершаў Купалы на італьянскую мову, да прыкладу, першы беларускі гымн: „А хто там ідзе?", які паітальянску пачынаецца гэтак:

Chi va là? Chi va là?
In quella turba numerosa!
I Biancorutheni.

Апрача таго, ён падае адрыўкі вершу „Не бядуй..." паітальянску („Non angosiarti"...), дагледзіўшы ў ім уласьцівую беларусам лагоднасьць.

Далей проф. Шчэбедзеў пераходзе да *Ясакара-Бядулі*, таксама перакладзенага на чужыя мовы, у тым ліку на нямецкую, літоўскую, жыдоўскую... Шчэбедзеў дае пераклад яго вершу „Ваяка", які паітальянску пачынаецца гэтак:

Strappa la tua liberta ai denti d'acciaio etc.

Пасьле йдуць крытычна-інформацыйныя ўвагі аб *Алесі Гаруне* і спроба перакладу яго песьні „Пабеднай"—Tuenarono i tamburi. Урэшце, у вядомым вершы *Якуба Коласа* „Нашым ворагам" італьянскі пераклад правільна пераказуе галоўную думку яго ў радкох:

Vi chiamiamo davanti al tribunale,
Vai carnefice del popolo nostro...

Гэты цікаўны артыкул заканчываецца гістарычным успамінам аб старадаўных адносінах паміж Беларусяй і Італіяй, дзе ўжо ў сярэдзіне XV сталецьця Fra Mauro ўжываў назову Rossia blanca—да таго-ж, што асабліва цікаўна, побач з Rossia negra, Rossa rossa...

## УКРАЇНСКАЕ КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

О Агульная продукцыя выдавецтва „Червоний шлях“ за год да 1-га ліпеня 1924 году вызначаецца ў гэткіх лічбах.

| Назва | Друк. аркушаў | Тыраж |
|---|---|---|
| 289 | 1476 | 1907900 |
| З іх | украінскаю | мовою |
| 172 | 682³/₄ | 1278150 |

Цікава зазначыць, што ўкраінская продукцыя выдавецтва асабліва павялічылася з таго часу, як выдавецтва НК Асьветы „Червоний шлях“ аб'ядналася з шэрагам спэцыяльна ўкраінскіх выдавецтваў („Червоний шлях“, „Гарт“ і інш.).

Па зьместу выданьні „Червоного шляху“ дзеляцца так:

Агітацыйнай літаратуры — 8 назваў, 25 аркушаў, па грамадзяназнаўству—15 назваў, 92 аркушы, па прыродазнаўству—5 назв., 20 арк., па сельскай гаспадарцы—8 назв., 33 арк., пэдагогічнай літар.—2 назв., 10 арк., мастацкай літар.—15 назв., 41 арк. і іншых—65 назваў, 336 арк.

О У Харкаве вышаў першы нумар популярнага месячніка „Селянська Україна“. У часопісі зьмешчаны артыкулы політычныя, навуковыя, па сельскай гаспадарцы, апавяданьні, вершы і шмат ільлюстрацый.

О У сучасны момант у Харкаве знаходзіцца жыдоўскі камерны тэатр, які выклікаў вялікую зацікаўленасьць сярод рабочых мас.

О Кіеўскі губполітасьветы організаваў у будынку комуністычнай асьветы выстаўку „Жива книжка“. Выстаўка прысьвечана ўкраінскім выданьням кніжак, плякатаў і г. д.; на выстаўцы для паўнейшага і дакладнейшага ўяўленьня аб сучаснай кнізе будуць прадстаўлены і выданьні Дзяржаўнага Выдавецтва СССР.

---

*Рэдактор* **А. Сянкевіч.** *Выдавец—Т-ва* **„Савецкая Беларусь“**

## Зьмест „Полымя“ № 3 (11).



---

# Зьмест № 1 (сьнежань 1922 г.).



---

# Зьмест № 2 (студзень 1923 г.).



**Прадаецца ў кнігарні «Савецкая Беларусь»—Менск, Ленінская (б. Губарнатарская) вул., д. 6. гасьц. «Эўропа».**

## Зьмест № 3—4 (люты—сакавік 1923 г.).



---

## Зьмест № 5—6 (красавік—май 1923 г.).

## Зьмест 7—8 нумару (чэрвень—лістапад 1923 г.).



## Зьмест 1 (9) нумару.

# Зьмест 2 (10) нумару.



